Н. М. Гардзей, П. Л. Навіцкі, З. М. Тамашэвіч

# Беларуская мова

Вучэбны дапаможнік для 9 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай
мовамі навучання

Пад рэдакцыяй Н. М. Гардзей

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2011

УДК 821.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Г20

А ў т а р ы:

**Н. М. Гардзей (§ 4, 5, 31—34, 43—46);**
**П. Л. Навіцкі (§ 1—3, 13—25);**
**З. М. Тамашэвіч (§ 6—12, 26—30, 35—42)**

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускага мовазнаўства УА «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. філал. навук, дац. *Н. У. Чайка*);

метадыст вышэйшай катэгорыі аддзела грамадска-гуманітарнай адукацыі ДУА «Мінскі гарадскі інстытут развіцця адукацыі» *В. Л. Душэўская*;

настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі ДУА «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 45 г. Мінска» *А. С. Макаўчык*

**Умоўныя абазначэнні:**

■ — матэрыял для азнаямлення;
‖ — матэрыял для ўсведамлення і запамінання;
● — матэрыял для паўтарэння;
⊙ — практыкаванне (заданне) павышанай цяжкасці;
□ — злучальны злучнік;
◯ — падпарадкавальны злучнік;
◎ — злучальнае слова;
× — слова, якое паясняе дадаactive частка;
-×- — уся галоўная частка, якую паясняе дадаactive частка;
* — тлумачэнне значэння слова даецца ў слоўніку: *антрацыт**;
ф — зрабіць фанетычны разбор слова: *песня*[ф];
сл — зрабіць словаўтваральны разбор слова: *задавальненне*[сл];
с — зрабіць разбор слова па саставе: *падводны*[с];
м — зрабіць марфалагічны разбор слова: *зазвоніць*[м];
сн — зрабіць сінтаксічны разбор сказа: *Любоў да Радзімы ў чалавека яскрава праяўляецца тады, калі ён на час разлучыцца з ёю*[сн].

**ISBN 978-985-465-836-0**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СЯМ'І СЛАВЯНСКІХ МОЎ І МОЎ НАРОДАЎ СВЕТУ

## § 1. Паходжанне славянскіх моў, іх падабенства і адрозненне

У цэнтральнай частцы Еўропы спрадвек жывуць шматлікія народы, якія традыцыйна лічацца роднаснымі. Да іх належаць рускія, беларусы, украінцы, палякі, чэхі, славакі, балгары, македонцы, сербы, харваты, славенцы і інш. Усе яны называюцца агульным імем — **славяне.**

Гэтыя народы карыстаюцца славянскімі мовамі. Нягледзячы на тое, што славянскія мовы значна адрозніваюцца паміж сабой, у іх многа агульнага ў фанетыцы, граматыцы і лексіцы. Нават спецыяльна не вывучаючы якую-небудзь славянскую мову, мы знойдзем у ёй і словы, блізкія ці тоесныя па гучанні і значэнні.

Наяўнасць дастаткова вялікай колькасці падобных слоў у славянскіх мовах часткова тлумачыцца тым, што яны развіліся з адной мовы (яе ўмоўна называюць **праславянскай),** якая сёння ўжо не існуе. Такім чынам, славянскія мовы роднасныя **па паходжанні.**

Паколькі славянскія мовы роднасныя па паходжанні, то і прарадзіма славян (іх называюць праславянамі, праславянскім народам, праславянскім этнасам) павінна быць агульнай. Ёсць шэраг навуковых тэорый аб тэрыторыі рассялення старажытных славян:

а) раёны сучаснай цэнтральнай Польшчы — міжрэчча Віслы і Одэра;

б) басейн Заходняга Буга аж да сярэдняга Дняпра;

в) вузкая паласа (300—400 км), якая цягнецца ад Одэра да Дняпра і інш.

У VII—VI стст. да нашай эры Усходнюю Еўропу заваёўваюць іншамоўныя качэўнікі — скіфы. Гэта былі магутныя, шматлікія заваёўнікі, якія захапілі вялікія абсягі ад Дняпра да Урала. Мова скіфаў не мела пісьмовага варыянта, таму дакументальных сведчанняў па іх гісторыі не захавалася. У выніку заваявання тэрыторыі сучаснай Польшчы непазбежнымі былі скіфска-славянскія моўныя кантакты.

З заняпадам скіфскага ўладарання падчас V ст. н. э. славяне інтэнсіўна рассяляюцца на абсягах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Найбольш раннія пісьмовыя звесткі пра славян, якія называюцца «вянеты», або «вянеды», належаць старажытнагрэчаскім і рымскім пісьменнікам і адносяцца да I—II стст. н. э.

Дыялекты праславянскай мовы сталі асновай трох груп сучасных славянскіх моў.

**Заходні праславянскі дыялект** даў пачатак польскай, чэшскай, славацкай, ніжнялужыцкай, верхнялужыцкай і палабскай[1] мовам.

**Паўднёвы праславянскі дыялект** даў пачатак сучасным паўднёваславянскім мовам — балгарскай, македонскай, сербскай, харвацкай, славенскай — і паслужыў базай для ўтварэння старажытнай пісьмовай славянскай мовы — стараславянскай[2].

На аснове **ўсходняга праславянскага дыялекту ўзніклі руская, беларуская і ўкраінская мовы.**

---

[1] Палабская мова — «мёртвая» мова. «Мёртвымі» называюцца мовы, якія выйшлі з ужытку з-за таго, што імі перасталі карыстацца як сродкамі зносін паміж людзьмі.

[2] Азбуку старославянскай мовы («мёртвай» мовы) стварылі браты Канстанцін (пасля пастрыжэння ў манахі — Кірыл) і Міхаіл (у пастрыжэнні — Мяфодзій) у IX ст. н. э. для перакладу рэлігійных тэкстаў на славянскую мову. Богаслужэбныя тэксты існавалі ў дзвюх графічных сістэмах: глаголіцы і кірыліцы. Кірыліца стала асновай азбук рускай, беларускай, балгарскай, македонскай, сербскай і ўкраінскай моў.

**1.** Прачытайце тэксты на ўкраінскай, беларускай і рускай мовах. Выпішыце з тэксту на беларускай мове словы і формы слоў, якія адлюстроўваюць фанетычныя і марфалагічныя адметнасці беларускай мовы: пераход [о], [э] → [а], [д] → [дз'], [т] → [ц'], прыстаўныя галосныя і зычныя, фанетычнае падаўжэнне зычных, пераход ***в***, ***л*** → ***ў***; несупадзенне роду назоўнікаў у беларускай і рускай мовах, адметнасці склонавых канчаткаў назоўнікаў, прыметнікаў.

**I.** На тривалому історичному шляху східнослов'янських народів — українців, білорусів і росіян — Київській Русі належить одне з найпочесніших місць. Утворення давньоруської державови обумовлювалося самою логікою суспільного поступу, складними механізмами стосунків слов'янських, фінно-угорських, тюркських племен Сходу Європи, спричинялося потребою опору руйнівним нападам кочових скотарських племен і боротьбою з потужною Східною Римською імперією та іншими ранньосередньовічними державами.

Наш найдавніший літопис, «Повість временних літ» під 862 роком подае «варязьку» (або «норманську») легенду, згідно з якою державна консолідація руських племен пов'язується з приходом на Русь скандінавських князів Рюрика, Синеуса й Трувора. За літописом, Київ перетворівся на столицю Русі, коли його завоював для Рюрикового сина Ігоря його родич Олег. Заснували ж Київ, за літописною легендою, брати Кий, Щек і Хорив.

**II.** На длительном историческом пути восточнославянских народов — украинцев, белорусов и русских — Киевской Руси принадлежит одно из почётнейших мест. Создание древнерусской державы было обусловлено самой логикой общественного развития, сложными механизмами отношений славянских, финно-угорских, тюркских племён в Восточной Европе, оно было вызвано необходимостью защиты от разрушительных набегов кочевых скотоводческих племён и борьбой с мощной Восточной Римской империей и другими государствами раннего средневековья.

Наша древняя летопись «Повесть временных лет» от 862 года передаёт «варяжскую» (или «норманскую») леген-

ду, в соответствии с которой государственная консолидация русских племён связывается с приходом на Русь скандинавских князей Рюрика, Синеуса и Трувора. Согласно летописи, Киев стал столицей Руси, когда его завоевал для Рюрикового сына Игоря его родич Олег. Основали же Киев, по летописной легенде, братья Кий, Щёк и Хорив.

**III.** На працяглым гістарычным шляху ўсходнеславянскіх народаў — украінцаў, беларусаў і рускіх — Кіеўскай Русі належыць адно з найбольш пачэсных месцаў. Стварэнне старажытнарускай дзяржавы было абумоўлена самой логікай грамадскага развіцця, складанымі механізмамі ўзаемаадносін славянскіх, фіна-ўгорскіх, цюркскіх плямёнаў ва Усходняй Еўропе, яно было выклікана неабходнасцю абароны ад разбуральных набегаў качавых жывёлаводчых плямёнаў і барацьбой з магутнай Усходняй Рымскай імперыяй і іншымі дзяржавамі ранняга сярэдневякоўя.

Наш старажытны летапіс «Аповесць мінулых гадоў» ад 862 года падае «варажскую» (ці «нарманскую») легенду, згодна з якой дзяржаўная кансалідацыя рускіх плямёнаў звязваецца з прыходам на Русь скандынаўскіх князёў Рурыка, Сінеуса і Трувора. Згодна з летапісам, Кіеў стаў сталіцай Русі, калі яго заваяваў для Рурыкавага сына Ігара яго родзіч Алег. Заснавалі ж Кіеў, згодна з летапіснай легендай, браты Кій, Шчок і Харыў.

● Вызначце ў прапанаваных урыўках графічныя адметнасці кірылічных азбук украінскай, рускай і беларускай моў.

**2.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып маўлення. Перакладзіце на беларускую мову (пісьмова).

Жизнь и деятельность Кирилла (Константина) и Мефодия (Михаила) до поездки их в Моравию, согласно дошедшим до нас свидетельствам, рисуется следующим образом.

Кирилл (826—869 гг.) и его старший брат Мефодий (820— 885 гг.) родились и провели детство в шумном македонском портовом городе Солуни (сейчас греческий город Солоники); население Солуни в то время состояло на-

половину из греков, наполовину из славян. Национальность Кирилла и Мефодия в летописных источниках прямо не указывается. На основании же косвенных свидетельств большинство учёных считают братьев болгарами; согласно одному афонскому преданию, отец их был болгарин, а мать — гречанка. Известно, что их отец был крупный солунский военачальник — «друнгарий под стратигом», т. е. непосредственно подчинён «стратигу» — по византийской иерархии воинскому чину самого высшего ранга.

*В. Истрин*

● Выпішыце словазлучэнні, якія вызначаюць адметнасць кіравання ў беларускай мове. Растлумачце спосаб перакладу рускіх дзеепрыметнікаў на беларускую мову.

● Выпішыце 10 слоў, якія паказваюць на адметнасць слоўнікавага складу беларускай мовы ў фанетычным і граматычным аспектах.

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Назавіце вядомыя вам славянскія мовы. У чым праяўляецца іх падабенства?

2. На якой аснове развіліся сучасныя славянскія мовы?

3. Прывядзіце прыклады асаблівасцей беларускай літаратурнай мовы ў галіне: а) лексікі; б) фанетыкі; в) марфалогіі; г) сінтаксісу.

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V—VIII КЛАСАХ

## § 2. Паўтарэнне вывучанага пра тэкст, стылі і тыпы маўлення

**3.** Прачытайце тэкст. Падбярыце загаловак, які перадаваў бы асноўную думку тэксту. Назавіце спосабы сувязі сказаў у тэксце. Вызначце стыль тэксту, тып маўлення. Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Больш за 25 гадоў Уладзімір Караткевіч працаваў на ўрадлівай ніве роднай літаратуры. **Пачаўшы з паэзіі, ён, аднак, ужо ў самых першых вершах даваў праніклівым крытыкам магчымасць прадбачыць цікавае развіццё гэтага пачатку, а менавіта — непазбежнасць яго звяртання да прозы.** Бясспрэчна, яго вершам не быў чужы лірызм, і ўсё ж — у іх выразна адчуваліся сіла і размах складу эпічнага. Нават вершы спавядальнага характару «трымаліся» на расказе аб падзеі, на сюжэце, не кажучы пра балады — жанр, у якім ён сцвердзіў сябе раней, чым у многіх іншых. У многіх іншых жанрах? Так, гэта не агаворка. Паэзія, навелістыка, раманістыка, драматургія і кінадраматургія, эсэістыка, крытыка і публіцыстыка — у кожным з гэтых жанраў яго ўклад прыкметны, яго месца віднае і зусім пэўнае. Калі ўсё ж вылучаць галоўнае, тое, што перш за ўсё характарызуе яго творчы воблік і чаму ён у першую чаргу абавязаны сваёй вядомасцю і папулярнасцю, — гэта, вядома ж, яго гістарычная белетрыстыка — апавяданні, аповесці, раманы. Ён наш першы, галоўным чынам, гістарычны пісьменнік, які шчасліва спалучае ў сабе мастака і вучонага гісторыка... Гістарычнае мінулае Беларусі і беларускага народа стала асноўным зместам ягонай творчасці, галоўным вытокам яго натхнення.

*Н. Гілевіч*

Назавіце ў выдзеленым сказе сінтаксічныя адзінкі, якія ўскладняюць яго. Якую ролю яны адыгрываюць у выказванні аўтара?

Дайце азначэнне тэрмінаў *навела, раман, драма, эсэ, белетрыстыка*. Пры неабходнасці выкарыстайце тлумачальны слоўнік.

**4.** З дапамогай наступнай схемы падрыхтуйце разгорнутае паведамленне пра тыпы маўлення і будову тэксту. Адказ падмацоўвайце прыкладамі з мастацкіх твораў.

**ТЫПЫ МАЎЛЕННЯ**

| **Апавяданне** | **Апісанне** | **Разважанне** |
|---|---|---|
| | БУДОВА ТЭКСТУ | |
| 1. Завязка<br>2. Кульмінацыя<br>3. Развязка | 1. Агульнае ўражанне ад прадмета<br>2. Пералік розных прымет прадмета<br>3. Агульная ацэнка | 1. Асноўная думка (тэзіс)<br>2. Доказ гэтай думкі<br>3. Вывад |
| | **На якое пытанне даецца адказ у тэксце?** | |
| Што адбываецца з прадметам, чалавекам і г. д.? | Які прадмет, чалавек і г. д.? | Чаму прадмет, чалавек і г. д. такі?<br>Чаму ён робіць так, а не інакш? |

**5.** Прачытайце тэкст, падзяліце яго на абзацы. Складзіце план вуснага падрабязнага пераказу тэксту і перакажыце тэкст. Вызначце стыль тэксту і тып маўлення.

Назавіце сінтаксічныя канструкцыі, якія ўскладняюць простыя сказы ці часткі складаных сказаў, ахарактарызуйце іх і вызначце сэнсава-стылістычную ролю.

## ВЯЛІКІ СПЯВАК XX СТАГОДДЗЯ

Ёсць людзі, якіх можна параўнаць з цудоўнай з'явай прыроды і асабліва — з яркім промнем сонца. Як пра-

мень сонца запальвае фарбамі ўсё, што трапляецца на яго шляху, так і гэты цудоўны спявак саграваў, радаваў, вымушаў сваім мастацтвам трапятаць лепшыя струны чалавечай душы. Памятаю, як яшчэ ў дзяцінстве, калі толькі па радыё пачынаў гучаць прыгожага тэмбру голас, мае родныя адразу кідалі ўсе справы і з нейкай асаблівай пашанай гаварылі: «Цішэй! Казлоўскі, Казлоўскі спявае...». Акурат з таго часу і пачалася мая глыбокая пашана да гэтага спевака. Пазней мая настаўніца літаратуры, Ірына Міхайлаўна Кудрыцкая, шчырая паклонніца яго творчасці, з захапленнем расказвала нам, сваім вучням, пра гэтага вялікага артыста[м] і пра тое, як аднойчы ў Вялікім тэатры ёй пашчасціла ўбачыць яго ў вобразе Ленскага. Сапраўды, цяпер няма сумнення, што ў гэтым вядомым вобразе акцёр праявіў свой талент. На жаль, тады з-за свайго ўзросту мне не ўдалося ўбачыць І. С. Казлоўскага на славутай сцэне Вялікага тэатра. Але прайшоў час, і я, як і тысячы паклоннікаў яго таленту, мела шчасце пабываць на юбілейным вечары, прысвечаным 80-годдзю спевака. Нягледзячы на паважаны ўзрост, у яго была бліскучая памяць, а дапытлівы розум і жывая ўвага рабілі яго цікавым субяседнікам. Для чалавека яго становішча ён меў шчаслівую і рэдкую ўласцівасць — цікавіўся ўсім і ўсімі. Ён умеў слухаць! Спевака хваляваў не толькі творчы лёс яго маладых вучняў, але і будаўніцтва музычнай школы ў яго роднай вёсцы Мар’янаўцы непадалёк ад Белай Царквы. Тут, у сялянскай сям’і, ён і правёў свае дзіцячыя гады і да канца жыцця захаваў асаблівае пачуццё, цёплае і светлае, да сваіх родных і настаўнікаў, да простых працавітых людзей, любоў да меладычнай украінскай мовы. З дзіўнай пранікнёнасцю ўмеў Іван Сямёнавіч перадаць унутраны свет сваіх герояў, раскрыць іх душэўныя перажыванні. Кожны спектакль быў для гледачоў святочнай падзеяй, бо, акрамя дзіўнага голасу, які зачароўваў і вымушаў трапятаць, спявак валодаў яркім дарам кожны раз па-новаму злівацца з вобразам героя. З імем гэтага вядо-

мага музыканта — менавіта музыканта, а не толькі спевака — звязана гісторыя вакальнага мастацтва.

*Паводле Л. Беспразванай*

Падрыхтуйце пісьмовае паведамленне пра свайго любімага спевака ці акцёра.

**6.** Спішыце прыказкі. Устаўце прапушчаныя літары. Вызначце асобу і час дзеясловаў, а таксама тып іх спражэння. Якія дзеяслоўныя формы найбольш характэрныя для гэтага жанру?

1. Ідзі з людзьмі, то не згуб..шся. 2. Пчолкі па адной не сел..цца. 3. Згодаю дом збуду..ш, а нязгодаю — гатовае разгуб..ш. 4. Адною рукою і вузла не завяж..ш. 5. З якім спазна..шся, такім стан..шся. 6. Зямля — талерка: што пакладз..ш, тое і возьм..ш. 7. Зямлю ўгно..ш — хлеба падво..ш. 8. Калі старанна кос..ць, то сена зімою не прос..ць. 9. Рабі не тады, калі хоч..ш, а калі мож..ш. 10. Рана ўстан..ш — многа зроб..ш. 11. Раней пасе..ш — раней паспе..ш. 12. Чужым розумам недалёка заедз..ш. 13. Праўдаю найдалей дойдз..ш.

Растлумачце значэнне прыказак. Прыдумайце жыццёвыя сітуацыі, у якіх да месца будзе ўжыць гэтыя прыказкі.

Падкрэсліце граматычную аснову кожнага простага сказа або частак складанага сказа. Вызначце від кожнага сказа (часткі складанага сказа) паводле колькасці галоўных членаў (аднасастаўныя, двухсастаўныя); калі сказ аднасастаўны, вызначце яго від.

⊙ **7.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Дакажыце, што ён напісаны ў навуковым стылі. Вызначце, каму адрасаваны тэкст.

В отличие от западноевропейских языков (английского, французского, немецкого) временная система у глаголов русского языка устроена очень просто. Три времени — прошедшее, настоящее и будущее у глаголов несовершенного вида *(читал, читаю, буду читать)* — и два — прошедшее и будущее — у глаголов совершенного вида *(прочитал, прочитаю)*. Ничего сложного вроде английского Past Perfect Continuous, немецкого Plusquamperfekt или французского Passé composé...

Однако, надеюсь, вы уже достаточно хорошо понимаете, что временная характеристика глагола далеко не обязательно то же самое, что временная характеристика действия, обозначенного данным глаголом.

Если принять за точку отсчёта момент речи, то прошедшее время глагола обозначает действие, предшествующее этому моменту, будущее время — действие, следующее за этим моментом, а настоящее — это действие, совершаемое в момент говорения.

Однако, как очень часто бывает, всё это ясно лишь в самом общем виде. А в конкретных случаях начинаются трудности. Причём в данном случае трудности связаны с пониманием того, что такое момент речи. Конечно, можно понимать момент речи как некую точку на оси, левее которой — прошлое, а правее — будущее.

Однако часто момент речи выступает не столько как точка, но как достаточно большой отрезок или даже вся ось. Например, когда по-русски говорят о том, что *Земля вращается вокруг Солнца, Волга впадает в Каспийское море*, то все эти события, хотя и обозначаются с помощью форм настоящего времени, вовсе не совершаются в момент речи, понимаемый как точка.

По-видимому, в любой момент (совпадающий с периодом существования нашей планеты!) Земля вращается вокруг Солнца. Но если бы в этом предложении была употреблена форма прошедшего времени *(вращалась)* или будущего *(будет вращаться)*, мы замерли бы в недоумении. Неужели сию минуту как раз не вращается? Не может быть!

А Волга впадает в Каспийское море, наверное, с тех пор, как кончился ледниковый период, и, к счастью, никакие дерзновенные идеи вроде поворота рек ей, матушке, не угрожают…

*По И. Г. Милославскому*

Знайдзіце ў кожным абзацы апорныя словы, словазлучэнні і ключавыя сказы.

Складзіце план падрабязнага пераказу тэксту, перакажыце тэкст.

Падрыхтуйце вуснае паведамленне на тэму «Час дзеяслова і час дзеяння ў беларускай літаратурнай мове» ў навуковым стылі.

## § 3. Слова, словазлучэнне, сказ як асноўныя моўныя адзінкі. Тыпы простых сказаў

**8.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце памылкі ў кіраванні паміж кампанентамі словазлучэнняў, выпадкі парушэння сувязі паміж дзейнікам і выказнікам.

1. Не ведалі Мірон з жонкай, чым аддзякаваць Івана Іванавіча за такі падарунак. 2. Доўга людзі цешыліся цуду, што зрабіў быў Люцыян Тапаля. 3. Большасць яблыняў былі старыя, пасаджаныя яшчэ бацькам. 4. Ля вёскі відаць быў пасёлак: дзясятка паўтара фінскіх домікаў пад бляшанымі дахамі. 5. Па мяккай раллі роўным ланцугом ішло дваццаць чалавек сейбітаў. 6. Памятаю, жартаваў я над Петрусём, кпіў над ім. 7. У хаце сядзела тры дарослых дачкі лесніка. 8. У глебы ёсць адзін закон: каго — караць, каго — аддзячыць. 9. Яўхім наперакор бацьку ажаніўся на Ганне. 10. Тысяча гадзін адлічаны гадзіннікам, а мы ўсё ні з месца.

Зрабіце аналіз 5, 6 сказаў па мэце выказвання і інтанацыйным афармленні.

Выпішыце з 5-га сказа ўсе словазлучэнні і зрабіце іх поўны сінтаксічны разбор.

**9.** Размясціце сказы так, каб атрымаўся звязны тэкст. Запішыце тэкст, вызначце яго стыль і тып маўлення. Якія сказы выражаюць асноўны сэнс паведамлення? Зрабіце поўны сінтаксічны разбор простых сказаў і частак складаных сказаў як простых. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. А за ліпамі хутка і канец вёскі. 2. Тут жа, за бродам, у канцы вёскі, на высокай гары маячаць старыя гонкія сосны, якія выглядаюць здалёк, як курганная кветка, і, здаецца, затуляюць выхад з вёскі. 3. Ціхім крокам ішоў Андрэй праз сваю родную вёску... 4. А вось, як глянуць на поўдзень, карціна больш прыемная. 5. Ступіць Андрэй пару крокаў і спыніцца, каб паглядзець у абодва канцы вёскі, праверыць, ці тыя профілі вуліцы, якія засталіся ў памяці яшчэ з дзяцінства. 6. Быў шэры дзень, ужо на-

поўнены подыхамі недалёкай зімы. 7. Туды і ідзе Андрэй павольнай хадою. 8. Здаецца, тыя самыя, вунь чарада ліп, там, у аддаленні, дзе вуліца крыху павярнула ўправа, толькі ліпы значна падраслі. 9. Тут вочы ўпіраюцца ў недалёкае ўзвышша, якое градою праходзіць уздоўж балоцістай даліны за выганамі і ахоўвае вёску ад паўночных вятроў. 10. Там, над градою, плывуць беспрытульныя, халодныя хмары.

*П. Пестрак*

**10.** Прачытайце тэкст, устаўляючы згодна з логікай аўтарскага апавядання вылучаныя сказы. Вызначце віды сувязі сказаў у тэксце.

Заснаваны найпадобнейшаю Еўфрасінняю Спасаўскі манастыр з цягам стагоддзяў перажыў і часы ўзвышэння, і гады поўнага заняпаду. Трэба скептычна ставіцца да слоў асобных расійскіх аўтараў пра тое, што чарніцы* пакінулі свой прыстанак у часе нашэсця Батыя. Наогул жа Беларусь, у адрозненне ад сваіх усходніх суседзяў, татара-мангольскага прыгнёту не зведала.

Цяжкія выпрабаванні надышлі для Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, калі Масковія распачала настойлівыя спробы захапіць беларускія землі, што на пачатку XIV стагоддзя канчаткова ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

*У. Арлоў*

***Вылучаныя з тэксту сказы:***

1. Больш верагодна, што ў часе нашэсця ў полацкіх манастырах ратаваліся ўцекачы з іншых усходнеславянскіх княстваў.

2. Дымна-крывавы след татарскіх ордаў застаўся толькі на поўдні беларускіх земляў.

3. Гэта была магутная феадальная дзяржава, ядром якой з'яўлялася Беларусь, а пануючай культурай — беларуская.

Знайдзіце простыя сказы, растлумачце (калі ёсць) у іх знакі прыпынку.

Вылучыце з простых сказаў словазлучэнні, пабудуйце іх схемы. Назавіце прыметы падабенства і адрознення словазлучэння са словам і сказам.

### *Слоўнік*

**Чарне́ц**, -няца́, *м.* (уст.). Манах. // ж. **чарні́ца**, -ы.

**11.** Ператварыце простыя неразвітыя сказы ў развітыя і запішыце іх.

1. Цвіў бэз. 2. Дзень вясёлы. 3. Не спіцца. 4. Тралейбус спыніўся. 5. Васіль Быкаў — пісьменнік. 6. Фільм быў цікавы. 7. Ручка не пісала. 8. Я люблю чытаць.

Змяніце парадак слоў у вашых сказах. Як пры гэтым мяняецца сэнс сказаў?

Прачытайце сказы, павышаючы тон на розных словах. Якую ролю адыгрывае інтанацыя ў сэнсавым афармленні сказа?

⊙ **12.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, падбярыце загаловак. Спішыце тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку. Вызначце адрасата і мэтанакіраванасць выказвання.

Я думаю пра восень. Мабыць памыляюцца тыя паэты і пісьменнікі якія бачаць у восені толькі адно заміранне жыцця. Здаецца усё ідзе якраз наадварот. Жыццё ў гэтую пару не замірае а нараджаецца. Яно проста стаіць перад пачаткам новага яшчэ шырэйшага круга. Бяроза пад якой я ляжу адшумела зялёным лісцем і паслала ў свет можа мільёны новых бярозак схаваных у яе лятучым насенні.

Дайце гэтаму насенню пульхную глебу трошкі святла і цеплыні і народзіцца новы бярозавы гай...

Восень гэта ростані на вечных дарогах старога і новага жыцця. Няхай прыгрэе сонца і тады за цёплым летам адразу пачнецца вясна без ніякай восені і зімы без ніякага перапынку. Хіба ўвосень не расцвітае прыгажуня-яблынька зведзеная ў зман здрадлівай ласкай бабінага лета? Нездарма відаць нашы далёкія продкі кожны новы год жыцця пачыналі з восені...

Добра пад бярозай! Заплюшчыш вочы і тады разгалістае зялёнае дрэва ўявіцца мачтай лёгкі шум яго лісцяў плёскатам хваль і можна плыць пад гэту аднастайную музыку ўдалячынь. Можна пабачыць заморскія краіны наведаць казачную Атлантыду асвяжыць засмаглыя губы цудадзейным малаком какосавай пальмы. Усё можна пад прыдарожнай бярозай...

*І. Навуменка*

Знайдзіце простыя ўскладненыя сказы, назавіце сінтаксічныя канструкцыі, якія ўскладняюць гэтыя сказы, растлумачце знакі прыпынку пры іх.

Вызначце ў сказах першага абзаца ключавыя словы і словазлучэнні.

Зрабіце сінтаксічны разбор аднаго з простых сказаў.

**13.** Прачытайце тэксты, вызначце іх стыль. Выпішыце сказы, якія выражаюць асноўную думку кожнага тэксту.

**І.** Васіль Быкаў прыйшоў[м] у літаратуру, каб увекавечыць подзвіг савецкага чалавека на вайне, раскрыць яго духоўныя і маральныя сілы, паказаць тыя глыбінныя вытокі, якія жывілі гераізм, святую нянавісць да ворага ў дні барацьбы нашага народа з фашызмам. Як араты, ён па-гаспадарску агледзеў поле, якое яму трэба было апрацаваць і засеяць. І ён пайшоў не па тых дзялянках, якія былі не раз перааараны, а па цаліку. Засеў, кінуты Васілём Быкавым на гэтую раллю, даў добрыя ўсходы.

*М. Танк*

**ІІ.** Гэта было даўным-даўно. Адзін неразумны чалавек, жартуючы, захацеў спужаць сустрэчнага падарожнага і дзеля гэтага, апрануўшы вывернуты кажух, залез пад нізкі мост, па якім павінен быў ісці той падарожны. Прайшло шмат часу, але цераз мост не ішоў той, каму быў прыдуманы гэты жарт, і чалавек выпаўз з-пад моста, глянуў уперад і бачыць, што падарожны стаіць і ўсміхаецца яму. Чалавек пачаў клікаць падарожнага, але не пазнаў свайго голасу — то быў рык; хацеў падняцца на ногі, але рукі ад зямлі адарваць не можа, узяўся за кажух, але той пры-

рос да цела. Няшчасны жартаўнік глянуў у ваду ў канаве і жахнуўся: ужо ён не ранейшы чалавек, а мядзведзь. Ад гэтага пярэваратня і пайшлі ўсе мядзведзі.

*«Бяздоннае багацце. Легенды, паданні, сказы»*

Выпішыце на выбар адзін просты сказ і зрабіце сінтаксічны разбор усіх словазлучэнняў.

**14.** Падрыхтуйце разгорнутае выказванне на тэму «Стылі беларускай мовы» па наступным плане:

1. Стыль мовы (гутарковы, мастацкі, навуковы, афіцыйны, публіцыстычны).
2. Дзе выкарыстоўваецца?
3. З якой мэтай выкарыстоўваецца?
4. Жанры тэкстаў.
5. Асноўныя адзнакі мовы.
6. Асноўныя сродкі мовы.

Пры неабходнасці выкарыстоўвайце пададзеныя ніжэй выказванні пра культуру мовы і стылістыку.

**I.** Стылістыку можна вызначыць як лінгвістычную навуку аб сродках маўленчай выразнасці і аб заканамернасцях функцыянавання мовы, абумоўленых найбольш мэтазгодным выкарыстаннем моўных адзінак у залежнасці ад зместу выказвання, мэты, сітуацыі і сферы зносін. Вылучаюцца перш за ўсё такія тыповыя сферы зносін, як навуковая, мастацкая, публіцыстычная, бытавая. У адпаведнасці з імі адрозніваюцца і функцыянальныя стылі.

*М. Кожына*

**II.** Акрэсліліся два асноўныя кірункі вывучэння стылістыкі. Першы з іх — практычная стылістыка, яна вывучае стылістычную афарбоўку моўных сродкаў і мае справу пераважна са стылістычнымі сінонімамі. Другі кірунак — функцыянальная стылістыка — у цэнтр увагі ставіць паняцце функцыянальнага стылю, выпрацоўку ўмення будаваць выказванне з улікам абставін і мэты моўных зносін.

*А. Каўрус*

**15.** Падзяліце тэкст на сказы. Вызначце стыль і тып тэксту.

Чым далей у лес тым болей грыбоў сустракаецца дзенебудзь пад кашлатаю бярозаю або сасною прысядзеш і адразаеш карэньчык першаму баравіку хвілін праз колькі бачыш яшчэ і яшчэ аднаго потым другога а там ужо і цэлую сямейку ля даўным-даўно паваленага і зарослага ўжо маладняком дуба трапляеш на неруш грыбы сядзяць там усёй вялікай сям'ёю бы на якой радзе здаецца яны ўважліва слухаюць расказ старэйшыны роду гэты абвіслы зялёны баршчавік нават падпёрся на маладзенькую бярозку каб не ўпасці ад старасці.

*Паводле Б. Сачанкі*

**16.** Знайдзіце ў дыялогу няпоўныя сказы. Вызначце тыя члены няпоўных сказаў, якія могуць быць адноўлены ў поўных сказах.Ператварыце няпоўныя сказы ў поўныя.

— Каня палякі пазаўчора ў абоз пагналі, разам з хлопцам.

— З якім хлопцам?

— З сынам.

— Вялікі?

— Малы... Каб вялікі — я не тужыла б гэтак.

*К. Чорны*

# СКЛАДАНЫ СКАЗ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 4. Паняцце пра складаны сказ

**17.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму. Які перыяд у гісторыі Беларусі адлюстраваны ў тэксце? Што вы ведаеце пра Ефрасінню Полацкую?

Полацкае княства мела вялікую патрэбу ў адукаваных людзях. Школы існавалі тут і да Ефрасінні, але заснаванне асветніцаю манастыроў, яе чынная* педагагічная дзейнасць далі школьнай справе новы магутны штуршок.

Дзеці ў тагачасных школах вучыліся чытанню, пісьму, «цыфіры» і царкоўным спевам. У літаратурных помніках той эпохі часта можна сустрэць пахвалу кніжнаму вучэнню. Яны прыпадабняюць людзей без навукі да бяскрылых птушак: як такая птушка не можа падняцца ў неба, так і чалавек не дасягне без кніг «совершенна разума».

Грамаце вучылі па царкоўных кнігах — Псалтыру, Часаслову, Апосталу. Авалоданне чытаннем ускладнялася тым, што рукапісныя кнігі не мелі знакаў прыпынку, словы і сказы часта зліваліся. Спачатку трэба было завучыць на памяць азбуку з цяжкімі назвамі літар — «аз», «буки», «веди», «глаголь»... Адначасова дзеці вучыліся выводзіць літары піса́лам на бяросце або на васкаваных дошчачках — васкоўках. Потым вучылі склады: «веди» — «аз» — «ва», «буки» — «он» — «бо»... Пасля вучань мусіў засвойваць цітлы — надрадковыя знакі ў выглядзе ламанай рыскі, якія ставіліся над скарочанымі словамі або над літарамі, што мелі лічбавае значэнне. Справіўшыся з гэтай прамудрасцю і навучыўшыся чытаць паасобныя фразы і малітвы, а таксама пісаць, дзеці заканчвалі першы цыкл сваёй навукі. На гэта ішло два-тры гады.

Выпішыце з тэксту простыя сказы. Дайце іх поўную характарыстыку: 1) мэта выказвання, 2) інтанацыя, 3) граматычная аснова, 4) тып сказа паводле будовы граматычнай асновы, 5) тып сказа па наяўнасці або адсутнасці даданых членаў.

● Выпішыце з тэксту практыкавання ўстарэлыя словы. Як вы разумееце іх лексічнае значэнне? З якой мэтай выкарыстоўвае У. Арлоў гэтыя словы?

### *Слоўнік*

**Чы́нны**, -ая, -ае (кніжн.). Дзейсны, актыўны; непасрэдны.

Думкі і пачуцці могуць перадавацца простымі і складанымі сказамі.

**Складаны сказ** — гэта сказ, які складаецца з дзвюх або некалькіх граматычных частак, якія па структуры падобныя на простыя сказы і аб'ядноўваюцца ў адно цэлае паводле сэнсу і інтанацыйна: *Ляжыць зямля ў адзенні белым, і дрэвы ў шэрані стаяць* (Я. Колас).

Асноўнымі сродкамі сувязі граматычных частак у саставе складанага сказа з'яўляюцца: **інтанацыя, злучнікі** і **злучальныя словы.** У залежнасці ад сродку сувязі складаныя сказы падзяляюцца на бяззлучнікавыя і злучнікавыя.

Складаныя сказы, у якіх граматычныя часткі звязваюцца пры дапамозе інтанацыі, без удзелу злучнікаў і злучальных слоў, называюцца **бяззлучнікавымі.** Напрыклад: *Шчабяталі пад страхой ластаўкі, гулі пчолы за сцяной* (М. Лынькоў).

Складаныя сказы, у якіх граматычныя часткі звязваюцца пры дапамозе інтанацыі і злучнікаў або злучальных слоў, называюцца **злучнікавымі.** Злучнікавыя складаныя сказы паводле характару злучнікаў падзяляюцца на дзве групы: 1) складаназлучаныя сказы, 2) складаназалежныя сказы.

**Складаназлучанымі** называюцца сказы, у якіх граматычныя часткі звязаны злучальнымі злучнікамі: *Праходзіць ноч, і меркнуць зоры* (Я. Колас). Сувязь паміж

граматычнымі часткамі ў складаназлучаных сказах называецца **злучальнай.**

**Складаназалежнымі** называюцца сказы, у якіх граматычныя часткі звязаны падпарадкавальнымі злучнікамі: *Я з дзяцінства запомніў, што край мой часінаю весняй шмат стагоддзяў адорвалі лебядзіныя шчырыя песні* (В. Лукша). Падпарадкавальныя злучнікі не з'яўляюцца членамі сказа, таму некаторыя складаназалежныя сказы з такімі злучнікамі паміж часткамі можна перабудаваць у бяззлучнікавыя складаныя сказы. Параўн.: *Я з дзяцінства запомніў: край мой часінаю весняй шмат стагоддзяў адорвалі лебядзіныя шчырыя песні.*

Складаназалежнымі з'яўляюцца таксама сказы, у якіх граматычныя часткі звязваюцца злучальнымі словамі. Злучальнымі словамі ў складаназалежных сказах могуць быць адносныя займеннікі *(хто, што, які, каторы, чый, колькі)* у розных склонавых формах і прыслоўі *дзе, куды, адкуль, чаму, калі, як.* Злучальныя словы з'яўляюцца членамі сказа. Так, у сказе *Люблю я велічныя ска́лы, што водгук акіяну шлюць* злучальнае слова ***што*** — гэта адносны займеннік, ужыты замест назоўніка *ска́лы*, які выконвае ролю дзейніка і адначасова звязвае граматычныя часткі складаназалежнага сказа.

Сувязь паміж граматычнымі часткамі ў складаназалежных сказах называецца **падпарадкавальнай.**

Незалежная частка ў саставе складаназалежнага сказа называецца **галоўнай**, а залежная частка, падпарадкаваная галоўнай частцы паводле сэнсу, называецца **даданай.** У некаторых выпадках даданая частка можа

я к о й?

аказацца ўнутры галоўнай. Так, у сказе *Над ракой, дзе млела ціша, раптоўна грукнуў гром* галоўная частка *Над ракой ... раптоўна грукнуў гром*, а даданая частка — *...дзе млела ціша...* .

У саставе складаназалежнага сказа можа быць некалькі даданых частак. Такі сказ называецца **складаназалежным з некалькімі даданымі часткамі**, напрыклад: [1] *Калі парою лістападу ў вырай птушкі адлятаюць,* [2] *яны ў дубровах пакідаюць свае вясновыя напевы,* [3] *каб не згубіць іх недзе часам у хмарным небе на чужыне* (М. Танк).

Некалькі граматычных частак у саставе складанага сказа могуць звязвацца пры дапамозе і інтанацыі, і злучальных злучнікаў, і падпарадкавальных злучнікаў або злучальных слоў, інакш кажучы, бяззлучнікавай і злучнікавай (злучальнай і падпарадкавальнай) сувяззю. Такія сказы называюцца **складанымі сказамі з рознымі відамі сувязі частак**, напрыклад: 1. [1] *Трапечуць чырванаватым лісцем маладыя асінкі,* [2] *наперагонкі хваляцца сваімі ярка-чырвонымі гронкамі стройныя рабіны, а* [3] *чародкі маслякоў і падасінавікаў выбягаюць з кустоў на самую дарогу* (І. Навуменка). 2. [1] *Штогод вясною сад бялеў ад квецені, і* [2] *ў паветры так густа пахла мёдам,* [3] *што пчолы з усёй акругі зляталіся сюды* (Б. Сачанка).

### Асноўныя віды складаных сказаў



**Звярніце ўвагу!**

Будову складанага сказа можна паказаць з дапамогай графічнай (гарызантальнай або вертыкальнай) схемы. Прыклады схем складаных сказаў розных відаў даюцца ў Дадатку на с. 256—257.

Будову ўсіх відаў складаных сказаў неабходна ведаць для таго, каб правільна выкарыстоўваць іх у маўленні і правільна афармляць на пісьме.

**18.** Спішыце складаныя сказы, пазначце лічбамі іх часткі, падкрэсліце граматычныя асновы, пабудуйце схемы, вызначце сродкі і спосаб сувязі паміж часткамі складаных сказаў.

У з о р  в ы к а н а н н я.

[1]*Ветры спяваюць над барамі вясёла, і* [2]*ад ранку гамоняць працавітыя пчолы* (П. Броўка).

[ ], [і] [ ].

*Сродак сувязі частак — злучальны злучнік* ***і***.
*Спосаб сувязі частак — злучнікавая злучальная сувязь.*

1. Над рэчкай высокай з лахматымі, белымі ад інею вярхамі стаяць стромкія хвоі, шырока развесілі сваё голле волаты-дубы, блішчаць ледзянымі пацеркамі ўбраныя бярэзіны *(І. Гурскі)*. 2. Дзеці не ведалі, куды пайшла маці *(З. Бядуля)*. 3. Няхай думкі мае пабягуць чарадой, як чародкамі хмары плывуць *(Я. Колас)*. 4. Самалёты праз хвіліну зніклі ў далечы, аднак неўзабаве яны зноў вярнуліся *(І. Мележ)*. 5. То праскочыць конік лугам-даліною, то прасвішча вецер у полі нада мною *(Я. Колас)*. 6. Я люблю бярозу, што пяе з вятрамі *(А. Русак)*.

**19.** Спішыце складаныя сказы ў наступнай паслядоўнасці: 1) складаназлучаныя, 2) складаназалежныя, 3) бяззлучнікавыя. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж граматычнымі часткамі.

1. Любоў да Радзімы ў чалавека яскрава праяўляецца тады, калі ён на час разлучыцца з ёю *(Р. Ігнаценка)*.

2. Багуны* скончыліся, але іх гаркаватыˢˡ водар яшчэ кружыў галаву, ёлка* сушыў у горле *(В. Карамазаў)*. 3. Гром страсянуў усё наваколле, упаліᵐ першыя вялікія кроплі дажджу *(С. Александровіч)*. 4. Ёсць нейкія заваблівыя чары, паэзія і хараство ў гэтых дарогах-ручаях, што пракладаюць пуціны вясне і адноўленамуˢˡ жыццю на зямлі... *(Я. Колас)*. 5. Першы веснавы дождж, відаць, нядаўна змыў старую ігліцу, і елкі то тут, то там зелянелі чыстаᵐ *(Я. Пархута)*. 6. Было цёмна, неакрэслена вырысоўваліся чорныя абрысыᵐ берагавых сопак заліва *(А. Капусцін)*.

### Слоўнік

**Багу́н**, -у́, *м.* Балотная вечназялёная расліна сямейства верасовых з рэзкім адурманьваючым пахам.

**Ёлка**. *Прыслоўе да* ёлкі. Ёлкі, -ая, -ае. Прагорклы, з рэзкім непрыемным пахам.

**20.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Абазначце лічбамі часткі складаных сказаў. Падкрэсліце граматычную аснову кожнай часткі. Ахарактарызуйце складаныя сказы паводле плана: 1) сродкі сувязі паміж часткамі складанага сказа; 2) схема складанага сказа; 3) від складанага сказа.

Выразна прачытайце сказы.

Узор выканання.

1) *Мылі рабіну, песцілі толькі цёплыя дажджы,* [*ды*] 2) *любілі шумець маладым лісцем вятры* (І. Мележ).

1. *Злучальны злучнік* ***ды***, *інтанацыя.*

2. [ ], [*ды*] [ ] .

3. *Складаназлучаны сказ.*

1. Спадала лета, ...шоў ранні верасень *(В. Адамчык)*. 2. Люблю вясну, што ў кветкі, зелень аздобіць радас..на зямлю *(К. Буйло)*. 3. То сонца смаліць, то дз..ме с..негавей *(М. Хведаровіч)*. 4. Ні колас на ніве не ў..калыхнецца, ні ліст на дрэве не ў..варухнецца *(М. Багдановіч)*. 5. На тварах хлопцаў свяцілася такое ..часце, якога яны яшчэ

ніколі не а..чувалі ў сваім жыцці *(Я. Маўр)*. 6. Не вятрыска з поўначы павявае — ціха сон у камору ..ступае *(М. Багдановіч)*.

**21.** Прачытайце тэкст; вызначце яго асноўную думку, мэту і адрасата. Спішыце, падзяліўшы тэкст на сказы; пастаўце адпаведныя знакі прыпынку ў канцы сказаў. Падкрэсліце граматычныя асновы ў складаных сказах.

Я ведаю людзей, якім увесь час здаецца, быццам іх усе недаацэньваюць і ўсе да іх заўсёды несправядлівыя сярод вашых знаёмых, напэўна, таксама ёсць такія гэта вельмі цяжкія людзі і для саміх сябе і для тых, хто іх акружае яны пастаянна скардзяцца, псуюць настрой сабе і іншым, а часам і да бурных выбухаў даходзіць, калі яны пачынаюць даказваць сваю праўду часцей за ўсё гэта людзі, у якіх завышаная самаацэнка і неапраўдана высокія прэтэнзіі* яны не могуць самі сябе правільна ацэньваць а навучыцца гэтаму вельмі важна я, напэўна, і не адкрыю вам вялікага сакрэту, калі скажу, што і бацькі, і нават настаўнікі ў сваіх ацэнках могуць памыляцца і ведаеце, якая самая небяспечная памылка самая небяспечная памылка — гэта несправядліва ўвесь час завышаць чалавеку ацэнку, захвальваць яго справа ў тым, што кожны з нас схільны верыць у тое, што высокая ацэнка — самая справядлівая, і адкідваць, як няправільныя, усе ніжэйшыя ацэнкі, лічачы іх несправядлівымі чалавек прызвычайваецца лічыць сябе вельмі дасведчаным і здольным, але вось прыходзіць час сутыкнуцца з рэальнымі цяжкасцямі нярэдка чалавек, які прывык да лёгкага і незаслужанага поспеху, адступае і абвінавачвае ў сваіх няўдачах усіх, акрамя самога сябе.

*Паводле Я. Каламінскага*

### Слоўнік

**Прэтэ́нзія,** -і, *ж.* 1. Патрабаванне чаго-небудзь. 2. Імкненне прыпісаць сабе ўласцівасці, якасці, якіх звычайна няма.

Граматычныя часткі складанага сказа **раздзяляюцца** пераважна **коскай:**

а) у бяззлучнікавым складаным сказе: [1)]*Маўчала ноч па-над палянай,* [2)]*зялёны гай не гаманіў* (П. Трус);

б) у складаназлучаным сказе: [1)]*Воблачка наплыло на сонца,* *і* [2)]*пасыпаўся буйны рэдкі дождж* (В. Хомчанка);

в) у складаназалежным сказе, у тым ліку ў складаназалежным сказе з некалькімі даданымі часткамі: [1)]*Я любіў такі час,* [2)]*калі блізіцца зіма* (К. Чорны); [1)]*Тут былі бастыёнтыя збудаванні,* [2)]*якія абаранялі замак,* [3)]*што ў XI—XVII стагоддзях стаў новым цэнтрам горада* (І. Багдзевіч);

г) у складаным сказе з рознымі відамі сувязі частак: [1)]*Аксён ужо нават можа і распісацца,* [2)]*што яго вельмі цешыць,* *але* [3)]*гэта яшчэ не сведчыць аб яго пісьменнасці* (Я. Колас).

У складаназалежным сказе даданая граматычная частка **аддзяляецца коскамі з двух бакоў,** калі яна знаходзіцца ўнутры галоўнай граматычнай часткі: [1)]*Над ускрайкам лесу,* [2)]*дзе пачыналіся жоўтыя пяскі,* [1)]*зазвінела песня ляснога жаваранка* (Я. Колас).

**22.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тэму; знайдзіце сказ, у якім выражаецца асноўная думка тэксту.

Выпішыце з тэксту складаныя сказы, растлумачце пастаноўку косак на мяжы граматычных частак.

Адчуваючы сябе часцінкай прыроды, нашы продкі адухаўлялі яе, верылі, што яна можа дапамагаць чалавеку ў яго штодзённых клопатах альбо, наадварот, шкодзіць яго жыццю. Людзі баяліся сваімі размовамі, дзеяннямі, учынкамі наклікаць гнеў сіл прыроды і таму ўсяляк стараліся ёй дагадзіць, улагодзіць яе. Яны абагаўлялі птушак (зя-

зюлю, бусла, ластаўку, варону), жывёл і звяроў (каня, казу, ваўка, мядзведзя, вужа, змяю), пакланяліся кветкам (браткам, зязюльчыным слёзкам, папараць-кветцы), дрэвам (дубу, бярозе, рабіне, каліне, явару, грушы). Пакланенне свяшчэнным дрэвам і камяням-валунам дзе-нідзе захавалася да нашага часу. Вярба, паводле народных паданняў, — тужлівае і самотнае дрэва, якое заўсёды спрыяе людзям, клапоціцца пра іх; рабіна валодае цудадзейнай здольнасцю лячыць людзей ад хвароб, а асіна, наадварот, лічылася дрэвам нядобрым, яе бяяліся разводзіць побач з жытлом. Продкі верылі, што зламанае дрэва можа жорстка і бязлітасна расправіцца з крыўдзіцелем. Калі, напрыклад, чалавек гінуў ад зламанага ці паваленага дрэва, лічылі, што дрэва яму за нешта адпомсціла.

Да нашых дзён захавалася павер'е, паводле якога вялізныя густыя дрэвы — дуб, ліпа, вяз, бяроза — валодаюць розумам. А ў купальскую ноч дрэвы нібыта пераходзяць з месца на месца, размаўляюць паміж сабой, і чалавек можа падслухаць іх гаворку.

Асаблівай пашанай карысталіся дрэвы, якія раслі ля крыніц, рэчак, азёраў, бо ў такіх мясцінах людзі звярталіся ў сваіх малітвах да дрэў і да «жывой» вады.

*«Родная літаратура». 5 клас*

**Звярніце ўвагу!**

Пры выкананні практыкавання памятайце:

1) часткі складанага сказа могуць быць як двухсастаўныя, так і аднасастаўныя;

2) часткі складанага сказа могуць быць ускладнены аднароднымі членамі сказа, адасобленымі членамі сказа, пабочнымі словамі і словазлучэннямі, зваротkамі.

## § 5. Ужыванне складаных сказаў

**23.** Прачытайце тэксты. Вызначце тэму і асноўную думку кожнага з іх. Да якога стылю і тыпу маўлення (апісанне, апавяданне, разважанне) яны адносяцца?

Параўнайце тэксты. Якія сказы — простыя ці складаныя — пераважаюць у кожным з іх? У якім тэксце думкі выказваюцца

сцісла, лаканічна, а ў якім — назіраюцца плаўныя пераходы думак, моцныя сэнсавыя сувязі паміж часткамі выказванняў?

**I.** Стаяў той асабліва прыгожы дзень, якія бываюць звычайна ў канцы жніўня месяца, калі даўно скончана жніво, звезена жыта ў гумны* і над апусцелым полем дружна ўзлятаюць стайкі шпакоў — прадвеснікаў блізкае восені. Зямля здаецца лёгкай, бязважкай, яна ўся дыхае цішай, спакоем, усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчаты край лесу, і бялявы дымок далёка-далёка, дзе праходзіць чыгунка. Нават бачыш, як трапечацца зжаўцелы ліст на бліжняй бярозе, як высока-высока ў небе ляціць невядома куды самотная павучынка.

*М. Лынькоў*

**II.** Тым часам канчалася лета. Адгрымелі ліпеньскія і жнівеньскія начныя навальніцы, гучна адспяваўшы песні лету. Дзень за днём пусцелі палі. Людзі ўжо збіралі познія пасевы ярыны. Паспявала грэчка. Прасторы зямлі нібы звужаліся ў межах і таілі ў сабе нейкую неакрэсленую і невыказную самоту. Сціхлі разнастайныя птушыныя песні... Канчалася лета, замірала прырода, затухалі агні ясных промняў сонца.

*Я. Колас*

***Слоўнік***

**Гумно́**, -а́, *мн.* гу́мны *і (з ліч. 2, 3, 4)* гумны́, -аў, *н.* Вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту зжатага збожжа, а таксама пляцоўка перад гэтай будынінай.

Выбар таго ці іншага тыпу сказа — простага ці складанага — у працэсе стварэння тэксту залежыць ад таго, з якой мэтай, для каго ствараецца тэкст, да якога тыпу і стылю маўлення ён належыць.

Для **гутарковага стылю** больш характэрны простыя сказы. Выкарыстоўваюцца ў ім і складаныя сказы, але пераважна складаназлучаныя і бяззлучнікавыя.

Складаныя сказы ў асноўным характэрны для кніжнай мовы.

У **навуковым** і **афіцыйным стылях** часцей ужываюцца складаназалежныя сказы. Гэта не азначае, што іншыя віды складаных сказаў не выкарыстоўваюцца ў гэтых стылях маўлення. Аднак іменна пры дапамозе складаназалежных сказаў думкі чалавека выражаюцца найбольш дакладна, што вельмі важна для навуковых і афіцыйных тэкстаў.

У **публіцыстычным** і **мастацкім** стылях ужываюцца ўсе тыпы сказаў. Выбар таго ці іншага тыпу сказа вельмі часта вызначаецца асаблівасцямі ўласнага стылю кожнага пісьменніка. Адны пісьменнікі карыстаюцца пераважна простымі сказамі, другія — складанымі. Але і ў публіцыстычным, і ў мастацкім стылях існуе залежнасць выбару простых ці складаных сказаў ад зместу тэксту. Так, для перадачы хуткага развіцця падзей або для таго, каб засяродзіць увагу чытача на дэталях, часцей ужываюцца простыя сказы. Там жа, дзе трэба ўстанавіць дакладныя лагічныя сувязі паміж з'явамі, падзеямі, учынкамі герояў, пісьменнік хутчэй за ўсё будзе карыстацца складаназалежнымі сказамі.

Такім чынам, выбар простых ці складаных сказаў пры стварэнні тэксту павінен быць стылістычна апраўданы.

**24.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Абгрунтуйце сваю думку. Выпішыце складаныя сказы, запісваючы колькасна-іменныя спалучэнні словамі. Падкрэсліце ў сказах граматычныя асновы.

Абазначце злучальныя словы ў складаназалежных сказах.

Рэкі — пастаянныя водныя патокі, якія цякуць у распрацаваных імі паглыбленнях — рэчышчах. На Беларусі 20,8 тысячы рэк і ручаёў, якія ўтвараюць рачную сетку сумарнай даўжынёй 90,6 тысячы кіламетраў. Рэкі падзяляюцца на вялікія, сярэднія, малыя, самыя малыя і ручаі. Вялікія рэкі пачынаюцца або толькі часткова цякуць па Беларусі — Дняпро, Заходняя Дзвіна, Нёман, — упадаюць у мора і называюцца рэкамі першага парадку. Вялікімі з'яўляюцца таксама прытокі Дняпра — Бярэзіна, Прыпяць, Сож, а таксама прыток Нёмана — Вілія. Шырыня рэчышча вялікіх рэк дасягае некалькіх дзясяткаў і соцень метраў,

вясной, у час разводдзя[ф], некаторыя з іх выходзяць з берагоў на 5—10 кіламетраў, узровень вады ў іх павышаецца на 1,5—7 метраў. Часам здараюцца катастрафічныя разлівы рэк — навадненні.

Рэкі нясуць (асабліва вясной) завіслыя часцінкі — каламуць[сн]. Павышаную мутнасць маюць рэкі ўзвышаных раёнаў, што выклікана паступленнем у іх змытага з палёў драбназёму.

Рэкі падлягаюць пільнай ахове ад забруджвання, якое можа прынесці значную шкоду здароўю насельніцтва і навакольнаму асяроддзю.

*З «Геаграфіі Беларусі»*

**25.** Прачытайце тэкст. Вызначце, да якога стылю і тыпу маўлення ён адносіцца. З якой мэтай аўтар ужывае складаныя сказы? За кошт выкарыстання якіх моўных сродкаў рака Прыпяць прадстаўляецца чытачу як жывая істота?

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку і правапіс слоў праз дэфіс.

Падрыхтуйцеся да вольнага дыктанта па тэксце практыкавання.

## ПРЫПЯЦЬ

Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот. А яго так многа, што ўсё роўна, спяшайся не спяшайся, а гэтай работы ёй хопіць на доўгія гады. Можа, і надзею страціла яна вынесці хоць калі-небудзь гэтае мора цёмнаружовай вады з неабсяжных балот Палесся, і з гэтай прычыны яна такая павольная і флегматычная*.

Вось толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнай шчэццю лясоў, над барадаўкамі-шапкамі кучаравай асакі, тады яна нявецла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі* ды голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці.

Затое ж як лагодна і ўтульна разляжацца яна ў мяккіх берагах, калі супакоіцца вецер, а над Палессем рассып-

лецца сонца мільярдамі залатых купак святла. Спакой і цішыня пануюць тады над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў.

*Я. Колас*

### Слоўнік

**Флегматы́чны,** -ая, -ае. Які характарызуецца марудлівасцю, спакоем, ураўнаважанасцю, слабым праяўленнем эмоцый (пра тэмперамент, нервовую арганізацыю).

**Ча́йка-душагу́бка**, *Р* ча́йкі-душагу́бкі, *ДМ* ча́йцы-душагу́бцы, *Р мн.* ча́ек-душагу́бак; *ж.* (разм.). Пласкадонная лодка.

**26.** Выразна прачытайце артыкул з газеты для падлеткаў «Раніца». Якая праблема ў ім абмяркоўваецца? Якое рашэнне гэтай праблемы прапаноўваецца? З якой мэтай ствараўся гэты тэкст?

Вызначце стыль тэксту.

Падзяліце тэкст на лагічныя часткі і вызначце: 1) частку, у якой фармулюецца тэзіс; 2) частку, у якой прыводзяцца доказы тэзісу — аргументы; 3) частку, у якой змяшчаецца вывад. Ці супадае падзел гэтага тэксту на лагічныя часткі з падзелам на абзацы?

Да якога тыпу маўлення (апавяданне, апісанне, разважанне) можна аднесці гэты тэкст?

Мы з вамі прызвычаіліся думаць, што чалавек — цар калі не ўсёй прыроды, дык горада дакладна. Хто пабудаваў гарады? Чалавек. Хто прыдумаў заапаркі? Зноў чалавек. У такім выпа**д**ку чалавек нясе адказнасць за тых, хто жыве побач з ім. Паспрабуем вас у гэтым пераканаць.

Некалі лебедзі былі дзікімі птушкамі, жылі на вадаёмах Балтыі і Польшчы, а два стаго**ддз**і таму назад заможныя людзі пачалі разводзіць іх непадалёк ад сваіх маёнткаў паводле моды тых часоў. Цяпер цяжка ўявіць сабе нейкае возера Беларусі без лебедзяў. Да таго ж лебедзі ўсё больш становяцца гара**дск**імі птушкамі і жывуць на гарадскіх в**а**дасховішчах. Галоўная прычына таму — ежа. Птушкі даўно адчулі, што там, дзе ёсць чалавек, знойдзецца і ежа.

«Раніца» запыталася ў эколагаў Мінска, ці можна зімой падкармліваць лебедзяў. У эколагаў на гэта пытанне адназначнага адказу няма. Яны сцвярджаюць[ф], што лебедзі прызвычаіліся да прыродных з’яў, у тым ліку да маразоў,

харчуюцца мікраарганізмамі, што знаходзяцца на дне вадаёма, а тая ежа, якую прыносіць чалавек, не заўсёды птушкам на карысць, бо не вельмі для іх прыдатная.

Пастаянная падкормка не вельмі добрая справа яшчэ і таму, што з-за яе птушкі становяцца менш прыстасаванымі да прыродных умоў. Чаму гэта адбываецца? Гэта адбываецца таму, што яны прызвычайваюцца да падтрымкі з боку чалавека і чакаюць, што чалавек і далей будзе іх карміць. Праблема заключаецца ў тым, што, калі чалавек падкормлівае птушак, ён дапамагае выжыць адзінкам, але від не выратоўвае, больш за тое, нават паслабляе яго. Якраз[м] па гэтай прычыне зімой без падкормкі не вельмі моцныя гарадскія лебедзі могуць загінуць! Гэта значыць, што падкормліваць птушак падчас маразоў усё ж такі трэба: гэтак мы і птушкам дапамагаем, і сабе робім прыемна.

Эколагі ўпэўнены, што там, дзе ёсць чалавек, ужо не дзейнічаюць механізмы натуральнага адбору, калі выжывае наймацнейшы[м]. Таму калі мы ідзём на возера пакарміць птушак і атрымаць ад гэтага задавальненне, мы павінны памятаць, што адказваем за тых, каго прыручаем.

*З газеты «Раніца»*

Выпішыце з тэксту складаныя сказы і, абапіраючыся на іх, перакажыце тэкст (вусна).

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар і спалучэнняў літар.

**27.** Уважліва прачытайце тэкст, вызначце яго тэму і падбярыце загаловак.

Адкажыце на пытанні, ужываючы складаныя сказы.

— Якую думку абгрунтоўвае аўтар тэксту?

— Якія школьныя прадметы аўтар лічыць неабходнымі для авалодання любой прафесіяй?

— Якія аргументы на карысць кожнага названага прадмета прыводзіць аўтар тэксту?

Дакажыце, што стыль тэксту — публіцыстычны. Для гэтага ахарактарызуйце маўленчую сітуацыю, у якой можа быць выкарыстаны тэкст (дзе? з кім? з якой мэтай?), вызначце яго стылявыя прыметы і моўныя сродкі (лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя).

— Да якога тыпу маўлення адносіцца гэты тэкст? Абгрунтуйце сваю думку.

Выдзеліце ў тэксце межы лагічных частак. Складзіце кампазіцыйную схему і план тэксту (пісьмова).

Вусна перакажыце тэкст (ад 1-й або 3-й асобы) паводле плана, выкарыстоўваючы складаныя сказы.

Спрэчка аб тым, якія школьныя прадметы галоўныя, а якія не самыя галоўныя, — рэч неразумная. Людское грамадства ўвогуле не можа ў наш час нармальна існаваць без любога з тых прадметаў, якія вывучаюцца ў школе. Я б паспрабаваў падзяліць школьныя прадметы не на галоўныя і не вельмі галоўныя, а на такія, якія неабходныя ў любой прафесіі, і такія, якія неабходныя толькі ў некаторых прафесіях.

Дык без якіх жа прадметаў нельга абысціся ні ў якой дзейнасці?

Перш за ўсё, без фізкультуры. Гэта — самы галоўны школьны прадмет, таму што гэта — здароўе. Няма здароўя — і ўсе праблемы па-іншаму бачацца. Фізічныя сілы — гэта аснова для любой працы: фізічнай, разумовай, ратнай*.

Ну а потым, па-мойму, літаратура і гісторыя. Я іх лічу для любых прафесій важнымі таму, што дзякуючы ім чалавек становіцца чалавекам, сынам ці дачкой свайго народа, часцінкай сваёй краіны, мастком паміж мінулым і будучыняй. З гэтых навук ён разумее, для чаго жыве, што добра, а што дрэнна. Душа і сэрца пачынаюць у яго працаваць.

Яшчэ адзін прадмет для ўсіх спецыяльнасцей і прафесій патрэбны. Гэта — матэматыка. Вы, напэўна, ведаеце, што «матэматыка — гэта царыца навук» і што «матэматыка ўжо тым добрая, што розум у парадак прыводзіць».

З курса «Асновы інфарматыкі» вы ўжо ведаеце пра тыя надзвычай шырокія магчымасці, якія адкрывае абсалютна перад усімі галіна́мі чалавечай дзейнасці прымяненне камп'ютараў. Уменне працаваць з камп'ютарам у наш час і тым больш у будучыні — абавязковая ўмова поспехаў у любой прафесіі. Для грамадства вельмі важна ліквідаваць камп'ютарную непісьме́ннасць, як у свой час ліквідавалі звычайную непісьме́ннасць, якая не давала магчымасці людзям ні пісаць, ні чытаць.

Але, стоп! Хіба ўкараненне камп'ютараў азначае, што людзі будуць уступаць у зносіны паміж сабой толькі з дапамогай камп'ютараў? Наўрад ці. Калі ў чалавека выспявае якая-небудзь ідэя, абсалютна геніяльная або не вельмі, ён гэту ідэю на сваёй роднай мове выражае. А калі я хачу сябру сваім голасам (!) расказаць пра тое, што я сумую па ім, пра тое, што я бачыў і адчуваў у зімовым лесе, якія думкі ўзніклі ў мяне ў час чытання кнігі? Хіба ўжо нельга?

Камп'ютары — нашы магутныя памочнікі. І абсалютна неабходна навучыцца іх выкарыстоўваць. Але найважнейшым сродкам выражэння думкі і зносін паміж людзьмі нават у камп'ютарызаваным грамадстве застаецца натуральная чалавечая мова. І таму яшчэ адзін школьны прадмет, які неабходны чалавеку любой прафесіі і спецыяльнасці, — гэта родная мова. Гэта ўменне гаварыць і пісаць так, каб цябе правільна разумелі і, па магчымасці, прымалі. Гэта ўменне чытаць і слухаць суразмоўцу, узбагачацца яго думкамі і пачуццямі, умацоўваць сваю пазіцыю, калі з нечым не пагаджаешся.

*Паводле І. Міласлаўскага*

### Слоўнік

**Ра́тны**, -ая, -ае (уст. і высок.). Ваенны, баявы. *Ра́тны подзвіг.*

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Якія сказы называюцца складанымі?
2. Назавіце асноўныя сродкі сувязі граматычных частак у складаных сказах. Якія словы называюцца злучальнымі?
3. Якія складаныя сказы называюцца складаназлучанымі? Складаназалежнымі? Бяззлучнікавымі?
4. Як называецца сувязь паміж граматычнымі часткамі ў складаназлучаных сказах? У складаназалежных сказах?
5. Чаму неабходна ведаць будову ўсіх відаў складаных сказаў?
6. Пабудуйце па памяці схему «Асноўныя віды складаных сказаў».
7. Раскажыце пра пастаноўку коскі на мяжы граматычных частак у складаным сказе.
8. Як мэта і стыль маўлення ўплываюць на ўжыванне складаных сказаў?

# СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 6. Паняцце пра складаназлучаны сказ

**28.** Прачытайце тэкст. У выдзеленых сказах назавіце граматычныя часткі і сродкі сінтаксічнай сувязі паміж імі.

Уладзімір Караткевіч... Нядаўна яшчэ ён быў жывы — наш сучаснік, няўрымслівы творца на ніве нацыянальнай культуры, чалавек «святы і грэшны» на сваёй «святой і грэшнай» зямлі. **Але настаў час, і выпадак ці капрызны прысуд няўмольнага лесу аддзялілі яго ад жывых...**

У яго было вялікае чалавечае сэрца. **Ягоная прыхільнасць да жыцця не ведала межаў, і ў ёй заўжды было месца для незвычайнага.**

Шырока вядома бязмежная любасць Уладзіміра Сямёнавіча да літаратуры, мастацтва, нацыянальнай даўніны і гісторыі.

Пісьменніцкую ўвагу Уладзіміра Караткевіча заўжды прыцягвала тэма кахання, якую ён даследаваў у розны час на розным матэрыяле: гістарычным, нядаўняга мінулага, сучаснасці. Ужо самы першы раман «Нельга забыць» быў прысвечаны каханню.

**Творы Уладзіміра Караткевіча з захапленнем чытаюць розныя людзі, рознага веку і густаў, але, мне думаецца, большасць ягоных кніг знойдзе свой самы ўдзячны водгук у маладых сэрцах.**

Ён быў вельмі шчодры ў жыцці і мудры ў літаратуры.

*В. Быкаў*

**Складаназлучаны сказ** — гэта сказ, у якім граматычныя часткі звязаны злучальнымі злучнікамі.

Складаназлучаныя сказы могуць складацца з дзвюх, трох і больш частак. Напрыклад: *1. Ні з таго ні з сяго сярод белага дня галасіста спявалі пеўні, [і] на пачарнелых сметніках жвава капашыліся вераб'і* (В. Стома). *2. Гарэлі ўначы за Бярозай кастры, [і] плавалі белыя хмарынкі дыму, [і] кволыя цені да самай зары скакалі на ўзлессі нагамі худымі* (А. Звонак).

Састаўныя часткі складаназлучанага сказа могуць быць адносна самастойныя, раўнапраўныя, а могуць залежаць адна ад адной. Калі яны раўнапраўныя, незалежныя, іх можна памяняць месцамі, і сэнс такога сказа не зменіцца. Напрыклад: *1. Шуміць вада на грэблі пад мастом, [ды] сонна шэпча ссохлая трава* (М. Танк). (Параўн.: *Сонна шэпча ссохлая трава, [ды] шуміць вада на грэблі пад мастом.*) *2. Паабапал жвірыстай дарогі калышацца леташні быльнік, [і] веснавая шырыня вее над неабдымным полем* (К. Чорны). (Параўн.: *Веснавая шырыня вее над неабдымным полем, [і] паабапал жвірыстай дарогі калышацца леташні быльнік.*)

Калі другая частка граматычна залежыць ад першай, вынікае з першай, такія перастаноўкі немагчымы. Залежнасць другой (ці другіх) часткі ад першай праяўляецца:

- у наяўнасці ў другой частцы займеннікаў і прыслоўяў, якія замяняюць асобныя словы першай часткі;
- у парадку слоў другой часткі адносна першай;
- у наяўнасці агульнага члена, які аб'ядноўвае гэтыя часткі ў адно цэлае.

Напрыклад: *1. Лёгкі вецер гнаў па рацэ дробныя* ***хвалі****, і* ***яны*** *падкатваліся да рудых чаратоў, спакойна лажыліся між высокіх сухіх сцяблін* (А. Асіпенка). *2.* ***Там*** *вясной шумелі травы, а ў кастрычніку — лісты* (П. Глебка). *3.Канчалася завея, і праз гадзіну расчышчаны былі ўжо гурбы каля хат* (У. Краўчанка). *4.* ***Ля іх*** *[ліп] званчэй цвыркаюць конікі і спяваюць птушкі* (В. Шымук).

**29.** Прачытайце. Выпішыце складаназлучаныя сказы. Падкрэсліце граматычныя асновы і злучнікі, што злучаюць часткі. Назавіце сказы, у якіх часткі раўнапраўныя.

1. Высока-высока ў небе трымціць, натужна гудзе, змагаючыся з цемраю, самалёт, а ў зарасніках, проста ля самай дарогі, цёхкае, заліваецца салавей *(Б. Сачанка)*. 2. Верасы над лісцем спалі, бор зялёны гнуўся, недзе пелі ў цёмнай далі журавы ды гусі *(Я. Купала)*. 3. Травы сохлі і жоўклі, прыгожыя кветкі тужліва хілілі свае зграбныя галоўкі, дарэмна шукаючы цяньку, і сохлі без часу *(Я. Колас)*. 4. Дае прырода зноў урокі нам: не верце цішыні, салодкім снам, бяда і радасць ходзяць побач вечна, людзей ратуе толькі чалавечнасць *(П. Панчанка)*. 5. На чыстай вадзе паміж пірсамі* плавалі заякараныя, выразаныя з пенапласту*, ярка расфарбаваныя дэльфіны, белыя лебедзі і белыя мядзведзі, пальмы, кіпарысы і яшчэ розная флора і фаўна далёкіх гарачых тропікаў *(В. Хомчанка)*. 6. Куе зязюля ўсё радзей і радзей, і дрэвы пахнуць першым сном і мірам *(А. Зарыцкі)*. 7. Сарокін спрабаваў убачыць у блакіце неба тых гусей, але вочы сляпіліся, жмурыліся *(В. Хомчанка)*. 8. Пушкін! Назавіце гэтае імя, і радасна, горача заб'ецца сэрца *(П. Панчанка)*. 9. То іней асыпаецца на скронь, то хвошча лес ігліцаю і снегам *(С. Грахоўскі)*.

### Слоўнік

**Пенапла́ст**, -у, *М -сце, м.* Пластмаса з вялікай колькасцю пораў і поласцей.

**Пірс**, -а, *м.* Партовае збудаванне, род дамбы для прычалу суднаў з двух бакоў.

Складаназлучаныя сказы могуць мець аднатыпныя або разнатыпныя часткі.

**Аднатыпнымі часткамі** складаназлучанага сказа з'яўляюцца тыя, што: а) нагадваюць сабой двухсастаўныя сказы; б) нагадваюць сабой аднасастаўныя сказы. Напрыклад: *1. На гэтым возеры разаслаў месяц свой*

*танюсенькі белы кужаль, а зоркі пасыходзілі з неба і купаліся ў бліскучых пераліваx вады, бы тыя дыяментавыя кветачкі* (Я. Колас). *2. Упаў на зямлю, ды не ўпаў духам* (В. Якавенка).

Складаназлучанымі сказамі з **разнатыпнымі часткамі** з'яўляюцца тыя, у якіх адна частка нагадвае сваёй будовай двухсастаўны сказ, а другая — аднасастаўны. Напрыклад: *1. У небе прыветна свяціў месяц, і нічога кругом не прадказвала бяды* (В. Стома). *2. Пакрысе пачынае цямнець, і ў вокнах далёкіх вясковых хат замільгалі агеньчыкі* (І. Навуменка).

## ГЭТА ВАРТА ВЕДАЦЬ

### ПАРАНІМІЯ

Паранімія — гэта частковае супадзенне па гучанні слоў, якія адрозніваюцца паміж сабой значэннем *(генеральны — генеральскі).*

Паронімы (ад. грэч. *para* побач, каля + *onyma* імя) — найчасцей аднакарэнныя словы, якія маюць марфемнае і гукавое падабенства, але выражаюць розныя сэнсавыя паняцці: *адрасат* 'той, каму адрасавана паштовае адпраўленне' — *адрасант* 'той, хто пасылае паштовае адпраўленне'; *дыпламат* 'службовая асоба, упаўнаважаная ўрадам для зносін, перагавораў з замежнымі дзяржавамі' — *дыпламант* 'удзельнік конкурсу, узнагароджаны дыпломам'.

У беларускай мове сустракаюцца такія словы не толькі парамі, але і па тры ці нават чатыры ў адным радзе: *асабісты — асаблівы — асабовы; адзінкавы — адзіночны — адзінокі — адзіны* і інш. Паранімічныя адносіны ўзнікаюць найчасцей паміж назоўнікамі, прыметнікамі, радзей — паміж дзеясловамі. Паронімы найчасцей адносяцца да адной часціны мовы, аднаго граматычнага роду.

Кампаненты кожнай паранімічнай пары суадносяцца паміж сабой як паралельныя адзінкі, гэта значыць сугучныя марфалагічныя ўтварэнні, якія адрозніваюцца як сэнсам, так і формай: *буксаваць — буксіраваць*; *ступа — ступня*; *цікавы — цікаўны.*

*Л. Кунцэвіч*

**30.** Прачытайце сказы, выпішыце спачатку складаназлучаныя сказы з аднатыпнымі часткамі, а затым — з разнатыпнымі.

1. Над востравам у асмужаным туманам небе звінелі жаўранкі, а ў бярозавым гаі стаяў грачыны гармідар* *(А. Асіпенка)*. 2. Янка Купала любіў нас, маладых паэтаў, і мы заўсёды адчувалі бацькоўскую ўвагу яго да нас *(М. Хведаровіч)*. 3. Конь пачынаў накульгваць, спатыкацца, і Марату даводзілася спыняць свайго вернага Орліка і выбіваць з-пад капыта камяк заледзянелага снегу *(С. Шушкевіч)*. 4. Васіль Быкаў не толькі ў беларускай літаратуры, але і ва ўсёй савецкай літаратуры аказаўся паслядоўным прыхільнікам ваеннай тэмы *(Д. Бугаёў)*. 5. Хата стаяла раскошна, прасторна, і толькі збоч, пад вокнамі хаты, Загоцкі пазнаў грушу[сн] *(А. Жук)*. 6. Паэзія Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Кальцова, паэзія вялікага ўкраінскага кабзара* Шаўчэнкі натхняла беларускага песняра на самаадданае служэнне працоўнаму народу *(П. Броўка)*. 7. У лесе адразу павесялела, а на пясчаных грудах зноў заззяў верас *(С. Александровіч)*. 8. Толькі недзе на дрэве млосна стогне спявачка поўдня туркаўка*, ды час ад часу прабарабаніць дзяцел на сухастоіне *(М. Ракітны)*. 9. Удзень горача, а ўначы холадна *(У. Караткевіч)*. 10. Іду, а неба нізкае, а ночка сінякрылая, і ўсё да болю блізкае, і ўсё — старонка мілая! *(Н. Гілевіч)*.

### *Слоўнік*

**Гармі́дар**, -у, *м.* (разм.). 1. Гучная бязладная гаворка наперабой; шум, вэрхал. 2. Беспарадак, неразбярыха.

**Кабза́р**, -а́, *м.* Украінскі народны спявак, які акампаніруе сабе на кобзе.

**Ту́ркаўка**, -і, *ДМ* -каўцы; *Р мн.* -кавак; *ж.* Птушка атрада галубоў з бурым апярэннем без металічнага бляску.

**31.** Падрыхтуйце вуснае паведамленне на тэму «Паняцце пра складаназлучаны сказ» па плане.

1. Якія сказы называюцца складаназлучанымі?
2. Колькі граматычных частак можа быць у складаназлучаным сказе?

3. Ці заўсёды састаўныя часткі складаназлучаных сказаў адносна самастойныя?

4. Як праяўляецца залежнасць другой граматычнай часткі ад першай у складаназлучаных сказах?

5. Якія часткі складназлучаных сказаў называюцца аднатыпнымі? Разнатыпнымі?

Адказваючы на кожны пункт плана, прыводзьце прыклады.

## § 7. Сродкі сувязі частак у складаназлучаных сказах

Сэнсавае адзінства складаназлучаных сказаў ствараецца пры дапамозе інтанацыі, парадку размяшчэння частак, суадносін трывальна-часавых формаў дзеясловаў-выказнікаў.

Злучальныя злучнікі з'яўляюцца асноўным граматычным паказчыкам складаназлучаных сказаў. Напрыклад: *1. Прачнуліся дрэвы,* [*і*] *пабег сок па ўсіх іх драўляных жылках* (В. Стома). *2.* [*І*] *горлінка ў хмызе напеўна бур-кue,* [*і*] *ціха пазвоньвае ў рэчцы вада* (Х. Гурыновіч).

Часткі, якія ўваходзяць у складаназлучаны сказ, могуць звязвацца пры дапамозе спалучальных (***і, ды*** (у значэнні ***і***), ***ні — ні***), супраціўных (***а, але, затое, аднак, ды*** (у значэнні ***але***), ***ж (жа), аж, толькі, адно***), размеркавальных ***(ці, ці — ці, то — то, не то — не то, ці то — ці то)*** злучнікаў. Гэтыя ж злучнікі паказваюць на тыя сэнсавыя адносіны, якія ўзнікаюць паміж часткамі сказа. Адпаведна гэтыя адносіны называюцца спалучальнымі, супраціўнымі, размеркавальнымі.

І. Складаназлучаныя сказы са **спалучальнымі сэнсавымі адносінамі.**

[ ], [*і*] [ ].

Напрыклад: *Вось палазы зноў рыпяць па нядаўна працёртай дарозе,* [*і*] *над снегам плыве даўжэзнае бер-*

*вяно, карэлае ад камля і шалушліва-залацістае, нібы цыбуля, пад верхавіну* (Я. Брыль). У гэтым складаназлучаным сказе пералічваюцца дзеянні, якія адбываюцца адначасова. *Сонечнымі ключамі вясна адамкнула дзверы цёплым вятрам з поўдня,* [*і*] *яны панеслі па прасторах неўгамонную яе сілу...* (Т. Хадкевіч). Паміж часткамі гэтага сказа выражаюцца спалучальныя адносіны паслядоўнасці: спачатку вясна адамкнула дзверы вятрам, а затым яны панеслі неўгамонную яе сілу.

Асаблівая інтанацыя характэрна складаназлучаным сказам, у якіх выражаецца хуткая змена падзей або нечаканы вынік. Першая частка ў такіх сказах нагадвае назыўны сказ. Пасля вымаўлення першай часткі робіцца доўгая паўза, другая частка вымаўляецца больш хуткім тэмпам. Напрыклад: *Узмах —* [*і*] *плёснулася недзе на сярэдзіне блясна...* (І. Шамякін).

II. Складаназлучаныя сказы з **супраціўнымі сэнсавымі адносінамі**.

[ ], [*а*] [ ].

Напрыклад: *Імя паэта забылася,* [*а*] *верш помніцца* (А. Кудравец). У гэтым сказе злучнік ***а*** паказвае, што адно дзеянне супрацьпастаўляецца другому. *Паблізу рос гонкі алешнік,* [*і*] *на адным з дрэў ляжала нават прылада для іхняга гнязда,* [*але*] *буслы аблюбавалі чамусьці руіны* (А. Пальчэўскі). Пры дапамозе злучніка ***але*** выражаюцца супраціўныя адносіны. Трэцяя частка гэтага складаназлучанага сказа зместам супрацьлеглая першым дзвюм яго часткам.

III. Складаназлучаныя сказы з **размеркавальнымі сэнсавымі адносінамі**.

[*То*] [ ], [*то*] [ ].

Напрыклад: [*То*] *шырокі разліў зары абнімаў увесь усход,* [*то*] *вяршыні ліп палыхалі мядзя́ным бляскам,* [*то*] *сады ружавелі і дыміліся празрыстым туманам*

(Т. Хадкевіч). У частках складаназлучанага сказа ўказваецца на чаргаванне з'яў пры дапамозе злучніка ***то — то*** і выражаюцца размеркавальныя адносіны. [*Ці*] *там ветры халодныя дзьмуць,* [*ці*] *зямелька спавіта цяплом* (Ц. Гартны). Пры дапамозе злучніка ***ці — ці*** аб'яднаны часткі складаназлучанага сказа, у якіх выражаецца пералічэнне ўзаемна выключаных з'яў.

**32.** Прачытайце сказы, вызначце, якія з іх простыя, а якія складаназлучаныя. Выпішыце складаназлучаныя сказы, падкрэсліце граматычныя асновы.

1. Мінуўшы лес, лейтэнант вывеў групу на раўнінны прырэчны прасцяг, і лыжнікі доўга ішлі па прамой *(В. Быкаў).* 2. Тут, у Альбуці, кволая паэтычная іскра загарэлася ў сэрцы той векапомнай вясною, і ніякія[ф] ліхалецці жыцця не змаглі яе пагасіць *(С. Александровіч).* 3. Каля трыццаці метраў увысь цягнецца гонкі ствол без адзінага сучка і дупла, а потым раскідваецца доўгімі і моцнымі сукамі, утвараючы вялікую зялёную шапку *(Т. Хадкевіч).* 4. Зямля Беларусі паціху вяртала сабе свае жыццядзейныя сілы, а мы ішлі здабываць Перамогу *(К. Кірэенка).* 5. І ад лагчыны павявала не вільготным водарам, а цёплаю палявою сушшу *(А. Жук).* 6. Цёплы вецер прабег па нерухомай роўнядзі ракі, і ўзнятыя ім дробныя хвалі раптам бліснулі на сонцы залатымі іскрамі *(У. Краўчанка).* 7. Неба, засланае бялёсымі воблакамі, пазірала непрыветна і холадна і, нізка навісшы над прасторамі зямлі, надавала ім пануры выгляд, накладала пячаць аднастайнай паныласці *(Я. Колас).* 8. Жураўліны[м] ключ то крыху звужаўся, то, расшыраючыся, нават заломваўся даўжэйшым канцом, але птушкі адразу ж выпрамляліся, выроўнівалі яго, не перастройваючыся нават… *(Я. Сіпакоў).* 9. Ласяня, нічога не баючыся, падхапілася, гарцанула і пабегла да яшчэ аднаго сябрука — да цяляці *(Г. Далідовіч).* 10. Хлопцы пачалі разглядаць незразумелыя лісты, напісаныя лацінскі-

мі літарамі, але ніводнага слова не маглі зразумець *(Я. Маўр).* 11. Жаўранкаў не відаць у цьмяным небе, а толькі песня звініць, цярушыцца на траву, на кветкі і тарфяную чарнату разам з бясконцымі кропелькамі цёплага дажджу *(Я. Брыль).* 12. Яе захапляла і проста духмянае паветра, і проста дождж па даху, і проста хлебны пах у хаце, проста палявыя кветкі, травінкі, павучкі... *(Л. Філімонава).*

**33.** З простых сказаў пры дапамозе злучнікаў ***і, а, але*** ўтварыце складаназлучаныя. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі ўтвораных сказаў.

1. Сонца заходзіла. Паветра было цёплае, як днём *(А. Чарнышэвіч).* 2. Воддаль бялее гонкімі ствaламі чарада бяроз. Крыху далей распасцёрся стромкі і роўны, як падстрыжаны, сасновы бор *(Т. Хадкевіч).* 3. Неба адразу цямнее, захінаецца дымам. Скрозь цёмную густую заслону ледзь прыкметна выблісквае сонца *(І. Навуменка).* 4. Дома яна разбярэ ўсю гэту прыгожасць [травы], тоненькія пучочкі будзе сушыць да самых маразоў. Тады іхняя невялічкая хатка напоўніцца такімі багатымі, такімі дзівоснымі пахамі *(Л. Дайнека).* 5. Вунь пярун некалі смальнуў у яліну, адламаў сукаватую палавіну, кінуў на дол. Яна ўчарнела, парасла мохам *(А. Савіцкі).* 6. Над возерам перакінула сваё каляровае каромысла* вясёлка. Вясёлы, бліскучы грыбны дождж усё яшчэ ішоў *(В. Вольскі).* 7. Разарваная хмара ссоўвалася за дальні лес. Неўзабаве сонечны бляск зноў заліў поле *(Т. Хадкевіч).*

● У якіх значэннях словы *гонкі* і *стромкі* ўжыты ў другім сказе? Ці можна лічыць іх сінонімамі?

### Слоўнік

**Каро́мысла**, -сла, *н.* Драўляная дуга з выемкамі або кручкамі на канцах для пераносу на плячах вёдзер і інш. грузаў.

**34.** Прачытайце тэксты, знайдзіце складаназлучаныя сказы і абгрунтуйце мэтазгоднасць іх ужывання, папярэдне паўтарыўшы § 5. Для каго прызначаны гэтыя тэксты (для вучняў, аматараў флоры і інш.)? Як аўтар тэкстаў адносіцца да раслін, пра якія піша? З якой мэтай створаны гэтыя тэксты (з мэтай пабуджэння да дзеяння, з мэтай уздзеяння на думкі і пачуцці; з мэтай развесяліць ці пацешыць чытача; з мэтай паведамлення інфармацыі і інш.)?

ТРЫПУТНІК

Трыпутнік звычайна расце пры дарозе і ля сцежак. Знешні выгляд у яго далёка не экзатычны. Некалькі шырокіх лісцікаў сцелюцца па зямлі, а над імі ўзнімаецца голае, пругкае[ф] сцябло. З канца мая да самай восені трыпутнік цвіце. Тады на канцах сцяблінак з'яўляюцца каташкі, дзе ў невялікіх каробачках паспявае дробнае насенне.

Лекавыя якасці трыпутніку здаўна цанілі нашы продкі. Лісце прыкладвалі да ран, і раны хутка загойваліся[м]. Сок трыпутніку выкарыстоўваецца пры захворваннях страўніка, а з падсушанага лісця атрымліваецца каштоўны медыцынскі прэпарат — плантаглюцыд.

*Паводле З. Марозава*

БУЛЬБА

Звычайна людзі гавораць: «Бульба — хлебу падмога». І гэта праўда. Без бульбы нельга ўявіць ні абедзенны, ні ўрачыста-святочны стол. Заўсёды яна побач з хлебам, і ніхто не грэбуе ёй.

Хораша цвіце бульба! Амаль сем тыдняў свецяцца[сл] над полем сціплыя зорачкі кветак самай разнастайнай афарбоўкі.

Але вось бульба адцвіла, і пад зялёным кустом з'яўляюцца маладыя клубні[сл]. Мінае яшчэ некалькі тыдняў, і бульбаводы, папярэдне скасіўшы[м] бацвінне, выводзяць камбайны і капалкі на ўборку «другога хлеба». З палёў грузавікі адвозяць клубні на захаванне ў бульбасховішчы, а ўжо адтуль бульба паступае ў крамы, на заводы.

*Паводле З. Марозава*

**35.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову (пісьмова). У перакладзе падкрэсліце граматычныя асновы складаназлучаных сказаў і ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі.

Учился я хорошо, с французским же у меня не ладилось из-за произношения. Я легко запоминал слова, но произношение с головой выдавало мое ангарское происхождение. Лидия Михайловна, учительница французского, бессильно морщилась и закрывала глаза.

«... Нет, придётся с тобой заниматься отдельно», — сказала она.

Так начались для меня мучительные дни. Я покрывался потом, краснел и задыхался, а Лидия Михайловна без передышки заставляла меня мозолить бедный мой язык.

Постепенно я стал сносно выговаривать французские слова, и они уже не обрывались у моих ног тяжёлыми булыжниками, а, позванивая, пытались куда-то лететь.

Наверное, уже можно было прекратить эти занятия на дому, но я не решался сказать об этом Лидии Михайловне, а она, видимо, не считала нашу программу выполненной. И я продолжал тянуть свою французскую лямку. Впрочем, лямку ли? Как-то невольно и незаметно я почувствовал вкус к языку и в свободные минуты без всякого принуждения лез в словарик, заглядывая в дальние тексты учебника. Наказание превращалось в удовольствие.

*По В. Распутину*

## ГЭТА ВАРТА ВЕДАЦЬ

Двухмоўе (білінгвізм) — гэта папераменнае карыстанне дзвюма мовамі. Калі ж ва ўжытку знаходзяцца тры і больш моў, прынята гаварыць пра шматмоўе, або полілінгвізм. Сэнс паняцця «двухмоўе» вынікае з выразу «дзве мовы». Такая ж структура яго лацінскага эквівалента «білінгвізм» (*bi* — двойчы і *lingua* — мова).

На нашай планеце жывуць многія народы. Яны знаходзяцца ў пастаянным кантакце адзін з адным, асабліва этнасы суседнія, якія часта маюць адну тэрыторыю пражывання або знаходзяцца ў складзе адной

дзяржавы. Вядома, напрыклад, што 3—4 тысячы народаў зямлі сёння ўтвараюць усяго каля 200 дзяржаўных аб'яднанняў. Моўныя кантакты, якія дыктуюцца эканамічнымі, культурнымі і іншымі сувязямі, патрабуюць вывучэння і выкарыстання ў моўнай практыцы дзвюх і больш моў.

Сучасная моўная сітуацыя на Беларусі характарызуецца пераважна суіснаваннем і выкарыстаннем беларускай і рускай моў і можа быць вызначана як беларуска-рускае двухмоўе.

*Паводле А. Лукашанца*

**36.** Прачытайце артыкул А. Лукашанца і падрыхтуйце пісьмовае выступленне-разважанне «Беларуска-рускае двухмоўе» па наступным плане.

1. Што такое двухмоўе, ці білінгвізм?
2. Чаму ўзнікае такая з'ява, як двухмоўе? Полілінгвізм?
3. Ці патрэбна вывучэнне дзвюх і больш моў?
4. Ці раўнапраўныя беларуская і руская мовы ў сітуацыі беларуска-рускага двухмоўя?
5. Як вы адносіцеся да беларускай мовы? Чаму?

## § 8. Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі злучнікамі

**37.** Прачытайце тэкст, знайдзіце складаназлучаныя сказы і вызначце, якія сэнсавыя адносіны выражаюцца паміж часткамі, злучанымі спалучальным злучнікам ***і***. Звярніце ўвагу на інтанаванне складаназлучаных сказаў.

Вал наступлення нашых войск каціўся надзвычай энергічна і імкліва. Праз адзінаццаць дзён ад пачатку гістарычнай бітвы за Беларусь ён дакаціўся да сталіцы рэспублікі, і 3 ліпеня над Мінскам залунаў родны чырвоны сцяг. Крышыліся ланцугі няволі, і беларуская зямля вызвалялася з чорнага фашысцкага палону.

Будуць ісці новыя і новыя дзесяцігоддзі, а ў памяці людской заўсёды будзе жыць велічны подзвіг савецкага народа.

*І. Кудраўцаў*

Паміж часткамі складаназлучанага сказа, звязанымі спалучальнымі злучнікамі ***і, ды*** (у значэнні ***і***), ***ні — ні***, злучальнымі словамі ***потым, затым*** могуць выражацца спалучальныя адносіны **адначасовасці, паслядоўнасці** дзеянняў, а таксама **прычынна-выніковыя** адносіны.

У сказах са злучнікам ***і*** пералічваюцца з'явы, падзеі, якія адбываюцца адначасова ці паслядоўна. Напрыклад: *1. Штогод вясною сад бялеў ад квецені, і ў паветры густа пахла мёдам* (Б. Сачанка). *2. З другога боку прасекі лес быў высечаны колькі год назад, і цяпер уся доўгая лесапаласа зарасла непралазным гушчаром — бярэзнікам, асіннікам, арэшнікам* (Я. Брыль). У першым сказе гаворыцца пра дзеянні, якія адбываюцца адначасова, у другім — паслядоўна.

Паміж часткамі складаназлучаных сказаў са злучнікам ***і*** могуць выражацца прычынна-выніковыя адносіны: у першай частцы гаворыцца пра прычыну, у другой — пра вынік). Напрыклад: *Усталявалася надвор'е, і вывазка лесу пайшла поўным ходам* (А. Чарнышэвіч).

Злучнік ***ды*** (у значэнні ***і***) звязвае часткі, у якіх гаворыцца пра дзеянні, што адбываюцца адначасова. Напрыклад: *Верхавіны соснаў гудзелі ледзь чутна, ды шалясцелі трапяткія асіны, перашэптваючыся аб нечым сваім з пакрыўджанымі непагаддзю бярозамі* (М. Лынькоў).

Бываюць выпадкі, калі злучнік ***ды*** злучае часткі, у якіх гаворыцца пра дзеянні, што адбываюцца паслядоўна. Напрыклад: *Праедуць машыны, ды зноў будзе ціха* (І. Мележ).

У складаназлучаных сказах, часткі якіх аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучніка ***ні — ні***, ідзе пералічэнне неіснуючых або немагчымых з'яў і падзей. Напрыклад: *Ні заяц не набягаў, ні дробная птушка не пралятала паблізу* (М. Лынькоў).

У складаназлучаных сказах, часткі якіх аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальных слоў ***потым, затым***,

паведамляецца аб **паслядоўным** працяканні з'яў ці падзей. Напрыклад: *1. Дарога ішла лесам, **затым** яна агібала ўзгорак, парослы маладымі бярозкамі, і выбягала ў поле* (І. Навуменка). *2. Праз дым вылятае некалькі іскраў, **потым** яго праразаюць зыркія языкі полымя* (М. Лынькоў).

**38.** Выпішыце спачатку сказы, у якіх гаворыцца пра з'явы ці падзеі, што з'яўляюцца адначасовымі, затым сказы, у якіх гаворыцца пра падзеі, што адбываюцца паслядоўна, і нарэшце, сказы, у якіх паведамляецца пра прычыну і вынік дзеяння. Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах, вызначце, якімі часцінамі мовы выражаюцца дзейнікі і выказнікі.

1. Заслонай белай дубы акрыліся, кусты, і лінуў дождж, буйны, густы, і ўсё навокал зашумела *(Я. Колас)*. 2. Павявае з долаў цудоўным халадком, і жыта хіліць голаў пад свежым вецярком *(П. Глебка)*. 3. Прыжмурыўшы вока, Міколка ўглядаецца ў далёкую грушу, і лёгкая[ф] хмурынка прабягае па яго твары *(М. Лынькоў)*. 4. Прыемна шархацела пад нагамі хвойная[м] ігліца, ды дзесьці стукаў дзяцел *(В. Вольскі)*. 5. Града камення загароджвала шлях вадзе, і разгневаны паток дыбіўся, лез на каменні, прасочваўся паміж імі[ф] дзясяткамі ручаёў *(І. Шамякін)*. 6. На блакітным небе не відаць ніводнай хмурынкі, і ад гэтага неба здаецца неабсяжным, бяскрайнім *(У. Краўчанка)*. 7. У хаце было душна, і маці выйшла на вуліцу *(П. Галавач)*. 8. Летась, у пару высокага разліву[сл] перакуліла аж тры вольхі, і цяпер яны ляжалі галовамі ў вадзе, і пругкая плынь забаўлялася з яшчэ жывымі галінамі *(А. Кудравец)*. 9. Агонь раскладалі не адзін раз, і жар аблізаў бліжні бок ядлоўцу ад зямлі да самага верху, пamеціўшы дрэўца бурым колерам смерці *(А. Кудравец)*. 10. У той дзень мы нагрузілі многа машын, і я адчуваў сябе крыху стомлена *(М. Стральцоў)*. 11. Дуга чапляецца за галлё дрэў, і на конскую спіну цярушыцца белы іскрысты пыл[сн] *(Я. Брыль)*. 12. Ён выходзіў на ганак і дабрадушна ўглядаўся ў сына

паверх акуляраў, затым энергічным рухам рукі скідаў акуляры, усміхаючыся, сыходзіў з ганка і абдымаў сына... *(М. Ракітны).*

**39.** Дабудуйце складаназлучаныя сказы, выкарыстоўваючы спалучальныя злучнікі ***і, ды, ні — ні***. Падбярыце загаловак да атрыманага тэксту.

1. Марозны снег зіхаціць, пераліваецца на сонцы, ... 2. Кусты і дрэвы стаяць задуменныя, ... 3. Ні птушка не патрывожыць таямнічай цішыні, ... 4. Нельга адвесці вачэй ад чырвоных гронак рабіны пад белым пушыстым снегам, ... 5. Мноства слядоў пакінулі асцярожныя зайцы каля горкай крушыны*, ... 6. На невялікай палянцы ляснік наладзіў зімнюю сталоўку, ...

### Слоўнік

**Крушы́на,** -ы, *ж.* Невялікае лісцевае дрэва або куст сямейства крушынавых.

**40.** Перабудуйце простыя сказы з аднароднымі выказнікамі ў складаназлучаныя сказы. Ці з'яўляюцца ўтвораныя складаназлучаныя сказы сінанімічнымі да простых? Запішыце ўтвораныя сказы, падкрэсліце граматычныя асновы. Вусна адкажыце, якімі часцінамі мовы выражаны галоўныя члены ў частках складаназлучаных сказаў.

1. Высока ўзнялі хвоі свае пышныя кудры над маладым сасоннікам і купаюцца ў залаціста-блакітных хвалях *(Я. Колас).* 2. Санька шмыгнуў у варотцы, у двары сігануў цераз плот, па кустах парэчак, засыпаных снегам, выбег да раўчука, скаціўся кулём з гары і пусціўся куды вочы глядзяць *(І. Сяркоў).* 3. А журавель крычаў, кідаў у ветраны прастор дарэмныя гукі трывогі, махаў і махаў аслабелымі крыламі, пяўся наперад сваёй доўгай выгінастай шыяй, але дагнаць чараду не мог *(В. Быкаў).* 4. Мужчыны аралі поле, рыхтаваліся к сяўбе, аглядалі жытнюю рунь *(К. Чорны).* 5. Раніца, сапраўды, была выдатная, сонечная, але не яркая, а мяккая, ціхая, пяшчотная... *(А. Асіпенка).* 6. Снег

павісаў на галлі дрэў, кустах лазняку, клаўся на штабелі бярвення, упрыгожваў пні белымі шапкамі, усцілаў аўтатрасу, хаваючы пад сабой яе гладкае палатно *(А. Чарнышэвіч)*. 7. Вецер гнаў з сасонніку гарачы водар смалы і змешваў яго з хмельным пахам паспелай збажыны *(І. Шамякін)*.

**41.** Прачытайце складаназлучаныя сказы, вызначце сэнсавыя адносіны паміж іх часткамі. Звярніце ўвагу на злучальныя словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі граматычных частак.

1. Вузенькая сцежачка вілася паміж маладога ельніку, **затым** яна вынырáла на шырокую паляну, засеяную аўсом і грэчкай *(Я. Колас)*. 2. Праз дым вылятае некалькі іскраў, **потым** яго праразаюць зыркія языкі полымя *(М. Лынькоў)*. 3. Дождж напаіў зямлю, і вочы расплюшчыліся ў зямлі і ўбачылі неба *(А. Разанаў)*. 4. Надарылася і навальніца з бурным, імклівым дажджом, доўгім старэчым кашлем грому і белымі пісягамі маланак ва ўспененых хмарах, **потым** зусім нечакана выблісНула сонца, маладое і румянае *(Б. Сачанка)*. 5. Партызаны чулі нямецкую кананаду, **пасля** яе заглушыў стук сякер і звон піл *(М. Лынькоў)*. 6. Дзесьці пракрычала птушка, і потым усё сціхла *(Я. Маўр)*. 7. Прайшлі з паўвярсты полем, а пасля пачаўся сасновы лес *(М. Чарот)*.

Ці можна памяняць месцамі часткі складаназлучаных сказаў? Калі не, то чаму?

● Як адным словам можна назваць сасновы лес? Такім жа словам называецца хімічны элемент, які ўваходзіць у састаў многіх мінералаў, а таксама стальны свердзел, які ўжываецца ў зубалячэбнай справе. Як называюцца словы, якія аднолькава гучаць, пішуцца, але маюць розныя лексічныя значэнні? Прывядзіце прыклады такіх слоў.

**42.** Спішыце складаназлучаныя сказы, устаўляючы паміж імі спалучальныя злучнікі ***і, ды***. Падкрэсліце граматычныя асновы.

1. За акном вербалозы пад ветрамі гнуцца, ... шляхі нясканчоныя стужкамі ўюцца *(П. Панчанка)*. 2. Плыве

сонца ў блакіце, усім свеціць зіхотна, ... сыны абнімаюць матулю пяшчотна *(К. Кірэенка)*. 3. Вокны майстэрні выходзілі ў глухі і пусты двор, ... гукі былі быццам замкнутыя ў калодзежнай бездані *(Л. Філімонава)*. 4. Я меўся перадаць толькі дух пэўнага часу, ... сапраўднае прозвішча не падыходзіла аніяк *(А. Карпюк)*. 5. Князь Ізяслаў пляснуў у ладкі, ... бой пачаўся *(Л. Дайнека)*. 6. У гэты час пачулася парыпванне колаў, ... усе трое ўбачылі вазок з лубяным верхам *(Л. Дайнека)*. 7. Аднойчы летам мы з брэсцкім таварышам сядзелі ў гарадскім скверы ля фантана, ... я бавіў сябра гродзенскімі навінамі *(А. Карпюк)*. 8. Бледнае святло яго [месяца] прабіваецца праз лісце ліпы, ... цень ад яго кладзецца на зямлю *(А. Пальчэўскі)*. 9. Вада была ласкавая і мяккая, як шоўк, ... хлопчыкі з асалодай ныралі і плавалі *(Я. Бяганская)*. 10. Гукі ўдарыліся ў акно з пругкім красавіцкім ветрам, ... шыбы азваліся на іх мілагучным трымценнем *(У. Карпаў)*. 11. Рэха адгукнулася зязюлі звонка, як цымбалаў струны, ... бярозкі лёгка ўздыхнулі, ... прыціх у соснах вецер юны *(М. Шаховіч)*. 12. Дзень быў на дзіва прыгожы, неба блакітнае, ... толькі дзе-нідзе відаць невялічкія пуховыя воблачкі *(І. Гурскі)*. 13. Верасы на ўзлессі зацвілі, ... важак у вырай клін збірае *(У. Калеснік)*.

**43.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, вызначце яго стыль.

Национальный язык — вместе с общей территорией, экономикой и духовным складом — создаёт нацию. Для этой исторической общности людей «необходимо государственное сплочение территорий с населением, говорящим на одном языке, при устранении всяких препятствий развитию этого языка и закреплению его в литературе».

Национальный язык тяготеет стать единым и единственным средством общения всех людей данной нации. Хотя качества единства и единственности часто относительны, они принципиально отличают национальный язык от племенного языка, языка народности и делают его ярким признаком современной нации.

Обычно одна нация — один язык: у русских — русский, у венгров — венгерский, у датчан — датский. Но бывает и так, что нация одна, а языков, служащих национальными, больше: бельгийская нация говорит на французском и валлонском языках. Швейцарцы — единая нация, но в Швейцарии национальными признаны немецкий, французский, итальянский и ретороманский языки. И наоборот: несколько наций могут пользоваться одним языком, например в США, Англии, Австралии и других англоязычных странах оформляются национальные варианты одного языка — британский английский, американский английский и др.

*Энциклопедический словарь юного филолога*

## § 9. Складаназлучаныя сказы з супраціўнымі злучнікамі

**44.** Прачытайце тэкст, знайдзіце складаназлучаны сказ, вызначце сродкі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі і сэнсавыя адносіны.

Можа, упершыню ўсміхнулася яе дзіцятка, можа, нешта невыразнае пралепятала, а ёй пачулася доўгачаканае «мама». А можа, рэжацца першы зубок, от і круціцца ад болю, енчыць малое, а маці пакутуе падвойным болем, гатовая ўсё сцярпець, абы дзіцятку добра было. А захварэе яно, здаецца, нічога страшней і на свеце няма. Каб можна было, жыццё аддала б за дзіцятка. Не спіць начамі маці. Няхай сабе не спіць цяпер, абы спакойна спала, калі дачушцы ці сыну стукне сямнаццаць.

*С. Грахоўскі*

Паміж часткамі складаназлучанага сказа, звязанымі супраціўнымі злучнікамі ***а, але, аднак, затое, ды*** (у значэнні ***але***), ***толькі, адно, ж (жа), аж, тым не менш*** могуць выражацца **супраціўныя** сэнсавыя адносіны. Супраціўныя адносіны паміж часткамі складаназлучанага сказа ўзнікаюць тады, калі адна састаўная частка па-

водле зместу супастаўляецца з другой часткай сказа або супрацьпастаўляецца ёй. У такіх сказах могуць супастаўляцца або супрацьпастаўляцца з'явы, што адбываюцца адначасова ці паслядоўна. Напрыклад: *1. Дождж перасціх,* [*але*] *над Дзвіной яшчэ імжыла,* [*а*] *вясёлка не бякла, красавалася, упрыгожваючы неба і зямлю* (Т. Хадкевіч). *2. Гультай ляжыць,* [*а*] *ліха бяжыць* (Прыказка).

У сказах з супастаўляльнымі адносінамі дзеянні, з'явы, прыметы супастаўляюцца, паказваецца іх адрозненне, неадпаведнасць. Напрыклад: *Мязведзь танцаваў,* [*а*] *цыган спяваў жартаўлівыя песні* (З. Бядуля).

У сказах з адносінамі супрацьпастаўлення паведамляецца пра з'явы, падзеі, якія маюць супрацьлеглыя значэнні. У частках складаназлучанага сказа з супрацьпастаўляльнымі адносінамі знаходзяцца словы-антонімы або словы, блізкія да антонімаў. Напрыклад: *Хата халодная,* [*а*] *печ была цёплая* (Я. Колас).

**45.** Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары, графічна абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі паміж граматычнымі часткамі.

1. Тут верх асіны круглалісты спл..таўся з хво..мі, з дубамі, а елкі хмурымі крыжамі высока ў небе выдз..лялісь, таемна з хво..мі шапталісь *(Я. Колас).* 2. Ляжаў ціха, а ў душы нешта ўсхліпвала, уздыхала *(Ю. Мушкецік).* 3. Скрозь галіны цікуе мес..ц малады, а дзесь з суседняй баравіны крычыць сава на ўсе лады *(Я. Колас).* 4. На спектакль «Паўлінка» былі запрошаны розныя госці, але самым дарагім і ганаровым госцем быў сам аўтар *(Г. Каханоўскі).* 5. І дзед Талаш расказваў па-старэчаму, папросту, па-в..сковаму, нават з н..пазбежнымі ў час расказу моцнымі слоўцамі, а Якуб Колас з хвал..ваннем слухаў і тое-сёе запісваў *(П. Броўка).* 6. Яна [пустальга, або сакаліца] кідае ў гн..здо палёўку і л..ціць па новую здабычу, а мы тым часам прыгл..даемся да сакал..нят

*(Я. Герцовіч)*. 7. Рыба для арлана-белахвоста з'яўл..ецца асноўным кормам, аднак на поўначы гэты дужы і смелы птах палюе і на маладых цюленяў *(В. Вольскі)*. 8. Даўно празвінеў званок з урока, а апошні ўрок у дз..сятым класе не канчаецца *(А. Пальчэўскі)*. 9. Трапляліся і прысадзістыя, шырокія ў камлі яліны, але часцей пападаліся вось гэткія ядлоўцавыя кусты з крываватымі замшэлымі сваламі *(А. Савіцкі)*.

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

⊙ Прачытайце і вызначце, у якіх сказах выражаюцца супастаўляльныя, а ў якіх — супрацьпастаўляльныя адносіны паміж часткамі. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

1. Яна [вада] струменілася, ц..кла міма, а ён думаў пра сваё жыццё *(В. Хомчанка)*. 2. Удзень і ўначы шумлівая сасонка сп..вае песню над магілаю адважнага партызана, славячы яго імя, а вец..р разносіць гэтую п..сню па палях і нівах роднага краю *(І. Гурскі)*. 3. Адгрымела вайна-навальніца, а старой па начах усё не спіцца *(А. Дзеружынскі)*. 4. Смугою ліпкай, цёплым цен..м сон ліецца, толькі часам ціхай скрыпкай за..грае сонны вец..р *(М. Танк)*. 5. Стагадовы асілак трымаўся карэнн..м за жоўты абрыў, а цёмны.. і моцны.. лісты яго даставалі да самай вады *(Я. Брыль)*. 6. Замігцелі зоркі ўвысі, а ў калматым вішн..ку срэбны мес..ц прытаіўся і гл..дзіцца ў раку *(Н. Гілевіч)*. 7. Ячны хацеў падкаціць мяне да самага парога, але я пайшоў ад брамы яго п..хатой *(Я. Брыль)*. 8. У лесе яшчэ ляжаў счарнелы снег, а б..рэзнік ужо набрыняў в..снавымі сокамі *(С. Грахоўскі)*. 9. Сц..мнела даўно на двары, ды сон не хіліў галавы *(П. Броўка)*. 10. Хоча смяяцца, але ўсмешка не выходзіць *(Я. Скрыган)*. 11. Шыбы ў акенцах пазамярзалі на цэлую цалю*, ажно маразяны хлоп вісіць *(М. Гарэцкі)*.

### *Слоўнік*

**Ца́ля,** -і, *ж.* Мера даўжыні, роўная 2,54 см.

**46.** Прачытайце ўрывак з тэксту, падбярыце загаловак. Вызначце граматычныя часткі ў складаназлучаных сказах і сэнсавыя адносіны паміж імі.

Пачалася жорсткая барацьба ветру з буслам. Бусел упарта абараняў свой прытулак, а вецер пагражаў, скуголіў, раз'юшана завываў, стараючыся спаднізу падчапіць гняздо і скінуць яго разам з птушкай на зямлю. Іншы раз яму ўдавалася падняць гняздо ад мура на таўшчыню двух-трох пальцаў, але ў гэты час бусел падкурчваў ногі і клаўся жыватом на галінкі. Вецер адступаў, ляцеў са свістам далей, а бусел трывожна азіраўся навокал[сл].

*А. Пальчэўскі*

**47.** Складзіце складаназлучаныя сказы, выкарыстоўваючы прапанаваныя словы.

У з о р  в ы к а н а н н я.

*Цёплая летняя ноч толькі ахінула сваім крылом зямлю, а зоркі ўжо ўсеялі ўсё неба.*

1. ... ноч ..., а ... зоркі ... 2. ... дождж ..., а ... сонца ... 3. ... снег ..., ды ... мароз ... 4. ... радасць ..., аднак ... трывога ... 5. ... зіма ..., затое ... лета ... 6. ... вёска ..., але ... горад ... 7. ... холад ..., але ... гарачыня ... 8. ... птушкі ..., а ... яны ... 9. ... сцежка ... , але ... дарога ... 10. ... зло ..., а ... дабро... 11. ... маладосць ..., але ... старасць ...

**48.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце іх. Параўнайце злучнікі ў беларускай і рускай мовах.

1. Железо ржавеет, не находя себе применения, стоячая вода гниёт или на холоде замерзает, а ум человека, не находя себе применения, чахнет *(Леонардо да Винчи)*. 2. Время проходит, но сказанное слово остаётся *(Л. Толстой)*. 3. Глупостью является пренебрегать языком одной страны, а слова другой возносить под небеса *(С. Будный)*. 4. Ненасытное честолюбие помрачает ум человека, и он не

замечает грозящих ему опасностей *(Эзоп)*. 5. Мы любим сестру, и жену, и отца, но в муках мы мать вспоминаем *(Н. Некрасов)*. 6. Брат может не быть другом, но друг — всегда брат *(В. Франклин)* 7. Безделье ускоряет наступление старости, а труд продлевает нашу молодость *(А. Цельс)*. 8. Сила солому ломит, а ум, вооружённый наукою, искусством и вековым развитием жизни, ломит и силу *(В. Белинский)*.

**49.** Прачытайце тэкст, прыдумайце загаловак. Знайдзіце складаназлучаныя сказы і вызначце сэнсавыя адносіны паміж граматычнымі часткамі.

Беларус па псіхіцы сваёй — дабрадушны гумарыст, і ён любіць заўсёды паслухаць, паглядзець і людзям паказаць усё троху-многа прыметнае ў жыцці, а паказвае ён зноў-такі жывым прыкладам. Паслухайце, як гаворыць наш дзед ці бабуля аб якім-небудзь здарэнні. Але беларус прыхільны таксама і да вострай сатыры. Хто ведае народ беларускі, таму, пэўна, знаёмы перчык і солька беларускай мовы народнай: беларус, дзе варта, крэпкім словам, што бізуном, дасць... Кожнае што-якое беларус любіць адзначыць прыказкай. Каб прыдумаць і сказаць ладную беларускую прыказку, трэба мець мастацкую і глыбокую душу, трэба быць артыстам, які бачыць чалавека і жыццё наскрозь з аднаго погляду.

Беларусу не навіной было, устаўшы досвіткам, анічым смагу не прагнаўшы і не дбаючы на войтаў бізун, бегчы на прыгон і, спаткаўшыся з добрым чалавекам, жартаваць, можа, каб нуду прагнаць. У гэтым беларус мае нешта супольна-жалобнае з прафесіянальным мастаком-акцёрам, якому таксама трапляецца скакаць і скаліць зубы пад рогат натоўпу, хаця ў самога на сэрцы жыццёвы цяжар, а з вачэй то і глядзі пакоцяцца буйны́я слёзы.

Беларус ад прыроды ўжо такі, што любіць паглядзець на цікавую з’яву, яго цягне к ёй.

Заўважым, што і музыка ў вялікай пашане ў беларуса.

*Паводле М. Гарэцкага*

## § 10. Складаназлучаныя сказы з размеркавальнымі злучнікамі

**50.** Прачытайце тэкст. Прааналізуйце выдзеленыя складаназлучаныя сказы. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца ў іх? Якімі злучнікамі звязаны часткі гэтых сказаў?

Прырода ўмее гаварыць і ствараць і настрой, і лагоду, толькі трэба ўмець яе слухаць. Як у люстэрка, глядзіцца ў прыроду чалавек і бярэ ад яе душэўнасць, і ласку, і мудрасць. Мабыць, падглядаючы іх, пісаў Якуб Колас свае казкі жыцця, сабраўшы ў гэтых абразках глыбіню народнай душы. Здаецца, усё адны і тыя ж сосны з чырвонымі гонкімі ствaламі, то падлесак з кустамі арэшніку ці чаромхі, а глядзіш і глядзіш, як мінаецца ён, і кожны раз усё нова, і свежа, і хараша. **То мільганула палянка, то прыступіў аж да самай дарогі бор, і ствалы яго доўга прасвечваюць, перабягаюць і хаваюцца адзін за адзін. То пні, паточаныя шашалем, з карою, і па ёй поўзаюць мурашкі; то малады, радкамі пасаджаны хвойнік, з мяккім, сіваватым колерам шыпулек.** То голы, усыпаны шышкамі дол, то параснік траў, верасоў, дзеразы, такі ласкавы, што хочацца пайсці пахадзіць па ім.

*Я. Скрыган*

Паміж часткамі складаназлучанага сказа, звязанымі пры дапамозе размеркавальных злучнікаў ***то — то, не то — не то, ці, ці — ці, ці то — ці то, або*** могуць выражацца **размеркавальныя** сэнсавыя адносіны. Гэта адносіны пералічэння, чаргавання ці ўзаемавыключэння з'яў і падзей.

Злучнікі ***то — то, ці — ці*** злучаюць часткі складаназлучаных сказаў, у якіх паведамляецца пра пералічэнне ці чаргаванне з'яў, падзей, дзеянняў. Напрыклад: *1.* [*То*] *пісне нейкая птушка,* [*то*] *прарэзліва крыкне сава,* [*то*] *хрусне сухая галінка,* [*то*] *пачуецца ледзь значны шолах* (Я. Маўр). *2.* [*Ці*] *дзяцел застукае дзе*

*на сасне,* [*ці*] *шышка пакоціцца з елкі наніз,* [*ці*] *пройдзе, павольна ступаючы, ліс,* [*ці*] *заяц праскочыць па свежым сняжку* (П. Глебка).

Злучнікі ***не то — не то, ці то — ці то*** звязваюць часткі складаназлучаных сказаў, паміж якімі вызначаюцца размеркавальныя адносіны з адценнем няпэўнасці, сумнення, меркавання. Напрыклад: *1.* [*Ці то*] *ты плывеш праз вецер,* [*ці то*] *ты стаіш на месцы, а вада плыве насустрач табе, як вецер, як дыханне* (А. Кудравец). *2.* [*Не то*] *самалёт у вышыні гудзе,* [*не то*] *машына нейкая грукоча* (З. Бядуля).

Злучнікі ***ці, або*** (адзіночныя і паўторныя) ужываюцца тады, калі паміж часткамі складаназлучанага сказа ўстанаўліваюцца адносіны ўзаемавыключэння, г. зн. з'ява ці падзея, пра якую паведамляецца ў адной частцы, поўнасцю выключае з'яву ці падзею, пра якую гаворыцца ў другой частцы. Напрыклад: *1. Ніхто не ішоў адчыняць.* [*Або*] *не пачулі стуку,* [*або*] *не было дома* (Я. Колас). *2. Сям-там скрыпеў журавель,* [*або*] *тарахцела круцёлка над студняй* (А. Бялевіч). 3. [*Ці*] *гэта лес чарнее здалёк,* [*ці*] *хмара ўздымаецца з-за небасхілу* (Т. Хадкевіч).

**51.** Выразна прачытайце верш. Чаму Пімен Панчанка даў вершу такую назву? Чаму «... не пашкодзіць сёння нам падумаць аб жыцці, аб людзях, аб сабе...»? Знайдзіце складаназлучаныя сказы, паміж часткамі якіх выражаюцца размеркавальныя сэнсавыя адносіны.

### ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

З-за турбот і сходаў языкатых
Беззваротна страцілі мы ўсе
Тысячы палаючых закатаў
І світанні трацім пакрысе.

Толькі часам, выракшыся тлуму*,
Ношу год адчуўшы на гарбе,
Не пашкодзіць сёння нам падумаць
Аб жыцці, аб людзях, аб сабе...

Колькі пастак* мне ты прыхавала,
Добрае, не дробнае жыццё!
То сляпіла даль парахавая,
То глушыла «юнкерсаў»* выццё.

Вернасць адарала шчодрай мерай.
Часам здрада секла з-за пляча,
То свяціла ясным сонцам вера,
То нявер'е кідала ў адчай.

Стаў дабрэй, і даўняя наіўнасць
Варухнула крыллем над табой.
Лечыцца трава ад спёкі ліўнем,
Людзі ласкай лечацца людской.

*П. Панчанка*

### Слоўнік

**Тлум,** -у, *м.* (разм.). 1. Адурэнне, замарачэнне. 2. Шум, гоман, сумятня.

**Па́стка,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так; *ж.* Прыстасаванне для лоўлі звяроў і птушак. // *перан.* Хітры манеўр для заманьвання праціўніка ў небяспечнае становішча. Месца, адкуль нельга выйсці, якое не мае выхаду; безвыходнае становішча.

**Ю́нкерс,** -а, *м.* Нямецкі бамбардзіроўшчык.

**52.** Прачытайце складаназлучаныя сказы, вызначце сэнсавыя адносіны паміж граматычнымі часткамі. Выпішыце складаназлучаныя сказы з размеркавальнымі адносінамі паміж часткамі, падкрэсліце граматычныя асновы.

1. Вясна была яшчэ ўпачатку, але снягі ўжо раставалі, і дружна ў полі балбаталі раўкі, рачулкі, і ў грамадку яны ваду сваю злівалі, ад сну гаі, лясы будзілі і людзям душу весялілі *(Я. Колас)*. 2. Толькі праз якія гадзіны дзве свят-

ло растала, і ноч апусцілася, праглынуўшы знянацку сяло *(В. Стома)*. 3. Ці хмары збяруцца, ці вецер падуе, ці крыўда сустрэне на сцежках жыцця. Хто гэтак, як маці, цябе пашкадуе, дарослая, ты і цяпер ёй дзіця *(С. Басуматрава)*. 4. Цяпер любога звярка па шапаценні пачуць можна. Ці то мышка прабяжыць, ці то вавёрачка на зямлю апусціцца *(В. Стома)*. 5. Не відаць ужо ні ясеня, ні ліпы, затое часцей сустракаюцца беластволыя бярозы *(В. Вольскі)*. 6. То намотваецца салома на вал, то на зжатым іржэўніку мы заўважаем зярнятка-другое, то вельмі натужна раптам загудзе малатарня *(Я. Сіпакоў)*. 7. То некалькі дзён запар, не перастаючы, ідуць дажджы, то падзьме халодны вятрыска, а то і невялікі марозік пакрые ўвільготненую зямлю тонкай скарыначкай *(В. Стома)*. 8. То сон утомаю люляе, акрыўшы ветліва крылом, то праца рупная турбуе *(П. Глебка)*. 9. Пасля хутчэй пабегла, без аглядкі, малое прыціскаючы рукой, і восень над бядою біла ў ладкі, і вецер падганяў з усіх бакоў *(Р. Тармола)*.

**53.** Спішыце. Вызначце, у якіх сказах паведамляецца аб дзеяннях і з'явах, што чаргуюцца, пералічваюцца, а ў якіх — аб дзеяннях і з'явах, што ўзаемавыключаюцца.

1. І на рэчцы яму не вельмі шанцавала. То вада вялікая, то вецер паўночны, то насадка не тая *(Г. Хадкевіч)*. 2. Ці ў яго выдаўся які выхадны дзень, ці проста так не пайшоў на работу, але ён быў дома *(З. Прыгодзіч)*. 3. То ён згледзіць на дарозе цікавага жучка, то з травы ўздымецца птушка, то праляціць прыгожы матылёк *(Я. Колас)*. 4. То прасвятлее неба трошкі, то хмара зноў заслоніць свет *(А. Чарнавус)*. 5. Ці то птушкі спяваюць[ф] у гаі, ці то вецер свішча сваю песню *(У. Дубоўка)*. 6. То ціўкне птушачка азяблая, то зашархоча з даху снег, то дрогка страпянецца яблыня[м], то пырхнуць вераб'і са стрэх *(А. Грачанікаў)*. 7. То не вербы шумяць каля грэблі, то не дожджык глянцуе кару *(Р. Баравікова)*. 8. То лепіць снег, то дробны дождж імжыць *(С. Грахоўскі)*. 9. То цёпла, то

холадна. То свеціць сонца, то пахмурна. То ціха, то рэзкі вецер *(В. Вольскі)*.

Пабудуйце схемы 5-га і 6-га сказаў.

● Знайдзіце ў сказе пад нумарам 9 словы, якія б адпавядалі наступным схемам:



**54.** Прачытайце сказы. Выпішыце спачатку простыя сказы, у якіх размеркавальныя злучнікі звязваюць аднародныя члены, а затым — складаназлучаныя сказы, у якіх размеркавальныя злучнікі звязваюць граматычныя часткі.

1. Зямлі той кавалак заўсёды прысніцца то кужалем белым, то спелай суніцай, то поясам слуцкім, то несвіжскім замкам, ці то маладой на ўпрыгожаных санках *(П. Панчанка)*. 2. Перад вачыма то рассціпаліся балоты з густымі зараслямі лазы і маладой асакі, то ледзь віднеліся зубчатыя цёмныя палоскі лясоў па краях гэтых балот[сн] *(Я. Колас)*. 3. Шпакі то збіваліся ў густыя чорныя кучы, то рассыпаліся ў паветры празрыстымі сеткамі *(Я. Колас)*. 4. А што толькі не вырабляе над бездапаможным снегам неспакойны вецер[м]?! Ці велізарныя дзівосныя сумёты з яго надзьме, ці ў мудрагелістыя, падобныя на дзіўных звяроў фігуры пераўтворыць, ці пусціць па полі густой калючай замеццю *(В. Стома)*. 5. Яго ўвагу прыцягваў то каранасты дуб пры дарозе, то акаймаваная бярозкамі палянка, то зязюлька са сваім «ку-ку» *(П. Пестрак)*. 6. То цямнее неба, хмарна, то пагода на двары *(Н. Гілевіч)*. 7. То возера ў багне ляжыць, то рэчка, як стужка[ф], удалеч бяжыць *(А. Астрэйка)*. 8. Нарач то спявае, то пляскоча, то глыбока дрэмле ў цішыні *(А. Грачанікаў)*. 9. То воблачная града шлейфам-шалікам працягнецца ад небасхілу да небасхілу, то коўдрай зацягне ў адным баку, то серабрыстымі фіранкамі пёрыстыя хмаркі доўга вісяць на вялікай вышыні *(І. Грамовіч)*. 10. То не вербы шумяць, то сініца рассыпае свой свіст на сучку́ *(Р. Баравікова)*.

**55.** Прачытайце сказы, вызначце граматычныя асновы. Знайдзіце фразеалагізмы і, карыстаючыся фразеалагічным слоўнікам, растлумачце іх значэнні.

1. Вучыцеся мне на «выдатна», а то ў міг пакажу як барсук дзяцей гладзіць! *(В. Макарэвіч).* 2. А то, бывае, ляпнеш што-небудзь, а яно ні к сялу ні к гораду *(П. Рунец).* 3. Камбінезон на ёй сядзеў як уліты, і ўся яна была зграбная, лёгкая і ладная *(С. Грахоўскі).* 4. Вось гара. Прыціхлі коні, колы рэжуцца ў пясок, а з гары як на далоні разам выплыў гарадок... *(Я. Колас).* 5 А потым і грыб папаўся. Заглянула ў беразнячок, а іх там хоць касой касі *(Л. Гаўрылкін).* 6. Некалі прэзідэнт атамнай фірмы марыў паслаць сваю экспедыцыю на Месяц, адкрыць там першыя ўранавыя руднікі, але Уолтэр пераблытаў яго карты *(М. Гамолка).* 7. Стары быў, відавочна, патрыёт горада, і яму балела сэрца за лёс старасвецкіх забудоў *(М. Лужанін).* 8. І толькі больш жалю задаеш, ажно толькі сэрца на кускі разрываецца *(Я. Купала).*

**56.** Выразна прачытайце тэксты, вызначце іх стыль, падбярыце загалоўкі. Выпішыце складаназлучаныя сказы.

**I.** Работы напаўзалі адна на другую, і не было сілы паспець з усімі, хоць ты дзень надтачы ці ноч падоўжы. І да вайны Ігнат Сцяпанавіч рабіў самапрадкі*, а вайна яшчэ болей перамяшала ход жыцця, прымусіла людзей навучыцца абшываць і адзяваць сябе, і без самапрадак тут было зусім немагчыма. Заказаў было шмат, і Ігнат Сцяпанавіч пілаваў, габляваў, тачыў да позняй ночы. Уставаў досвіткам і ўпрагаўся ў работу далей, урастаючы нагамі ў стружкі. Вочы баяцца, а рукі робяць, і скора яго самапрадкі пралі ніткі ў кожнай ліпніцкай хаце, і не толькі ў ліпніцкай...

*А. Кудравец*

**II.** У Ліпаўцы са́ма цвілі сады.

Неяк адразу ўкрыліся белымі хусткамі чаромха, вішня, яблыня, і праз дзень-два паказала сметанковага колеру гронкі рабіна. А сліва ажно пенілася ад цвету. Налятаў

лёгкі ветрык, і з прысад на вуліцу матылямі ляцелі пялёсткі.

Рассыпаліся ўздоўж Уюнкі, невялікай рачулкі, адуванчыкі. Падымалася над хатамі сонца, і кветкі запальвалі свае ліхтарыкі — свяцілі з травы амаль да вечара.

Стараліся бярэзіны, таполі, клёны. Укрытыя маладым лісцем дрэвы неяк па-святочнаму аздаблялі дворышчы, вуліцы — усё паселішча. Яно было як у аксамітным вянку. У гэтым вянку вызначаліся святлейшыя мясціны. Гэта — ліпа. Яна толькі нядаўна выкінула на свет мяккае лісце і цяпер бралася выпускаць прадаўгаватыя, з тугімі пражылкамі «крыльцы», пры якіх ледзь відны былі кулачкі-бутончыкі будучых кветак.

*Паводле Я. Пархуты*

***Слоўнік***

**Самапра́дка**, -і, *ДМ* -дцы; *ж*. Тое, што і калаўрот. Прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі.

## § 11. Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаназлучаных сказах

**57.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце складаназлучаныя сказы і звярніце ўвагу на знакі прыпынку ў іх. Зрабіце вусны падрабязны пераказ тэксту.

### СПАТКАННЕ З МЯДЗВЕДЗЕМ

Дождж перастаў, і праглянула сонца. Паветра было чыстае і свежае. Жоўты пясок ярка вылучаўся сярод зялёнага фону травы і хмызняку. На бераг канала выйшаў з лесу мядзведзь. Ён ішоў, падаючы на ўсю ступню і пераступаючы па чарзе то абедзве левыя, то абедзве правыя нагі разам. Цела яго пераваньвалася з аднаго боку на другі. Схіліўшы галаву ўніз, нібы разглядаючы нешта на зямлі сваімі маленькімі вочкамі, мядзведзь павольна спусціўся па пясчаным схіле ўніз да вады. Там ён пастаяў крыху, потым увайшоў у ваду па бруха, зрабіў некалькі глыткоў і паплыў да супрацьлеглага берага. Плыў ён

даволі шпарка, хоць і не рабіў у вадзе ніякіх рэзкіх рухаў. На паверхні была толькі яго вялікая галава з круглымі вушамі, а верхняя частка спіны то з'яўлялася над вадою, то знікала. Выбраўшыся з вады, мядзведзь адразу накіраваўся ў лес і знік у кустах.

Гэты мядзведзь даўся нам у знакі. Пачаў ён з пасекі на падсобнай гаспадарцы вуллі красці. Ды гэтак спрытна — падбярэцца, як злодзей, уначы, і няма вулея. Тады стары пчаляр прымацаваў вулей да хаты калючым дротам, аж і гэта не дапамагло. Ноччу мядзведзь падабраўся пад самую хату, адарваў дрот і занёс вулей у лес. Там ён яго разламаў і з'еў увесь мёд. А летась ён у мяне сабаку ледзь не задраў. Пёсік у мяне быў хоць і малы, але смелы. Мядзведзь падышоў ноччу пад агарод, а сабака на яго ззаду накінуўся. Пасля гэтай сустрэчы хварэў пёс тыдні з тры.

... Пра гэта расказаў нам егер Аляшкевіч каля мядзведжай пераправы.

*Паводле В. Вольскага*

Паміж часткамі складаназлучанага сказа м о г у ц ь с т а в і ц ц а коска, кропка з коскай, працяжнік.

Найчасцей паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца **коска**. Напрыклад: *1. У траве гудуць чмялі і восы, [і] злучае ў далях позірк мой ільняныя чыстыя нябёсы з мройна-залацістаю зямлёй* (А. Грачанікаў). *2. У ціне лянівыя ходзяць ліні, [а] ў тонях пярэстыя спяць акуні* (П. Глебка).

**Кропка з коскай** ставіцца паміж часткамі складаназлучанага сказа тады, калі часткі сэнсава самастойныя і калі адна з частак або ўсе часткі развітыя і маюць свае знакі прыпынку. Напрыклад: *Зашумела нудна восень шумам лісцяў, шумам сосен, даўшы волю хмурам; [ажно] з гоняў Беларусі ў вырай вылецелі гусі, паплылі ўдаль шнурам* (Я. Купала).

**Працяжнік** ставіцца тады, калі ў другой частцы складаназлучанага сказа гаворыцца пра вынік або нечаканае дзеянне і паміж гэтымі часткамі існуе працяглая паўза. Напрыклад: *1. Падасць сігнал свой — і ў агонь паляціць сушняк* (Я. Курто). *2. Яна ўсміхнецца, сядзе за апарат, надзене навушнікі, засяродзіцца — і вось ужо радыёграма прынята* (У. Савіцкі).

Н е  с т а в я ц ц а  знакі прыпынку паміж часткамі складаназлучанага сказа са спалучальнымі адносінамі ў наступных выпадках:

а) калі ў сказе ёсць **агульны член**, які аднолькава адносіцца да кожнай з частак, ці **пабочнае слова**, ці **агульная часціца**. Напрыклад: *1.* ***Над вымытымі вадой палямі*** *засінела чыстае неба і зазіхацела яркае жнівеньскае сонца* (І. Мележ). *2.* ***Здаецца****, вылецелі з хаты вокны і дым завалок увесь лес* (Б. Сачанка). *3.* ***Яшчэ*** *ляжаў снег і дні былі пахмурныя* (Т. Хадкевіч). *4.* ***Толькі*** *росы буйныя павіслі на лісцях дрэў і часам упадзе на зямлю расінка...* (П. Пестрак);

б) калі часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца назыўнымі сказамі. Напрыклад: *1. Маўклівая цішыня і падаючыя зоркі* (Р. Няхай). *2. Зіма і нясцерпны холад* (М. Лынькоў);

в) калі часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца безасабовымі або няпэўна-асабовымі сказамі: *1. Ціха вакол і прыгожа* (В. Вольскі). *2. Вакол стала глуха і было цёмна* (В. Быкаў). *3. Няма кніжак і няма часу чытаць іх* (М. Гарэцкі);

г) калі часткі складаназлучанага сказа маюць пытальную або клічную інтанацыю: *1. Як многа гэтых дарог і як разнастайны яны ў сваім руху і ў сіле свайго імкнення!* (Я. Колас). *2. Ад чаго ж гэта пабялелі столь, ляжанка і печ і сцены адсвечваюць белізной?* (М. Лынькоў);

д) калі выказнік або яго звязка ў другой частцы апушчаны, паколькі яны ёсць у першай частцы: *1. Тут жа, у панскім доме,* ***знайшоўся*** *пакойчык* [*і*] *куханька для яе* (Я. Колас). *2. Сонца* ***будзе*** *свяціць* [*і*] *трава зеляніца* (В. Каваль).

**58.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку або іх адсутнасць паміж часткамі складаназлучаных сказаў.

1. Мужчыны ў белых і доўгіх кашулях абворвалі бульбу, касілі густыя, рослыя травы, а жанчыны палолі і акопвалі агароды, увішна* махалі граблямі, заграбалі зялёнае і духмянае сена *(Б. Сачанка).* 2. Вада амаль сышла, але потым зноў пачаліся дажджы і снег *(Я. Майр).* 3. Маланка неба рысавала ў прадвячэрні летні час, і без патрэбы дождж навалай паліўся ліўнямі на нас *(М. Машара).* 4. З-за хмарак выпаўз ціха месяц, збірае зоркі ў карагод, і заблішчэлі, як брыльянты, на дрэвах іней, снег і лёд *(С. Новік-Пяюн).* 5. У той дзень з раніцы насунуліся хмары і пачаў церусіць дождж-грыбасей *(Я. Пархута).* 6. У нядзелю, на досвітку, прыпаўзлі з захаду нізкія хмары і пачаўся страшэнны лівень *(Я. Пархута).* 7. На вёску ноччу хмары наплылі — і загуло, загаварыла неба... *(У. Васько).* 8. Бывала, зімою чародка рабчыкаў упадзе на начлег у мяккі снег, дык тут жа спалоханыя птушкі з трэскам узаўюцца ў паветра *(В. Стома).* 9. Ноч абламала аб цемру крыло — і нечаканае сонца ўсплыло *(М. Шаўчонак).* 10. Дзесьці на дзясяты дзень у зайчаняці прарэзаліся востранькія зубкі і яно само пачало прагна грызці невялічкія маладыя травінкі, салодкія карэньчыкі і мяккую кару маладых дрэўцаў *(В. Стома).* 11. Яна [маланка] ўсюды паспявае, усё спасцігае, і людзі ёй моляцца, як святой, і называюць чалавечым імем Малання *(А. Разанаў).* 12. З-за акна чуваць чырыканне вераб'ёў, а за дзвярыма ў кухні клохкае, прачнуўшыся, квахтуха і ціўкаюць кураняты *(Я. Брыль).* 13. У скверах шамаціць пад нагамі лісце, а пах зямлі, рас-

капанай экскаватарам, будзіць у памяці другую восень і другія дні *(М. Стральцоў)*.

### Слоўнік

**Увíшна.** *Прыслоўе* да ўвíшны.

**Увíшны,** -ая, -ае. Жвавы, спрытны ў рухах, у дзеянні.

## ГЭТА ВАРТА ВЕДАЦЬ

Кітабы — кнігі, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Ствараліся з XVI ст. татарамі, што пасяліліся на Беларусі і ў Літве ў XIV—XV стст. і паступова забылі сваю родную мову. Для захавання рэлігіі яны вымушаны былі перакласці Каран і іншыя кнігі ісламу на беларускую мову, пакінуўшы пры гэтым арабскі алфавіт. Змест кітабаў — усходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповесці, апісанні мусульманскіх рытуалаў, маральна-этычныя павучанні для моладзі (пра шанаванне бацькоў, гасцей, бедных, сірот, суседзяў і інш.), варажба па літарах Карана, разгадка сноў.

Кітабы напісаны і чытаюцца справа налева, тэкст пачынаецца там, дзе ў славянскіх кнігах заканчваецца. Колькасць старонак у такіх кнігах неаднолькавая — ад 70 да 1000. Радок суцэльны, няма падзелу на словы, няма вялікай літары і знакаў прыпынку. Перанос слоў падпарадкоўваецца аднаму правілу: кожны наступны радок павінен быць роўны з папярэднім.

Мова кітабаў адрозніваецца ад мовы старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў, яна блізкая да беларускай народнай мовы.

*Паводле В. Несцяровіча*

**59.** Спішыце сказы, расстаўце знакі прыпынку і абгрунтуйце іх пастаноўку.

1. Удзень прыпарвала а ўночы ішоў дождж — спорны з перунамі і маланкамі *(Я. Пархута)*. 2. Уса з прытокамі бяжыць у Нёман а Пціч у Дняпро кіруе *(Я. Пархута)*. 3. Над горадам сігнальны пошчак* і сцягі вогненна гарацъ... *(П. Глебка)*. 4. Па-над зямлёю хмара праплыла і ты адвечны атрымаў адказ на ўсе свае адвечныя пытанні *(Ю. Кісялеўскі)*. 5. А на зямлі гняздоўе птушачцы[ф]

віць і жытнішчу гушкаць сваё калоссе *(М. Мятліцкі)*. 6. А дождж струменіў і шумеў ракой наводзіў на зямлі свае парадкі і асвятляла праз акно пакой маланка як агонь электразваркі *(У. Васько)*. 7. Здавалася яшчэ адна хвіліна адзін момант і пырснуць гэтыя почкі маладым зялёным лісцем *(І. Шамякін)*. 8. У кустах алешніку на другім беразе Нёмана гарэла вогнішча і чутны былі галасы начлежнікаў *(С. Александровіч)*. 9. Прашумеў вецярок па кустах лазняка і іскрыцца-гарыць залатая рака *(Я. Журба)*. 10. Святло ад зор разлілося ад зямлі і нахапіўся дзень *(У. Дрозд)*. 11. У пакоі адчуўся струмень вільгаці з рэчкі і востра запахла кветкамі з агародчыка *(З. Бядуля)*. 12. У лянівага страха цячэ і печ не пячэ *(Прыказка)*.

### *Слоўнік*

**По́шчак,** -у, *м.* Пералівісты дрыжачы гук; трэль.

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

⦿ Спішыце сказы, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку і падкрэсліце граматычныя асновы.

1. Трывожнаю барвай палае зямны небасхіл і вёска пакінутым пеўнем на золку пяе *(М. Мятліцкі)*. 2. Яе прыгадаю[сл] і сэрца з адышкай нямець у грудзях пачынае. *(М. Мятліцкі)*. 3. На некаторых дрэвах лісце пажоўкла а на іншых стала ружовым і нават ярка-чырвоным *(В. Стома)*. 4. Падзьмуць вятры і снежныя каметы праносяцца над белаю зямлёй *(П. Панчанка)*. 5. Больш за пяцьсот[м] порцый ежы дастаўляе да гнязда мухалоўка* а ў кожнай порцыі дзясяткі насякомых *(В. Стома)*. 6. Толькі зрэдку даносіцца разарваны пошчак жаваранка прасвішча сініца ды раздасца флейтавы покліч івалгі *(В. Стома)*. 7. У вёсцы было ціха паўзмрочна і адсюль веяла дрымотным спакоем[сн] *(М. Гамолка)*. 8. Стагадовы асілак трымаўся карэннем за жоўты абрыў а цёмныя і моцныя лісты яго даставалі да самай вады *(Я. Брыль)*. 9. У жоўтым бярозавым лісці чырванеюць рабіны і спеюць каліны *(І. Пташнікаў)*.

10. Зазвіняць жалобна крыгі і бурлівая вада снег[ф] размоклы ў час адлігі змые без сляда *(М. Багдановіч).*

*Слоўнік*

**Мухало́ўка,** -і, *ДМ* -лоўцы; *Р мн.* -ловак; ж. Невялікая птушка сямейства вераб'іных, якая корміцца насякомымі і павукамі.

## § 12. Сінтаксічны разбор складаназлучанага сказа

### Парадак разбору

1. Падкрэсліць граматычныя асновы, вызначыць граматычныя часткі складанага сказа і абазначыць іх лічбамі.
2. Вызначыць злучнікі (спалучальныя, супраціўныя, размеркавальныя), пры дапамозе якіх звязаны часткі складаназлучанага сказа.
3. Вызначыць сэнсавыя адносіны (адначасовасці, паслядоўнасці, супастаўлення, супрацьпастаўлення, чаргавання ці ўзаемавыключэння), якія выражаюцца паміж часткамі складаназлучанага сказа.
4. Пабудаваць схему сказа.
5. Растлумачыць знакі прыпынку.
6. Разабраць як просты сказ кожную граматычную частку.

### Узор пісьмовага разбору

[1)]*Каля зямлянкі аб доме тужаць землякі,* [a] [2)]*маладыя партызанкі пякуць і сушаць праснакі* (П. Глебка).

[ ], [a] [ ].

### Узор вуснага разбору

1. Складаназлучаны сказ; складаецца з дзвюх граматычных частак: першая частка — *каля зямлянкі аб доме тужаць землякі;* другая частка — *маладыя партызанкі пякуць і сушаць праснакі.*
2. Граматычныя часткі звязваюцца супраціўным злучнікам ***а***.

3. Паміж часткамі выражаюцца супастаўляльныя сэнсавыя адносіны: дзеянні, пра якія паведамляецца ў сказе, адрозніваюцца паміж сабою: *землякі тужаць аб доме, а партызанкі пякуць і сушаць праснакі.*

4. Перад супраціўным злучнікам ***а*** ставіцца коска.

5. *Каля зямлянкі аб доме тужаць землякі* — просты сказ, двухсастаўны, развіты, поўны. (Х т о?) *землякі* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.; *землякі* (ш т о  р о б я ц ь?) *тужаць* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу, цяпер. ч., мн. л., 3 ас.; *тужаць* (а б  ч ы м?) *аб доме* — дапаўненне, выражана назоўнікам з прыназоўнікам ***аб*** у форме М. скл., адз. л.; *тужаць* (д з е?) *каля зямлянкі* — акалічнасць месца, выражана назоўнікам з прыназоўнікам ***каля*** ў форме Р. скл., адз. л.

(Такім жа спосабам робіцца сінтаксічны разбор другой граматычнай часткі гэтага сказа.)

**60.** Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. І на душы нейк вес..лела, і с..рца радасці хацела, а думкі ціхія і мары на душу клалі свае чары[сн] *(Я. Колас)*. 2. Над вымытымі вадой пал..мі засінела чыста.. неба і зазіхацела ярка.. жнів..н..ска.. сонца *(І. Мележ)*. 3. Ён увайшоў у асіннік, і над галавою адразу шырока паплыў шоргат — усхліп дрыготкага асінавага лісця *(Л. Дайнека)*. 4. Была ўжо глыбокая вос..нь, але снег па нейкіх прычынах пазніўся[сн] *(Р. Ігнаценка)*. 5. Яе [траву] і снег прыкідаў, і мароз прымарозіў, а яна ўсё яшчэ хмеліць *(В. Карамазаў)*. 6. Весела застукала цяслярская сякера па звонкіх бярвеннях, а лясок кожны стук яе падхватвае і на свой лад перадражнівае *(Я. Колас)*. 7. Было багата ц..пла, і ў час паілі з..млю спорны.. дажджы *(І. Мележ)*. 8. Зранку неба было і чыста.., і ясна.., і яснасць стаяла доўга ўдзень, але за полудн..м проста ўвачавідкі пачыналі пухнуць белы.., потым сін..ваты.. хмары *(І. Мележ)*. 9. Кожнае дрэў-

ца, кожны кусцік пасаджаны і вып..ставаны ім, а схіл каля воз..ра абсаджаны елачкамі і тапол..мі *(С. Грахоўскі).* 10. Пры доме расло некалькі рабінак, і ягады зырка ч..рванелі ў апошніх промн..х сонца *(Ю. Мушкецік).* 11. Дз..мухне вец..р — і лісце клёнаў далон..мі цёмнымі стукн.. ў мес..ц, і мес..ц звоніць празрыстым звонам, аж ходзіць рэха па цёмным лесе[сн] *(П. Панчанка).* 12. Але шум..ць і гамоняць несупынныя хвалі жыц..я, і ўсё тыя ж шырокі.., яшчэ болей прывабны.. дал..чы разгортваюцца перад вачамі *(Я. Колас).* 13. Па в..рхавінах хвойніку праплыве н..вялічкі ветрык, і да вашага слыху дал..ціць лёг..нькае, мілагучна.. дзінькання *(А. Кулакоўскі).*

**61.** Спішыце сказы, расстаўце знакі прыпынку.

1. А ў полі тры тапполі зашумелі як ніколі а пасля ў адзін міг салаўіны гай прыціх[сн] *(А. Дудар).* 2. Не для мяне яшчэ ніколі вясна такою не была і так не пахнулі таполі і так чаромха не цвіла *(Н. Гілевіч).* 3. Недзе там была і засталася сіняя трывожная вясна і ў далёкім пачатковым класе была дзяўчынка ля акна *(С. Гаўрусёў).* 4. Ён пазіраў у той бок аж пакуль яна не вярнулася на дарожку *(А. Кудравец).* 5. Мужная гібель партызан паскорыла прыход светлага дня і кожны з жывых у глыбокай пашане схіляў галаву перад імі *(Т. Хадкевіч).* 6. Вые ноч а вецер белагрывы б’ецца[ф] ў шыбы лапай снегавой[сн] *(А. Александровіч).* 7. За акном ціхі снег і блукаюць нямыя вятры *(С. Ліхадзіеўскі).* 8. Па вершалінах дрэў часам прабягаў пагрозлівы вецер а тут унізе стаяла напятая цішыня *(Г. Шчарбатаў).* 9. З-за ўзгорка ўзнімалася трапечучы[м] светла-жоўтае зарыва і ўзгорак на гэтым фоне вырысоўваўся як намаляваны *(Т. Хадкевіч).* 10. Ужо зусім сцямнела[сл] і месяц выплыўшы недзе з-за лесу свяціў зямлі сваім халодным белым святлом[сн]... *(А. Васілевіч).* 11. Край жыта загібаўся дугою і за паваротам Лявон убачыў хлопчыка і дзяўчынку з граблямі *(М. Гарэцкі).* 12. Мне хацелася ляцець на крылах а я ішоў ціха... *(М. Шушкевіч).*

⊙ **62.** Дадайце 3—4 складаназлучаныя сказы, каб атрымаўся звязны тэкст «Зімовая раніца». Запішыце атрыманы тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку.

Мароз заткаў шыбы вокнаў узорамі а галіны ліп спорна прыпудрыў інеем. Дрэвы стаялі задумлівыя і велічныя ў гэтай зімняй цішыні і толькі некалькі сініц перапырхвалі ў іх верхавінах. Яны ацярушвалі на зямлю шэрань і ў паветры доўга мітусіліся сняжынкі. Прыгожая раніца але мароз бязлітасны.

*М. Даніленка*

**63.** Прачытайце ўрывак з аўтабіяграфічнай аповесці Я. Маўра «Шлях з цемры». Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Раскажыце пра сваю маці, выкарыстоўваючы складаназлучаныя сказы.

МАЦІ

Мая мама, вядома, была самая лепшая, самая прыгожая і самая разумная з усіх жанчын.

Яна была невысокага росту, досыць шчуплая, з прадаўгаватым тварам і карымі вачыма. Самай галоўнай адзнакай яе былі кучаравыя валасы. Такія валасы былі яшчэ толькі ў дзядзькі Кірылы ды ў мяне.

За ўсё сваё жыццё з ёю я ні разу не чуў і не бачыў, каб яна гучна засмяялася. У самыя вясёлыя хвіліны яна толькі ўсміхалася, а мне хацелася пачуць яе смех. Мяне навучыла такім рэчам, якія ў нас нікому і ў галаву не прыходзілі. Перш за ўсё, не лаяцца непрыстойнымі словамі...

Апрача таго, яна давала мне такія парады, якіх, здаецца, ніхто ў нашай вёсцы і не чуў. Напрыклад, не паказваць пальцам на каго-небудзь, не разяўляць рота, шкадаваць жывёлу. Дзякуючы такім парадам, у мяне выпрацавалася інстынктыўнае адчуванне няёмкасці ў многіх выпадках. Я, напрыклад, не мог праціснуцца наперад да якога-небудзь старэйшага чалавека, стаць перад самым яго носам і разглядаць, як гэта рабілі ўсе мае таварышы. Ніколі я не пасмяяўся з калекі, што ён кульгае, або мае горб, або не мае вока. А дзеці вакол мяне ніякай няёмкасці не адчувалі...

Гэта зрабіла мая непісьменная маці.

*Я. Маўр*

**64.** Прачытайце партрэтныя характарыстыкі літаратурных герояў і складзіце пісьмовую характарыстыку або літаратурнага героя, або блізкага вам чалавека, выкарыстоўваючы складаназлучаныя сказы.

**I.** ...Казалі, што дачка ва ўсім выйшла ў матку. З аблічча — дык як вылітая: і невялікая ростам, і не гладкая — худая, можна сказаць, і плечы, як у маткі, вузкія, і рукі тонкія. І косы чорныя, густыя, аж блішчаць, нібы намочаныя, і смуглявасць на твары такая ж, і шчокі таксама ж выпінаюцца... Але пры ўсім тым... Ганну ніяк нельга было палічыць за кволую: збоку, з аднаго позірку відаць было — крамяная ў Цімоха дзяўчына, дужая, сілаю ўся налілася! Вунь якая пругкая ў хадзе, спрытная якая ў рухах, так і відаць — маладосць, сіла ў кожнай жылцы!

*І. Мележ*

**II.** Гэлька была прыгожая дзяўчынка. Прыгожая той прыгажосцю, якая адразу кідалася ў вочы і не магла пакінуць нікога раўнадушным. Невысокая ростам, мініяцюрная, нібы вытачаная, смуглатварая, з чорнымі кучаравымі над ілбом завіткамі валасоў і дзёрзкімі блакітнымі вачыма — быстрымі і ўсмешлівымі. І ўся яна сама была быстрая і жывая, як ртуць. Усе і заўсёды ў Ліпніцы звалі яе ласкава — Гэлька.

*А. Кудравец*

**III.** Стары чалавек заўсёды хадзіў адзеты ў паношанае цёмнае паліто, на яго быццам караткаватае, з цёплым каўняром. У яго была зусім сівая, маленькая, нізка падстрыжаная бародка, і такія ж сівыя выбіваліся з-пад суконнай шапкі валасы каля вушэй. Лоб яго быў высокі, нос арліны, і вочы, нягледзячы на старасць, ясныя.

Відаць было, што ён ад старасці не вельмі ўжо моцны, але ў паходцы яго і ў выразе твару было нешта цвёрдае. Здавалася, чалавек гэты нечым ганарыцца. Не тое, што ён быў горды перад людзьмі. Не. Наадварот. З выгляду ён быў ветлівы да ўсіх.

*К. Чорны*

**IV.** Маці, паглядаючы на сына, любавалася яго стройнай высокай фігурай, сур'ёзным валявым поглядам вачэй.

Юрка не быў прыгажун з твару, але нейкая асаблівая прывабнасць і сталасць адчувалася ў яго абліччы: высокі бацькаў лоб, русявыя валасы, шэрыя ўдумлівыя вочы. Правільны нос, крыху таўсматыя яшчэ юнацкія губы. Праўда, Марыя Дзмітраўна, пазіраючы на сына, часам у такую хвіліну ўсё ж думала: «Хлапчанё яшчэ, зялёнае хлапчанё!» Іншы раз яна бачыла, як Юрка ўмела завязваў гальштук, апранаў новы сіненькі касцюм, прычэсваў набок валасы.

Тады, тым памятным летам, Марыі Дзмітраўне стала зразумела адно: сын Юрка вырас, ён ужо дарослы чалавек. Што ні кажы і не думай, а гэта рэальны факт.

*С. Александровіч*

**V.** Тут дарэчы будзе прывесці словы брата пісьменніка Гаўрылы Іванавіча [Гарэцкага], які піша: «На фарміраванне асобы Максіма вялікі ўплыў мела спадчыннасць ад бацькі і маці. Знешне Максім быў больш падобны да бацькі. Чарнявы, ладнай постаці, сярэдняга росту, з бліскучымі карымі вачыма, з прыгожым высокім ілбом, тонкімі вуснамі, цвёрдым падбародкам, акуратнымі стройнымі зубамі...

Ад маці перадаўся Максіму крышачку курносы нос, некалькі павялічаныя скулы, нізкага тэмбру пявучы голас, вялікія вочы.

Па характары Максім пайшоў у бацьку: надзвычай жывы, рухавы, палкі, уражлівы, непасрэдны, актыўны, успрымальны. Але і ад маці многае перайшло ў характар брата. Выключная дабрата, цярплівасць, стрыманасць, разважнасць, невычэрпны аптымізм, летуценнасць, самаахвярнасць...»

**65.** Напішыце водгук на прачытаны твор, выкарыстоўваючы складаназлучаныя сказы. Уключыце ў водгук характарыстыку літаратурнага персанажа. Выкарыстайце, калі патрэбна, прыведзеныя ніжэй словы.

Словы для даведкі: *сумленны, справядлівы, высакародны, прынцыповы, прыстойны, шчыры, добры, лас-*

*кавы, чулы, уважлівы, ветлівы, слаўны, спакойны, актыўны, працалюбівы, ілжывы, хітры, каварны, легкадумны, энергічны, лянівы, бяздзейны, марудны, абыякавы, разумны, кемлівы, таленавіты, мудры, бесталковы, недарэчны, запальчывы, гнеўны.*

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Якія сказы называюцца складаназлучанымі?
2. На якія тры групы падзяляюцца складаназлучаныя сказы ў залежнасці ад сэнсавых адносін паміж часткамі?
3. Пры дапамозе якіх злучнікаў звязваюцца часткі складаназлучанага сказа са спалучальнымі сэнсавымі адносінамі паміж імі?
4. Якія злучнікі выкарыстоўваюцца ў складаназлучаных сказах з супраціўнымі сэнсавымі адносінамі паміж часткамі?
5. Якія злучнікі выкарыстоўваюцца ў складаназлучаных сказах з размеркавальнымі сэнсавымі адносінамі паміж часткамі?
6. Якія знакі прыпынку могуць ставіцца ў складаназлучаных сказах?
7. Калі ставіцца коска, кропка з коскай у складаназлучаных сказах? Прывядзіце прыклады.
8. Калі ставіцца працяжнік у складаназлучаных сказах? Прывядзіце прыклады.

# СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 13. Паняцце пра складаназалежны сказ

**66.** Прачытайце тэкст з неабходнай інтанацыяй. Звяртайце ўвагу, што ў канцы сказа тон паніжаецца. Выпішыце складаназалежныя сказы. Назавіце галоўную і дададзеную часткі.

Прайшло ўжо сорак дзевяць гадоў з той пары, калі маё дзіцячае сэрца кранула гэтае ласкавае слова — дачушка. Слова гэта засталося ў памяці назаўсёды. І да гэтага часу сваю дачку я клічу часцей ім, чым па імені.

Сорак дзевяць гадоў таму назад я была выхаванкай дзіцячага дома, шэфамі якога былі беларускія пісьменнікі. Янка Купала вельмі любіў дзяцей, ён ніколі не прапускаў нашых ранішнікаў і вечароў. Аднойчы я чытала са сцэны купалаўскі верш. Паэт сядзеў у зале, і я, чытаючы яго радкі, увесь час глядзела на яго. Калі я скончыла, ён паклікаў мяне і абняў. Я не памятала сваіх родных і моцна прытулілася да яго грудзей. Відаць, Янка Купала адчуў гэта і запытаў, ці не хачу я жыць у яго і стаць яго дачушкай. Ад радасці і хвалявання я забылася нават, што ў мяне ёсць недзе родная маці... Янка Купала дамовіўся з дзіцячым домам, і я трапіла ў сям'ю паэта... Часта ў паэта збіраліся беларускія пісьменнікі, сярод якіх я добра запомніла толькі Якуба Коласа і Змітрака Бядулю, нашага суседа. Я доўга слухала іх гутарку, седзячы побач з Уладзіславай Францаўнай, потым засынала, паклаўшы галаву ёй на калені, а прачыналася ўжо раніцою ў сваёй пасцелі.

*Паводле В. Бяловай*

Чым адрозніваецца складаны сказ ад простага? Назавіце сродкі сінтаксічнай сувязі частак складаных сказаў.

**Складаназалежны сказ** — гэта такі сказ, у якім адна з граматычных частак сэнсава падпарадкоўваецца другой і звязваецца з ёй пры дапамозе падпарадкавальнага злучніка або злучальнага слова.

Сэнсавыя адносіны паміж часткамі ў складаназалежным сказе характарызуюцца тым, што адна граматычная частка паясняе які-небудзь член ці групу членаў другой часткі або ўсю другую частку. Напрыклад:

1. *Гэта было* ***ці не той ноччу****, калі азарылі нябёсы чыёсьці сэрца* (Е. Лось). — Даданая частка *калі азарылі нябёсы чыёсьці сэрца* паясняе словазлучэнне *ці не той ноччу* ў галоўнай частцы;




2. ***Ды жыцця не спыняць, не скуюць марозы****, хоць зямлю пакрые тоўстай коўдрай снег* (М. Васілёк). Даданая частка *хоць зямлю пакрые тоўстай коўдрай снег* паясняе ўсю галоўную частку;




Асноўнымі сродкамі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі ў складаназалежным сказе выступаюць падпарадкавальныя злучнікі ці злучальныя словы, якія знаходзяцца ў даданай частцы.

**Парадак размяшчэння частак** у складаназалежных сказах н е с в а б о д н ы. Даданая частка можа стаяць **перад, пасля** або **ў сярэдзіне** галоўнай часткі. Месца даданай часткі адносна галоўнай добра відаць на гарызантальнай схеме складаназалежнага сказа. Напрыклад:

1. *Каб на хмель не мароз,* ***ён бы тын перарос*** (Прыказка). Даданая частка *каб на хмель не мароз* знаходзіцца перад галоўнай;



*2. Праз вокны нашага лагера* ***было чуваць****, (як) безупынна сакаталі конікі* (Я. Брыль). Даданая частка *як безупынна сакаталі конікі* знаходзіцца пасля галоўнай.

ш т о?

[*было чуваць*], (*(як)* ...).

*3. З другога пакоя* ***ў той,*** *((дзе)) заставалася жанчына, быў запрошаны яе сын.* Даданая частка *дзе заставалася жанчына* знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай;

я к і?

[*у той*, (*((дзе))* ...), ].

**67.** Спішыце складаназалежныя сказы. Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі да дададнай. З дапамогай табліцы на форзацы вучэбнага дапаможніка вызначце сэнсавыя адносіны і сродкі сінтаксічнай сувязі паміж граматычнымі часткамі сказаў.

У з о р в ы к а н а н н я.

*Брагінскага раніла ў пачатку вайны, пры абароне Мінска* (к а л і ?), *(калі) фашысцкія танкі абыходзілі горад з поўначы* (часавыя адносіны, сродак сінтаксічнай сувязі — падпарадкавальны злучнік ***калі***).

1. Брагінскага раніла ў пачатку вайны, пры абароне Мінска, калі фашысцкія танкі абыходзілі горад з поўначы *(І. Шамякін)*. 2. Пасля дажджоў прырэчнае балота шырока разлілося, заліло імшарыну, якая, бы цеста на дражджах, пачала пухнуць мяккім вільготным мохам *(В. Быкаў)*. 3. Поўны месячык раз у чатыры квадры ўсплываў на сярэдзіну неба і адтуль рыхтаваўся пацікаваць, што дзеецца пад паветкаю густога вецця *(Я. Колас)*. 4. Як на поле, на зямлю прыйшла раніца вясны, я пасеяла ў раллю жмені зёран ільняных *(Я. Купала)*.

**68.** Спішыце складаназалежныя сказы, падкрэсліце граматычныя асновы іх частак. Пабудуйце гарызантальныя схемы сказаў.

У з о р   в ы к а н а н н я.

*А тая гара, дзе пачатак жыцця крыніцы, пазірала на яе з любасцю і гордасцю маці* (Я. Колас).




1. А тая гара, дзе пачатак жыцця крыніцы, пазірала на яе з любасцю і гордасцю маці *(Я. Колас).* 2. Мароз такі, што скоўвае дыханне *(А. Звонак).* 3. Прыемна бачыць чалавека, які шчыра і аддана любіць сваю працу, прафесію *(І. Навуменка).* 4. Ніхто спрачацца з тым не будзе, што ўсюды шмат мясцін прыгожых *(У. Дубоўка).* 5. Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос *(Прыказка).* 6. Я люблю лясны свой край, дзе срэбрам коціцца ручай *(П. Броўка).*

**69.** Складзіце сказы па наступных схемах і запішыце іх.

1. 


2. 


3. 


4. 


5. 

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

⊙ Перакладзіце тэкст на беларускую мову (пісьмова). У перакладзе пазначце лічбамі складаназалежныя сказы, падкрэсліце ў іх граматычныя асновы, абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак (падпарадкавальныя злучнікі, злучальныя словы).

**Прямо из леса огрызком карандаша брат написал маме письмо о жизни в лагере.**

Если я попрошу вас определить в этом предложении падежные формы имён существительных, вы назовёте именительный, родительный, дательный, винительный, творительный и предложный. Итого шесть падежных форм. С точки зрения современного языка именно так и есть. Однако если взглянуть на дело с точки зрения истории языка, то окажется, что в нашем предложении не шесть, а восемь падежных форм и каждая из них употреблена по одному разу. Следовательно, расхождения между современным языком и языком древних славян касаются теперешних родительного и предложного падежей.

И действительно, каждый из этих падежей образовался из прежних двух. **В родительном совпали родительный и отложительный*, а в предложном — местный и изъяснительный*.**

Число падежных форм в различных языках мира не ограничивается этими восемью. Общее число падежей по разным языкам достигает тридцати, хотя и нет ни одного языка с таким количеством падежных форм. Некоторые из падежей исключают возможность других или, наоборот, требуют обязательного присутствия третьих. В финском языке 15 падежей, в венгерском 22, но всё-таки не тридцать. Такого важного падежа, как винительный, нет в финском, но его заменяют целых три других падежа.

*По А. Колесову*

● Зрабіце поўны сінтаксічны разбор выдзеленых сказаў у іх перакладзе на беларускую мову (пісьмова).

### *Слоўнік*

**Отложительный** *(рус.)* — адкладальны *(бел.)*
**Изъяснительный** *(рус.)* — тлумачальны *(бел.)*

**70.** Прачытайце ўрывак інтэрв'ю* беларускага літаратуразнаўцы М. Мікуліча з В. Быкавым. Якія сказы — простыя ці складаныя — ужываюцца пры пастаноўцы пытанняў і якімі карыстаецца В. Быкаў пры адказе на пытанні?

— *Васіль Уладзіміравіч, якімі Вам бачацца асоба і творчасць Янкі Купалы з вышыні сённяшняга дня?*

— Янка Купала, безумоўна, апостал беларушчыны, адзін з самых святых людзей Беларусі, найпершы паэт чарговага беларускага Адраджэння.

— *Ці адчувалі Вы на пэўным этапе сваёй творчасці ўплыў мастацкага слова Я. Купалы? Калі так, то ў чым ён выявіўся?*

— Не мастацкага слова (усё ж я пісаў прозу, а не паэзію), а палітычнай пазіцыі яго, безумоўна. Хаця менавіта гэта пазіцыя Купалы хавалася, фальсіфікавалася, ды хіба такое схаваеш? Урэшце прарвецца. І прарвалася, і стала надзённым запаветам для Беларусі напрыканцы XX ст.

***Слоўнік***

**Інтэрв'ю́,** *нескл. н.* Прызначаная для друку, радыё, тэлебачання гутарка якога-н. грамадскага, палітычнага ці іншага дзеяча з карэспандэнтам па пытаннях, якія маюць грамадскі інтарэс.

## § 14. Сродкі сінтаксічнай сувязі паміж граматычнымі часткамі ў складаназалежных сказах

Асноўнымі сродкамі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі ў складаназалежных сказах з'яўляюцца падпарадкавальныя злучнікі, злучальныя словы і інтанацыя.

**Падпарадкавальныя злучнікі** — самы важны сродак сінтаксічнай сувязі паміж часткамі складаназалежнага сказа.

Да падпарадкавальных злучнікаў адносяцца наступныя: ***то, як, нібы, бо, таму што, паколькі, з прычыны таго што, калі, пакуль, ледзь, чуць толькі,***

***тым часам як, з таго часу як, як толькі, абы толькі, каб, як бы, раз толькі, калі — то, раз — то, калі — дык, для таго каб, хоць, хай, няхай, нягледзячы на тое што, бы, нібыта, быццам, як быццам, як — так, чым — тым, дык, так што*** і інш. Напрыклад: *За цябе я на бітву хадзіў, **каб** ніколі ты не быў у няволі, **каб** вясновымі кветкамі цвіў* (А. Русак). Падпарадкавальныя злучнікі не з'яўляюцца членамі сказа.

**Злучальныя словы** — таксама важны сродак падпарадкавальнай сувязі галоўнай і даданай частак складаназалежнага сказа. Аднак, у адрозненне ад падпарадкавальных злучнікаў, злучальныя словы заўсёды з'яўляюцца членамі сказа. У якасці злучальных слоў могуць выступаць:

1) адносныя займеннікі: ***які, якая, якое, якія, чый, чыя, чыё, чые, хто, што, колькі, каторы, каторая, каторае, каторыя;***

2) прыслоўі: ***дзе, куды, адкуль, дакуль, як, калі, пакуль, колькі, наколькі.***

Напрыклад: *1. З маленства ў сэрца мне запала нямала простых, мудрых слоў, **што** йшлі ад Коласа, Купалы, ад Глебкі і яго сяброў* (П. Прыходзька). Слова ***што*** з'яўляецца адносным займеннікам як часціна мовы, дзейнікам як член сказа і адначасова звязвае галоўную і даданую часткі складаназалежнага сказа як злучальнае слова. *2. **Дзе** лозы ніцыя ў тумане журбу выплаквалі да дна, там адзінока на кургане стаяла стромкая сасна* (П. Трус). Слова ***дзе*** з'яўляецца прыслоўем як часціна мовы, акалічнасцю месца як член сказа і адначасова звязвае галоўную і даданую часткі складаназалежнага сказа як злучальнае слова.

Злучнікі і злучальныя словы звычайна размяшчаюцца ў пачатку даданай часткі. Злучальныя словы ***які, каторы*** могуць размяшчацца і ў сярэдзіне даданай

часткі. Напрыклад: *Цякла тут з лесу невялічка травой заросшая крынічка, абодва берагі* ***каторай*** *лазняк, ракітнік абступалі* (Я. Колас).

Злучальныя словы ***хто, што, які, чый, каторы*** могуць спалучацца з прыназоўнікам. Напрыклад: *Потым да таго двара,* ***з якога*** *чуўся крык, па адным сходзіліся ціхія жыхары* (В. Гігевіч).

Пры сувязі частак складаназалежнага сказа важную ролю адыгрываюць **указальныя словы.** Да іх належаць займеннікі ***той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі, усё, кожны*** і прыслоўі ***там, туды, адтуль, усюды, тады, так.*** Указальныя словы звычайна размяшчаюцца ў галоўнай частцы і паясняюцца даданай часткай.

**Звярніце ўвагу!**

Наяўнасць указальных слоў дапамагае вызначыць від даданай часткі: якую сінтаксічную ролю выконвае ўказальнае слова, такім будзе і від даданай часткі. Напрыклад: *1. Ніхто спрачацца* ***з тым*** *не будзе, што ўсюды шмат мясцін прыгожых* (У. Дубоўка). Указальнае слова ***з тым*** з'яўляецца дапаўненнем; частка *што ўсюды шмат мясцін прыгожых* — даданая дапаўняльная. *2. А* ***там,*** *дзе даль пазёмкаю дыміцца, губляючы ўласныя сляды, блукае маладая аляніца, адбіўшыся ад роднай чарады* (А. Звонак). Указальнае слова ***там*** з'яўляецца акалічнасцю месца; частка *дзе даль пазёмкаю дыміцца, губляючы ўласныя сляды* — даданая акалічнасная месца.

**Памятайце!**

1. Падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы звычайна знаходзяцца ў даданай частцы, а ўказальныя словы — у галоўнай.

2. Калі даданая частка знаходзіцца перад або пасля галоўнай часткі, то заўсёды аддзяляецца коскай. Напрыклад: *Трэба выцерпець шмат за Айчыну,* *каб* *яе наву-*

*чыцца любіць* (А. Звонак). *Калі добра сцямнела, пачалі перапраўляцца* (І. Мележ).

Калі дадзеная частка знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай, то выдзяляецца коскамі з двух бакоў. Напрыклад: *Наперадзе, там, дзе ішла галоўная паходная застава, загучалі частыя выбухі* (І. Мележ).

**71.** Спішыце сказы. Абазначце сродкі сувязі галоўнай і даданай частак (падпарадкавальны злучнік — ◯, злучальнае слова — ◎). У сказах з указальнымі словамі пазначце іх сінтаксічную ролю і ад даданай часткі (у дужках).

1. На іх запытанне ён адказаў, што ідзе па дровы *(Я. Колас)*. 2. Сяргей Карага стаў углядацца ў тое месца, адкуль толькі што грымнула гармата *(Я. Колас)*. 3. Той дарогай, што ішла паміж тарфяніку і роўна пастаўленых у адну лінію хат, вельмі шпарка ішоў чалавек *(К. Чорны)*. 4. Сонца такое, што не зірнеш на снег!.. *(Я. Брыль)*. 5. Як даспеюць плады на ўцеху людзям, будзе радасці свята ў нас *(П. Панчанка)*. 6. Я слухаў, як хвалі каласоў шумяць *(П. Панчанка)*. 7. Вясеннім днём на пасяўной брыгада працавала, пакуль вячэрняю імглой на нівы ноч апала *(М. Танк)*.

● Знайдзіце сказ, які ўскладнены аднароднымі членамі. Вызначце сінтаксічную ролю аднародных членаў сказа.

**72.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып маўлення.

Выпішыце складаназалежныя сказы, часткі якіх звязваюцца злучальнымі словамі. Падкрэсліце злучальныя словы як члены сказа.

Зімовыя мяцеліцы, што заносілі снегам шашу, супакоіліся. Маразы, ад якіх нават ахрыплі заводскія гудкі, памякчэлі. Здарылася так, што аднаго дня горад ахутаў густы туман. Калі рабочыя ішлі на змену, ён прабіраўся ім пад цёплыя ватнікі. Ён асядаў на голле сасны, што прытулілася на правым баку дарогі перад шлагбаумам.

А калі рассеяўся туман, засвяціла сонца. На карпусы завода, на шашу, якая пабегла адсюль на поўдзень, апала адліга. Адразу адчулася набліжэнне той пары, якая прыводзіць у рух усё жывое пад вясновым небам.

*У. Грамовіч*

**73.** Спішыце сказы, расстаўце знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы і абазначце лічбамі граматычныя часткі складаных сказаў. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак.

1. Жаўранкаў было так шмат і спявалі яны так старанна што здавалася быццам яны не змаўкалі яшчэ з таго дня калі тут пачалася вайна *(П. Броўка)*. 2. На жаль не ўсе балцкія плямёны што жылі на Беларусі ўспомнены пісьмовымі дакументамі. Частка тых што былі зафіксаваны (літва, земігола, латыгола, яцвягі) засталася без абазначэння іх месцапражывання *(М. Ермаловіч)*. 3. З чыстае каморы* далятае аднатонна і далікатна дрыжачы голас старэнькага законніка* у якога вялікая беленькая барада шырокая да плеч і даўгая на ўсе грудзі *(М. Гарэцкі)*.

Пабудуйце схемы першага і трэцяга сказаў.

### Слоўнік

**Камо́ра,** -ы, *ж.* Бакоўка ў вясковай хаце, дзе спяць.

**Зако́ннік,** -а, *м.* (разм.). 1. Знаўца законаў. 2. Той, хто строга прытрымліваецца закона.

⊙ **74.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Пазначце падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы. Вызначце стылявыя адметнасці тэксту.

Предложение — интонационно оформленная единица. Синтаксическая цепочка членов, в которой выражено основное значение и распределены роли членов предложения, — это ещё не предложение, а только его структурная основа. Чтобы эта конструкция стала предложением, она должна быть интонационно оформлена. Соответствующая интонация, оформляя предложение, позволяет тем самым

отделить одно предложение от другого: обычно в читаемом тексте ясно «слышны» точки, вопросительные знаки, восклицательные знаки, т. е. всё то, чем на письме одно предложение отделяется от другого.

Сложное предложение состоит из двух и более конструкций, но только последняя имеет интонацию завершения (оформлена так же, как простое предложение). Другие конструкции в составе сложного предложения — интонационно незавершённые, что передаётся на письме запятой или другим знаком препинания...

*По Е. Ширяеву*

Перакажыце гэты тэкст па-беларуску па наступным плане з выкарыстаннем складаназалежных сказаў:

1. Якая адзінка мовы называецца сказам?
2. Пры якой умове спалучэнне слоў становіцца сказам?
3. Як афармляецца інтанацыя сказа на пісьме?
4. Якую інтанацыйную асаблівасць маюць складаныя сказы?

## § 15. Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі

⊙ **75.** Вусна адкажыце на пытанні.

1. Які даданы член сказа называецца азначэннем?
2. На якія пытанні адказвае азначэнне?
3. Словы якіх часцін мовы могуць выступаць у ролі азначэння? Прывядзіце прыклады.
4. Якую сінтаксічную ролю выконваюць адасобленыя азначэнні?
5. Калі азначэнні адасабляюцца на пісьме? Прывядзіце прыклады.

**76.** Спішыце складаназалежныя сказы. Пазначце лічбамі галоўную і даданую часткі. Галоўную частку разбярыце па членах сказа. Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі сказа да даданай і вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі. Пабудуйце гарызантальныя схемы сказаў.

У з о р  в ы к а н а н н я.

[1]*Каця вельмі любіла тыя часы хвалявання* (я к і я?), [2] (*калі*) *разлівалі расплаўлены метал па формах* (азначальныя адносіны).

я к і я?

[*тыя часы*], ((*калі*) ...).

1. Каця вельмі любіла тыя часы хвалявання, калі разлівалі расплаўлены метал па формах *(Я. Скрыган)*. 2. А ваякам тваім, хто загінуў за свабоду працоўных, Айчыну, мой журботны і нізкі паклон *(Я. Колас)*. 3. Разложыстыя ліпы і клёны, што раслі ў гэтай частцы вуліцы, спляліся ў цёмны шацёр і закрывалі неба *(Т. Хадкевіч)*. 4. За акном, дзе прыбоем расстрэлена ціш, маладзік выбірае для позняй прагулкі алею *(А. Вялюгін)*. 5. Сям'я перабралася ў вёску, адкуль родам маці *(І. Навуменка)*.

**Даданая азначальная частка** ў складаназалежным сказе абазначае прымету прадмета, пра які гаворыцца ў галоўнай частцы, або паясняе спалучэнне назоўніка з указальнымі і азначальнымі займеннікамі, ужытымі ў галоўнай частцы ў сінтаксічнай ролі азначэння.

Паміж галоўнай часткай складаназалежнага сказа і даданай азначальнай часткай вызначаюцца **азначальныя адносіны.**

Даданыя азначальныя часткі адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я? і звязваюцца з галоўнай часткай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***што, каб, як, нібы, быццам*** і злучальных слоў ***які, што, чый, каторы, дзе, куды, адкуль, калі***. Напрыклад:

*1. Настала ў нас цяпер **пара такая*** (я к а я?), (*што*) *ў полі ад зары і да зары камбайнаў гул і песні не змаўкаюць* (П. Панчанка).

я к а я?

[*пара такая*], ((*што*) ...).

*2.* ***З тых дзён*** (я к і х?), *як* *помню я сябе, помню і свайго дзеда* (Б. Сачанка).

з я к і х?

[*з тых дзён*, ( *як* ...),].

*3. Шасейная* ***дарога*** (я к а я?), *якая* *праходзіла праз горад, была захоплена фашыстамі* (М. Лынькоў).

я к а я?

[*дарога*, ( *якая* ...),].

*4.* ***Да*** *лясной* ***рачулкі*** (я к о й?), *што* *бяжыць з крыніцы, сцежкаю зубр ідзе з зубрыцай* (Я. Пушча).

я к о й?

[*да рачулкі*, ( *што* ...),].

**77.** Складзіце і запішыце сказы з наступнымі дададзенымі азначальнымі часткамі:

1. ... дзе калісьці было балота. 2. ... куды мы хадзілі на экскурсію. 3. ... якія бываюць толькі летам. 4. ... што мне падарылі на дзень нараджэння. 5. ... якое было пасеяна на раўніне.

Дакажыце, што даданая частка ў прыдуманых вамі сказах на самай справе азначальная.

У з о р р а з в а ж а н н я.

*Не пазнаць той край, дзе калісьці было балота.* Гэта складаназалежны сказ. *Не пазнаць той край...* — галоўная частка, ... *дзе калісьці было балота* — даданая частка. Даданая частка адказвае на пытанне я к і? і паясняе словазлучэнне *той край* галоўнай часткі. Слова *той* — указальны займеннік, ужыты ў сінтаксічнай ролі азначэння. Значыць, частка ...*дзе калісьці было балота* — даданая азначальная.

**78.** Выразна прачытайце верш з захаваннем неабходнай інтанацыі.

Спішыце, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ў галоўнай частцы складаназалежных сказаў слова, якое паясняе дадзеная азначальная частка. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак. Пабудуйце схемы сказаў.

Радзіма пачынаецца з двароў
Дзе журавель тырчыць, нібыта дрэўка.
Радзіма пачынаецца з вятроў
Што падказалі першую запеўку...

Радзіма пачынаецца з вайны
Што чвэрць народа некалі скасіла...
Яна — з тае ўсвядомленай цаны
Што сам дасі лісточку дзівасілу*...

*Е. Лось*

Растлумачце сэнс апошніх радкоў верша. У якім значэнні ўжыта слова «журавель»?

*Слоўнік*

**Дзівасі́л** *-у, м.* Травяністая шматгадовая расліна сямейства складанакветных з вялікім прадаўгаватым лісцем і жоўтымі кветкамі; корань дзівасілу выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**79.** Знайдзіце простыя сказы, у якіх ёсць не ўласцівыя беларускай мове азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікамі незалежнага стану цяперашняга часу. Перабудуйце гэтыя сказы ў складаназалежныя з дадзенымі азначальнымі часткамі.

У з о р   в ы к а н а н н я.

*Да гэтага часу навука вельмі мала ведае аб* ***узнікаючых*** *у іанасферы з'явах. — Да гэтага часу навука вельмі мала ведае аб з'явах, якія ўзнікаюць у іанасферы.*

1. Да гэтага часу навука вельмі мала ведае аб узнікаючых у іанасферы* з'явах... *(З газеты).* 2. Існуючая без нас і незалежна ад нашай свядомасці рухаючаяся матэрыя

ўяўляе сабой адзінае цэлае... *(З часопіса)*. 3. Ад выбухаў скаланаліся знявечаныя кварталы *(У. Карпаў)*.

*Слоўнік*

**Іанасфе́ра**, -ы, *ж.* Верхняя частка атмасферы, якая ўтрымлівае ў сабе іоны і свабодныя электроны.

**Звярніце ўвагу!**

Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу рэдка ўжываюцца ў беларускай мове. Пры перакладзе з рускай мовы на беларускую азначэнні, выражаныя такімі дзеепрыметнікамі, лепш перадаваць складаназалежнымі сказамі з дадзенымі азначальнымі часткамі.

## § 16. Складаназалежныя сказы з дададзенымі дапаўняльнымі часткамі

● **80.** Вусна адкажыце на пытанні.

1. Які дададзены член сказа называецца дапаўненнем?
2. Які член сказа часцей за ўсё паясняецца дапаўненнем? Прывядзіце прыклады.
3. Словы якіх часцін мовы звычайна выконваюць сінтаксічную ролю дапаўнення? Прывядзіце прыклады.

**81.** Спішыце складаназалежныя сказы, устаўце прапушчаныя падпарадкавальныя злучнікі або злучальныя словы і абазначце іх.

Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі да дададзенай і вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

Знайдзіце ў галоўнай частцы слова, якое паясняецца дададзенай часткай. Падкрэсліце гэта слова як член сказа.

У з о р в ы к а н а н н я.

*Няхай ведаюць ворагі міру* (ш т о?), *што* *ім сонца не пагасіць скавытаннем сваім* (дапаўняльныя адносіны).

1. Няхай ведаюць ворагі міру, ... ім сонца не пагасіць скавытаннем сваім *(М. Танк)*. 2. Андрэй не ведаў, ... кіла-

метраў ён прайшоў *(П. Пестрак)*. 3. Люблю глядзець, ... бялеюць іскрыста-чыстыя снягі *(А. Бачыла)*. 4. Дождж гнаў пад полаг палатак усіх, ... ні сустракаў *(М. Калачынскі)*. 5. Дзеці адно перад адным спяшаліся запэўніць настаўніка, ... яны прынясуць рыдлёўкі *(Я. Колас)*.

**Даданая дапаўняльная частка**, як і дапаўненне, адказвае на пытанні ўскосных склонаў. Сэнсавыя адносіны, што ўзнікаюць паміж галоўнай часткай і дадатнай дапаўняльнай, вызначаюцца як **дапаўняльныя.** З галоўнай часткай даданая дапаўняльная звязваецца падпарадкавальнымі злучнікамі ***што, каб, як, нібы, быццам, ці*** і злучальнымі словамі ***што, хто, які, чый, колькі, дзе, куды, адкуль, калі, як***. Напрыклад: *1. Таня ўжо на грэблі* ***апомнілася*** (а б ч ы м? — М. скл.), *што не зачыніла дзвярэй* (І. Пташнікаў). *2. Я* ***не паспеў спытаць*** *яго* (п р а ш т о? — В. скл.), *дзе б нам пагутарыць сягоння* (М. Танк).

Звычайна даданая дапаўняльная частка складаназалежнага сказа паясняе дзеяслоў-выказнік галоўнай часткі. Напрыклад: *Але разведка* ***данесла*** (ш т о? — В. скл.), *што і гэты раён повен немцаў* (Я. Брыль).




Даданая дапаўняльная частка можа таксама паясняць дапаўненне галоўнай часткі, выражанае ўказальным займеннікам ***той,*** азначальнымі займеннікамі ***кожны, усякі, усе, усё*** або адмоўнымі займеннікамі ***ніхто, нішто*** ва ўскосных склонах. Напрыклад: *1. Яны расселіся на траве і пачалі раскazваць* ***пра тое*** (п р а ш т о? — В. скл.), *як здавалі яго прадмет* (І. Шамякін).



*2. **Усё*** (ш т о? — В. скл. ) *што мы завём Радзімай, з сыноўняй радасцю вітаю* (М. Танк).

ш т о?

[*усё*, (*што* ...), ...].

*3. Ён [Сымон] не меў нідзе **нікога*** (к а г о? — В. скл.), *хто б схіліўся да яго* (Я. Колас).

к а г о?

[*нікога*], (*хто* ...).

**82.** Перабудуйце простыя сказы з пабочнымі словамі ў складаназалежныя сказы з дадзенымі дапаўняльнымі часткамі і запішыце іх. Слова, якое паясняе дадзеная частка, падкрэсліце як член сказа. Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі да дададзенай. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак.

У з о р   в ы к а н а н н я.

*Работу мы, безумоўна, закончым у тэрмін.* — *Мы ўпэўнены* (у ч ы м? — М. скл.), *што работу закончым у тэрмін.*

1. Работу мы, безумоўна, закончым у тэрмін. 2. Заўтра, здаецца, будзе добрае надвор’е. 3. Па-мойму, кніга гэта вельмі цікавая. 4. Бясспрэчна, зімою мы правядзём лыжныя спаборніцтвы з вучнямі суседняй школы. 5. Кожны чалавек, вядома, радуецца вясне і сонцу. 6. Здаецца, неўзабаве павінна быць рэчка. 7. Праўда, я не мог учора наведаць хворага сябра. 8. Відаць, вецер сціхне і пацяплее.

Дакажыце, што ўтвораныя вамі сказы складаназалежныя з дадзенай дапаўняльнай часткай.

У з о р   р а з в а ж а н н я.

*Мы ўпэўнены, што работу закончым у тэрмін.* Гэта складаназалежны сказ. Галоўная частка *мы ўпэўнены,* дадзеная частка *што работу закончым у тэрмін.* Дадзеная частка паясняе дзеяслоў-выказнік *упэўнены* галоўнай часткі і адказвае на пытанне ўскоснага (меснага) склону у ч ы м? Дадзеная частка — дапаўняльная.

**83.** Складзіце складаназалежныя сказы па наступных схемах і запішыце іх.




Якое месца можа займаць дадаяная частка адносна галоўнай у складаназалежных сказах з дадaнай дапаўняльнай часткай?

**84.** Выразна прачытайце тэкст-разважанне. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Як абгрунтоўвае аўтар сваё меркаванне?

Спішыце тэкст, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

Знайдзіце складаназалежны сказ з дадaнай дапаўняльнай часткай. Растлумачце свой выбар (вусна). Пабудуйце гарызантальную схему сказа.

У творчым абліччы Багдановіча было штосьці ад выдатных дзеячаў культуры эпохі Адраджэння. У беларускай літаратуры ён сцвердзіў сябе як паэт-гуманіст у самым сапраўдным сэнсе гэтага слова. Услед за Купалам і Коласам ён бачыў у беларускім селяніне чалавека багатай і прыгожай душы адораную талентам любоўю і дабрынёй асобу. Ён вызначаўся незвычайнай шырынёй духоўных даляглядаў. Яго веды былі грунтоўныя. Разам з Купалам і Коласам ён быў у ліку першых хто зацікавіўся эпічнымі

матывамі і вобразамі беларускага фальклору і творча пераўвасобіў іх у адпаведнасці з актуальнымі* задачамі часу. Ён быў адзін з першых хто ўчытаўся ў гераічныя старонкі нацыянальнай гісторыі і глянуў на свой народ як на народ з эпічным мінулым. Ніхто да яго ў беларускай літаратуры з гэткай сілай і перакананасцю не сказаў аб тым што Беларусь мела калісьці асветнікаў мысліцеляў і вучоных кніжную культуру мастацтва і дойлідства* самабытныя народныя промыслы і рамёствы!

*Паводле Н. Гілевіча*

**Слоўнік**

**Актуа́льны,** -ая, -ае. Вельмі важны для пэўнага моманту; такі, які адпавядае сучаснасці, надзённы.

**До́йлідства,** -а, *н.* Тое, што і архітэктура.

## § 17. Агульнае паняцце пра даданыя акалічнасныя часткі ў складаназалежных сказах

● **85.** Выкарыстоўваючы план і табліцу, падрыхтуйце лінгвістычнае паведамленне на тэму «Даданы член сказа — акалічнасць».

План

1. Які даданы член сказа называецца акалічнасцю?
2. Якія члены сказа паясняе акалічнасць?
3. Словамі якіх часцін мовы выражаюцца акалічнасці?
4. На якія віды падзяляюцца акалічнасці па значэнні?

| Від акалічнасці па значэнні | Адказваюць на пытанні | Прыклады |
|---|---|---|
| Спосабу дзеяння | як? якім чынам? | *Коннік ехаў* ***хутка****.* |
| Ступені | як? у якой ступені? | *Ён падаўся мне* ***надзвычай*** *сумленным.* |
| Месца | дзе? куды? адкуль? | ***Вакол*** *была цішыня.* |

| Від акалічнасці па значэнні | Адказваюць на пытанні | Прыклады |
|---|---|---|
| Часу | к а л і?<br>я к д о ў г а?<br>з я к о г а ч а с у?<br>д а я к о г а ч а с у? | ***Учора*** *мы пра гэта не думалі.* |
| Умовы | п р ы я к о й у м о в е? | *Многа новага і цікавага ўбачыш,* ***гуляючы па лесе.*** |
| Прычыны | ч а м у?<br>п а я к о й п р ы ч ы н е? | *Я не пайшоў туды* ***з-за*** *сваёй* ***занятасці.*** |
| Мэты | н а в о ш т а?<br>з я к о й м э т а й? | *Машына павінна пайсці туды* ***на рамонт.*** |
| Уступкі | н я г л е д з я ч ы н а ш т о? | ***Нягледзячы на перасцярогу,*** *я пайшоў туды.* |

**86.** Выразна прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, асноўную думку, стыль, мэту і адрасата.

Спішыце. Падкрэсліце акалічнасці ў простых сказах. Вызначце віды акалічнасцей. Назавіце адасобленыя акалічнасці.

Назвы нашых сёл, гарадоў і вуліц разам з чалавечымі прозвішчамі складаюць самае яркае ў моўным запасе кожнай мовы і нясуць водгукі гісторыі кожнага народа.

З якога боку мы ні пад'язджалі да горада, адусюль трэба ўзбірацца на гару. Як гэта дзіўна і цікава — горад на гары! І гаворыцца так пра адзін са старажытнейшых гарадоў зямлі беларускай — пра Навагрудак. Па-рознаму гучала назва горада за амаль тысячагадовую яго гісторыю: Новагародак, Ноўгарадок, Нава́гарадак, цяпер вось Навагрудак. Як нямая сведка даўніны, як візітная картачка горада ўзвышаюцца над ім дзве разбураныя вежы ад колішняга магутнага замка. Тут, у Навагрудку, ёсць што паглядзець, ёсць чым палюбавацца. Але найперш слаўны

ён тым, што гэта радзіма Адама Міцкевіча — генія польскай літаратуры, равесніка А. С. Пушкіна, яго сябра і аднадумца. Давайце ж пройдземся сцежкамі Адама Міцкевіча, пабачым мясціны, звязаныя з жыццём вялікага паэта, які на ўвесь свет праславіў гэты гарадок.

*Паводле С. Аляксандровіча*

**Дададзеная акалічнасная частка** складаназалежнага сказа звычайна паясняе ўсю галоўную частку і ўдакладняе час, месца, прычыну, умову, мэту дзеяння і г. д., што называецца выказнікам галоўнай часткі. Паміж галоўнай і даданай акалічнаснай часткамі складаназалежнага сказа вызначаюцца **акалічнасныя адносіны часу, мэты, прычыны** і г. д. Даданая акалічнасная частка адказвае на пытанне акалічнасці і звязваецца з галоўнай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў. Напрыклад: *1. Андрэй **быў павярнуўся*** (з я к о й м э т а й?), *(каб) ісці назад, але яго цягнула нейкая сіла...* (Я. Колас). *2. (Калі) ўжо сонейка прыгрэла, Антось на полі **кончыў дзела** і **выпраг** коніка сівога, свайго памочніка старога* (к а л і?) (Я. Колас). *3. Між алешын, кустоў, ((дзе)) пяе салавей, і шуміць, і грыміць срэбразвонны ручэй* (Я. Колас).

**87.** Уважліва разгледзьце табліцу. Складзіце і запішыце з кожным відам даданай акалічнаснай часткі па адным сказе. Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі да даданай. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак.

У з о р в ы к а н а н н я.

*Я пайшоў у бібліятэку* (п а я к о й п р ы ч ы н е? ч а м у?), *(бо) патрэбна была новая кніга.*

| Даданыя акалічнасныя часткі | Адказваюць на пытанні | Паясняюць у галоўнай частцы | Могуць звязвацца з галоўнай часткай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ці злучальных слоў |
|---|---|---|---|
| месца | д з е?<br>к у д ы?<br>а д к у л ь? | 1) выказнік;<br>2) акалічнасць месца ***тут, там, туды, адтуль, адсюль, усюды, скрозь, адусюль*** | ***дзе, куды, адкуль*** |
| часу | к а л і?<br>я к д о ў г а?<br>д а я к о г а ч а с у? | 1) выказнік;<br>2) спалучэнне выказніка са словамі ***ў той час, да таго часу, пасля таго***;<br>3) акалічнасць часу ***заўсёды, тады, адтуль*** | ***калі, як, як толькі, пакуль, ледзь, ледзь толькі, у той час як, да таго часу як, пасля таго як*** |
| умовы | п р ы я к о й у м о в е? | усю галоўную частку | ***калі, каб, раз, як*** |
| прычыны | ч а м у?<br>п а я к о й п р ы ч ы н е? | 1) выказнік;<br>2) спалучэнне выказніка са словамі ***таму, ад таго, з-за таго*** | ***бо, таму што, што, а то, як, ад таго што, з-за таго што*** |
| мэты | д л я ч а г о?<br>з я к о й м э т а й?<br>н а в о ш т а? | 1) выказнік;<br>2) спалучэнне выказніка са словамі ***для таго, з тым*** | ***каб, абы, для таго каб, з тым каб*** |
| уступальныя | н я г л е д з я ч ы н а ш т о? | усю галоўную частку | ***хоць (хаця), нягледзячы на тое што, няхай (хай)*** |

| Даданыя акалічнасныя часткі | Адказваюць на пытанні | Паясняюць у галоўнай частцы | Могуць звязвацца з галоўнай часткай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ці злучальных слоў |
|---|---|---|---|
| спосабу дзеяння | як? якім чынам? | 1) выказнік; 2) спалучэнне выказніка са словам ***так*** | ***што, як, каб, як бы, быццам, нібы*** |
| меры і ступені | у якой ступені? як многа? як? | спалучэнне выказніка са словамі ***так, столькі, настолькі, такі, гэтакі*** | ***што, як, як бы, нібы, быццам*** |
| параўнальныя | — | усю галоўную частку, слова ***тым*** у галоўнай частцы | ***як, быццам, нібы, чым, бы, як быццам*** |

## § 18. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі месца, часу, умовы

**Даданая акалічнасная частка месца** ў складаназалежным сказе паказвае на месца дзеяння, пра якое гаворыцца ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і даданай часткамі вызначаюцца **акалічнасныя адносіны месца.**

Даданая акалічнасная частка месца паясняе выказнік галоўнай часткі або акалічнасць месца ў галоўнай частцы, выражаную прыслоўямі ***тут, там, туды, адтуль, адсюль, усюды, скрозь, адусюль.***

Даданая акалічнасная частка месца адказвае на пытанні дзе? куды? адкуль? і звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучальных слоў ***дзе, куды, адкуль.*** Напрыклад:

*1. (Дзе) нядаўна было яшчэ балота, цяпер* ***каласіцца*** *жыта* (д з е?) (Т. Хадкевіч).

д з е?

((*дзе*) ...), [-×-]

*2. Галя ідзе па расе каля пшаніцы* ***туды*** (к у д ы?), *(дзе) прастуе дарога ў поле* (В. Быкаў).

к у д ы?

[*туды*], ((*дзе*) ...).

**Дададзеная акалічнасная частка часу** ў складаназалежным сказе паказвае на час дзеяння, пра якое паведамляецца ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і даданай часткамі ўстанаўліваюцца **акалічнасныя адносіны часу.**

Даданая акалічнасная частка часу паясняе выказнік галоўнай часткі, спалучэнне выказніка са словамі ***ў той час, да таго часу, пасля таго*** або акалічнасць часу ў галоўнай частцы, выражаную прыслоўямі ***тады, заўсёды, адтуль.***

Даданая акалічнасная частка часу адказвае на пытанні к а л і? я к  д о ў г а? д а  я к о г а  ч а с у? з  я к о г а  ч а с у? і звязваецца з галоўнай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***калі, як, пакуль, толькі, як толькі, ледзь, ледзь толькі, у той час як, да таго часу як, пасля таго як.*** Напрыклад:

*1. Над жытамі песні* ***льюцца*** (з  я к о г а  ч а с у?), *(толькі) сонца ўстане. (Я. Колас);*

з  я к о г а  ч а с у?

[-×-], ((*толькі*)).

*2. Сцяпан* ***пайшоў*** *на возера* ***пасля таго*** (к а л і?), *(як) навёў парадак дома;*

к а л і?

[-×-], ((*як*) ...).

3. *(Пасля таго як)* *навёў парадак дома, Сцяпан* ***пайшоў*** *на возера* (к а л і?) (А. Жук).

к а л і?

( *(пасля таго як)* ...), [-×-].

**Даданая акалічнасная частка ўмовы** ў складаназалежным сказе паказвае на ўмову, пры якой адбываецца дзеянне, названае ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і дадаанай часткамі вызначаюцца **акалічнасныя адносіны ўмовы.**

Даданая акалічнасная частка ўмовы звычайна паясняе ўсю галоўную частку, адказвае на пытанне п р ы я к о й у м о в е? і звязваецца з галоўнай часткай падпарадкавальнымі злучнікамі ***калі, як, каб, раз.*** Напрыклад: ***Ты не шкадуй нічога людзям*** (п р ы я к о й у м о в е?), *(калі)* *што людзям на карысць* (Я. Брыль).

п р ы я к о й у м о в е?

[-×-], ( *(калі)* ... ).

**88.** Спішыце сказы. Пазначце ў дужках віды дададзеных частак. Пабудуйце гарызантальныя схемы сказаў. У якой пазіцыі знаходзіцца дададзеная частка адносна галоўнай часткі ў кожным сказе?

1. Дзе дыміліся балоты, налівае хлеб пшанічны сокам спелай пазалоты *(А. Александровіч).* 2. Не прайшло і паўгадзіны, як хмары закрылі ўсё неба *(І. Мележ).* 3. Калі сонца паднялося вышэй, на зямлю зноў сышла гарачыня *(І. Мележ).* 4. Раз не было песень, то не было і вяселля *(Прыказка).* 5. Калі здолееш узяцца за справу — і снег загарыцца *(Прыказка).*

**89.** Перабудуйце простыя сказы ў складаназалежныя, замяняючы выдзеленыя словазлучэнні дадзенымі акалічнаснымі часткамі месца. Запішыце сказы. Пабудуйце іх схемы.

1. **Побач з прыгожым домам** быў аўтобусны прыпынак. 2. **На павароце дарогі** машына прыпынілася. 3. **Каля**

**стромкай сасны** ціха прытулілася яліна. 4. Горад Рэчыца знаходзіцца **пры ўпадзенні Бярэзіны ў Дняпро**.

**90.** Складзіце з простых сказаў складаназалежныя з дадзенымі акалічнаснымі часткамі часу. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Усе сціхлі. Дакладчык пачаў гаварыць. 2. Мы ішлі ў лес. Ярка свяціла сонца. 3. Хлопцы не паспелі дабегчы да вёскі. Лінуў дождж. 4. Стала душна. Узышло сонца.

**91.** Замяніце выдзеленыя словазлучэнні дадзенымі акалічнаснымі часткамі ўмовы і запішыце складаназалежныя сказы. Пабудуйце схемы сказаў.

1. З **дапамогай настаўніка** мы напішам гісторыю нашай школы. 2. **Даручаную справу** даводзь да канца. 3. **Не згубіўшы,** няма чаго шукаць. 4. **Пры пасадцы лесу на вялікіх плошчах** карыстаюцца лесапасадачнымі машынамі. 5. **Добрым надвор'ем** мы пойдзем убіраць сена.

**92.** Складзіце складаназалежныя сказы з дадзенымі часткамі месца, часу, умовы. Запішыце іх, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. Ёсць жаданне ... з'явіцца ўменне. 2. Даў слова ... стрымай яго. 3. ... у вокнах ужо свяціліся агні. 4. Ярка мільгаў агеньчык ... . 5. ... даносіліся галасы дзяцей. 6. На лузе ... заўсёды шмат народу. 7. Добра разумееш ... ясна выказваеш свае думкі. 8. Першыя кроплі дажджу пасыпаліся на зямлю ... . 9. Цягнік прыпыніўся ... .

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

Спішыце складаназалежныя сказы, расстаўце знакі прыпынку, вызначце від сэнсавых адносін паміж часткамі сказаў, пабудуйце схемы сказаў.

Узор выканання.

*Па рыбацкім звычаі лодкі пакідаюцца назаўсёды там, дзе іх засцігне апошняя бяда* (сэнсавыя адносіны месца).



1. Узгоркі Навагрудчыны калі глядзець з гары ледзь не ў шахматным парадку ўкрытыя пералескамі *(Я. Брыль)*. 2. І трывожна білася сэрца калі я стаў пад караваю грушаю-дзічкаю адзін сярод чыстага поля... *(Б. Сачанка)*. 3. Калі сонца паднялося вышэй на зямлю зноў сышла гарачыня *(І. Мележ)*. 4. І толькі тады заўважыў дзед ваўка калі ён падкраўся да кабана крокаў на пятнаццаць... *(Я. Колас)*. 5. Такую гучную назву [Балканы] далі гэтым узгоркам відаць у мінулым стагоддзі калі нашы дзяды вярнуліся з-пад Плеўны... *(Паводле Я. Брыля)*. 6. Як толькі збяжыцца цемра з-пад натапыранай у снезе елачкі выткнецца заяц паківае-паводзіць вушамі пачмыхае патрухае з узлеску пад Вілію... *(І. Пташнікаў)*. 7. Калі ўздымалася над чэзлым балотным алешнікам сонца светлае прамяністае ад інею заставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці *(І. Мележ)*.

## § 19. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі прычыны і мэты

**93.** Спішыце складаназалежныя сказы. Пастаўце пытанне ад галоўнай часткі да даданай і вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

Знайдзіце ў галоўнай частцы слова, якое паясняецца даданай часткай, падкрэсліце яго як член сказа. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак.

Узор выканання.

*(Каб) найхутчэй аддаліцца ад шашы, Сушчэня напрасткі пашыбаваў да таго кустоўя...* (з якой мэтай?) (мэтавыя адносіны).

1. Каб найхутчэй аддаліцца ад шашы, Сушчэня напрасткі пашыбаваў да таго кустоўя... *(В. Быкаў)*. 2. Бабка была спагадлівая да чужога гора, таму што сама перажыла шмат пакут і нягод *(Ю. Пшыркоў)*. 3. Мы ехалі нетаропка таму, што ў гэтую пару года, у гэты шчаслівы восеньскі дзень, нетаропкасць была натуральным станам самой прыроды, усяго жывога ў ёй *(«Полымя»)*. 4. Дзяды і баць-

кі нашу мову стваралі, каб звонка звінела, была як агонь *(П. Броўка)*. 5. Яны ідуць бойка, рухава, бо зімні холад падганяе *(Я. Колас)*.

**Даданая акалічнасная частка прычыны** ў складаназалежным сказе раскрывае прычыну таго, пра што гаворыцца ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і даданай часткамі вызначаюцца **акалічнасныя адносіны прычыны.**

Даданая акалічнасная частка прычыны адносіцца да выказніка галоўнай часткі або да спалучэння выказніка з указальнымі словамі ***таму, ад таго, з-за таго*** ў галоўнай частцы, калі на гэтыя словы падае лагічны націск.

Даданая акалічнасная частка прычыны адказвае на пытанні ч а м у? п а я к о й п р ы ч ы н е? і звязваецца з галоўнай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***бо, што, як, а то, таму што, ад таго што, з-за таго што.*** Напрыклад:

*1. Прырода паступова* ***ўбіралася*** *ў бель і ўвачавідкі* ***прыгажэла*** (п а я к о й п р ы ч ы н е?), *бо зіма хавала пад снегам увесь зямны бруд* (А. Чарнышэвіч).

п а я к о й п р ы ч ы н е?

[-×-], (*бо* ...).

*2. Мароз яшчэ большым* ***здаваўся таму*** (ч а м у?), *што барвовы ранішні водсвет сонца клаўся на дахі дамоў* (А. Жук).

ч а м у?
п а я к о й п р ы ч ы н е?

[-×-], (*што* ...).

*3. На ўскраіне горада машына* ***спынілася*** (ч а м у?), *таму што сталі пярэднія* (І. Мележ).

п а я к о й п р ы ч ы н е?
ч а м у?

[-×-], (*таму што* ...).

**Дадана акалічнасная частка мэты** ў складаназалежным сказе раскрывае мэту або прызначэнне таго, пра што паведамляецца ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і дададзенай часткамі ўстанаўліваюцца **акалічнасныя адносіны мэты.**

Дадана акалічнасная частка мэты адносіцца да выказніка галоўнай часткі або да спалучэння выказніка з указальнымі словамі ***для таго, з тым,*** калі на гэтыя словы падае лагічны націск.

Дадана акалічнасная частка мэты адказвае на пытанні для чаго? з якой мэтай? навошта? і звязваецца з галоўнай часткай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***каб, абы, для таго каб, з тым каб***. Напрыклад:

*1. Беларускія пісьменнікі нямала* ***папрацавалі*** (з якой мэтай?), (*каб*) *выканаць свой абавязак перад народам* (І. Мележ).

з якой мэтай?

[-×-], ( (*каб*) ...).

*2. Многія з нас вельмі рэдка* ***выкарыстоўваюць*** *вольны час для таго* (для чаго?), (*каб*) *быць бліжэй да прыроды* (В. Вольскі).

для чаго?

[-×-], ( (*каб*) ...).

*3. Мы прыняліся* ***шукаць*** *лодку* (з якой мэтай?), (*для таго каб*) *пераправіцца на другі бок ракі.*

з якой мэтай?

[-×-], ( (*для таго каб*) ...).

**94.** Складзіце складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі прычыны і мэты. Запішыце іх і абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак.

Узор выканання.

*У лагчыне пракапалі канаву, (бо) палі залівала вадой (даданая акалічнасная прычыны). У лагчыне пракапалі канаву, (каб) палі не залівала вадой (даданая акалічнасная мэты).*

1. У лагчыне пракапалі канаву... 2. Уздоўж чыгункі густа пасадзілі елкі... 3. Арганізавана служба ... 4. ... трэба добра ведаць гэтыя мясціны. 5. Садоўнік пабяліў ствалы дрэў ... 6. Трэба шмат трэніравацца... 7. Мы зрабілі гэта...

**95.** Адкажыце пісьмова на наступныя пытанні, пабудаваўшы складаназалежныя сказы з дадзенымі акалічнаснымі часткамі прычыны. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Складзіце схемы сказаў.

1. Чаму восенню птушкі адлятаюць у вырай? 2. Па якой прычыне дзеці не слухаюцца дарослых? 3. У сувязі з чым адбываюцца дарожныя здарэнні? 4. Чаму му́зыка нікога не пакідае абыякавым? 5. Па якой прычыне веданне вуснай народнай творчасці робіць чалавека мудрым, кемлівым, высакародным? 6. Па якой прычыне я не разгубіўся, атрымаўшы складанае пытанне?

**96.** Уважліва прачытайце інтэрв'ю з І. Мележам. Якія думкі аб жыцці, літаратуры і культуры выказаў пісьменнік?

Выпішыце складаназалежныя сказы з адной даданай часткай. Пазначце від даданай часткі (у дужках) і пабудуйце схемы сказаў.

— *Я хачу пачаць нашу размову з раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», удастоеных Ленінскай прэміі 1972 года... Як узнікла задума палескай эпапеі?*

— Я нарадзіўся і вырас на Палессі. Гэтая жыццёвая акалічнасць і вызначыла з цягам часу змест маіх кніг. Прыйшоў час, і мне захацелася расказаць пра тое, што я бачыў калісьці. Я зразумеў, што гэта таксама можа быць цікава людзям. І я пачаў пісаць...

— *Вы адразу вырашылі пісаць дылогію?*

— Не, спачатку была задума напісаць невялікую аповесць пра меліяратараў, гэта значыць, ва ўсіх адносінах рэч «сучасную». Але потым я вырашыў, што можна і трэба заглянуць далей. Таму што ўсякая значная жыццёвая з'ява — як дрэва: на паверхні толькі ствол ды крона. А каб пазнаць цэлае, пісьменнік павінен паглядзець карані.

Працуючы над раманам «Подых навальніцы», я адчуў, што не магу абмежавацца светам толькі адной вёскі. Жыццё ў вёсцы вызначалася не толькі яе турботамі. Вёска ўцягвалася ва ўсеагульныя, гістарычныя працэсы, якія адбываліся ў краіне. Так змяніўся свет рамана, пашырыўся гарызонт вакол герояў. Так нарадзіўся Апейка, не прадугледжаны першапачатковай задумай, вельмі дарагі для мяне вобраз.

— *Іван Паўлавіч, а хто стаіць за Васілём? Вельмі ж ужо ён рэальны і жывы.*

— Амаль за кожным героем дылогіі стаяць рэальныя, канкрэтныя людзі. Але, калі гаварыць шчыра, у кожным ёсць і маё. У Ганне, напрыклад, адбілася маё ўяўленне пра шчасце, пра каханне, пра самаахвярнасць. У гэтым вобразе і маё разуменне чалавечага гонару. Ёсць адзін канкрэтны чалавек, які «дапамог» мне напісаць Васіля. У яго, таксама як і ў Васіля Дзятла, розныя па колеры вочы. А ўвогуле ў кожным з іх часцінка майго сэрца.

— *Вельмі хочацца, Іван Паўлавіч, яшчэ раз сустрэцца з Васілём і Ганнай. Ці можна спадзявацца на гэта?*

— Мне таксама не проста расстацца з Васілём і Ганнай. Палессе яшчэ моцна трымае мяне...

— *Ну што ж, у такім выпадку будзем спадзявацца на яшчэ адзін палескі раман... Я знарок ужываю гэты жанравы тэрмін, таму што на Захадзе не пакідаюць крычаць пра «крызіс рамана», пра тое, што гэты жанр быццам устарэў для цяперашняга часу.*

— Я ўпэўнены, у рамана вялікая будучыня. Непахісна веру: ніводзін другі жанр не можа зраўняцца з раманам па магчымасцях, па глыбіні і маштабнасці даследавання «чалавечага матэрыялу».

— *А на Захадзе гавораць пра непазбежную пагібель літаратуры і мастацтва, бачаць у навуцы і тэхніцы іх фатальнага магільшчыка.*

— У філасофіі існуе нават цэлы кірунак — тэхналагічны дэтэрмінізм. Яго сутнасць: тэхніка — галоўнае, калі не адзінае, што вызначае развіццё грамадства, яго матэрыяльнае і духоўнае жыццё. Літаратура і мастацтва, па гэтай тэорыі, непазбежна будуць раздушаны «машыннай культурай», «тэхнакратычнай дыктатурай»...

Сапраўды, навука і тэхніка ў апошнія дзесяцігоддзі дасягнулі вялікіх поспехаў. Расшчапленне атамнага ядра, палёты ў космас, кібернетыка, лазеры, сінтэтычныя матэрыялы... Але гэтая акалічнасць не толькі не паслабляе ролі літаратуры і мастацтва, а, наадварот, узмацняе іх значэнне. Я глыбока перакананы ў гэтым.

**97.** Прачытайце азначэнне тэрмінаў **нарыс, рэпартаж, нататка.** Са сродкаў масавай інфармацыі (газет, часопісаў) падбярыце ўзоры тэкстаў гэтых публіцыстычных жанраў. Вызначце іх стылявыя адметнасці.

**Нарыс** (польск. narys) — літаратурны твор невялікіх памераў, у аснове якога ляжаць жыццёвыя факты.

**Рэпартаж** (фр. reportage, ад англ. report = паведамляць) — інфармацыя па радыё, тэлебачанні, паведамленне ў газеце аб мясцовых здарэннях, падзеях.

**Нататка** — кароткі запіс або інфармацыя ў друку пра што-небудзь.

## § 20. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі ўступальнымі часткамі

**Даданая акалічнасная ўступальная частка** складаназалежнага сказа называе тыя акалічнасці, абставіны, насуперак якім адбываюцца дзеянні, падзеі, з'явы, адзначаныя ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай часткай і даданай уступальнай узнікаюць **уступальныя адносіны.**

Даданая ўступальная частка адказвае на пытанне нягледзячы на што? і далучаецца да ўсёй галоўнай часткі пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***хоць (хаця), няхай (хай), нягледзячы на тое што.*** Напрыклад:

*1.* ***Не хмурым мы брывей*** (нягледзячы на што?), *хоць нас крылом кранула і непагадзь завей, і страт пякучы боль* (А. Звонак).




*2. Няхай не быў ты ў зале на кангрэсе,* ***а чуў ты голас маці і сястры*** (нягледзячы на што?) (Э. Агняцвет).




Для сувязі дададнай уступальнай часткі з галоўнай часткай могуць служыць спалучэнні слоў ***дзе б ні, куды б ні, хто б ні*** і інш.: ***Куды б*** *цябе* ***ні*** *завяла далёкая дарога, не забывай ніколі ты бацькоўскага парога* (нягледзячы на што?) (П. Броўка).

**98.** Спішыце складаназалежныя сказы з дададзенымі акалічнаснымі ўступальнымі часткамі. Пабудуйце іх схемы.

1. Хоць ноч на зямлі ідзе, ад квецені светла да раніцы *(П. Макаль)*. 2. Дабро, хто б яго ні зрабіў, прыносіць аднолькавую радасць чалавеку *(А. Пальчэўскі)*. 3. Родзіць зямля, корміць, які б год ні ўдаўся *(В. Казько)*. 4. І хоць многія геолагі сумняваліся ў шчырасці слоў Пармскага, ім было прыемна яго заступніцтва *(А. Асіпенка)*. 5. Малады, зялёны сасняк яшчэ пахнуў, здаецца, цёплаю смалою, хоць зямля была ўжо нямала змочаная асеннімі дажджамі *(Г. Далідовіч)*.

**99.** Спішыце сказы, устаўляючы злучнікі, якія звяжуць дадзеную ўступальную частку з галоўнай. Расстаўце знакі прыпынку.

1. ... няма ветру а ўсё роўна лес шуміць *(П. Пестрак)*. 2. ... многа пражыта часінаў цяжкіх мы шчасце будуем рукамі сваімі *(П. Броўка)*. 3. ... Скуратовіч ... стараўся ступаць ціха усё адно Міхалку было чуваць *(К. Чорны)*. 4. Ёсць непаўторная паэзія ў асеннім полі ... на першы позірк здаецца яно пустое і панурае *(І. Шамякін)*. 5. ... воўка ... кармі ён у лес глядзіць *(Прыказка)*.

**100.** Складзіце складаназалежныя сказы з дадзенымі ўступальнымі часткамі па наступных схемах.

нягледзячы на што?

**1. (*хоць* ...), [-×-].**

нягледзячы на што?

**2. [-×-], (*хоць* ...).**

нягледзячы на што?

**3. [-×-], (*нягледзячы на тое што* ...).**

нягледзячы на што?

**4. (*хай* ...) , [-×-].**

Якое месца можа займаць дадзеная ўступальная частка адносна галоўнай часткі ў складаназалежным сказе?

## § 21. Складаназалежныя сказы з дадзенымі параўнальнымі часткамі, акалічнаснымі часткамі спосабу дзеяння, меры і ступені

**Дадзеная параўнальная частка** паясняе галоўную частку складаназалежнага сказа шляхам параўнання. Яна далучаецца да галоўнай з дапамогай злучнікаў ***як, быццам, нібы, чым, бы, як быццам, як бы***. Напрыклад:

*А здалёк шугалі песні, пралятаі над сялом,* (*быццам*) *хто рассыпаў краскі і пусціў на свет плысці* (П. Броўка).

[-×-], ( *быццам* ...).

Даданая параўнальная частка можа далучацца да ўказальнага слова ***тым***, а таксама да прыметніка ці прыслоўя ў форме вышэйшай ступені параўнання ў галоўнай частцы. Напрыклад:

*Чым больш радзей змрок,* ***тым*** *больш пільна агляд-валіся, асцярожней ішлі людзі* (І. Мележ).

( *чым* ), [*тым* ...].

Паводле сінтаксічнай функцыі даданыя параўнальныя часткі збліжаюцца з параўнальнымі зваротамі. Аднак яны істотна адрозніваюцца паміж сабой будовай: у параўнальных зваротах не можа быць выказніка або даданых членаў сказа з яго саставу.

**Даданая акалічнасная частка спосабу дзеяння** ў складаназалежным сказе паказвае, якім чынам, як ажыццяўляецца дзеянне, названае ў галоўнай частцы складаназалежнага сказа. Паміж галоўнай і даданай часткамі ў такіх сказах вызначаюцца **акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння.**

Даданая акалічнасная частка спосабу дзеяння паясняе выказнік галоўнай часткі або спалучэнне выказніка з указальным словам ***так***.

Даданая акалічнасная частка спосабу дзеяння адказвае на пытанні я к? я к і м ч ы н а м? і звязваецца з галоўнай пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ***як, як бы, што, каб, быццам***. Напрыклад:

*Будынiна* ***выглядала так*** (я к?), (*як бы*) *ў ёй хтосьці жыў* (К Чорны).

я к?

[-×-], ( *як бы* ...).

**Даданая акалічнасная частка меры і ступені** ў складаназалежным сказе можа выражаць меру або ступень праяўлення дзеяння ці прыметы, пра якія гаворыцца ў галоўнай частцы. Паміж галоўнай і даданай часткамі ў такіх сказах вызначаюцца **акалічнасныя адносіны меры і ступені.**

Даданая акалічнасная частка меры і ступені звычайна паясняе спалучэнне выказніка з указальнымі словамі ***так, стольki, настолькі, такі, гэтакі.***

Даданая акалічнасная частка меры і ступені адказвае на пытанні як? як многа? у якой ступені? і звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучнікаў ***што, як, нібы, быццам.*** Напрыклад:

*1.* ***Стараліся*** *хлопцы* ***так*** (як? у якой ступені?), *што* *аж пот капаў* (Я. Маўр).

як?
у якой ступені?

[-×-], (*што* ...).

*2. Ілюзія руху* ***была настолькі вялікая*** (у якой ступені?), *што* *ад хуткасці зацінала дыханне* (І. Мележ).

у якой ступені?

[-×-], (*што* ...).

**101.** Спішыце складаназалежныя сказы. Укажыце від даданых частак (у дужках). Пабудуйце гарызантальныя схемы сказаў.

1. Дрэвы так разрасліся, што проста просяць пэндзля мастака *(М. Лынькоў)*. 2. Гваздзічка белая рассыпана вакол, нібы махрыстыя сняжынкі ляглі на тонкія націнкі *(Я. Колас)*. 3. Неўзабаве ў хаце набралася гэтулькі народу, што не было дзе яблыку ўпасці *(І. Гурскі)*. 4. Тут Сымонка скрыпку выняў, чуць галоўку нахіліў і **зайграў** ды так прыўдала, як ніколі **не іграў** *(Я. Колас)*. 5. Навокал было ціха і **бязлюдна,** як бы тут ніхто не бываў *(П. Пестрак)*.

6. Як з Волгай зліваюцца рэкі, мы зліты з Расіяй навек *(А. Бялевіч)*. 7. Шапочуць бярозы ля студні, нібыта сакрэты дзявочыя адна адной перадаюць *(М. Танк)*. 8. Усё зацвіло, загаманіла, бы жыватворчая тут сіла ад сну прыроду абудзіла *(Я. Колас)*.

● Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

**102.** Складзіце складаназалежныя сказы і запішыце іх. Пазначце від дадзеных частак (у дужках).

1. Туман быў такі густы... 2. Птушка настолькі прывыкла да дзяцей... 3. Дождж пайшоў так нечакана... 4. Пеця так спалохаўся... 5. Пішыце так... 6. Мы будзем працаваць і жыць так... 7. Было да таго весела...

**103.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Укажыце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназалежных сказаў, пабудуйце іх схемы. Вызначце месца дададай часткі адносна галоўнай у гэтых сказах.

1. Про родимый край так, баян, сыграй, чтоб жилось и пелось от души *(О. Онофриев)*. 2. Старинные липы так сказочно высоки, что каждый человек, идя под ними, невольно чувствует себя маленьким *(А. Куприн)*. 3. Лисичек [грибов] было всё столько же, как будто мы, не двигаясь, смотрели на одно и то же место *(Б. Солоухин)*. 4. Из корзины пахло так, будто там не грибы, а растолчённый чеснок *(В. Солоухин)*. 5. Именно в этой посадке моя мать насобирала столько рыжиков, что отцу пришлось запрягать лошадь *(В. Солоухин)*. 6. Взгляд и улыбка у него были так приветливы, что сразу располагали в его пользу *(И. Гончаров)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**104.** Прачытайце інтэрв'ю з У. Караткевічам. Вызначце яго тэму.

Якімі па структуры сказамі карыстаецца карэспандэнт, якімі — У. Караткевіч? Вызначце тыпы сказаў па мэце выказвання.

*— У якім узросце Вы адчулі патрэбу пісаць? Што з'явілася стымулам для гэтага?*

— Вельмі рана. Чытаць пачаў у тры з паловай гады (можа, нават крыху раней, так што не помню, як вучыўся гэтаму). Вершы спачатку голасам гаварыў і напяваў, а пасля на паперы пісаў, — год з шасці. Пасля апавяданні спрабаваў пісаць і нават «міні-п'есы». Сам іх ілюстраваў. Стымул пісання? Сам не ведаю. Можа, процьма добрых кніг вакол і жаданне паспрабаваць і самому, няхай сабе і слабей. Можа, тое, што ў сям'і (і сваякі таксама) не брахалі, але фантазіраваць любілі і ўмелі, падтрымлівалі пахвалой добрую, вясёлую і вынаходлівую выдумку і ніколі з яе не смяяліся, хоць бы і зусім малы прыдумаў.

*— Якім Вы памятаеце сябе ў дзяцінстве? Што з уражанняў дзяцінства, на Вашу думку, найбольш спрыяла развіццю таленту? Якія творы народной творчасці найбольш падабаліся Вам? Кім Вы хацелі быць у дзяцінстве, у падлеткавым узросце? Любімыя гульні, заняткі? Любімыя ў дзяцінстве кнігі? Калі Вы пачалі цікавіцца гісторыяй наогул і гісторыяй Беларусі ў прыватнасці? Што ў з'явах прыроды найбольш цікавіла вас?*

— Што спрыяла? Зноў жа асяроддзе. Сваякі (і на суседзяў шанцавала) былі людзі спявучыя, вельмі музычныя, многія з добрымі галасамі, з апавядальным талентам (здзіўляюся, чаму не стаў прафесійным спеваком бацька, пісьменнікамі — дзядзькі, асабліва адзін). Усе з гумарам і схільнасцю да іроніі (у тым ліку да самаіроніі).

Ну і рос як усе. З іхняй бясконцай цікавасцю да ўсіх з'яў і праяў жыцця. З прынцыпам, які і зараз ува мне не выветрыўся: «гэта цікава: а значыць, я павінен гэта ведаць» (не датычыцца асабістых сакрэтаў людзей: гэтым у нас усе грэбавалі), «нехта ўмее — значыць, магу і я».

Нехта плавае, скача ў ваду, ловіць змей дзеля яду, баброў, умее лазіць па скалах — значыць, і я магу. І павінен гэта рабіць добра, бо дрэнна нешта рабіць сорамна.

Народныя творы падабаліся ўсе — ад лірычных да грубых.

Быць хацеў ледзь не ўсім на свеце (за выключэннем, можа, вучонага-матэматыка), і сапраўды многае ўмею.

Любіў, што і ўсе дзеці, падлеткі, юнакі, і што любіў, тое рабіў добра, а што не любіў — і кіем нельга было прымусіць рабіць гэта. Ніхто і не прымушаў. Фізічнае ўздзеянне ў нас выключалася. Хіба што шлепака аднаго гады ў рады дадуць.

*Т. Шамякіна*

Пісьмова адкажыце на пытанні, ужываючы складаныя сказы.

1. Якія здольнасці, маральныя якасці, асаблівасці паводзін заўважыў У. Караткевіч у сваіх бацькоў і сваякоў?
2. Якія правілы жыцця засвоіў У. Караткевіч у дзяцінстве?
3. Якія правілы жыцця даводзяць да вас вашы бацькі?

**105.** Падрыхтуйце вуснае паведамленне палемічнага характару на тэму «У жыцці трэба ўмець рабіць усё, але не ўсё рабіць», ужываючы складаназалежныя сказы.

## § 22. Сінтаксічны разбор складаназалежнага сказа

### Парадак разбору

1. Падкрэсліць граматычныя асновы, вызначыць граматычныя часткі складаназалежнага сказа і абазначыць іх лічбамі.
2. Вызначыць сродак сінтаксічнай сувязі паміж часткамі (падпарадкавальны злучнік або злучальнае слова).
3. Вызначыць, што паясняе даданая частка ў галоўнай (слова, словазлучэнне, усю галоўную частку).
4. Вызначыць сэнсавыя адносіны паміж граматычнымі часткамі.
5. Вызначыць від даданай часткі.
6. Пабудаваць схему сказа.
7. Растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку.
8. Разабраць як просты сказ кожную граматычную частку.

## Узор пісьмовага разбору

[1)] *Шум стаіць над лясістай дуброваю,* [2)] *быццам рада аб нечым ідзе...* (Я. Купала).

я к і?

[*шум*], ( *быццам* ...).

## Узор вуснага разбору

1. Складаназалежны сказ; складаецца з дзвюх граматычных частак: *шум стаіць над лясістай дуброваю* — галоўная частка, *быццам рада аб нечым ідзе* — дададная частка.

2. Граматычныя часткі звязваюцца падпарадкавальным злучнікам *быццам. Быццам* — падпарадкавальны злучнік, таму што гэта слова не можа быць заменена іншым словам з галоўнай часткі, не з'яўляецца членам сказа, яго можна апусціць.

3. Дададная частка *быццам рада аб нечым ідзе* паясняе слова *шум* у галоўнай частцы. *Шум* (я к і?) ... *быццам рада аб нечым ідзе.*

4. Паміж граматычнымі часткамі вызначаюцца азначальныя сэнсавыя адносіны.

5. Дададная частка азначальная.

6. Паміж галоўнай і дададнай часткамі перад падпарадкавальным злучнікам *быццам* ставіцца коска.

7. *Шум стаіць над лясістай дуброваю* — сказ просты, двухсастаўны, развіты, поўны, няўскладнены. (Ш т о?) *шум* — дзейнік, выражаны назоўнікам адз. л. у форме Н. скл.; *шум* (ш т о р о б і ц ь?) *стаіць* — просты выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. л., цяпер. ч., адз. л., 3-й ас.; *стаіць* (д з е?) *над дуброваю* — акалічнасць месца, выражана назоўнікам у форме Т. скл. з прыназоўнікам *над; над дуброваю* (я к о й?) *лясістай* — дапасаванае азначэнне, выражана прыметнікам.

(Дададную граматычную частку неабходна разабраць такім жа спосабам.)

**106.** Прачытайце сказы і зрабіце іх вусны сінтаксічны разбор.

1. Быў адзін з тых летніх дзён, якія бываюць, мусіць, толькі ў нас на Беларусі *(Я. Маўр)*. 2. Песня была такая, як некалі жнеі пелі вечарам *(М. Зарэцкі)*. 3. Тое, што хвалявала Якуба Коласа, хвалюе і нас *(У. Юрэвіч)*. 4. Сутнасць сатыры ў тым, каб выстаўляць на паказ, на смех адмоўныя з'явы жыцця *(К. Крапіва)*. 5. На досвітку мы выйшлі з кашамі ў халодны туманны паўзмрок лесу, каб наведаць ураджайны на грыбы дубнячок. 6. Дзе лес адступае, цягнуцца сенажаці з круглымі, як надзьмутыя шары, кустамі лазнякоў *(І. Навуменка)*. 7. Хачу тваё развеяць гора, як цемру ранняе святло *(П. Броўка)*. 8. Бацька ўсміхнуўся, як убачыў сына за работай *(П. Галавач)*. 9. Няхай стараецца, раз хоча чаго дасягнуць *(К. Чорны)*. 10. Нягледзячы на тое, што на дварэ ідзе дождж, Крушынскі збіраецца ехаць у горад *(З. Бядуля)*. 11. Хлопцы беглі так шпарка, нібы пад нагамі зямля гарэла *(Я. Маўр)*.

**107.** Спішыце, расстаўце знакі прыпынку, зрабіце пісьмовы сінтаксічны разбор сказаў.

1. Грыбнікі ўжо сядзелі каля лесніčоўкі сушылі вопратку і са смехам расказвалі як бацька вадзіў іх па ўсім абходзе *(І. Шамякін)*. 2. Яблыкі каб доўга не стаяць маці наважылася прадаваць танна *(І. Навуменка)*. 3. Як толькі Мікіта Патапавіч Ліпень вярнуўся з-пад Берліна ён першнаперш надумаўся пракласці дарогу на бор *(М. Парахневіч)*. 4. Чалавечыя вочы з думай пра шчасце... Ці можа забыць іх той хто меў шчасце іх бачыць? *(К. Кірэенка)*. 5. Нашто вылазіць з хаты раз дождж як з вядра *(С. Баранавых)*. 6. Юрка хлопчык ужо вялікі хай сабе замала год... *(Я. Купала)*. 7. Назад не прыйдзе хваля тая што з быстрай рэчкай уплывае *(Я. Колас)*. 8. Якая яда такая і хада *(Прыказка)*. 9. Жанчына была захутана так што нельга было разгледзець яе твар *(Я. Колас)*. 10. Над ракой ужо так светла што відаць паплавок *(А. Бялевіч)*. 11. Там куды яна збіралася ехаць ніхто яе не чакаў *(М. Калачынскі)*.

## § 23. Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі

У складзе складаназалежнага сказа могуць быць дзве і больш даданыя часткі. Такі сказ называецца **складаназалежным з некалькімі даданымі часткамі**. Напрыклад: *Дзед любіў балот разлогі, глуш лясоў, дзе ён узрос, дзе хадзілі яго ногі летнім часам і ў мароз* (Я. Колас). У гэтым сказе да галоўнай часткі *дзед любіў балот разлогі, глуш лясоў* адносяцца дзве даданыя часткі: *дзе ён узрос* і *дзе хадзілі яго ногі летнім часам і ў мароз*. Даданыя часткі звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучальнага слова ***дзе***.

Будову складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі часткамі можна паказаць з дапамогай гарызантальнай і вертыкальнай схем.

Г а р ы з а н т а л ь н а я   с х е м а




В е р т ы к а л ь н а я   с х е м а




Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі маюць дзве разнавіднасці: **сказы з сузалежным падпарадкаваннем** і **сказы з паслядоўным падпарадкаваннем.**

**Сузалежным** называецца падпарадкаванне, пры якім некалькі даданых частак паясняюць галоўную частку. Сузалежнае падпарадкаванне бывае двух відаў: **аднароднае** і **неаднароднае**.

Пры аднародным сузалежным падпарадкаванні дзве ці больш даданыя часткі аднаго віду паясняюць адно і тое ж слова ў галоўнай частцы, або аднародныя члены сказа галоўнай часткі, або ўсю галоўную частку.

Напрыклад: *1. Зямны паклон, падзяка і пашана ўсім, хто свежым хлебам корміць нас, хто кожны колас пестуе старанна, хто і арэ, і сее ў добры час* (С. Грахоўскі). *2. Я радуюся чорнай баразне, што трактар пралажыў на чыстым полі, і жаўруку, што гімн пяе вясне, што горычы не ведае ніколі* (С. Шушкевіч). *3. Чуваць, як б'е прыбой і залівае дзюны, як хвалі шумна рвуцца на прычал* (С. Шушкевіч).

Асаблівасці будовы такіх сказаў паказваюць схемы:




Пры неаднародным сузалежным падпарадкаванні даданыя часткі розных відаў паясняюць слова або розныя словы галоўнай часткі, якія не з'яўляюцца аднароднымі членамі.

Напрыклад: *1. Калі ўзышло сонца, мы заўважылі, што апынуліся ў зусім незнаёмых мясцінах* (Я. Маўр). *2. Я вярнуўся ў свой бор, што ад бур не палёг, каб набрацца ў ім сіл для новых дарог* (А. Куляшоў).

Асаблівасці будовы такіх сказаў паказваюць схемы:



**Паслядоўным** называецца падпарадкаванне, пры якім першая даданая частка паясняе галоўную, другая дададаная частка паясняе першую, трэцяя — другую і г. д.

Напрыклад: *Ты наводзіш там парадкі, каб усё было так, як было тады, калі мама адгэтуль паехала* (К. Чорны).

Схема гэтага сказа:




У адным складаназалежным сказе могуць спалучацца сузалежнае і паслядоўнае падпарадкаванне.

Напрыклад: *І чуць калі што вынікала, то бацька кідаў так, бывала, на хлопцаў позірк выразліва, што тыя ў лаву баязліва трохі са страху не ўпаўзалі, бо гэты погляд добра знālі* (Я. Колас).

Схема гэтага сказа:




Пры змешаным падпарадкаванні часткі звязваюцца адначасова і паслядоўнай, і сузалежнай сувяззю.

Напрыклад: *Рушылі ў дарогу ўжо тады, калі сонца схавалася за лесам і над балотамі леглі тонкія змрокі, якія з кожнай хвілінай усё гусцелі і гусцелі* (П. Пестрак).




**108.** Спішыце сказы. Пабудуйце іх схемы (вертыкальныя і гарызантальныя). Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі ў сказе з паслядоўным падпарадкаваннем. Абазначце сродкі сінтаксічнай сувязі частак (падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы).

1. Люблю мой край за тое, што ў ім часы другія, што згінула былое *(Я. Колас)*. 2. Кожнаму хацелася рабіць так, каб ад працы яго багацела радзіма, каб расла яна, красавала, радуючы[м] сэрца чалавека *(М. Лынькоў)*. 3. Мір нам патрэбен для таго, каб пераўтвараць аблічча зямлі, павялічваць яе плён і ўраджай, каб пабудаваць новыя светлыя гарады, каб пакарыць усе сілы прыроды чалавеку-тварцу *(Я. Колас)*. 4. Прыемна ехаць па старой, даўно вядомай дарозе і наглядаць, якія змены адбыліся на ёй за той доўгі час, калі ты яе не бачыў *(А. Чарнышэвіч)*. 5. Яна тлумачыла маці, чаму ў лесе пазней трымаецца[м] раса, чым у полі, чаму ў гэтым годзе павінна быць многа грыбоў *(К. Чорны)*.

**109.** Складзіце з простых сказаў складаназалежныя і запішыце іх. Выкарыстайце прапанаваныя ў дужках злучнікі і злучальныя словы.

1. Толькі сышоў снег. Трактары выехалі ў поле. Поле яшчэ курылася лёгкай парай. *(як, якое)* 2. Прыгрэла сонца. Пчолы пачалі вылятаць з вуллёў. Кветак яшчэ не бы-

ло. *(калі, хоць)* 3. Бягун выйшаў на фінішную прамую. Пачуліся дружныя апладысменты. Яны падбадзёрвалі пераможцу. *(калі, якія)* 4. Толькі прасохла зямля. Пачаліся палявыя работы. Да іх усё ўжо было падрыхтавана. *(як, да якіх)*

⊙ **110.** Складзіце сказы па наступных схемах і запішыце іх.




Вызначце, што паясняе даданая частка ў галоўнай — слова ці ўсю галоўную частку.

**111.** Прачытайце ўрывак з «Казак жыцця» Я. Коласа. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Выпішыце складаназалежны сказ з некалькімі даданымі часткамі, пабудуйце яго схемы (гарызантальную і вертыкальную) і вызначце від падпарадкавання.

У кожны момант і на кожнай мясцінцы адбываюцца найцікавейшыя рэчы і складаюцца самыя дзівосныя казкі,

падобныя іншы раз да праўды... Але скрыжалі зямлі, дзе запісваюцца казка-праўда і праўда-казка, такія разнастайныя і такія багатыя, што людзі вечна будуць іх чытаць і ўсяго не перачытаюць. І трэба вельмі ўважліва прыглядацца, каб і на самым малюсенькім куточку гэтых скрыжаляў расчытаць гісторыю аб вялікіх падзеях.

## § 24. Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі

Паміж часткамі ў складаназалежных сказах з паслядоўным, сузалежным і змешаным падпарадкаваннем с т а в і ц ц а к о с к а:

● перад падпарадкавальнымі злучнікамі і злучальнымі словамі. Напрыклад: *Пасля такіх спрэчак сябры адчулі, што іх сяброўства дало вялікую расколіну, што іхнія дарогі скіраваны ў розныя бакі...* (Я. Колас);

● калі сузалежныя аднародныя даданыя часткі звязваюцца паміж сабой супраціўнымі злучнікамі ***а, але***. Напрыклад: *Прыгожа тут было вясной і летам, калі квітнелі лясы, а лугі пакрываліся травой і духмянымі кветкамі* (А. Чарнышэвіч).

А л е коска н е с т а в і ц ц а, калі ў складаназалежным сказе сузалежныя аднародныя даданыя часткі звязваюцца паміж сабой адзіночнымі злучнікамі ***і, ды, ці, або, то***. Напрыклад: *Я бачыў не раз, як буруны ўставалі і з мора спяшаліся ў порт караблі* (М. Лужанін).

У складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі побач могуць аказацца падпарадкавальныя злучнікі. Як правіла, паміж імі с т а в і ц ц а к о с к а. Напрыклад: *Сосны навокал такія, што, калі зірнеш угору, шапка на галаве не трымаецца* (А. Чарнышэвіч).

**Звярніце ўвагу!**

Коска паміж падпарадкавальнымі злучнікамі не ставіцца тады, калі пасля даданай часткі стаіць другая частка парнага падпарадкавальнага злучніка ***то, дык***. Напрыклад: *Маці здавалася,* ***што калі*** *сын вярнуўся дадому,* ***то*** *ён абавязкова павінен працаваць у калгасе.* У гэтым сказе коска паміж злучнікамі ***што*** і ***калі*** адсутнічае, таму што пасля даданай часткі *калі сын вярнуўся дадому* стаіць ***то*** — другая частка парнага падпарадкавальнага злучніка *калі — то* (параўнайце: *Маці здавалася,* ***што, калі*** *сын вярнуўся дадому, ён абавязаны працаваць у калгасе).*

**112.** Спішыце сказы, расстаўце знакі прыпынку і растлумачце, чаму яны неабходны. Пабудуйце схемы сказаў, вызначце від падпарадкавання. Звярніце ўвагу на сказ, у якім у другой даданай частцы апушчаны падпарадкавальны злучнік ці злучальнае слова. Як можна растлумачыць гэту з'яву?

1. Калі вецер зносіў апошнія хмары і ў сінім небе з'яўлялася лагоднае сонца тады вальней дыхалася *(Э. Самуйлёнак).* 2. Незразумелае адчуванне блытала ўсе ўяўленні якія складваліся ў выніку пошукаў найлепшых архітэктурных дызайнерскіх рашэнняў што павінны ўпрыгожыць чалавечае жыццё *(І. Шамякін).* 3. Леанід злажыўшы рукі на жываце так як ён гэта рабіў калі выступаў на сходах хвіліну пазіраў на той лясок у якім схавалася сіненькая машына *(І. Мележ).* 4. Засмужац вышэй нацягнуў каўнер шыняля і калі расплюшчыў вочы убачыў што наперадзе між рэдкімі соснамі зашарэла *(І. Мележ).* 5. Мажэйка ўспомніў што на другі дзень пасля таго як вярнуўся з вайны ён стаяў на гэтым жа самым узгорку куды яго прывяла зарослая трыпутнікам палявая дарога знаёмая з дзяцінства *(У. Шахавец).* 6. Як толькі змаўкаюць за брамкай гудкі і ночка маўчыць за акном я зноўку выходжу глядзець на блакіт на зоры далёкія зноў *(А. Куляшоў).* 7. Чалавек пазіраў туды дзе калі гаварыць праўду ён пра-

жыў добрую палову свайго жыцця. *(К. Чорны)* 8. Кніга і толькі кніга змусіла Сцёпку на вуліцу выскачыць бо каб Аленка ішла без кнігі то ён ані зварухнуўся б *(Я. Колас)*.

**113.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, стыль, адрасата, мэту. У якой маўленчай сітуацыі можа быць выкарыстаны гэты тэкст? Спішыце, расстаўце знакі прыпынку.

На самым пачатку XX стагоддзя памёр адзін з выдатных сыноў беларускага народа паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч.

Гэта быў пясняр працоўных сялянскіх мас кожным словам сваім **заклікаўшы** прыгнечаныя і абяздоленыя масы беларускага народа на барацьбу за свае чалавечыя правы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Гэта быў пясняр якога выхавалі ідэі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі які вучыўся на лепшых узорах перадавой рускай літаратуры той літаратуры якая была заўсёды звязана з кроўнымі інтарэсамі народа якая змагалася за правы працоўнага чалавека за яго сацыяльную і чалавечую годнасць.

Францішак Багушэвіч па сваёй творчасці па яе ідэйна-мастацкай накіраванасці быў сапраўдным паэтам народа **выяўляўшым** яго лепшыя перадавыя імкненні думы і спадзяванні паэтычна **ўвасобіўшым** спрадвечныя мары працоўных людзей аб лепшай долі і шчасці.

Францішак Багушэвіч быў нацыянальным паэтам сваім мастацкім словам **будзіўшым** нацыянальную самасвядомасць народа **перадаўшым** усе асаблівасці яго жыцця яго змагання на пэўным гістарычным этапе усе асаблівасці яго побыту звычаяў традыцый і псіхічнага складу.

*Паводле М. Лынькова*

Пабудуйце схему складаназалежнага сказа з некалькімі дадатнымі часткамі.

Да якой часціны мовы належаць выдзеленыя словы? Вызначце іх марфалагічныя прыметы. Ці характэрна іх ужыванне ў беларускай мове? Перабудуйце сказы з гэтымі словамі ў складаназалежныя (вусна).

# § 25. Сінтаксічны разбор складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі часткамі

### Парадак разбору

1. Падкрэсліць граматычныя асновы, вызначыць граматычныя часткі і абазначыць іх лічбамі.
2. Вызначыць сродкі сінтаксічнай сувязі частак (падпарадкавальныя злучнікі, злучальныя словы).
3. Вызначыць, што паясняе кожная даданая частка ў галоўнай частцы (або у папярэдняй даданай) — слова, словазлучэнне, усю частку.
4. Вызначыць сэнсавыя адносіны паміж часткамі і від даданых частак.
5. Вызначыць від падпарадкавання даданых частак (сузалежнае аднароднае, сузалежнае неаднароднае, паслядоўнае, змешанае).
6. Пабудаваць схему сказа (вертыкальную або гарызантальную).
7. Растлумачыць знакі прыпынку.
8. Разабраць як просты сказ кожную граматычную частку.

### Узор пісьмовага разбору

1) *Чакаючы той хвіліны,* 2) *(калі) дзіця засне,* 1) *Усяслаў не пераставаў здзіўляцца,* 3) *(колькі) Любка ведае калыханак* (Г. Далідовіч).

В е р т ы к а л ь н а я   с х е м а   с к а з а




Г а р ы з а н т а л ь н а я   с х е м а   с к а з а



## Узор вуснага разбору

1. Складаназалежны сказ з некалькімі даданымі частками складаецца з трох граматычных частак: *чакаючы той хвіліны, Усяслаў не пераставаў здзіўляцца* — галоўная частка, *калі дзіця засне* — даданая частка; *колькі Любка ведае калыханак* — даданая частка.

2. Даданая частка *калі дзіця засне* звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучальнага слова *калі;* даданая частка *колькі Любка ведае калыханак* звязваецца з галоўнай часткай пры дапамозе злучальнага слова *колькі.*

3. Даданая частка *калі дзіця засне* паясняе ў галоўнай частцы словазлучэнне *той хвіліны* (я к о й?); даданая частка *колькі Любка ведае калыханак* паясняе выказнік галоўнай часткі: *не пераставаў здзіўляцца* (ч а м у?).

4. Паміж галоўнай часткай і даданай *калі дзіця засне* вызначаюцца азначальныя сэнсавыя адносіны, даданая частка — азначальная; паміж галоўнай часткай і даданай *колькі Любка ведае калыханак* вызначаюцца дапаўняльныя сэнсавыя адносіны, даданая частка — дапаўняльная.

5. Від падпарадкавання даданых частак — сузалежнае неаднароднае.

6. Даданая частка *калі дзіця засне* знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай часткі і выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў, коска ставіцца таксама перад злучальным словам *колькі.*

7. *Чакаючы той хвіліны, Усяслаў не пераставаў здзіўляцца* — сказ просты, двухсастаўны, развіты, поўны, з адасобленай акалічнасцю часу. (Х т о?) *Усяслаў* — дзейнік, выражаны ўласным назоўнікам у форме Н. скл.; *Усяслаў* (ш т о р а б і ў?) *не пераставаў здзіўляцца* — састаўны дзеяслоўны выказнік, выражаны дапаможным дзеясловам *не пераставаў* у форме абвеснага ладу, пр. ч., адз. л., м. р. і дзеясловам у неазначальнай форме *здзіўляцца*; *не пераставаў здзіўляцца* (к а л і?), *чакаючы той хвіліны* — адасобленая акалічнасць часу, выражаная дзеепрыслоўным зваротам.

(Такім жа спосабам выконваецца сінтаксічны разбор астатніх граматычных частак сказа.)

**114.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і зрабіце іх сінтаксічны разбор (вусны і пісьмовы).

1. Всего же полнее и интереснее жизнь тогда, когда человек борется с тем, что ему мешает жить *(М. Горький)*. 2. Всю осень, когда я приехал в Москву, чтобы поступить в университет, стояла тёплая и сухая погода *(Б. Васильев)*. 3. Он знал, что до сих пор его лучшая картина ещё не написана, и потому искренне удивлялся шуму, который всё чаще подымался вокруг его вещей *(К. Паустовский)*. 4. Когда хочешь назвать самую важную, главную черту горьковского могучего дара, горьковского гения, то видишь, что каждое проявление этого дара озарено одним и тем же особым внутренним светом *(К. Федин)*. 5. Не может быть хорошего прозаика, если человек не знает на память лучших наших поэтов, если он не слышит, как звучит слово, как чередуются в нём звуки *(А. Макаренко)*.

**115.** Спішыце тэкст. Вызначце яго стыль і тып маўлення.

Я шапчу Коласавы радкі і думаю, як проста, самымі звычайнымі словамі паэт адкрыў вясну, яе вечны дух адраджэння і абнаўлення[сл], з усімі колерамі, гукамі і пахамі, з халадком росных світанняў, з прадчуваннем першай навальніцы. З якім шчымлівым жалем сказана пра незваротную маладосць, пра страчаныя гады. Мне гэта яшчэ незразумела, бо яшчэ і маладосць не прыйшла, я толькі на парозе зялёнага юнацтва і, апрача гэтага наваколля[ф], нічога яшчэ не бачыў і веру, што нічога лепшага і прыгажэйшага быць не можа. Так хочацца пра ўсё, што бачу, адчуваю і люблю, расказаць самымі прыгожымі словамі, каб усе ўбачылі і адчулі ўсё, што хвалюе і радуе мяне.[сн] Спрабую, а патрэбнага, адзінага слова ніяк не знайсці: адчуваю і бачу адно, а на паперы выходзіць нейкае невыразнае мармытанне, расквечанае чужымі і штучнымі санцавеямі і веснаходамі. У тым, што нешта пішу, сорамна прызнацца нават самым блізкім, бо пісьменнік мне ўяўляецца незямною істотаю, адметнаю сваім святлом у самым вялікім натоўпе.[сн]

*С. Грахоўскі*

**116.** Выразна прачытайце тэкст, вызначце яго тэму і стыль, прыдумайце загаловак.

Выпішыце два складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі. Пабудуйце іх схемы.

Клён усё памятаў. Ён памятаў той далёкі-далёкі дзень, калі ў лес прыйшоў чалавек з рыдлёўкаю і, асцярожліва падкапаўшы кволыя карэньчыкі, панёс яго ў вёску, каб стаць яго першым гаспадаром.

Клён падымаўся ўжо вышэй за хату, калі аднойчы прачнуўся ад ляманту сваёй першай гаспадыні і ўбачыў, як нейкія людзі вывелі гаспадара на падворак, збілі з ног і доўга, з асалодаю білі яго ботамі, раз-пораз выгукваючы: «Бе-ла-рус! Пся крэў!» Яны забралі гаспадара з сабою, і клён больш не ўгледзеў яго на дарозе, якою людзі вярталіся з горада.

Яго цяперашні гаспадар быў тады белагаловым хлопчыкам, з якім ён дзяліўся ўвесну сваім салодкім сокам. Яны разам раслі. Яны разам бачылі, як аднаго дня паўз вёску, у той бок, куды ўвечар апускаецца сонца, ішлі танкі і як праз два гады адтуль паўзлі іншыя танкі з чорнымі павукамі на вежах. Клён памятаў, як гарэла вёска і ў начным чарноцці хаты цвілі велізарнымі і жудаснымі чырвонымі кветкамі.

Але найчасцей яму чамусьці прыгадваліся тыя дзіўныя патайныя ночы, у якія малады гаспадар пільнаваў сад у пастаўленым пры самым камлі будане і штоночы з цемры ўзнікала прыгожая, як рабінка, дзявочая постаць. Гаспадар браў дзяўчынку за рукі, яны сядалі поруч на шаматлівае сена, і клён узрушана і шчасна адчуваў сябе сведкам нейкай найвышэйшае таямніцы і, поўны нязвыклага хвалявання, баяўся нават шапацець лістотаю.

А пасля ў яго зялёнай засені падвешвалі ў летнія дні калыску: спярша са старэйшым, Алесем, а тады з малодшым, Віцем. Потым тыя навучыліся лазіць па ім, і клён неяк светла чуў цеплыню іхніх дзіцячых рук, слухаў іх галасы і гада́ў, каторы з малых стане яго трэцім гаспадаром.

Ён памятаў і дзень, як услед за старэйшым братам выправіўся ў вялікі свет і малодшы брат. І ён, клён, зразумеў, што трэцяга гаспадара ўжо не прычакае...

*У. Арлоў*

Перакажыце тэкст (вусна, падрабязна).

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Якія складаныя сказы называюцца складаназалежнымі?
2. Назавіце спосабы адрознення падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў.
3. Назавіце віды даданых частак у складаназалежным сказе.
4. Якія даданыя часткі называюцца дапаўняльнымі?
5. Якія даданыя часткі называюцца азначальнымі?
6. Якія даданыя часткі складаназалежнага сказа называюцца акалічнаснымі? Пералічыце віды акалічнасных даданых частак.
7. Раскажыце аб пастаноўцы знакаў прыпынку ў складаназалежным сказе. Прывядзіце прыклады.
8. Прывядзіце прыклады складаназалежных сказаў з некалькімі даданымі часткамі.
9. Як звязваюцца даданыя часткі з галоўнай пры сузалежным аднародным падпарадкаванні? Пры сузалежным неаднародным падпарадкаванні? Пры паслядоўным падпарадкаванні?
10. Раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназалежным сказе з некалькімі даданымі часткамі. Прывядзіце прыклады.

# БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 26. Паняцце пра бяззлучнікавы складаны сказ

**117.** Прачытайце ўрывак з верша П. Глебкі. Вызначце складаныя сказы, назавіце іх граматычныя часткі і сродкі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі.

За гаем сонца патухае,
З-за гор выходзіць маладзік.
Дзяўчына любая чакае
Мяне ў прысадах маладых.

Адзін выходжу на дарогу,
Буйное жыта ледзь шуміць,
Ды насцярожана і строга
З-за хмаркі месячык глядзіць.

Іржуць дзесь коні пры дарозе,
З жытоў дыміцца свежы пах,
Шумяць зялёныя бярозы,
Начной імглой сінее шлях.

**Бяззлучнікавы складаны сказ** — гэта сказ, у якім раўнапраўныя або нераўнапраўныя граматычныя часткі звязваюцца сэнсава і інтанацыйна, але без злучнікаў і злучальных слоў. Напрыклад: *1. Ясна свяціў поўны месяц, белай луской свяцілася кара бяроз, цьмяны матавы бляск ляжаў на высокіх мармуровых помніках* (А. Кудравец). *2. Людзі жывуць гуртам — паміраюць яны ў адзіночку* (А. Лойка).

Асноўным сродкам сувязі частак у бяззлучнікавым складаным сказе з'яўляецца інтанацыя, а таксама парадак слоў, трывальна-часавыя суадносіны выказнікаў. Сэнсавыя адносіны паміж часткамі такога сказа падобныя да сэнсавых адносін паміж часткамі або складаназлучанага сказа, або складаназалежнага. У залежнасці ад значэння, структуры, інтанацыі часткі бяззлучнікавых складаных сказаў падзяляюцца на аднатыпныя і разнатыпныя.

Бяззлучнікавы складаны сказ з **аднатыпнымі часткамі** ўяўляе сабой адзінства дзвюх або некалькіх раўназначных частак, якія звязваюцца пры дапамозе пералічальнай інтанацыі. Паміж такімі часткамі лёгка ўстаўляецца злучальны злучнік, і бяззлучнікавы складаны сказ ператвараецца ў складаназлучаны. Напрыклад: *1. Лес стаіць у суцэльнай зяляніне, ап'яняюча пахне маладая клейкая лістота бярозы і таполі* (В. Стома). (Параўн.: *Лес стаіць у суцэльнай зяляніне,* [*і*] *ап'яняюча пахне маладая клейкая лістота бярозы і таполі.*)

У бяззлучнікавых сказах з аднатыпнымі часткамі могуць выражацца ч а с а в ы я  а д н о с і н ы. Напрыклад: *Удзень капала са стрэх, паветра вільгатнела...* (Б. Сачанка). Сказ складаецца з дзвюх частак. У іх гаворыцца пра дзеянні, якія адбываюцца адначасова. Выказнікі ў граматычных частках выражаны дзеясловамі прошлага часу незакончанага трывання. У сказе *Зайшло сонейка за горы, на зямлю апалі росы, запаліла ночка зоры, месяц глянуў на пакосы...* гаворыцца пра дзеянні, якія адбываюцца паслядоўна адно за адным. Выказнікі ў граматычных частках выражаны дзеясловамі прошлага часу закончанага трывання.

Паміж аднатыпнымі часткамі бяззлучнікавага складанага сказа могуць выражацца с у п а с т а ў л я л ь н ы я  і  с у п р а ц ь п а с т а ў л я л ь н ы я  а д н о с і н ы. У сказах з супастаўляльнымі адносінамі паміж

часткамі паведамляецца пра некалькі падобных ці непадобных дзеянняў, з'яў, якія існуюць паралельна і не супрацьдзейнічаюць. Напрыклад: *1. Балота зверху ўмерзла, калматая ад травы дарога паўз лес скрозь абледзянела* (К. Чорны). *2. Уся прырода ажывае, цягнецца да святла, паветра напаўняецца непаўторнай духмянасцю пупышак і першых веснавых кветак* (В. Стома).

Супрацьпастаўляльныя адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага сказа ўзнікаюць тады, калі ў іх гаворыцца пра неадпаведныя, несумяшчальныя з'явы ці дзеянні або калі адно дзеянне сцвярджаецца, а другое — адмаўляецца. Напрыклад: *1. Міколка агледзеў вагон — няма дзеда* (М. Лынькоў). *2. То не струны звіняць галасістыя — зашумела жытцо каласістае* (М. Машара).

Бяззлучнікавы складаны сказ можа мець дзве і больш аднатыпныя часткі. Напрыклад: *1. Полымя ўспыхнула ярчэй, з трэскам пабег агонь па ламаччы* (І. Мележ). *2. Гулі дзве скрыпкі, пявуча вохкаў бас, мядзведзем раўла дуда, пяшчотна сапла жалейка, звонка ўдаралі цымбалы...* (У. Караткевіч).

Бяззлучнікавы складаны сказ з **разнатыпнымі часткамі** ўяўляе сабой адзінства нераўназначных або неаднародных частак, дзе адна частка ўдакладняе або паясняе другую, г. зн. часткі разнатыпныя ў сэнсавых адносінах. Паміж такімі часткамі можна ўставіць падпарадкавальны злучнік або злучальнае слова. У гэтым выпадку бяззлучнікавы сказ ператвараецца ў складаназалежны. Напрыклад, у сказе *Цеплынёй вясна дыхнула — засінелі кветкі* другая частка паказвае на вынік таго, пра што паведамляецца ў першай частцы. (Параўн.: *Як цеплынёй вясна дыхнула, то засінелі кветкі.*) У сказе *Умей памыліцца — умей і паправіцца* паміж часткамі выра-

жаюцца ўмоўныя адносіны. (Параўн.: *Калі* *ўмеў памыліцца,* *то* *ўмей і паправіцца.*)

У бяззлучнікавым сказе з разнатыпнымі часткамі часцей за ўсё можа быць дзве часткі. Напрыклад: *Маці крыжыкам вышывае — не адвесці ад рук вачэй* (А. Сыс).

Паміж разнатыпнымі часткамі выражаюцца прычынныя, умоўныя, дапаўняльныя адносіны.

Паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа ставяцца коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік.

**118.** Прачытайце тэкст, знайдзіце бяззлучнікавыя складаныя сказы і вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

Сёлетні май быў халодны[сн]. У канцы красавіка на збуялую* раннюю зелень пайшлі спачатку доўгія золкія дажджы, як увосень; захлюпала на полі ралля. Пасля, тыдні праз два, апагодзілася, завярнула вецер з поўначы, дыхнула сіверам, густым, калючым; па небе пагнала[с] нізкія рудыя рваныя хмары — ударыў зазімак. Чырвоная нітачка на градусніку пад падстрэшкам апусцілася ніжэй за нуль. Начы са дзве ці са тры ў лагчынах ля грэблі і ў аселіцах* ля ракі ляжаў іней, на двары ля хлява ўзялася грудай растоптаная гразь. Пахаваліся шпакі, не адзываліся жаваранкі. Не зляталі з гнязда бацяны, аціхлі на двары вераб'і, пахаваліся пад падстрэшкі, натапырыліся, як зімой; збіваліся ў кучу ля хлява куры, хавалі пад крылле дзюбы.

*І. Пташнікаў*

### Слоўнік

**Збуя́лы,** -ая, -ае. Які збуяў, пышна разросся (пра расліны).
**Асе́ліца,** -ы, *ж.* Наваколле паселішча.

**119.** Прачытайце сказы, вызначце іх тыпы. Выпішыце бяззлучнікавыя сказы, растлумачце, з якіх частак — аднатыпных ці разнатыпных — яны складаюцца.

1. Імчацца конніцы калоны, рыпяць марозна капыты, храпуць успуджаныя коні і падымаюць снежны пыл

*(П. Глебка).* 2. Сталыя і важныя буслы з незвычайнаю сур'ёзнасцю хадзілі па краях балота або лядалі да гнёздаў на старых хвоях і папраўлялі свае апушчаныя за зіму палацы *(Я. Колас).* 3. Вада дні і ночы гадамі падточвае жоўтыя пласты пяску, які абсоўваецца, здрадліва агольваючы[с] карэнне самых смелых соснаў, што густа выйшлі тут на край абрыву *(Я. Брыль).* 4. Я назбіраў[с] поўны кузавок, паставіў на пень, а сам пачаў ласавацца духмянымі ягадамі *(У. Мяжэвіч).* 5. На зялёную траву, упрыгожаную асобнымі познімі кветкамі, жоўтымі, белымі і чырвонымі, прыляцеў шэры жораў з пышным султанам чорнага хваста *(В. Вольскі).* 6. Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы, болей не мерзне душа ні адна, сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю абдаравала зямельку вясна[сн] *(Я. Купала).* 7. Мужык ваюе — зямля плача *(А. Кудравец).*

**120.** Прачытайце сказы, вызначце ў іх граматычныя асновы. Спачатку выпішыце простыя сказы з аднароднымі членамі, затым — бяззлучнікавыя складаныя сказы.

1. Канчаецца паляна, пачынаецца бярэзнік, куп'ё *(І. Пташнікаў).* 2. Вярнуліся з выраю ластаўкі, вілі ў застрэшках гнёзды, шчабяталі, радаваліся вясне, цяплу *(Б. Сачанка).* 3. Узлескі і паляны патанаюць у белых карунках легкакрылых рамонкаў і амежніку*, у бірузе лугавога льну і браткаў, у тонкім перазвоне ліловых званочкаў *(Р. Ігнаценка).* 4. Вось вецер найшоў на таполі і полымя збіў з верхавін, шарэла жытнёвае поле, дыхнула туманам з лагчын *(К. Кірэенка).* 5. Раптоўны буйны лівень прыбівае пясок, змывае са сцежкі сухую траву-сена і прывялыя спарышы-лісточкі дзяцеліны* *(І. Пташнікаў).* 6. Над палямі змрок прарваўся, па нізах расплыўся, лес туманам заснаваўся, луг расой абмыўся *(Я. Колас).* 7. Шумеў лес, шумела возера. Хісталіся, гнуліся і скрыпелі сосны *(В. Вольскі).* 8. Дождж ідзе прамяністы і дробны, пахнуць мятай мокрыя лугі *(П. Панчанка).* 9. Лёгкія пушынкі ляталі, кружыліся ў паветры і асядалі на дрэвы, на аголены куст бэзу ў нашым агародчыку пад акном *(І. Грамовіч).*

Падбярыце са сказаў словы з наступнай марфемнай будовай:



## Слоўнік

**Аме́жнік,** -у, *м.* Травяністая расліна сямейства парасонавых.
**Дзя́целіна,** -ы, *ж.* Дзікая канюшына.

**121.** Перабудуйце бяззлучнікавыя складаныя сказы ў простыя сказы (вусна). Ці заўсёды магчыма такая перабудова? Абгрунтуйце свой адказ.

1. Слава заўсёды быў дагледжаны, як лялька, белабрысыя валасы былі акуратна зачасаны, твар заўсёды чысценькі, умыты *(Р. Сабаленка)*. 2. Церусіў дробны асенні дожджык, далеч была заслана імглою, дзьмуў пранізлівы, халодны вецер *(Б. Сачанка)*. 3. Анатоль першы адчыніў дзверы і спыніўся ў нерашучасці: перад ім стаяла стройная чарнабровая жанчына і з ухмылкай глядзела на яго *(М. Ваданосаў)*. 4. На небе мігцелі вялікія колкія зоркі, марознае паветра дыхнула бадзёрасцю *(С. Грахоўскі)*. 5. Ідзе апошні рашучы наступ на векавыя балоты, узброеныя магутнымі машынамі людзі ператвараюць іх у пладаносныя, ураджайныя землі *(У. Краўчанка)*. 6. У паветры было па-зімоваму добра: бадзёры мароз, парывісты вецер *(І. Шамякін)*. 7. Расчыніліся дзверы, у аўтобус хлынула свежае, дрыготкае паветра з нейкім мяккім халодным пахам *(В. Адамчык)*.

**122.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, звярніце ўвагу на знакі прыпынку паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў.

### ГРОЗА

Однажды к вечеру собралась гроза, за Волгой небо обложилось чёрными тучами, на дворе парило, как в бане; по полю и по дороге кое-где вихрь крутил пыль.

Гроза приближалась величественно: издали доносился глухой раскат грома, пыль неслась столбом. Вдруг блеснула молния, и над деревней раздался резкий удар грома.

Дождь лил как из ведра, молния сверкала за молнией, гром ревел. Сумерки и тучи погрузили всё в глубокий мрак.

*По И. А. Гончарову*

**123.** Прачытайце бяззлучнікавыя складаныя сказы, вызначце сэнсавыя адносіны паміж граматычнымі часткамі. Перабудуйце гэтыя сказы ў складаназлучаныя, захоўваючы сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

Запішыце складаназлучаныя сказы, падкрэсліце сродкі сувязі частак.

У з о р   в ы к а н а н н я.

*Дзесьці праспявае жаўна, ёй адгукнецца дрозд, дробна застукае аб сухое дрэва дзяцел, рэзка зашамаціць у галлі разбуджаная сава.* (Часавыя адносіны паслядоўнасці.) *Дзесьці праспявае жаўна, і ёй адгукнецца дрозд, потым дробна застукае аб сухое дрэва дзяцел, затым рэзка зашамаціць у галлі разбуджаная сава.* (Спалучальныя адносіны паслядоўнасці.)

1. Лес пераходзіць у поле, лясная духмянасць змяняецца хлебнай *(Я. Брыль)*. 2. Ярка зоры гараць, песні ў клубе звіняць *(А. Русак)*. 3. Змяняюцца часы і падзеі, новыя пакаленні ідуць у бой за чалавечае шчасце *(Т. Хадкевіч)*. 4. Прыязджалі землякі, заглядалі знаёмыя, сходзіліся пісьменнікі, чыталі ўголас новыя творы, раіліся, абмяркоўвалі, спрачаліся... *(У. Калеснік)*. 5. З вялікіх асветленых акон грыміць радыё, праз белую павалоку фіранак відаць зеляніна вазонаў *(Я. Брыль)*.

**124.** Выразна прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, прыдумайце загаловак. Каму адрасаваны тэкст (аднаму чалавеку ці многім)? З якой мэтай напісаны твор (уздзеянне праз вобраз, выражэнне пачуццяў, паведамленне пра нейкую падзею)? Якую думку хацеў

данесці да чытачоў аўтар? Якія моўна-выяўленчыя (лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя) сродкі выкарыстаны аўтарам у тэксце?

Растлумачце знакі прыпынку ў складаных сказах.

Снег неўзабаве перастаў ісці, сціхнуў вецер. З-за хмар вызірнуў месяц, пасвятлеў лес. Ішлі яны доўга. Сеўка некалькі разоў спыняўся і знямогла ссоўваўся ў снег, але Шарык пачынаў брахаць, падбягаць, аблізваць цёплым языком твар свайго гаспадара і зноў, павізгваючы, тузаць павадок. Сеўка падымаўся са снегу і зноў брыў. Часта спатыкаўся, падаў, баяўся, каб не вырваўся з рукі сабака. Калошыны яго штаноў даўно вылезлі з валёнак, намоклі і задубянелі, закарэлі на марозе; расшпілілася на грудзях ватоўка*, але Сеўка ніяк не змёрз, яму было нават горача ад цяжкай хады.

Шарык сваім сэрцам, мабыць, адчуў бяду, у якую трапіў разам са сваім гаспадаром, ірваўся наперад, цягнуў на папружцы* Сеўку, часта спыняўся, тыкаўся носам у снег і пырхаў — баяўся збіцца са следу. Месяц то збягаў у хмары, то зноў выскокваў з іх, у лесе было ні светла, ні цёмна, трохі супакоіўся вецер. Цяпер Сеўку ўжо нічога не палохала, непакоіўся ён толькі пра адно: ці правільна вядзе Шарык? Можа, яны заблудзіліся ў завіруху, але яшчэ трохі прайшлі і выбраліся з лесу. Сеўка ўбачыў на палетку знаёмыя дубы, пад якімі ўвосень пасвіў кароў, і цяпер канчаткова пераканаўся, што хутка яны будуць дома. Ён ужо не нацягваў у руцэ папружку, ішоў побач з сабакам, ласкава размаўляў з ім, абяцаў добра і смачна накарміць Шарыка, калі яны прыйдуць дамоў.

Мінуў палетак, і яны ўбачылі агні ў вокнах хат. Сеўка зняў папружку з шыі сабакі, але той не пабег наперад — таксама стаміўся.

*Паводле М. Капыловіча*

### Слоўнік

**Вато́ўка,** -і, *ДМ* -тоўцы; *Р мн.* -товак; *ж.* Ватовая фастрыгаваная (прашытая рэдкімі шыўкамі) куртка.

**Папру́жка,** -і, *ДМ* -жцы; *Р мн.* -жак; *ж. Памянш. да* папруга (раменны пояс або наогул пояс).

## § 27. Коска і кропка з коскай у бяззлучнікавых складаных сказах

**125.** Прачытайце бяззлучнікавыя складаныя сказы, захоўваючы правільную інтанацыю пералічэння. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў.

1. Лета скончылася, настала восень, ночы пайшлі ядраныя, зорныя *(А. Кудравец)*. 2. Пачынала віднець, далёкім нетутэйшым святлом займаўся шырокі ўскраек неба, навокал сталі відаць кусты і травяністы дол пад нагамі *(В. Быкаў)*. 3. Рэчкі бурлівыя, учора санлівыя, сёння ўсталі, плывуць і бурляць; рыбкі шмыглівыя скачуць, купаюцца, к небу прыветна з вадзіцы глядзяць *(Я. Купала)*. 4. На ўсходзе бляск агністы літым золатам дрыжыць; слуп высокі, прамяністы роўным полымем гарыць *(Я. Колас)*.

**Коска** ставіцца паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, калі гэтыя часткі раўназначныя, аднатыпныя, у іх пералічваюцца падзеі, з'явы, што адбываюцца адначасова ці паслядоўна. Пры чытанні такіх сказаў выкарыстоўваецца інтанацыя пералічэння. Напрыклад: *1. Папалудні хмары ўсплылі, неба над вёскай зрабілася высокае, белае* (І. Пташнікаў). *2. Дзень жа быў пагодны, яркі, раптам выплылі дзве хмаркі, хмаркі выраслі ў хмару, свіснуў вецер, гром ударыў, па́лі дрэвы голлем ніцма, заіграла навальніца* (П. Глебка). *3. Цісну ў сухі, скрыпучы марозік, усюды ляжаў глыбокі роўны снег* (Б. Сачанка).

**Кропка з коскай** паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа ставіцца:

1) калі яны маюць ускладненую будову і свае знакі прыпынку. Напрыклад: *1. У карчах і валежніку пладзіліся гадзюкі, вужы, мядзянкі; у балацявінах і ямінах — карасі, уюны* (Б. Сачанка). *2. Пушчы паважныя, зімку праспаўшыя, радасна песні зайгралі свае; лісці зашасталі, птушкі зачыркалі, свішча салоўка, дзяцел клюе* (Я. Купала). *3. На возера вечар зялёны пад сонцам ідзе*

*залатым; таполі, і ліпы, і клёны ў парку шумяць маладым* (Я. Пушча);

2) калі сэнсавая сувязь паміж часткамі не надта цесная і часткі вызначаюцца адноснай самастойнасцю. Напрыклад: *1. Так і лета надыдзе; жыта забуяе, па лядах гар дымны пойдзе, зазвініць каса; песня пакоціцца па полі, даляціць сюды...* (М. Гарэцкі). *2. Апранаюцца ў зяленіну хмызнякі; зямля, атуленая цяплом, чакае блізкай навальніцы* (М. Лупсякоў). *3. Адспявала лета песні, усе сабрала каласы; пад сасонкамі на ўзлессі расцвітаюць верасы* (Я. Пушча).

**126.** Прачытайце сказы і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Даволі часта трапляюцца старыя асушальныя каналы; яны[ф] заплылі тванню і зараслі плывунамі *(І. Пташнікаў)*. 2. Дрыжаць у шэрані бярозы, бялеюць снежныя палі *(П. Глебка)*. 3. І вятрак далёкі ў ціхім полі пахавалі хвалі збажыны; крыламі махаючы паволі, над зямлёй павіслі каршуны *(А. Вялюгін)*. 4. Зазелянелі ячмені і аўсы, пусціла пшаніца шырокія парасткі, загусцеў лён *(Т. Хадкевіч)*. 5. Вясёлка над Дзвіной паднялася ўгору, колеры яе пабляклі і неўзабаве рассеяліся зусім *(Т. Хадкевіч)*. 6. Пад узгоркам блішчала круглае возера, яно рухалася і пералівалася, як жывое срэбра *(Я. Колас)*. 7. Зоры гараць панад возерам вольным, човен цалуе спакойную сінь, плаўна калышацца ўзмахам павольным, будзіць нямую, застыўшую плынь *(П. Трус)*. 8. Дзень выдаўся халодны, дажджлівы, вецер шкуматаў маладыя лісткі на бярозах, таполях, з неба сыпала імжа, плылі цёмныя хмары *(Л. Арабей)*.

Зрабіце вусна поўны сінтаксічны разбор 3-га і 4-га сказаў.

**127.** Спішыце прыказкі, расстаўляючы, дзе трэба, знакі прыпынку.

1. Птушку пазнаюць у палёце чалавека — па рабоце. 2. Быў бы хлеб мышы збягуцца. 3. Разумныя жарты пахвалы варты дурныя жарты плачу варты. 4. Рана загоіцца злое слова ніколі. 5. Скажы куме па сакрэту кума —

усяму свету. 6. Конь на чатырох нагах спатыкаецца чалавек адным языком памыліцца. 7. Сам сябе не хвалі няхай людзі пахваляць. 8. Скупы два разы плоціць лянівы два разы ходзіць. 9. Праца чалавека корміць лянота порціць. 10. Благі абразіць добры разважыць і парадзіць.

**128.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце, расстаўляючы знакі прыпынку.

Без конца без краю на тысячи километров протянулась сибирская великая тайга сплошными лесами покрыты Уральские горы от зелёных полей Белоруссии от украинских и поволжских чернозёмных степей раскинулись необхватные лесные просторы.

Светлы и высоки сосновые боры темны непролазны дремучие ельники веселы и кудрявы берёзовые рощи величественны и зелены дубравы!

Осенью и весною зимою и летом хорошо дышится в лесу. В голубое высокое небо возносятся бронзовые стволы сосен. Высокими колокольнями стоят стройные ели смолою багульником пахнет столетний бор под самыми облачками качаются его зелёные вершины.

Точно белые красавицы смотрятся в воду кудрявые берёзы. На освещённых солнцем душистых полянах высятся богатырские дубы. Каждым листочком трепещет робкая осина ярким осенним убранством красуется красавец клён.

*И. Соколов-Микитов*

**129.** Прачытайце казку, вызначце тэму, ідэю, падбярыце загаловак. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Каму адрасавана казка (дашкольнікам, вучням, дарослым)? З якой мэтай напісаны твор (уздзеянне праз вобразы, выражэнне пачуццяў)? Што хацела Цётка растлумачыць ці ў чым пераканаць слухачоў ці чытачоў?

Ішоў бедны мужычок цераз чыстае поле, убачыў зайчыка, надта ўсцешыўся і кажа: «Вось дзе мне Бог на шапку паслаў! Падкрадуся я да гэтага зайчыка, заб'ю яго, занясу ў мястэчка, прадам і за гэтыя грошы куплю свінку;

свінка апаросіцца, будзе дванаццаць парасятак. Парасяткі вырастуць і прывядуць зноў па дванаццаць парасятак; тады я іх усіх ускармлю, пакалю, свіран мяса налажу, мяса прадам і за грошы вось якую хату пабудую. Вось які буду багаты. Сам тады буду пажываць ды мядочку папіваць! Вось то будзе жыццё!» І так крыкнуў моцна, падкраўшыся да зайчыка, што зайчык прачнуўся і ўцёк...

*Паводле Цёткі*

**130.** Прачытайце, выпішыце бяззлучнікавыя складаныя сказы, часткі якіх раздзелены кропкай з коскай. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў выпісаных сказах. Устаўце прапушчаныя літары.

1. Вецц..м-прыгаршчамі клёны дажджавы.. кроплі лов..ць; як жаніх, стаіць зялёны, чыста вымыты ядлов..ц *(Я. Сіпакоў)*. 2. Неба тым часам зусім пац..мнела, заваклося ц..жкімі і змрочнымі хмарамі *(В. Вольскі)*. 3. Жнів..нь падышоў да сярэдзіны; раніцай на лагу ўжо выпадала густая з начы раса, халодная, аж калола ў ногі *(І. Пташнікаў)*. 4. На скрыжаванні дарог моцна, да дурману, пахлі ліпы, было горача ад высокага ліп..ньскага сонца, блакітнага неба і напал..нага асфальту *(І. Мележ)*. 5. Кругом быў снег, і ў паветры кружыліся дробн..нькія сн..жынкі-іголачкі, даставалі да твару, студзілі яго *(А. Кудравец)*. 6. На сц..не ходзікі н..ўтомна клююць цішыню, і паўзуць, адна адну абганяючы, стрэлкі *(Я. Скрыган)*. 7. Дні стаялі ўвесь час пагодныя, духменныя; неба сінела высокае, б..здоннае і чыстае, на ім толькі зрэдку ў недасяжнай вышыні зіхацелі белыя, як пух, воблачкі *(І. Мележ)*. 8. Паветра пахла канюшынай, жытам; прымешваўся водар гурковага цвету, медуніцы* і спелых кменаў* *(І. Пташнікаў)*.

### Слоўнік

**Медуні́ца**, -ы, *ж.* Травяністая расліна сямейства бурачнікавых з дробнымі пахучымі кветкамі.

**Кмен**, -у, *м.* Двух- або шматгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых з прамым, разгалінаваным уверсе сцяблом і белымі або ружовымі кветкамі.

**131.** Перабудуйце складаназлучаныя сказы ў бяззлучнікавыя. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Выразна прачытайце сказы.

1. Зялёныя кветкі павыбіваліся ўжо на свет скрозь сухое выцвіўшае лісце, і прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромха *(Я. Колас)*. 2. Шчодрае веснавое сонца сляпіла вочы багаццем святла, і росныя травы на лугах пад гэтым яркім святлом загараліся залатымі іскрамі *(У. Караткевіч)*. 3. У кастры патрэсквалі дровы, і шызы дымок падымаўся ў неба, раставаў *(А. Асіпенка)*. 4. Празрыстае ранішняе марыва плыло над ім [Дняпром], і ў гэтым марыве недзе далёка-далёка хаваўся ад нас край далягляду *(У. Краўчанка)*. 5. Ён [жаваранак] першы тут вітаў надыход дня, і песня расплывалася ў маўклівым паветры звонам тонкага дарагога металу... *(Я. Колас)*. 6. Паволі спускаецца ноч на зямлю на крылах бясшумных і чорных; і дзень аддае свой апошні салют запевам мінорнавячорным *(А. Звонак)*.

## § 28. Двукроп'е ў бяззлучнікавых складаных сказах

**132.** Прачытайце бяззлучнікавыя складаныя сказы і звярніце ўвагу на знакі прыпынку. У якіх сказах выражаюцца прычынныя сэнсавыя адносіны паміж часткамі, а ў якіх — удакладняльныя, дапаўняльныя?

1. Луг заліўся галасамі: да яго ва ўсе канцы выйшлі стройнымі радамі загарэлыя касцы *(П. Глебка)*. 2. Які сяголета шчаслівы і ўраджайны выпаў год: ва ўсіх садах агрэст і слівы, клубнікі повен агарод *(П. Глебка)*. 3. Вясне так хочацца прысесці на сакавітую траву: каштанаў факельнае шэсце ёй закружыла галаву *(П. Панчанка)*. 4. І дачакаўся: летам і зімою каля крыніцы па́параць цвіце *(С. Грахоўскі)*.

**Двукроп'е** паміж часткамі ў бяззлучнікавых складаных сказах ставіцца:

1) калі другая частка (ці некалькі частак) раскрывае прычыну таго, пра што гаворыцца ў першай частцы.

Паміж такімі часткамі можна ўставіць злучнікі ***таму што, бо***. Напрыклад: *А тут і спаткала абодвух ваяк вялікая ростань на некалькі год: у горад вілася дарога мая, у вёску імкнулася сцежка яго* (П. Глебка). (Параўн.: *А тут і спаткала абодвух ваяк вялікая ростань на некалькі год, бо ў горад вілася дарога мая, у вёску імкнулася сцежка яго.*);

2) калі другая частка (або некалькі частак) паясняе, раскрывае ці ўдакладняе першую частку. Пасля першай часткі можна ўставіць ***а іменна***. Напрыклад: *Звыклыя гукі напаўнялі лясныя гушчары: у галлі заварушылася сонная птаха, пíскнуў заяц, бязгучна мільгануў кажан* (М. Лынькоў). (Параўн.: *Звыклыя гукі напаўнялі лясныя гушчары, а іменна: у галлі заварушылася сонная птаха, піскнуў заяц, бязгучна мільгануў кажан.*);

3) калі другая частка дапаўняе першую, развіваючы дзеяслоў-выказнік. Паміж часткамі ў такіх выпадках можна ўставіць злучнікі ***як, што*** або словы ***і ўбачыў, што; і пачуў, што; і адчуў, што***. Напрыклад: *1. У тую ноч мне прыснілася: бязгучна скача дзікае паляванне караля Стаха* (У. Караткевіч). (Параўн.: *У тую ноч мне прыснілася, што бязгучна скача дзікае паляванне караля Стаха.*) *2. Азірнуўся: цягнік набліжаўся да маста цераз раку* (А. Кудравец). (Параўн.: *Азірнуўся і ўбачыў, што цягнік набліжаўся да нас цераз раку.*)

**133.** Прачытайце бяззлучнікавыя складаныя сказы і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Успомніліся кадры ваеннай хронікі: салдаты развітваюцца са сваёй гарматаю, цалуюць нагрэты майскім сонцам ствол *(Я. Сіпакоў)*. 2. У ціхім шолаху развіваліся сцягі, асветленыя сонцам, ярка блішчалі і звінелі медалі *(Я. Сіпакоў)*. 3. Мякка ляжаў чэрствы вечар у дварах каля хат, шапацела апалым, перасохлым лісцем цішыня пад платамі *(В. Адамчык)*. 4. Замерлі дрэў макушкі, не зварухнецца ліст; пявучай самай птушкі замоўк апошні свіст

*(П. Глебка)*. 5. Старожка* залілася вясёлым доўгім смехам: яе вельмі насмяшылі дзеці і іх страх перад настаўнікам *(Я. Колас)*. 6. Пара́ выгнанніку ў дарогу: чакаюць коні іваза́к *(С. Грахоўскі)*. 7. Таня нахілілася да акна і ўбачыла: «страказа» якраз узлятае над іхнім селішчам *(Я. Сіпакоў)*. 8. Засцілае стэпы хмарай пыл зялёны і густы: едзе пара ўслед за парай, топчуць травы капыты *(С. Грахоўскі)*. 9. Дуб не падуладны часу: ён не гніў у вадзе, яго не «браў» шашаль, не шкодзілі яму ні вецер, ні сонца *(Я. Пархута)*. 10. Грыбныя скончыліся ліўні, туманы нікнуць да трысця *(Е. Лось)*. 11. Праўду кажуць: воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць... *(У. Краўчанка)*.

### Слоўнік

**Старо́жка -і**, *ДМ* -жцы, *ж.* (разм.). Жанчына-сторож.

**134.** Назавіце сэнсавыя адносіны паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў. Спішыце сказы, расстаўце знакі прыпынку.

1. Гультаю ўсё некалі раніцай росна удзень млосна увечары камары кусаюць *(Прыказка)*. 2. І тут ён убачыў дзяўчына смяялася *(Т. Хадановіч)*. 3. Пад босымі нагамі шалахціць залатое лісце суха патрэскваюць сучкі на мяккай аўчыне імху кропелькамі крыві стракацяць кіслыя ягадкі бруснічніку *(Я. Брыль)*. 4. Ён не памыліўся на набярэжнай было бязлюдна адно вартаўнікі падмяталі панэль каля саду... *(У. Арлоў)*. 5. Праўду кажуць адна бяда не ходзіць *(Прыказка)*. 6. Быў ворагам прывычкі кожны дзень мяняў у кватэры абстаноўку *(Т. Хадановіч)*. 7. Ды і абставіны пасля многіх нягод складваліся спрыяльныя адступіла цяжкая хвароба усталяваўся побыт пачаўся прыліў сіл набірала вышыню творчасць *(В. Бечык)*. 8. Пачуццё перамогі не радавала палкоўніка не выканалі дзённага задання *(І. Мележ)*. 9. Ён не мог спаць стаяў пры акне ўпоцемку і глядзеў праз шыбу ў зорнае неба. *(К. Чорны)*. 10. Зірні́ палошчацца ў крынічаньках агнёвакрылая зара *(А. Звонак)*.

**135.** Перабудуйце складаназалежныя сказы ў бяззлучнікавыя. Пастаўце знакі прыпынку і растлумачце іх.

1. Размова была простая і шчырая, бо яна ішла ад сэрца *(Я. Колас)*. 2. Праўду сказаць, я і сам бачыў, што вершы ў мяне выходзяць нейкія не свае, нават мне самому чужыя *(Я. Скрыган)*. 3. Мяне адно суцешыць, што будзе радасць скрозь цвісці і пунсавець *(П. Трус)*. 4. Барвовае полымя шыбае ўверх роўна, бо ў густым бярэзніку не праймае вецер *(П. Пестрак)*. 5. Дзвіна, Дзвіна! Табой зачараваны, стаю і бачу, як вядуць чаўны ў доўгі шлях да сонечнага рання рукамі смелымі твае сыны *(А. Звонак)*. 6. Я чую, як пахне смаловае вецце, як стукае дзяцел па звонкай сасне *(С. Грахоўскі)*. 7. Я чую, як палае кроў ад іскры першай бліскавіцы... *(М. Танк)*. 8. Кажу я, што нямала пакутуе ў нас людзей з размагнічанай воляй *(Ю. Лявонны)*. 9. Вясёлы шпак трапеча крыльцамі, спявае шумлівую песню, бо вясна бае сваю чароўную, сонечную казку *(Я. Брыль)*. 10. Сумна на полі ў жніўні, бо ўбрана збажына, пажоўк бульбоўнік, пачарнела няскошаная грэчка *(Я. Брыль)*.

**136.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып маўлення, асноўную думку, прыдумайце загаловак. З якой мэтай створаны гэты тэкст і каму ён адрасуецца? Растлумачце знакі прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах.

Са старажытнасці людзі імкнуліся жыць як мага бліжэй да вады. Ва ўсе часы яна шмат значыла для чалавека — ратавала ад засухі, голаду. На рэках будаваліся млыны, узводзіліся плаціны для арашэння зямлі, перавозіліся самыя розныя грузы. Вада — наш пастаянны і надзейны духоўны лекар, яна дае сілы, бадзёрасць, здароўе. Хто будзе аспрэчваць, што плаванне загартоўвае і ўмацоўвае чалавека як ніякі іншы від спорту? А якое задавальненне атрымліваеш, седзячы за вёсламі на лодцы. Вось ужо дзе і экзотыка, і адпачынак, і спорт — усё разам.

Многім, пэўна, хочацца ведаць, чаму ў Беларусі людзі на рэдкасць чулыя, добрыя, спагадлівыя? Дык вось, паверце,

што найпершая ў гэтым заслуга нашых цудоўных рэчак і азёр... Дзе вы яшчэ сустрэнеце іх так многа і дзе яны яшчэ бываюць такія прыгожыя і вабныя, як у нас?

Магчыма, каму-небудзь здасца недарэчным параўноўваць нашы рэкі і азёры з людзьмі. А вы паспрабуйце. І ўбачыце, якое вялікае падабенства між імі. Як адны, так і другія спакойныя, разважлівыя, задуменныя і мудрыя. Думаеце, выпадкова? Зусім не. Чалавек усё жыццё вучыцца ў прыроды. Яна яго выхоўвае, натхняе і аберагае, хоча, каб ён быў адным цэлым з ёю. Можа, чалавек і сам таго не заўважае, але гэта так. Прырода — духоўны лекар чалавека. Ён і яна — вечныя ў адзінстве.

*П. Сабіна*

## ГЭТА ВАРТА ВЕДАЦЬ

Неалагізмы (ад грэч. *neos* — новы і *logos* — слова, паняцце) — словы або словазлучэнні, якія з'яўляюцца ў мове для называння новых прадметаў, з'яў ці для замены старых назваў прадметаў ці з'яў.

У беларускай мове сярод неалагізмаў больш ка́лек і паўка́лек, чым уласна беларусізмаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў савецкі час папаўненне слоўнікавага складу мовы адбывалася ў працэсе цеснага ўзаемадзеяння з блізкароднаснымі мовамі, у першую чаргу з рускай. Вось некаторыя з такіх шматлікіх былых неалагізмаў: *звышгукавы* (сверхзвуковой), *узбуйненне* (укрупнение), *суіснаваць* (сосуществовать), *звышдзяржава* (сверхгосударство), *іншапланецянін* (инопланетянин).

Неалагізмы могуць узнікаць і ў выніку запазычвання. Не так даўно да нас прыйшлі словы *біятлон, дызайн, дэльтаплан, мотабол, хобі* і інш., якія ў наш час ужо перасталі быць неалагізмамі. Сярод сучасных запазычаных неалагізмаў — *трыятлон* (від спорту), *кансэнсус, спонсар, менеджар, брыфінг, тэлефакс.*

*Паводле М. Кавалёвай*

**137.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову і запішыце. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў складаных сказах.

### КВАДРАТУРА КРУГА

Природа движется по кругу. Искусство — по прямой линии. Всё натуральное округлено, всё искусственное угловато. Человек, заблудившийся в метель, сам того не со-

знавая, описывает круги; ноги горожанина, приученные к прямоугольным комнатам и площадям, уводят его по прямой линии прочь от него самого.

Круглые глаза ребёнка служат типичным примером невинности; прищуренные, суженные до прямой линии глаза кокетки свидетельствуют о вторжении Искусства. Прямая линия рта говорит о хитрости и лукавстве; и кто же не читал самых вдохновенных лирических излияний природы на губах, округлившихся для невинного поцелуя?

Красота — это Природа, достигшая совершенства, округлённость — это её главный атрибут. Возьмите, например, полную луну, купола храмов, круглый пирог с черникой, обручальное кольцо, арену цирка... С другой стороны, прямая линия свидетельствует об отклонении от Природы.

Когда мы начинаем двигаться по прямой линии и огибать острые углы, наша натура терпит изменения. Таким образом Природа, более гибкая, чем Искусство, приспособляется к его более жёстким канонам. Нередко получается весьма курьёзное явление, например: голубая роза, древесный спирт...

Природные свойства быстрее всего утрачиваются в большом городе. Причину этого надо искать не в этике, а в геометрии. Прямые линии улиц и зданий, прямолинейность законов и обычаев, тротуары, никогда не отклоняющиеся от прямой линии, строгие, жёсткие правила, не допускающие компромисса ни в чём, даже в отдыхе и развлечениях, — всё это бросает холодный вызов кривой линии Природы.

Поэтому можно сказать, что большой город разрешил задачу о квадратуре круга.

*О'Генри*

## § 29. Працяжнік у бяззлучнікавых складаных сказах

**138.** Прачытайце прыказкі з патрэбнай інтанацыяй. Аднатыпныя ці разнатыпныя часткі ўваходзяць у склад бяззлучнікавых сказаў? Якія з гэтых бяззлучнікавых сказаў пры падстаноўцы злучнікаў падобны на складаназлучаныя, а якія — на складаназалежныя?

1. Адзін раз зманіш — другі раз не паверацъ. 2. Гультай за работу — мазоль за руку. 3. Паважай іншых —

будуць і цябе паважаць. 4. Лес сякуць — трэскі ляцяць. 5. Будзе зямлі ласка — будзе хлеб і каўбаска. 6. Нож тупы — гаспадар скупы. 7. Гусі нізка — зіма блізка. 8. Госць на парог — гаспадыня за пірог. 9. Студзень мяце — ліпень залье. 10. Зіма снежная — лета дажджлівае. 11. Ліха перамелецца — дабро наступіць. 12. Зла не кліч — яно само прыйдзе. 13. Розум будзе — прыйдзе шчасце.

**Працяжнік** паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа с т а в і ц ц а:

1) калі змест адной часткі супрацьпастаўляецца другой; паміж гэтымі часткамі можна ўставіць супраціўны злучнік ***а*** ці ***але***. Напрыклад: *Паміраць збірайся — жыта сей* (Прыказка). (Параўн.: *Паміраць збірайся, а жыта сей*.);

2) калі першая частка паказвае на ўмову або час таго, пра што гаворыцца ў другой частцы. У пачатку першай часткі можна паставіць злучнік ***калі,*** і сказ будзе нагадваць складаназалежны з дадатнай часткай умовы або часу. Напрыклад: *1. Не хочаш з маладосці працаваць — будзеш на старасці з торбаю скакаць* (Прыказка). *2. Хмарка дожджыкам-слязою спадзе — ажывіцца ралля* (Я. Колас). (Параўн.: *1. Калі не хочаш з маладосці працаваць, то будзеш на старасці з торбаю скакаць. 2. Калі хмарка дожджыкам-слязою спадзе, то ажывіцца ралля*.);

3) калі часткі паказваюць на хуткую змену падзей або другая частка паказвае на вынік. На месцы працяжніка можна ўставіць злучнікі ***і, аж***. Напрыклад: *1. Прайдзі берагам паўз рэчку — здзівяцца, а то і хораша збянтэжаць цябе сваім звонам і спевамі крыніцы і крынічкі* (Ф. Янкоўскі). *2. Выйдзе на ганак ды як зазвоніць — усе бягом у школу* (А. Кулакоўскі);

4) калі другая або апошняя частка абагульняе папярэднія. Напрыклад: *Яму [Астапу] было шкада і ціхага лесу, і сонечнай сялібы, і прытульнай рачулкі —*

*на ўсё гэта, відаць, замахваліся гэтыя чужыя людзі* (М. Лынькоў).

Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа, у якой ставіцца працяжнік, чытаецца з павышанай інтанацыяй, затым робіцца доўгая паўза (як на месцы кропкі), і другая частка чытаецца з паніжэннем голасу.

**139.** Прачытайце сказы з патрэбнай інтанацыяй у адпаведнасці з сэнсам і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Не плюй у крыніцу: прыйдзеш па вадзіцу *(Прыказка).* 2. Прабягала хваля — выпрамлялася жыта, колер яго адразу зменьваўся, набываў натуральныя вясёлыя летнія фарбы *(І. Шамякін).* 3. Лес адшумеў, расступіўся[сл]: перада мною бясконцы ясны прастор *(Я. Скрыган).* 4. Я ведаю: кастру майму ніколі не згаснуць на зямлі шчаслівай *(С. Панізнік).* 5. Там, каля хлява, стаяла некалькі вішанек; пад вішнямі была густая аксамітная траўка, цень, прахалода *(І. Мележ).* 6. Дай сну волю — праспіш шчасце, долю *(Прыказка).* 7. Час не конь: не падгоніш, не прыпыніш *(Прыказка).* 8. Заспявае жаўрук — вясна адгукаецца ў сэрцы гулам[сн] *(В. Ададурава).* 9. А ўсё ж вінаваты і я: суладдзе ў прыродзе парушана *(Ю. Свірка).* 10. Глядзіць у вокны зімні вечар, кладзецца змрок на цесны двор, мароз-мастак рукой старэчай на шыбах піша свой узор *(Я. Колас).*

● Знайдзіце ў словах з 3-га сказа прыстаўкі, растлумачце іх правапіс, параўнайце з прыстаўкамі ў рускай мове.

**140.** Спішыце бяззлучнікавыя складаныя сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Якія з гэтых сказаў можна перабудаваць ў простыя сказы, а якія — нельга? Абгрунтуйце свой адказ.

1. А вуха да гонкай* сасонкі прытуліш яна адгукнецца затоеным стогнам[сн] *(П. Панчанка).* 2. Ззяе месяц срэбнарогі ткуцца снежныя лагчыны *(Л. Дайнека).* 3. Зірнеш на косы ільняныя адвага траціцца твая... *(С. Гаўрусёў).* 4. Хацелася спаць пасля паўночы заўсёды вельмі хіліць

на сон... *(І. Мележ).* 5. Засвісталі салоўкі ў гаях закаханым не спаць да ранку[сн] *(В. Ададурава).* 6. Пасля парнага цяпла кухні бралі дрыжыкі пад кароткі кажух поўз холад студзіў калені *(В. Адамчык).* 7. Млын меле мука будзе язык меле бяда будзе *(Прыказка).* 8. Алена каторы раз абвяла позіркам неба над галавой нізка варушыліся важкія хмары *(І. Мележ).* 9. Кудлатая хмара над Мінскам навісла счарнела ў змроку асенняя Свіслач *(С. Панізнік).* 10. Мы ведалі вайне-грабежніцы не пакасіць нас не пажаць *(П. Панчанка).* 11. Світанак плыве сінявокі агні ён ліхтарныя тушыць *(І. Калеснік).*

● Назавіце ўсе часціны мовы, да якіх адносяцца словы з 10-га сказа.

### *Слоўнік*

**Го́нкі.** Высокі і роўны (пра дрэвы).

⊙ **141.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс. Выпішыце спачатку прыказкі са структурай простага сказа, затым — са структурай складаназлучанага сказа, потым — складаназалежнага сказа і, нарэшце, прыказкі са структурай бяззлучнікавага складанага сказа.

1. Катку жарты — мышцы смерць. 2. На тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў. 3. На воўка памоўка, а мядзведзь цішком. 4. На адным месцы і камень абрастае. 5. Лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. 6. Лепш з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці. 7. Кожны кулік сваё балота хваліць. 8. Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду. 9. Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць. 10. Еш пірог з грыбамі, а язык трымай за зубамі. 11. Добраму чалавеку добра і ў запечку, а благой благаце дрэнна і на куце. 12. Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка. 13. За вялікім пагонішся — і малое згубіш. 14. Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі. 15. Гром не грымне, мужык не перахрысціцца. 16. Не шукай бяды, яна цябе знойдзе. 17. Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць. 18. Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

**142.** Спішыце тэкст, расстаўце знакі прыпынку. Вызначце стыль тэксту.

### СУСТРЭЧА ЯКУБА КОЛАСА З ВІТОЛЬДАМ БЯЛЫНІЦКІМ-БІРУЛЕМ

Быў канец мая вясна губляла свае блакітныя салатна-срабрыстыя ружова-жаўтлявыя таны паветра нагрэлася і загусцела сонечнае святло страчвала далікатнасць лагоду. Вясна пераходзіла ў лета сонца смаліла дажджоў не было. Спадзяванні на тое што маладая рунь дасць збавенне ад нястачы і голаду неўзабаве прынясе на стол хлеб рабіліся няпэўнымі. Патрэбны быў дождж. Колеры жыцця гаслі.

У адзін з гэтакіх дзён Вітольд Бялыніцкі-Біруля сабраўся ў госці да Якуба Коласа. Жаданне гэтае было з першых дзён прыезду ў Мінск было і запрашэнне паэта. Нарэшце адклаўшы работу сеў у машыну пасадзіў побач жонку сяброў якія жылі з ім на Белай дачы і прыехалі да Коласа.

Канстанцін Міхайлавіч сустрэў гасцей ля дома. Вітаючыся ён пазіраў на неба. Там збіраліся хмары і Колас вельмі перажываў ці будзе дождж.

Селі за стол на тэрасе. Размова пайшла весялейшая.

Неба ўжо зацягнулі хмары пачаў пакрапваць дожджык. Якуб Колас усхапіўся з-за стала выйшаў у сад і падняўшы галаву падстаўляючы твар небу лавіў тварам нябесныя кроплі.

Дождж пайшоў дружней залапацеў у кроне дрэў.

Колас вярнуўся за стол павесялелы гаваркі і ўжо ўвесь вечар прыслухоўваючыся да дажджу углядаючыся ў неба паўтараў пра што б ні ішла гаворка Будзе дождж будзе і хлеб і ўсё будзе добра.

Гэта была незабыўная паездка да незабыўнага чалавека.

*Паводле В. Карамазава*

⊙ **143.** Прыдумайце бяззлучнікавыя складаныя сказы па прапанаваных схемах:

1. [ ] : [прычына].
2. [час] — [ ].

3. [ ] : [дапаўняе 1-ю частку].
4. [ ] — [супрацьпастаўленне].
5. [ ]; [ ].
6. [умова] — [ ].

**144.** Перабудуйце, калі магчыма, бяззлучнікавыя складаныя сказы ў складаназалежныя. Звярніце ўвагу на сэнсавыя адносіны паміж часткамі атрыманых сказаў.

1. Усе замоўклі — нейкі час трывала гняткая, сумная цішыня *(Б. Сачанка)*. 2. Усё гісторыя ацэніць: яна, як строгае журы, прызнае жарт паноў няўдалым і ўсхваліць нечуваны план *(М. Кусянкоў)*. 3. За гутаркаю пасыпаліся песні; запявалам вызваўся Хлор, завёўшы вясельную песню *(Ц. Гартны)*. 4. Уздыхнуўшы, успамянеш: лета — пекная пара *(А. Гурло)*. 5. Здавалася: напоўніў далі чароўнай музыкай Бах *(М. Смагаровіч)*. 6. Май укрыў белым кіпенем сады, п'яніў саладкаватым водарам вільготны ад расы бэз *(С. Грахоўскі)*. 7. Ранак луг расой купае — дзень гарачы будзе *(А. Бялевіч)*.

**145.** Вусна перакладзіце тэкст на беларускую мову, вызначце яго тэму. Запішыце бяззлучнікавыя складаныя сказы ў перакладзе на беларускую мову і растлумачце знакі прыпынку.

## ИЗ ИСТОРИИ ЧАСОВ

Школьники Древней Греции не боялись опоздать на несколько минут к началу урока: ведь солнечные часы очень приблизительно показывали время.

Позднее появились водяные часы: они представляли собой сосуд, наполненный водой. Тонкая струйка выливалась через маленькое отверстие, уровень воды медленно опускался, на боковой стенке были нанесены один за другим горизонтальные штрихи, заменявшие циферблат.

Часы были очень громоздкие и неточные, такой прибор нельзя было брать с собой в путешествие.

Первые удобные часы сделал голландский математик, инженер и часовой мастер Гюйгенс в XVII веке: для от-

счёта времени он использовал качание маятника. Современники в знак благодарности установили маятниковые часы на могиле Гюйгенса.

Вскоре были изобретены и пружинные часы, появилась возможность отсчитывать секунды.

Сегодня промышленность выпускает часы для самых разнообразных целей. Учёные, например, пользуются приборами, которые могут отсчитывать миллиардные доли секунды.

*А. Борисов*

**146.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тэму і асноўную думку, дайце яму загаловак. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах.

Своеасабліва выхоўваюць японцы дзяцей. Безумоўна, выхаванне рознае для хлопчыкаў і дзяўчынак. Хлопчыкам да школы дазваляецца рабіць літаральна ўсё: іх нельга біць, на іх нельга крычаць, ім не забараняюць праяўляць выключную актыўнасць. Але як толькі дзіця пайшло ў школу, пачынаецца выхаванне паводле Канфуцыя*. Дзецям настойліва прывіваюць цярплівасць, працавітасць, законапаслухмянасць, патрыятызм.

Ёсць у Японіі свята хлопчыкаў: у пяты дзень пятага месяца паводле грыгарыянскага календара (значыць, 5 мая) над дамамі, дзе ёсць хлопчыкі, вешаюць сцягі ў выглядзе рыбы — карпа. Карп — сімвал маленькага японца. Лічыцца, што гэта надзвычай прыстасаваная да жыцця і стойкая рыба, якая можа плыць супраць цячэння. Хлопчыкі павінны гэтак жа смела ісці насустрач жыццю. Ім даводзіцца перш за ўсё многа вучыцца. Ніхто ў свеце, відаць, не перагружаны так, як японскі школьнік ці студэнт. Але гэтага вымагае жорсткая канкурэнцыя.

Дзяўчынак з ранняга ўзросту выхоўваюць як будучых жонак і маці, хоць сёння большасць японак маюць вышэйшую адукацыю і даволі позна ўступаюць у шлюб — у сярэднім у 25 гадоў (мужчыны — у 28 гадоў). Свята дзяўчынак адзначаецца на трэці дзень трэцяга месяца (3 сакавіка). З раніцы дзяўчатак апранаюць у нацыянальнае адзенне — кімано — і вядуць у храмы. Дома ж (на тэрасах

або на вокнах) наладжваюць выставы лялек і ўсёй лялечнай гаспадаркі — дамкоў, адзення. Дарэчы, прынцып матрошкі, якую прынята лічыць рускай цацкай, быў запазычаны напрыканцы XIX ст. у Японіі.

*Паводле Т. Шамякінай*

### Слоўнік

**Канфу́цый** (551—479 гг. да н. э.) — старажытны кітайскі мысліцель.

**147.** Падрыхтуйце выступленне перад класам на тэму: «Знакі прыпынку паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа».

План

1. Зварот да класа.
2. Паведамленне мэты выступлення.
3. Выпадкі, калі паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа ставяцца коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік.
4. Падвядзенне вынікаў.
5. Пытанні да класа.

## § 30. Сінтаксічны разбор бяззлучнікавага складанага сказа

### Парадак разбору

1. Падкрэсліць граматычныя асновы, вызначыць граматычныя часткі складанага сказа і абазначыць іх лічбамі.
2. Назваць спосаб сувязі паміж граматычнымі часткамі.
3. Вызначыць сэнсавыя адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа (аднатыпныя часткі сказа: часавыя адносіны, супастаўляльныя, супрацьпастаўляльныя; разнатыпныя часткі сказа: прычынныя, выніковыя, умоўныя адносіны).
4. Пабудаваць схему сказа.
5. Растлумачыць знакі прыпынку паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа.
6. Разабраць як просты сказ кожную граматычную частку.

### Узор пісьмовага разбору

[1)]*Жаўрук дробна званочкамі звоніць,* [2)]*у дуброве зязюля кукуе,* [3)]*шпак у садзе аб нечым гамоніць,* [4)]*белы бусел па небе плыве* (С. Новік-Пяюн).

[ ], [ ], [ ], [ ].

### Узор вуснага разбору

1. Бяззлучнікавы складаны сказ; складаецца з чатырох граматычных частак. *Жаўрук дробна званочкамі звоніць* — першая частка; *у дуброве зязюля кукуе* — другая частка; *шпак у садзе аб нечым гамоніць* — трэцяя частка; *белы бусел па небе плыве* — чацвёртая частка.

2. Граматычныя часткі звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю; сродак сувязі — інтанацыя.

3. Граматычныя часткі сказа аднатыпныя; паміж імі вызначаюцца часавыя сэнсавыя адносіны.

4. Паміж граматычнымі часткамі ставяцца коскі, таму што ў сказе гаворыцца пра дзеянні, якія адбываюцца адначасова, і пры чытанні сказа выкарыстоўваецца інтанацыя пералічэння.

5. Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа нагадвае просты сказ, двухсастаўны, развіты, поўны. (Х т о?) *жаўрук* — дзейнік, выражаны назоўнікам у Н. скл., адз. л.; *жаўрук* (ш т о  р о б і ц ь?) *звоніць* — просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу, цяпер. ч., 3-й ас., адз. л.; *звоніць* (я к?) *дробна* — акалічнасць спосабу дзеяння, выражана прыслоўем; *звоніць* (ч ы м?) *званочкамі* — ускоснае дапаўненне, выражана назоўнікам у Т. скл., мн. л.

(Такім жа чынам выконваецца сінтаксічны разбор іншых частак бяззлучнікавага складанага сказа.)

**148.** Зрабіце сінтаксічны разбор бяззлучнікавых складаных сказаў (пісьмовы і вусны).

1. Капа́юць капытамі снег у пошуках леташняй травы алені і казулі, ціснуцца да жылля чалавека сінічкі і снегіры *(В. Стома).* 2. Спачатку работа была пякельная, ша-

лёная: бетонны завод ставіў рэкорд *(А. Кузняцоў)*. 3. Усё часцей чуецца ў лесе звонкая песня сініцы — першая вестка надыходзячай вясны *(В. Стома)*. 4. Едучы назад, Кулеш прытармазіў ля жанчыны: сумку яна несла цяжкую *(А. Жук)*. 5. Агорнуты прастор світаннем сінім, у туманным моры плаваюць кусты *(П. Панчанка)*. 6. Прачнуўся[сл] і вылез з глыбокай нары барсук, выбраўся з бярлогі мядзведзь, ажылі краты і землярыйкі *(В. Стома)*. 7. За полем падымаецца маладзенькі беразнячок; за яго зялёнай каймой выступае старэйшы гонкі бярэзнік уперамешку з вольхай і асінаю *(І. Пташнікаў)*. 8. Гэта быў чалавек вышэй сярэдняга росту, гады не высушылі і не сагнулі яго дзябёлую постаць, трымаўся ён проста і хадзіў яшчэ шпарка і ўпэўнена *(І. Шамякін)*.

● Прачытайце словы *снег, снегіры, песня, святая, радасць, вераснем, світанне, бярэзнік, спелых* і вызначце, якія гукі абазначаюцца падкрэсленымі літарамі і чаму?

● З апошніх двух сказаў выпішыце назоўнікі і вызначце іх скланенне.

**149.** Прачытайце тэкст і зрабіце падрабязны пісьмовы пераказ, ужываючы складаныя сказы.

## УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Шлях нашага народа пазначаны не толькі славутымі падзеямі, але і славутымі асобамі, якія ў тым ці іншым перыядзе гісторыі станавіліся яго сімваламі. Адным з такіх сімвалаў, чалавекам-паданнем стаў Усяслаў Чарадзей.

Усяслаў быў адным з першых князёў, пры якім Полацкая зямля заявіла пра сябе як самастойная дзяржава. Ён адчуваў перспектыўнасць і гістарычную неабходнасць малых незалежных дзяржаў. Пры Усяславе высокага росквіту дасягнулі мастацтва, адукацыя, дойлідства. Хрысціянская вера пачала паступова ўваходзіць у побыт народа: пашыраліся гарады, з'яўляліся новыя рамёствы, умацоўваўся гандаль. Усяслаў умацоўваў межы свайго княства-дзяржавы, але не забываўся пра надзённыя патрэбы роз-

ных народаў, якія насялялі гэтую дзяржаву, — крывічоў, дрыгавічоў, балтаў. Пра полацкага князя хадзілі легенды, паданні, быліны, пісаў аб ім і аўтар «Слова пра паход Ігараў».

Зразумела, не ўсё ў жыцці Усяслава было бездакорным: жыў ён у супярэчлівы і гераічны час. Але ніколі Усяслаў не здраджваў сваёй Радзіме — Полацкай зямлі, да яе вяртаўся з самых далёкіх вандровак і паходаў.

*Паводле К. Тарасава*

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

⊙ Выпішыце складаныя сказы, расстаўце знакі прыпынку, падкрэсліце граматычныя асновы, вызначце, якімі часцінамі мовы выражаны дзейнік і выказнік.

1. Пералесак скончыўся і вакол раскінуўся бязмежны прастор *(Т. Хадкевіч)*. 2. Вясною як зачынаў ажываць свет выбілася з зямлі тоненькая чырванаватая травінка *(Я. Колас)*. 3. Сонца толькі пачынае сваё шэсце яно ўжо недзе купаецца промнямі далёка ў росным лесе *(П. Пестрак)*. 4. Радасна віталі новы дзень птушкі звінелі ў вышыні жаваранкі мітусіліся каля шпакоўніц у садах і над стрэхамі шпакі няспынна лёталі ў небе і над зямлёй імклівыя ластаўкі[сн] *(І. Шамякін)*. 5. Нават рэха не магло абазваацца тут жа прыглушыла яго лістота *(Я. Скрыган)*. 6. Чайкі гуляюць над люстраной вадой, пікіруючы на спажыву, або садзяцца на вільготны, вылізаны прылівам пясок *(Я. Брыль)*. 7. Вада дні і ночы гадамі падточвае жоўтыя пласты пяску які абсоўваецца здрадліва агольваючы карэнне самых смелых соснаў што густа выйшлі тут на край абрыву *(Я. Брыль)*. 8. Яно [поле] цяпер дымілася лёгкім туманам і пасвятлелая зяляніна ажывала выпроствалася і прагна ўбірала вільгаць *(Т. Хадкевіч)*. 9. Быў той слаўны вечар якія бываюць у пачатку жніўня калі яшчэ цёпла калі нават ноччу не адчуваеш яшчэ восеньскай стыні калі на бярозах яшчэ рэдка-рэдка натрапіш на жоўты лісток *(М. Лынькоў)*.

**150.** Прачытайце. Прыдумайце канцоўку казкі. Знайдзіце ў тэксце бяззлучнікавыя складаныя сказы і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

## СІЛА СЛОВА Ў ЯГО МУДРАСЦІ

Слова — феномен*, які падпарадкаваў сабе ўсю дзейнасць чалавека. У працэсе развіцця грамадства неймаверна ўзрастала значэнне Слова, і ўся складанасць чалавечых узаемаадносін праглядваецца ў Слове, як у люстры.

У чым жа сіла Слова?

Недзе прачыталася: «Слова патрабуе асцярожнага абыходжання». Народам сказана: «Слова — не верабей, выпусціш — не зловіш». А ў старажытнасці казалі: «Перш чым вымавіць слова, абмакні яго ў розум». Словам можна нашкодзіць, Словам можна пакрыўдзіць, Словам можна ўкалоць, узрадаваць, зачараваць, наклікаць бяду, пахваліць, зганьбіць, вылечыць... Слова — і рабочы інструмент, і сродак улады. Словам можна наводзіць страх, узбуджаць, заклікаць да дзеяння... Сіла Слова ў яго мудрасці.

Ехаў цар-кароль па воласці па сваёй з прэм’ерам* і скарбнікам*, з чашнікам*, з путнымі* і войтамі*, і з усёю сабакарняю. Ехаў, палюддзе* збіраў ды тураў паляваў. Паначаваць захацелася цару-каралю на беразе самай шырокай ракі. Разапнулі на паляне вежы-буданы, агні разлажылі і пачалі пір піраваць. Пад поўнач ўсе паснулі, адзін цар-кароль заснуць не мог: з ракі даносіўся жабін крэкт. Выклікаў цар-кароль прэм’ера са скарбнікам. «Як гэта так, нейкае жаб’ё мне спаць не дае! Адвесці раку ад шатра майго! — загадаў. — Ды так, каб жабінага крэкту чуваць не было!». Павялеў гэтак і заснуў. Прачнуўся назаўтра цар-кароль — аж ракі няма, а на тым месцы, дзе рака была, гладка, роўна і пясочкам пасыпана.

— Дзе ж рака? — спалохаўся цар-кароль.

— А рака, як вы і павялелі, Ваша Вялікасць, адведзена ад шатра чым падалей, каб не чуваць было жабінага крэкту. Сто тысяч вашых падданых прапрацавала ўсю ноч, — адказаў прэм’ер. У цара-караля валасы дыбка сталі, пад правай лапаткай засвярбела. Ён ужо хацеў закрычаць: «Вон! На пасадзе прэм’ера мне патрэбен дзяржаўны розум,

а не вар'ят!». Але пакуль што ўстрымаўся, каб яшчэ запытаць:

— Значыць, калі на мінулым тыдні я загадаў спаліць лес з-за аднаго камарынага ўкусу, то гэты лес...

— Дагарае, Ваша Вялікасць. Вы можаце на свае вочы пераканацца: сотні тысяч дзесяцін лесу дагараюць. Скора ва ўсёй воласці не астанецца ні аднаго камара.

У цара-караля вочы палезлі.

— Значыць, калі аднойчы вечарам з вёскі да майго будана пацягнула смуродам і я сказаў сцерці з твару зямлі гэтую нахабную вёску, яна...

— Добра, Ваша Вялікасць! Вёска спалена разам з яе нахабнымі жыхарамі.

Абурэнню цара-караля не было канца-краю. Ён тут жа павялеў падаць яму кнігу ўказаў, пяро і атрамант*...

*Паводле М. Лобана*

**Слоўнік**

**Фено́мен,** -а, *м.* Рэдкая, незвычайная, выключная з'ява.

**Прэм'е́р,** -а, *м.* (разм.). Тое, што і прэм'ер-міністр. **Прэм'е́р-міністр,** -а, *м.* У некаторых дзяржавах — старшыня ўрада, старшыня Савета міністраў або Кабінета міністраў.

**Ска́рбнік,** -а, *м.* У старажытнай Русі — хавальнік дзяржаўнага скарбу.

**Ча́шнік,** -а, *м.* У старажытнасці — прыдворны, які ведаў, распараджаўся віннымі скляпамі і падносіў віно і іншыя напіткі да царскага стала.

**Пу́тны,** -ага, *м.* Спадарожны чалавек, вандроўнік.

**Войт,** -а, *М* войце, *м.* У сярэдневяковай Польшчы, Украіне, Беларусі — начальнік гарадскога пасялення.

**Палю́ддзе,** -я, *н.* У старажытнай Русі — збор даніны з княжацкіх васалаў.

**Атра́мант,** -у, *М* -нце, *м.* (уст.). Тое, што і чарніла.

**151.** Прачытайце тэкст «Катлета — пальчыкі абліжаш». Знайдзіце бяззлучнікавыя складаныя сказы, вызначце сэнсавыя адносіны паміж іх часткамі. Прыдумайце тэкст-апісанне якога-небудзь працэсу ці гульні, выкарыстоўваючы бяззлучнікавыя складаныя сказы.

Хто не ўмее гатаваць катлеты? Была б мясарубка... Лепш за ўсё змешваць розны фарш — свіны, ялавічны (альбо

цялячы), курыны. Малако дабаўляць у фарш не раім: катлеты атрымліваюцца грубыя. Разбаўляйце фарш цёплай кіпячонай вадой да кансістэнцыі густой смятаны. Кладзіце ў фарш толькі яечныя жаўткі: яечны бялок вам яшчэ спатрэбіцца. Чым больш цыбулі вы пакладзяце ў фарш, тым смачнейшымі будуць катлеты. Цыбулю можна разам з мясам прапусціць праз мясарубку, можна дробна накрышыць. Не забудзьце пакласці 1—2 лыжкі маянэзу — катлеты будуць пышнымі. Звычайна ў катлеты дабаўляюць батон, размочаны ў вадзе; лепш дабавіць 1 лыжку крухмалу або старкаваныя 2—3 бульбіны. Пасаліце, пасыпце прыправамі на свой смак. Калі фарш сухаваты, то ў сярэдзіну кожнай сфармаванай катлеты пакладзіце драбок сметанковага масла. Цяпер трэба абмакнуць катлеты ў добра ўзбіты бялок — ад гэтага яны стануць асабліва смачнымі.

Смажыць катлеты трэба на добра разагрэтай скавародзе, папярэдне ўліўшы туды трошкі алею. Не адыходзьце нікуды ад пліты: падгарэлыя катлеты нікому не даспадобы. Пасля смажання складзіце катлеты ў глыбокую пасудзіну і пастаўце тушыць на малюсенькім агні, дабавіўшы трошкі вады або булёну. Вось і ўвесь сакрэт добрых катлет. Смачна есці!

*З часопіса «Гаспадыня»*

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Якія складаныя сказы называюцца бяззлучнікавымі?
2. Якія сэнсавыя адносіны могуць выражацца ў бяззлучнікавых складаных сказах з аднатыпнымі часткамі? Разнатыпнымі часткамі?
3. Якія знакі прыпынку могуць ставіцца паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў? Калі ставіцца коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік? Прывядзіце прыклады.

# СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З РОЗНЫМІ ВІДАМІ СУВЯЗІ ЧАСТАК: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 31. Паняцце пра складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак

**152.** Выразна прачытайце тэкст. Вызначце стыль маўлення.

Вясна непрыкметна перайшла ў лета. Дні паплылі над зямлёй светлыя, сонечныя, поўныя незлічоных пахаў травы і кветак. Адагрэтая за вясну зямля набрала сіл, і зеляніна на ёй расце і шырыцца з такой шпаркасцю, што калі прыслухацца ўважліва, дык уловіш, як выпростваюцца і цягнуцца каліўцы ўгару, і шасцяць, і перашэптваюцца. Жыта выйшла ў трубку, і месцамі на ім з'явіліся пяшчотныя каласы з прыўзнятымі вусікамі. Зазеляненелі ячмені і аўсы, пусціла пшаніца шырокія парасткі, загусцеў лён. І, калі ўзнікае ветрык, ён чапляецца за збажыну, і гуляе ў ёй, і песціцца, а поле здалёк нагадвае ў такі час мора, што злёгку хвалюецца і пераліваецца то светла-зялёнымі, то цёмна-сінімі фарбамі.

Усяму жывому зямля дорыць шчодрасць. Запярэсцілі, радуючы вока, featured рознакаляровыя краскі на ўзмежках і пожнях, расце збажына.

*Т. Хадкевіч*

Выпішыце сказ, які адпавядае наступнай схеме:




Колькі асноўных сэнсавых частак мае гэты сказ? Якім спосабам сувязі гэтыя часткі звязаны паміж сабой? Колькі граматычных частак у гэтым сказе? Назавіце іх.

Апрача складаназлучаных, складаназалежных і бяззлучнікавых сказаў, у беларускай мове ёсць складаныя сказы, у якіх тры і больш граматычных частак звязаны паміж сабой **рознымі відамі сувязі**. Такія сказы называюцца **складанымі сказамі з рознымі відамі сувязі частак**. Напрыклад: *Варта было азірнуцца на працілеглае акно, як усё рэзка змянялася: сінела чыстае неба, і нечым няўлоўна лёгкім і белым адсвечвала зарэчная далеч* (М. Лужанін).

Калі разглядаць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак з пункту гледжання іх с т р у к т у р ы, то ў іх вылучаюцца **не менш чым тры граматычныя часткі.**

Калі ж разглядаць такія сказы з пункту гледжання іх с э н с а в а й ц э л а с н а с ц і, то можна вылучыць у іх **дзве сэнсавыя часткі**, паміж якімі ў маўленні ўзнікае працяглая паўза.

Для таго каб зразумець сэнс складанага сказа з рознымі відамі сувязі частак, трэба паглядзець, з якіх сэнсавых частак ён складаецца, таму што дзве ці нават тры граматычныя часткі могуць утвараць адну сэнсавую частку ў такім сказе. Напрыклад: *Рэчка бегла ў лугі, яна была відна далёка на зялёнай адлегласці: нават на самым даляглядзе, дзе пачыналася балаціна, то выблісквала, то хавалася сіняе срэбра* (М. Лужанін). Гэта складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак, а іменна з бяззлучнікавай і падпарадкавальнай сувяззю; складаецца з дзвюх сэнсавых частак, якія звязваюцца інтанацыяй; першая сэнсавая частка па сваёй будове — складаны бяззлучнікавы сказ *Рэчка бегла ў лугі, яна была відна далёка на зялёнай адлегласці*; другая сэнсавая частка *нават на самым даляглядзе, дзе пачыналася балаціна, то выблісквала, то хавалася сіняе срэбра* — складаназалежны сказ з даданай часткай месца (са злучальным словам ***дзе***), якая знаходзіцца ўнутры галоўнай часткі.

Схема гэтага сказа:




2. *Лёгкія, без вагі, сняжынкі падалі на буйныя пялёсткі чырвоных ружаў, на тонкія зялёныя лісціны вянкоў, і гэтыя чырвоныя кветкі, і зялёныя лісціны, і стужкі, што спавілі вянкі, здавалася, паціху і непрыкметна сівеюць* (С. Александровіч). Гэта складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак, а іменна са злучальнай і падпарадкавальнай сувяззю; складаецца з дзвюх сэнсавых частак, якія звязваюцца злучальным злучнікам ***і***; першая сэнсавая частка *Лёгкія, без вагі, сняжынкі падалі на буйныя пялёсткі чырвоных ружаў, на тонкія зялёныя лісціны вянкоў* па сваёй будове — просты сказ; другая сэнсавая частка *і гэтыя чырвоныя кветкі, і зялёныя лісціны, і стужкі, што спавілі вянкі, здавалася, паціху і непрыкметна сівеюць* — складаназалежны сказ з дададнай азначальнай часткай (са злучальным словам ***што***), якая знаходзіцца ўнутры галоўнай часткі.

Схема гэтага сказа:




З дапамогай складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак чалавек можа выказаць думкі найбольш поўна, дакладна і паслядоўна.

**153.** Выразна прачытайце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Падзяліце іх на сэнсавыя часткі. Запішыце сэнсавыя часткі і вызначце віды сказаў, якія іх утвараюць.

Узор выканання.

*Страфа замерла на паўслове, ляжыць недачытаны ліст, што мне на беларускай мове прыслаў балгарскі журналіст* (С. Грахоўскі).

Першая сэнсавая частка: *страфа замерла на паўслове* (просты сказ).

Другая сэнсавая частка: *ляжыць недачытаны ліст, што мне на беларускай мове прыслаў балгарскі журналіст* (складаназалежны сказ).

1. Страфа замерла на паўслове, ляжыць недачытаны ліст, што мне на беларускай мове прыслаў балгарскі журналіст *(С. Грахоўскі)*. 2. Тое, што нядаўна яшчэ было табе памятна, праз некалькі год зацягваецца туманам забыцця, і трэба ўжо намаганне, каб успомніць імёны нашых франтавых таварышаў *(В. Быкаў)*. 3. Дзеці акружаюць сваю настаўніцу; наперабой расказваюць пра школьныя навіны: сёння іх клас будзе вучыцца ў актавай зале, і там ужо многа прыезджых людзей *(«Настаўніцкая газета»)*. 4. Сонца свяціла ярка, неба было чыстае, але цеплыні не адчувалася: тут было Запаляр'е *(А. Марціновіч)*. 5. Ідзе Сцёпка то чыгункаю, то вузенькаю сцежкаю, што паліваецца на грэбені насыпу, мінае чырвоныя домікі будачнікаў, пераезды, купкі дрэў, а перад ім раскрываюцца ўсё новыя і новыя малюнкі незнаёмых краявідаў *(Я. Колас)*. 6. Мяняліся людзі ў вёсцы, ад'язджалі свае і прыязджалі чужыя, а за вёскаю ўсё плыла і плыла Ятранка *(В. Адамчык)*.

У складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак могуць спалучацца наступныя віды сувязі:

1) **злучальная і падпарадкавальная:** *Была восень з апошнімі днямі спакойна-рашучай нейкай красы, і была ва ўсім незразумелая цярплівасць адзінокага лістка, што біўся на галінцы, не хочучы ці не могучы адарвацца і ўпасці* (М. Стральцоў).

Схема сказа:




**2) бяззлучнікавая і злучальная:** *На імшысты прыгорбак поруч са сцежкаю залез малады баравічок; на яго бурштынавым брыльку ззяла раса, а ў кожнай буйной кроплі адбіваўся зялёны, поўны асцярожлівых сонечных промняў, суладны ранішні свет* (У. Арлоў).

Схема сказа:




**3) бяззлучнікавая і падпарадкавальная:** *Каса не слізгала нават па высока зрэзаных, засохлых карэньчыках, якія засталіся ад першага ўкосу: яны адышлі ў расе і рэзаліся без натугі, амаль нячутна, амаль так, як і атава* (Я. Сіпакоў).

Схема сказа:




**4) бяззлучнікавая, злучальная і падпарадкавальная:** *Сонца рабіла сваю справу, зямля памалу падсыхала, але густыя заходнія вятры прыносілі спорныя дажджы, якія шчодра палівалі чарназём* (С. Александровіч).

Схема сказа:




**154.** З простых і складаных сказаў утварыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак і запішыце іх. У кожным сказе вызначце сэнсавыя часткі і сродак сінтаксічнай сувязі паміж імі. Выразна прачытайце сказы.

1. І раптам бліснула маланка. Аглушальна ўдарыў гром. І ўдар гэты нібы разарваў хмары. Дождж хлынуў ліўнем *(І. Шамякін)*. 2. Старыя палешукі, сустракаючыся, кланяліся. А чародкі маладых дзяўчат і маладзіц, убраных, як макавыя кветкі ў агародзе, падштурхоўвалі адна другую, пераміргваліся і кідалі смяшлівыя погляды ў бок маладога настаўніка, які першы раз з'явіўся тут *(Я. Колас)*. 3. Вялізныя залы. На сценах — эмблемы. На кожнай — прозвішчы тых, хто тут вучыўся ці вучыў і хто вядомы ўсяму свету: Капернік, Галілей... *(С. Панізнік, В. Дышыневіч)*. 4. Тут вецер калі і разыдзецца, то з ім ёсць каму паспрачацца. Насупіцца і загалосіць лес. Трывожна зашэпчуцца лазнякі. А разгневаная Прыпяць высока ўзнімае свае празрыстыя хвалі, кідаючы іх адну за другой на нізкія берагі *(І. Навуменка)*. 5. Далёка за лесам пагруквала навальніца, нагадваючы пра тое, што яна яшчэ можа вярнуцца. Але мы, ужо забыўшыся пра ўсё, выязджалі на сухі прагал. Дажджу тут ці не было, ці прайшоў стараною *(В. Адамчык)*.

**155.** Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі ў наступнай паслядоўнасці: 1) складаны сказ са злучальнай і падпарадкавальнай сувяззю, 2) складаны сказ з бяззлучнікавай і злучальнай сувяззю, 3) складаны сказ з бяззлучнікавай і падпарадкавальнай сувяззю, 4) складаны сказ са злучальнай, падпарадкавальнай і бяззлучнікавай сувяззю.

1. Гляджу я — зямля расцвітае, і песня ўзлятае сама: мне лепей ад роднага краю нічога на свеце няма *(А. Бачыла)*. 2. Камбата ўсё болей ахоплівала пачуццё злой несправядлівасці, нейкая неспатоленая сіла вымагала на рэзкае слова, крык, нейкі рашучы учынак, у якім бы знайшло выйсце гэтае яго затрудненне *(В. Быкаў)*. 3. Пачынала трохі развідняцца, і было відаць, што там, дзе нядаўна былі рады буданоў, холадна шарэла ручаінамі і затокамі вада *(І. Мележ)*. 4. І стала дзіва: там, дзе ляжаў забіты асілак, узняўся дуб малады, там, дзе ліліся матчыны слёзы, забіла крынічка з-пад дуба, а сама маці зязюляй стала *(К. Кірэенка)*.

**156.** Выразна прачытайце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Вызначце ў гэтых сказах сэнсавыя часткі і сродкі іх сувязі. Выпішыце сказы ў наступнай паслядоўнасці: 1) сказы са злучальнай сувяззю сэнсавых частак; 2) сказы з падпарадкавальнай сувяззю сэнсавых частак; 3) сказы з бяззлучнікавай сувяззю сэнсавых частак.

1. Калі зусім дагарэлі дровы, яшчэ доўгай яркай чырванню зіхацела вуголле, па ім дзе-нідзе прабягалі сінявата-празрыстыя агеньчыкі *(В. Быкаў)*. 2. На гонях*, дзе стаяла груша, было пасеяна жыта, і чалавек, павярнуўшы з дарожкі, пайшоў да грушы праз жыта, стараючыся не рабіць за сабою броду *(В. Каваленка)*. 3. Падпалкоўнік ведаў, што барацьба за той бераг будзе цяжкай: немцы зробяць усё, каб затрымаць наша наступленне *(І. Мележ)*. 4. Бацька шкадаваў, што няма маці дома ў такі цяжкі час, але ён спадзяваўся, што яна хутка прыйдзе *(А. Якімовіч)*. 5. У яго так балела галава і гарэлі вочы, што сон не прыходзіў *(І. Мележ)*. 6. За колькі дзён да касавіцы касцы заглянуць на паліцы, каб малаток знайсці і бабку: ідзе работа, не спі ў шапку *(Я. Колас)*.

### Слоўнік

**Го́ні**, -ей (уст.). 1. Адрэзак паласы прыгоднай для ворыва зямлі. 2. *перан.* Ніва, зямля (паэт).

**157.** Спішыце сказы. Лічбамі пазначце кожную граматычную частку. Падкрэсліце граматычныя асновы. Пабудуйце схемы сказаў.

У з о р   в ы к а н а н н я.

[1] *Імклівы вадаспад прыгінае цябе да зямлі, і* [2]*табе да смешнага верыцца,* [3]*што такі лівень можа нават паваліць.*

Схема сказа:




1. Нават калі скінуць гадоў пятнаццаць з плячэй дзеда Талаша, то і тады ён быў ужо не малады: было яму тады гадоў семдзесят з хвосцікам *(Я. Колас)*. 2. Мне нават чуваць, як трава маладая з зямлі прабіваецца, цёплай і волкай, і пахне сасоннік празрыстаю смолкай *(С. Грахоўскі)*. 3. Лабановіч ужо задумаўся, як знайсці выйсце з такой сітуацыі, бо справа, як відаць, магла зацягнуцца надоўга, ажно бачыць: лось паставіў на месца грозны хіб, прыняў звычайны выгляд і, не спяшаючыся, падаўся ў глыб лесу *(Я. Колас)*. 4. Раніцай на траве ляжаў рэдкі іней, зляталіся да ляснога дамка́ сарокі і сойкі, а бэзавы куст ля ганка стаяў ненатуральна голы, закіданы ўнізе цёмна-зялёным бліщчастым лісцем *(М. Стральцоў)*. 5. Асабліва падабаўся дзясяты клас: дарослыя хлопцы і дзяўчаты разважалі і трымаліся па-даросламу, і Аляксей гаварыў з імі проста і шчыра пра ўсё, што іх хвалявала і цікавіла *(С. Грахоўскі)*.

**158.** Прачытайце сказы. Пабудуйце іх схемы. Выпішыце спачатку сказы з рознымі відамі сувязі частак, потым — складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі.

1. Рысы аблічча беларуса мяккія, склад здаецца крыху далікатны, хоць для беларуса характэрна працавітасць,

вынослівасць, цягавітасць* *(У. Караткевіч)*. 2. Хоць быў канец сакавіка, сонца пякло, як у маі, і ветрык прыносіў не халодную вільгаць прадвесня, а духмяную цеплыню сапраўднай вясны, водар разагрэтай сонцам зямлі *(І. Шамякін)*. 3. І яшчэ можна адзначыць з мінулага дзеда, што ў яго бацькі было дванаццаць дзяцей, ды васьмёра з іх паўміралі, а жыць засталіся два сыны, у тым ліку і дзед Талаш, і дзве дачкі *(Я. Колас)*. 4. У беленькі раённы гарадок я прыехаў у сярэдзіне лета, калі адцвіталі ліпы, пасыпаючы вуліцу квеценню, гулі і дзынькалі пчолы ў густым вецці прысад і пышных кветніках *(С. Грахоўскі)*. 5. Стаяла якраз тая пара восені, калі пачырванелы асіннік у лесе трывожна шапоча пра заканчэнне лета, а над асірацелымі лугамі згасае духмянасць пасохлых траў і кветак *(У. Краўчанка)*. 6. Увосень, калі стаіць пагода, шасціць пад нагамі мох і гарыць верас сіняватымі кветкамі *(І. Пташнікаў)*. 7. Трэба было адпачыць, але Іван адчуваў, што калі ўпадзе ў снег, то, напэўна, болей ужо не ўстане *(В. Быкаў)*.

### Слоўнік

**Цягаві́тасць,** -і, *ж.* Уласцівасць цягавітага.

**Цягаві́ты,** -ая, -ае. Здольны многа і цяжка працаваць; загартаваны ў працы; працавіты.

**159.** Спішыце сказы, падкрэсліце ў іх граматычныя асновы. Вызначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі і падзяліце іх на сэнсавыя часткі (вусна).

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Спадчына — гэта і калыханка, якую спявала табе маці, і казка, якую расказвала бабка, і твая першая кніга, з якою ты прыйшоў у школу, і кніга, якую каля пяцісот гадоў таму назад надрукаваў наш вялікі асветнік Францыск Скарына *(В. Вітка)*. 2. Наша мова неўміручая, бо яе захоўваюць усе: сялянка, што спявае народную песню, вучоны, які складае слоўнік, дзяды, што апавядаюць пра мінулае *(У. Караткевіч)*. 3. Ды вось апёк зямлю сапраўд-

ны мароз, шчыкнуў праз расколіны ў кары за жывое, хапіў за карані, якія вылезлі наверх, тады толькі дуб сыпле пад ногі лісце, укрывае карані, абтрасае і жалуды, якім добра ляжаць праз усю зіму ў тоўстым кіліме *(А. Кажадуб)*. 4. Відаць, кожнаму знаёмы той стан душы, калі трэба аглянуцца ў апошні раз на ўсё, што было такое дарагое і блізкае, з чым зрадніўся, і пайсці па сваёй жыццёвай дарозе наперад, да новых спраў і новых сяброў *(Л. Дайнека)*. 5. Ты памятаеш, восенню туманнай, калі ўборы дрэў зляцяць далоў, ліст жоўты застаецца на каштанах стажочкамі ля цёплых ліхтароў *(У. Караткевіч)*.

**160.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце загаловак. Вызначце, з якой мэтай створаны гэты тэкст і каму ён адрасуецца.

Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак і пабудуйце іх схемы.

Вусна перакажыце тэкст.

...Светаўспрыманне нашых далёкіх (і не вельмі далёкіх) продкаў было прасякнута вераю ў незвычайныя, чароўныя магчымасці звяроў, птушак, раслін і кветак. Заснавана гэтая вера была, вядома, на тым, што жывёльны і раслінны свет, як і сам чалавек, жыве: нараджаецца, уплывае на навакольнае асяроддзе, хварэе, памірае...

Але ж і «нежывыя», неадушаўлёныя прадметы надзяляліся людзьмі ўласцівасцямі жывых істот, а назвы гэтых істот (у тым ліку і назвы чалавека) выкарыстоўваліся для абазначэння неадушаўлёных прадметаў. Напрыклад, слова *дзед* вядома перш за ўсё ў значэнні «бацькаў або матчын бацька; стары чалавек». Словам *дзяды* называліся і продкі ўвогуле, і нездарма народнае свята памінання продкаў мае менавіта такую назву — *Дзяды*.

А чаму калючае пустазелле таксама называецца *дзядамі*? Магчыма, тут уся справа ў нейкім знешнім падабенстве? Сапраўды, пасля нядоўгіх разважанняў можна сказаць, што калючкі на гэтай расліне нечым нагадваюць няголеную бараду старога чалавека. Але найбольш вера-

годным вучоныя лічаць меркаванне аб сувязі гэтага слова са старажытным культам памінання продкаў — *дзядоў*. Продкі, як вядома, усведамляліся як зберагальнікі дамашняга вогнішча і скарбу, як абаронцы ад уздзеяння «нячыстай сілы». У такім разе мы прыходзім да думкі аб тым, што калючае пустазелле атрымала назву *дзяды,* паколькі яно выкарыстоўваецца як засцярога ад «нечысці»: снапы, пучкі гэтай расліны вешалі каля варот, дзвярэй хаты, каб адагнаць варожых духаў. Невыпадкова і тое, што гэтая расліна называецца таксама *чартапалохам, чартагонам.*

Дададзім, што слова *дзед* сустракаецца ў народных гаворках і ў іншых значэннях, таксама звязаных з культам продкаў: *дзед* — прыстасаванне, у якое ўтыкалася лучына пры асвятленні хаты, *дзед* — першы сноп жыта, *дзед* — слуп, які падтрымлівае бэлькі* ў гумне.

*У. Коваль*

● Выпішыце сказы з пабочнымі сінтаксічнымі канструкцыямі (словамі, словазлучэннямі) і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

● Як называюцца словы адной часціны мовы, якія гучаць і пішуцца аднолькава, але маюць розныя лексічныя значэнні?

### *Слоўнік*

**Бэ́лька,** -і, *ДМ* -льцы; *Р мн.* -лек; *ж.* Драўляны, жалезны або жалезабетонны брус, які ўмацаваны канцамі ў дзве процілеглыя сцяны і служыць падтрымкай насцілу (падлогі, столі і інш.).

**161.** Прадоўжыце тэкст паводле яго пачатку. Выкарыстайце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.

Як гэта няпроста і адказна — расказаць пра свой горад або сваю вёску. Не пра дом родны, не пра вуліцу дзяцінства, якія жывуць у тваім сэрцы, а пра цэлы горад або пра цэлую вёску! Як знайсці словы, каб чытач паверыў, што ты не прыхарошваеш аблічча таго месца, дзе жывеш, а сапраўды ведаеш яго лёс.

Я хачу запрасіць вас у ...

*Паводле Я. Пілецкага*

## § 32. Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак

У складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак ставяцца такія ж знакі прыпынку, што і ў складаназлучаных, складаназалежных і бяззлучнікавых сказах. Напрыклад: *1. І азіміна, і яравое раслі на вачах,* [і] *разам з азімінай, з яравым раслі ў асцярожных, звыклых да ўсяго сэрцах куранёўцаў надзеі на лета: малілі Бога,* (каб) *і далей памог пагодаю* (І. Мележ). *2. Панура гудзела асенняя ноч,* [і] *вецер халодны ляцеў над Бярозай, бяліла зіма на палетках радно**, [і] *снежань суровы стаяў на парозе* (А. Звонак). 3. *Сяло заціхала, зрэдку па вуліцы брыла адзінокая фігура селяніна,* ((што)) *дзесьці запазніўся* (Я. Колас). *4. Пяройдзеш мяжу —* [і] *беларус пакажа,* (як) *паказаў у мінулай вайне,* ((на што)) *ён варты,* (калі) *вораг падніме руку на яго жыццё* (У. Караткевіч).

У складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак **коска** н е с т а в і ц ц а паміж дзвюма часткамі, звязанымі пры дапамозе спалучальных злучнікаў ***і, ды,*** калі трэцяя частка з'яўляецца агульнай для іх. Напрыклад: *1. Ужо сонца праглядвала праз вершаліны хвой* **[і]** *пачынала адчувацца гарачыня летняга дня,* (калі) *настаўнікі падышлі да балота* (Я. Колас). Агульная частка — *калі настаўнікі падышлі да балота; 2. Напрадвесні і ў пушчы не многа красы: толькі вецер шуміць на ўсе галасы* **[ды]** *сухая трава шалясціць каля ног...* (У. Дубоўка). Агульная частка — *напрадвесні і ў пушчы не многа красы...*

У складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак можа с т а в і ц ц а **двукроп'е** паміж першай і другой сэнсавымі часткамі ў тым выпадку, калі яны звязаны бяззлучнікавай сувяззю і калі другая сэнсавая частка

раскрывае сэнс першай часткі або абазначае прычыну дзеяння, пра якое гаворыцца ў першай сэнсавай частцы. Напрыклад: *1. На полі відаць далёка: ці лес, ці асобнае дрэва, ці хата здалёк будзе чарнецца, хоць і ніяк нельга выразна бачыць ці нават здагадацца, што гэта такое* (К. Чорны). *2. Кепска, аднак, маляваць пры лямпе: святло жаўціць і цені вельмі вострыя, густыя* (Я. Брыль).

### Слоўнік

**Радно́**, -а́, *н.* Тоўстае палатно з пянькі або грубай ільняной пражы, а таксама выраб з такога палатна. // *перан.* Верхні слой, які пакрывае што-н., покрыва.

**162.** Выразна прачытайце складаныя сказы, вызначце іх від. Растлумачце пастаноўку выдзеленых знакаў прыпынку.

Узор адказу.

*Ён ведаў: мінулыя пакаленні толькі тады паміраюць у гісторыі, калі ў чалавецтва не застаецца іх памяці, іх мастацтва.* Гэта складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак.

Першая сэнсавая частка *ён ведаў*; другая сэнсавая частка *мінулыя пакаленні толькі тады паміраюць у гісторыі, калі ў чалавецтва не застаецца іх памяці, іх мастацтва*. Сэнсавыя часткі звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю. Другая сэнсавая частка раскрывае сэнс першай, таму паміж імі ставіцца двукроп’е.

Першая сэнсавая частка ўяўляе сабой просты сказ.

Другая сэнсавая частка ўяўляе сабой складаназалежны сказ з даданай акалічнаснай часткай часу. Перад падпарадкавальным злучнікам *калі* ставіцца коска.

1. А тут быў пень, пацямнелы, шырокі, і на ім нехта, мусіць, часаў сасновы кол, бо ля пня валяліся акроечкі кары, рудой і падсохлай *(М. Стральцоў)*. 2. Ужо даўно развіднела, сонца з-за гор яшчэ не паказалася, але бясхмарнае неба ўгары, здавалася, аж звінела яркасцю ранішняга блакіту *(В. Быкаў)*. 3. Баючыся спалохаць птахаў, я запаволіў крок: мяне цікавіла, што яны будуць рабіць там, дзе няма ні вады, ні іх прысмакаў *(В. Хліма-*

*наў).* 4. У лясах, гаях дразды спявалі (,) у балотах кнігаўкі крычалі (;) а ў небе ўдзень і вечарамі высока роўнымі шнурамі злятаўся вырай жураўліны *(Я. Колас).* 5. Яна ішла, мабыць, з гадзіну (,) але патрэбнай ёй лесмічоўкі ўсё не было відаць (;) навокал цягнулася незнаёмае мёрзлае балота *(В. Быкаў).*

**163.** Спішыце складаныя сказы, падкрэсліце ў іх граматычныя асновы, вызначце тып складаных сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку, а таксама адсутнасць знакаў прыпынку перад выдзеленымі злучнікамі.

1. Спачатку заўважаеш, што пастухі не прыганяюць ужо кароў на абед: дзень стаў маленькі **і** няма той спёкі, якая раней бывала ў поўдзень **і** якую лепш за ўсё каровам было перачакаць у хляве *(Я. Сіпакоў).* 2. А можа, кароткі век жаўранкавай песні напрарочыла ў пару зялёнага лісту зязюля, і сама даўно зажурылася без песні і будзе маўчаць доўга, пакуль паўкруга не звернецца сонца **і** не вернуцца дні маладога лісця і неба *(А. Жук).* 3. На ўсходзе раз’язджаліся хмары **і** жаўцела неба. *(І. Пташнікаў).* 4. Ліза не заўважыла, як зашарэла ноч **і** неба на ўсходзе пабялела *(К. Чорны).* 5. Ранняй вясною, калі падсохлі груды́*, распушыліся вербы **і** зацінькалі сініцы ў набраклых гаях, Раман Салавей з партызанскіх хутароў, дзе ён туляўся ўсю зіму, выправіўся адведаць Ганну *(С. Грахоўскі).*

### Слоўнік

**Груд**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Невялікі ўзгорак, горка.

**164.** Спішыце сказы, пабудуйце іх схемы. Пастаўце знакі прыпынку і растлумачце іх выбар і месца ў сказе.

1. Нямала бачыла навальніц старая ліпа не раз білі перуны ў яе верхавіну але яна ўсё вытрымала *(М. Паслядовіч).* 2. А ноч зачароўвала хараством струменілі раслінныя пахі цёплай дрымотаю павяваў ласкавы ветрык і ў недасяжнай вышыні незразумелай мігатлівай музыкай трапяталіся зоркі *(В. Быкаў).* 3. Па меры таго як неба цямнела рэдкі лёгкі паўзмрок змяняўся шараватай смугой якая па-

ступова гусцела і тады абрысы дамоў дрэў рабіліся нейкімі невыразнымі *(Т. Хадкевіч)*. 4. Жвавыя снегавыя языкі хутка спавілі сваёю беллю нерухомыя целы людзей мяккі дол прыветна туліў да сябе зняможаных падарожнікаў і не было сілы расплюшчыць вочы варухнуцца устаць *(В. Быкаў)*. 5. Максім глядзеў на дзяўчынку і яму здалося што вяснушак у Веранікі пабольшала ці то яны спрыснутыя вадою засвяціліся ярчэй ці то і напраўду множыліся ў кропельках *(Я. Сіпакоў)*.

**165. Графічны дыктант.** Запішыце сказы пад дыктоўку настаўніка ў выглядзе графічных схем з неабходнымі знакамі прыпынку.

1. Новыя прасторныя абсягі раскрыліся перад нашымі вачыма і не гасне нястомнае жаданне зірнуць за заслону заўтрашніх нечаканасцей якія абавязкова нас напаткаюць *(Я. Колас)*. 2. Неўзабаве ціша запанавала ў класе нават старэйшыя вучні якія самі чыталі гэты твор уважліва ўслухоўваліся ў кожнае слова настаўніка *(С. Александровіч)*. 3. Шалпочуцца* ў траве дзікія качкі недзе над галавой дзяцел дзяўбе сухую сасну якая аж звініць *(І. Пташнікаў)*. 4. Пасярод паляны стаялі два стажкі сена і адзін з іх быў такі абскубаны знізу што нельга было не здзівіцца як ён не паваліцца ад першага подыху ветру *(І. Шамякін)*. 5. Лес што цягнуўся ўздоўж чыгункі неўзабаве расступіўся і Арсень заўважыў на даляглядзе ламаную лінію шматлікіх будынкаў *(Т. Хадкевіч)*.

### Слоўнік

**Шалпата́цца**, -пачу́ся, -по́чашся, -по́чацца; *незак.* (разм.). Шамацець, шаваліцца.

**166.** Выпішыце спачатку складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна, а затым — складаныя сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку паміж часткамі, пастаўце знакі прыпынку.

1. Калі Пятро вызначыў па слупах, што патрэбная яму вёска недалёка, то адразу забыўся на стомленасць і смагу,

іншыя турботы апанавалі яго: нельга паявіцца перад Сашай у такім выглядзе, запыленым, з бруднымі рукамі і нагамі, засмяглымі губамі *(І. Шамякін)*. 2. Сонца яшчэ не ўставала, але ўсход быў як абсыпаны ружовай стужкай зары і тонка пахла ў паветры вільготнай травой, якая нагадвала пах чабору *(В. Іпатава)*. 3. Агульная размова не выходзіла: кожная купка людзей апынулася ў ізаляцыі, дзе не было агульных інтарэсаў або яны даўно надакучылі *(А. Асіпенка)*. 4. Дні прабягаюць, і гады сплываюць, хвіліны шчасця часам прамігцяць, а боль жыве і сэрцам адчуваю, што жыць заўсёды будзе, да канца *(У. Караткевіч)*.

У складаных сказах са злучальнай і падпарадкавальнай сувяззю побач могуць аказацца злучальны і падпарадкавальны злучнікі.

**Коска** паміж імі с т а в і ц ц а тады, калі пасля дадзенай часткі няма другой часткі парнага падпарадкавальнага злучніка ***(то, дык)***. Напрыклад: *Праўда, разам з травой снег засыпаў і сляды, **і, калі** гэтая замець не перастане да ночы, слядоў, напэўна, можна будзе не баяцца* (В. Быкаў). (Параўн.: *Праўда, разам з травой снег засыпаў і сляды, **і калі** гэтая замець не перастане да ночы, **дык** слядоў, напэўна, можна будзе не баяцца.*) Коска паміж злучнікамі ***і*** і ***калі*** не ставіцца, таму што пасля дадзенай часткі ўмовы *калі гэтая замець не перастане да ночы* стаіць ***дык*** — другая частка парнага падпарадкавальнага злучніка ***калі … дык***.

**167.** Спішыце сказы; пастаўце, дзе трэба, коскі паміж злучальным і падпарадкавальным злучнікамі.

1. Спачатку лёгкая чырвань зайграе ў верхавінах далёкага бору, потым сонечныя зайчыкі, нібы спрабуючы сваю моц, лягуць на спакойныя хвалі ракі, **і як толькі** яна ветліва ўсміхнецца, сонца поўнай жменяй кіне свае праменні ў шыбіны вясковых хат *(І. Навуменка)*. 2. Немцы

так і не пачалі сваёй пятай атакі, **і як** стала цямнець, на грудок да Леўчуковага акопчыка прыбег ротны Мяжэвіч *(В. Быкаў)*. 3. І цяпер, праз многія гады, пасталеўшы, узмужнеўшы, мы не забываем пра тую крынічку, **і калі** бываем у родных мясцінах, яна, як і раней, вабіць нас да сябе *(Я. Сіпакоў)*. 4. Два дні стуганела* Прыпяць, быццам працавалі там стопудовымі молатамі нейкія кавалі-волаты, **а калі** Андрэйка на трэці дзень раніцой выйшаў паглядзець на рэчку, то ледзь пазнаў яе *(У. Краўчанка)*. 5. Толькі вясною высока ў небе клічуць радасць журавы, **і калі** яна запазнілася да цябе, дык абавязкова прыйдзе з гэтай песняй, і ты, можа, спазнаеш тады і трывогу, і шкадаванне, і журбу, але ўсё адно гэта будзе радасцю *(М. Стральцоў)*. 6. Васіль хутчэй звязаў парваныя канцы, **але калі** паспрабаваў, пацягнуўшы з усяе сілы, ці моцна звязан вузялок, той разышоўся *(І. Мележ)*.

### Слоўнік

**Стугане́ць**, *незак.* (разм.). Грукатаць, бухаць, ляскатаць.

**168.** Запішыце сказы ў наступнай паслядоўнасці: 1) сказ, у якім 5 косак, 1 двукроп'е; 2) сказ, у якім 5 косак, 1 кропка з коскай, 1 двукроп'е; 3) сказ, у якім 9 косак, 1 двукроп'е.

1. Убачыўшы суседку шпак узмахвае крыламі заўзята свішча і калі тая прысядзе на галінку суседняга дрэва стараецца з усіх сіл ёй спадабацца то шмыгне ў шпакоўню і высуне з лятка галаву то злятае на зямлю схопіць якуюсьці саломінку ці пушынку і нясе ў домік каб нібыта паказаць які ён працавіты *(Л. Кацкевіч)*. 2. Над морам цяпер былі ноч цемра і яно не здавалася такім неабсяжным як удзень небакрай што шарэў над чорнаю паверхняю вады быў дзіўна блізка *(І. Мележ)*. 3. Неахвотна адступае зіма але доўгачаканая вясна ўсё настойлівей стукае ў дзверы наступныя дні прыносяць змены пачарнела лясная дарога стала гусцейшым паветра агаліліся палі ледзяшы звісаюць з дахаў чуваць меладычныя гукі капяжу *(Л. Кацкевіч)*.

## ПРАЦУЕМ САМАСТОЙНА

⊙ **169.** Спішыце сказы, пастаўце знакі прыпынку, растлумачце іх выбар і абгрунтуйце месца ў сказе.

1. У апошнія гады Нёман задумаў новую штуку ў тым месцы дзе бераг датыкаўся аднаго канца сяла ён пачаў рабіць заварот пракладаць новую дарогу адразаючы шырокую луку да сяла *(Я. Колас)*. 2. Услухаўшыся ў гэтую музыку-песню кожны хто тут толькі бывае становіцца ўважлівым да гэтага казачнага кутка Беларусі да яго легенд і паданняў і любуючыся незвычайнай прыгажосцю Свіцязі нельга не быць паэтам *(Л. Мірачыцкі)*. 3. Паўсотні відаў млекакормячых жыве ў запаведніку але найбольшую каштоўнасць пушчы ўяўляе зубр рэдкі прадстаўнік жывёльнага свету які захаваўся да нашых дзён яшчэ з ледніковага перыяду *(В. Вольскі)*. 4. І лес па адзін бок рэчкі і лес па другі бок яе быў адным лесам і тое што рабілася на адным беразе рэчкі было таксама справаю другога берага *(Я. Колас)*. 5. Дзе-колечы ў канавах і ярах яшчэ ляжыць апошні снег але паводка ўжо адбушавала пакінуўшы ў нізінах часовыя азёры у якіх нібы ў вялізных люстэрках адбівалася ружова-блакітнае неба *(Т. Хадкевіч)*. 6. Скараецца зіма адступаючы ў невядомыя паўночныя далі а наўздагон ёй імчыцца вясёлая пераклічка птушак што вярнуліся з выраю пяшчотны звон ручайкоў і шэлест маладой руні якая блішчастымі абсягамі рассыпалася на сонечнай роўнядзі *(Т. Хадкевіч)*. 7. Вось і зараз калі ўвесь лес гарыць золатам у якое яго ўбрала восень алешнік гэты не прызнае яе законаў і паводзіць сябе дзіўна угары дзенідзе яшчэ зялёны а ўнізе трава засыпана лісцем пачарнелым скручаным як гарэлая бляха *(І. Шамякін)*. 8. Яшчэ дзе-нідзе падае голас нястомны валацуга-дзяркач але ўжо яго перабівае там і сям то залівістая песня жаваранка то ўрачысты трубны кліч жураvоў то кароткае «кэ-кэ» глухаркі што выводзіць сваіх дзяцей насустрач промням сонца на пясок высокай грывы *(К. Кірэенка)*.

**170.** Спішыце тэкст, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Вызначце вобразна-выяўленчыя сродкі мастацкага стылю.

## УСХОД СОНЦА

Быў самы ранак час калі пачынае сыходзіць з зямлі туман і з туману паступова разгортваючы сваімі промнямі яго заслону выходзіць сонца. Яно не грэе. Цьмянае сонцава кола кружыцца за туманавай заслонай над самымі балотамі і вільготнай мякаццю яго сцірае з сябе санлівасць. Туман радзее а круг сонца ўсё чысцей усё яскравей і рухавей. Пакуль сонца ў тумане сабраная ў кроплі раса трымаецца на мураве а колер муравы мутнавата-зялёны. Птушкі не спяваюць яшчэ а як бы пераклікаюцца адна з адной пасля ночы. Як толькі ўзнімецца ўгору абмытае росамі сонца а туман пачне адплываць за асмялеўшым ветрам на ўсход разам пачнуць свой ранішні спеў птушкі і густалісты асіннік і бярэзнік заварушацца гойдаючы тонкімі верхавінамі падстаўляючы гнуткія свае галіны пад лёгкія і ўчэпістыя птушыныя лапкі. Варухнецца мурава пад ветрам і заіскрыцца расой. Залачонымі пырскамі будзе ўзлятаць з-пад ног раса збітая з муравы а прымятая нагамі мурава будзе павольна падымацца насустрач сонцу.

*Паводле П. Галавача*

● Пабудуйце схемы 1-га і 7-га сказаў, вызначце іх тып.

**171.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку і правапіс выдзеленых слоў.

Знайдзіце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак і пабудуйце іх схемы. З якой мэтай аўтар выкарыстоўвае гэтыя сказы?

Запішыце тэкст пад дыктоўку настаўніка.

Праверце дыктант вашага суседа па парце; арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі выпраўляйце простым алоўкам.

## ЦЁПЛЫ ДОЖДЖ

**Незадоўга** перад вечарам сабралася на **дождж.** Хмары доўга хадзілі навокал, збіраліся і **разыходзіліся,** зноў збіраліся і набрынявалі дажджавым пылам. Прыпякала яшчэ мацней, і парнасць, што насычала паветра, была цяжкай і

духмянай. Нарэшце на паўднёвым **захадзе** густа засінела, адтуль прабег слабы свежы ветрык, і хутка сіні кавалак неба ператварыўся ў навіслую свінцовую хмару. Яна шырылася і расла, як вялізны ветразь*, **раздзьмуты** ветрам. Сонца схавалася. **Па полі** пабеглі палахлівыя цені, змяняючы і блытаючы колеры. Поле прытаілася ў чаканні, а хмара набліжалася і цямнела, і час ад часу блакітныя ніці маланкі пранізвалі яе.

Хмара нібы **расшчапілася** маланкай, прагучаў магутны ўдар грому, і дождж лінуў — густы і цёплы. Шэрая сцяна паўстала вакол. Шпаркія густыя струмені злучылі хмары з зямлёй, адскоквалі ад прасохлай глебы, **рассыпаліся,** і светлы пыл паўставаў над полем, засцілаючы **зеляніну.**

Дождж перастаў гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Разарваная хмара **ссоўвалася** за дальні лес, і **неўзабаве** сонечны бляск зноў заліў поле. Усё нібы змянілася **ўвачавідкі*:** рунь пагусцела, стала больш красак **на ўзлеску,** а дальні ўзгорак, на якім быў пасеяны авёс, засінеў, нібы хто пафарбаваў яго.

*Т. Хадкевіч*

***Слоўнік***

**Ве́тразь,** -я, *м.* (паэт.). Парус.

**Увачаві́дкі,** *прысл.* Хутка, на вачах.

## § 33. Сінтаксічны разбор складанага сказа з рознымі відамі сувязі частак

### Парадак разбору

1. Падкрэсліць граматычныя асновы, вызначыць граматычныя часткі складанага сказа і абазначыць іх лічбамі.
2. Вызначыць віды сувязі паміж граматычнымі часткамі: злучнікавая (злучальная, падпарадкавальная) ці бяззлучнікавая сувязь.
3. Вызначыць сэнсавыя часткі складанага сказа і сродак іх сінтаксічнай сувязі.
4. Пабудаваць схему сказа.
5. Зрабіць сінтаксічны разбор кожнай сэнсавай часткі.

6. Растлумачыць знакі прыпынку.

7. Разабраць як просты сказ кожную граматычную частку.

### Узор пісьмовага разбору

[1]*Цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой,* і [2]*неба ніжэй нахіляецца да зямлі,* [3]*каб паслухаць яе адвечную скаргу* (Я. Колас). Гэта складаны сказ з living рознымі відамі сувязі частак.

Схема сказа:




### Узор вуснага разбору

1. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак; складаецца з трох граматычных частак: *цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой* — першая частка; *і неба ніжэй нахіляецца да зямлі* — другая частка; *каб паслухаць яе адвечную скаргу* — трэцяя частка.

2. Граматычныя часткі звязваюцца злучнікавай сувяззю: злучальным злучнікам ***і*** і падпарадкавальным злучнікам ***каб***.

3. Сказ мае дзве сэнсавыя часткі: 1-я сэнсавая частка — *цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой;* 2-я сэнсавая частка — *неба ніжэй нахіляецца да зямлі, каб паслухаць яе адвечную скаргу.* Сэнсавыя часткі звязваюцца паміж сабой злучальным злучнікам ***і***.

4. Першая сэнсавая частка па граматычнай будове ўяўляе сабой просты сказ. Другая сэнсавая частка па граматычнай будове ўяўляе сабой складаназалежны сказ: *неба ніжэй нахіляецца да зямлі* — галоўная граматычная частка; *каб паслухаць яе адвечную скаргу* — даданая грама-

тычная частка. Паміж галоўнай і даданай часткамі вызначаюцца мэтавыя адносіны; часткі звязваюцца паміж сабой падпарадкавальным злучнікам ***каб***.

5. Паміж сэнсавымі часткамі, якія звязваюцца злучальным злучнікам ***і***, ставіцца коска; коска ставіцца перад падпарадкавальным злучнікам ***каб***.

6. *Цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой* — сказ просты, двухсастаўны, развіты, поўны. (Ш т о?) *ночы* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.; *ночы* (ш т о р о б я ц ь?) *тояць* — просты выказнік, выражаны дзеясловам у форме абвеснага ладу, цяпер. ч., мн. л., 3-й ас.; *ночы* (я к і я?) *цёмныя* — дапасаванае азначэнне, выражана прыметнікам; *тояць* (ш т о?) *спакой* — прамое дапаўненне, выражана назоўнікам у форме В. скл., адз. л.; *спакой* (я к і?) *урачысты* — дапасаванае азначэнне, выражана прыметнікам; *спакой* (я к і?) *нейкі* — дапасаванае азначэнне, выражана няпэўным займеннікам.

(Такім жа спосабам выконваецца сінтаксічны разбор другой і трэцяй граматычных частак гэтага сказа.)

**172.** Спішыце сказы і зрабіце іх сінтаксічны разбор (пісьмовы і вусны).

1. Днём яшчэ было цёпла, а пад вечар, калі чырвонае сонца сцякала за лес, апусцелая няласкавая зямля стыла на холадзе *(І. Мележ)*. 2. Дзядзька папярэдзіў, што пад вечар у вёску наехала немцаў, і яны павярнулі ў лес, да гэтага хутара *(В. Быкаў)*. 3. Дзень выдаўся цёплы, па-красавіцку прыпякала сонца, але быў моцны вецер *(І. Шамякін)*. 4. Сыпаў снег, і па ўсім відаць было, што намерыўся легчы ён ужо зусім сур'ёзна, аж да самай вясны *(М. Лынькоў)*.

⊙ **173.** Спішыце сказы і зрабіце іх сінтаксічны разбор (пісьмовы).

1. Мікіта — чалавек нелюдзімы, удзень яго не спаткаеш на людзях, і жыве ён адзін, як воўк, даўно пахаваўшы сваю старую і адбіўшыся ад дзяцей *(Я. Колас)*. 2. Жыц-

цё многіх людскіх пакаленняў прайшло перад старымі дубамі і праходзіць, нібы тыя хвалі Нёмана, што пакручастай змейкай абвівае высокі роўны груд, а яны ўсё стаяць, спакойныя і важныя, і жывуць сваім асобным жыццём *(Я. Колас)*. 3. Тое, што дарога аказалася зусім без следу, хоць і давала нагам працы, але засцерагала ад нечаканасцей: наўрад ці хто будзе пільнаваць байцоў тут, у гэтай глушэчы *(В. Быкаў)*. 4. Стаіць ломкая цішыня, і, калі ападзе заўчасна звялы ліст з клёна, чуваць, як ён трапечацца ў паветры і з мяккім, пяшчотным шэлестам падае на зямлю *(Т. Хадкевіч)*.

**174. Вольны дыктант.** Выразна прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып маўлення, абгрунтуйце сваю думку. Якая тэма гэтага тэксту? Ці вызначаюцца ў ім мікратэмы? Растлумачце падзел тэксту на абзацы.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Выпішыце сказы, прапанаваныя для сінтаксічнага разбору, зрабіце іх сінтаксічны разбор (пісьмовы).

Запішыце тэкст пад дыктоўку настаўніка па абзацах.

## ГРУША І ДНЯПРО

Груша цвіла апошні год. Усе галіны яе, усе вялікія расохі* да апошняга пруціка былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цветам. Яна кіпела, млела і раскашавалася ў пчаліным звоне, цягнула да сонца сталыя лапы і распасцірала ў яго ззянні маленькія кволыя пальцы новых парасткаў. І была яна такая магутная і свежая, так утрапёна* спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што здавалася, не будзе ёй зводу і не будзе канца[сн]. І аднак надыходзіла яе апошняя часіна.

Дняпро падбіраўся да яе спакваля, патроху, як разбойнік. У вечным сваім імкненні скрышыць правы бераг ён падступаў у палавень зусім блізка да яго, руйнаваў адхоны, зносіў, каб пасадзіць у другім месцы, лазу, гвалтоўна* вырываў кавалкі берага або асцярожна падмываў яго, каб раптам абурыць у ваду цэлыя брылы зямлі[сн]. Потым адступаў да наступнай вясны, і трава літасціва спяшалася

залячыць раны, нанесеныя Дняпром. А ён вяртаўся зноў: дзе руйнаваў, дзе падмываў і з часам абкружыў грушу амаль з усіх бакоў.

*У. Караткевіч*

**Слоўнік**

**Расо́ха,** -і, *ДМ* -со́се, ж. (абл.). Дрэва, галіна з раздвоеным ствалом; развіліна.

**Утрапёна**, *прысл. ад* утрапёны.

**Утрапёны,** -ая, -ае. Нястрыманы ў праяўленні якіх-небудзь пачуццяў.

**Гвалто́ўна,** *прысл. ад* гвалтоўны.

**Гвалто́ўны,** -ая, -ае. 1. Які суправаджаецца гвалтам, прымусам. 2. Раптоўны, нечаканы.

## § 34. Афіцыйныя паперы. Аўтабіяграфія. Заява

Кожнаму чалавеку трэба ўмець афармляць дакументы, з якімі даводзіцца сустракацца ў штодзённым жыцці. **Дакументы**, або **афіцыйныя паперы**, — гэта адна з формаў пісьмовых зносін паміж асобамі, установамі, дзяржавамі. Да афіцыйных папер адносяцца заявы і аўтабіяграфіі, распіскі і акты, службовыя лісты і паведамленні, пратаколы, справаздачы, загады, дэкрэты, ноты, пагадненні і іншыя.

Для напісання афіцыйных папер выкарыстоўваецца адзін са стыляў літаратурнай мовы — **афіцыйны стыль.** Мова афіцыйных папер мае пэўныя асаблівасці:

1) дакладнасць і яснасць;

2) адсутнасць шматслоўнасці;

3) ужыванне нейтральных літаратурных слоў, спецыяльных тэрмінаў, адназначных і нявобразных слоў, напрыклад: *адказчык, заяўнік, кватэранаймальнік, пастанова* і інш.;

4) абазначэнне асоб жаночага полу па іх занятку, прафесіі назоўнікамі мужчынскага роду, напрыклад: *дырэктар Навіцкая В. М., доктар Лісоўская Р. А.*;

5) пераважнае ўжыванне простых сказаў; з усіх відаў складаных сказаў часцей за ўсё ўжываюцца складаназалежныя сказы з адной даданай часткай;

6) стандартнае напісанне дат і лікаў.

У афіцыйных зносінах выпрацаваліся **формы** многіх дакументаў. Некаторыя формы строга захоўваюцца ў дакументах (заява, даверанасць, пратакол), другія служаць узорам, якога можна прытрымлівацца толькі часткова (аб'ява, аўтабіяграфія, справаздача, службовае пісьмо).

## Аўтабіяграфія

У **аўтабіяграфіі** коратка расказваюць пра свой жыццёвы шлях, таму гэты дакумент пішацца ад першай асобы.

У пачатку тэксту трэба назваць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, час і месца нараджэння, сказаць пра сацыяльнае становішча і заняткі бацькоў. Пасля гэтага коратка гавораць пра гады вучобы, адзначаюць важныя вехі працоўнай і грамадскай дзейнасці.

Паколькі аўтабіяграфія — гэта афіцыйная папера, у ёй не трэба раскрываць рысы характару, звычкі, схільнасці, розныя бакі асабістага жыцця, напрыклад: *у мяне ёсць цудоўная сястрычка, я люблю хадзіць у кіно, сябрую з суседкай па лесвічнай пляцоўцы* і г. д.

У канцы тэксту аўтабіяграфіі абавязкова ставяць дату (злева) і подпіс (справа).

**175.** Прачытайце ўзор аўтабіяграфіі. Адпаведна яму напішыце аўтабіяграфію.

Перад напісаннем аўтабіяграфіі даведайцеся ў бацькоў: хто яны па прафесіі, паводле роду заняткаў; якая дакладная назва ўстановы, дзе яны працуюць; якую пасаду яны займаюць.

АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я, Клімовіч Ніна Віктараўна, нарадзілася 29 сакавіка 1996 года ў горадзе Гомелі, у сям'і служачых. Мой бацька, Клімовіч Віктар Іванавіч, — інжынер, працуе ў канструк-

тарскім бюро РТУП[1] «Беларускае рачное параходства». Мая маці, Клімовіч Алена Рыгораўна, — настаўніца беларускай мовы і літаратуры ва ўстанове адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 40 г. Гомеля».

У 2002 годзе я стала вучаніцай УА[2] «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 38 г. Гомеля» і адначасова паступіла ў Гомельскую дзіцячую музычную школу № 1 імя П. І. Чайкоўскага па класе фартэпіяна.

У 2008 годзе ў сувязі з праяўленнем цікавасці да вывучэння моў і па рэкамендацыі настаўнікаў я перайшла ў іншую адукацыйную ўстанову — «Беларуска-славянскую гімназію № 36 г. Гомеля імя Івана Мележа», дзе паглыблена вывучаю беларускую мову і літаратуру, а таксама польскую мову.

У 2009 годзе закончыла музычную школу.

Цяпер з'яўляюся вучаніцай 9-га класа УА «Беларуска-славянская гімназія №36 г. Гомеля імя Івана Мележа».

15 мая 2011 г. *Клімовіч*

Акрамя аўтабіяграфіі як афіцыйнага дакумента, існуе **аўтабіяграфія** як **жанр літаратуры**. У літаратурных аўтабіяграфічных творах аўтары апісваюць не толькі свой жыццёвы шлях, але і свой унутраны свет, душэўныя перажыванні, даюць самі сабе ацэнку, апісваюць сустрэчы з рознымі людзьмі, вызначаюць сваё месца ў жыцці іншых людзей і ў жыцці грамадства. У такіх аўтабіяграфіях прысутнічае, як правіла, і апісанне значных гістарычных падзей, сведкам якіх быў аўтар або якія паўплывалі на яго лёс.

**176.** Прачытайце ўрыўкі з аўтабіяграфічнага твора (1966 г.) беларускага пісьменніка У. Караткевіча. Вызначце асноўныя вехі жыцця У. Караткевіча і на гэтай падставе складзіце план тэкс-

---

[1] РТУП — Рэспубліканскае транспартнае ўнітарнае прадпрыемства.

[2] УА — Установа адукацыі.

ту. Якія гістарычныя падзеі адзначае пісьменнік у аўтабіяграфіі? Якія пачуцці выказвае У. Караткевіч да фактаў свайго жыцця і да людзей, якія былі побач з ім? Якія жыццёвыя планы і мары пісьменніка?

## ДАРОГА, ЯКУЮ ПРАЙШОЎ

Я ўраджэнец той часткі Беларусі, якая ляжыць на Дняпры. Люблю беларускае Палессе, і казачна мяккую Навагрудчыну, і адзіную ў свеце Белавежу, і суровую прыгажосць паўночнага азёрнага краю. Іх нельга аддзяліць ад мяне, але ў Прыдняпроўі мне неяк больш прытульна.

Маці мая, Надзея Васільеўна, нарадзілася ў 1893 годзе, у дзяцінстве засталася без маці, скончыла Марыінскую гімназію ў Магілёве, некаторы час, пакінуўшы дом, працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, ля Рагачова, а пасля пазнаёмілася з маім бацькам, Караткевічам Сямёнам Цімафеевічам, і ў 1917 годзе выйшла за яго замуж (бацька нарадзіўся ў 1887 годзе, памёр у 1959-м).

У сям'і нас было трох. Старэйшы брат (загінуў на апошняй, спадзяюся, што апошняй, вайне), старэйшая сястра і я. Я нарадзіўся 26 лістапада 1930 года ў горадзе Оршы Віцебскай вобласці. Тады гэта быў маленькі гарадок. Зялёныя вуліцы, рэшткі валоў замчышча, гудкі далёкіх цягнікоў і блізкіх параходаў (чыгунка і аўтобусы яшчэ не забілі раку), дубовыя лясы на берагах і ліпы на вуліцах, недалёкія парогі. І, вядома, сотні крыніц на берагах і нашы песні. І перш за ўсё кнігі. Кніг у доме было мноства: і рэшткі дзедавай бібліятэкі, і кнігі бацькоў, і свае.

А потым пачалася вайна. Бамбёжкі. Эшалоны. Пачуццё бездапаможнасці падлетка, які ўжо не дзіця, што спакойна пакладаецца на старэйшых, але яшчэ і не мужчына, каб так ці іначай дзейнічаць і, магчыма, вырашаць свой лёс. Бунтаваў супраць гэтага пачуцця. Некалькі разоў уцякаў з інтэрната на фронт. Затрымлівалі, вядома. А з інтэрната таму, што здарылася звычайная на вайне рэч: доўгі час не ведаў, дзе бацькі і ці жывыя яны наогул, а калі жывыя, то дзе, за лініяй фронту або паспелі эвакуіравацца. Выпадкова даведаўся, што бацькі ў Арэнбургу. З вялікімі

цяжкасцямі (без пропуска і білета) дабраўся да іх. У Арэнбургу скончыў шосты клас.

Восенню сорак чацвёртага пераехалі на Беларусь. І вось тут упершыню ўбачылі сапраўдны разор, «зону пустыні», некалькі ўскраінных завулкаў, як канцы галінак ля згаслага вогнішча. Гарады, дзе нават руінаў не было. (Немцы разабралі іх на цэглу для абаронных патрэб.) Да голаду і холаду было не звыкаць, але тут, на выпаленай зямлі, так намерзліся, што часам хацелася памерці, абы толькі цябе пахавалі ў печцы. Але ад работы не бегаў. І сябры-аднакласнікі былі такія самыя. Мы, вядома, агрубелі. І ўсё ж многіх з нас цягнула да вершаў. Стольках, што мы нават выдалі некалькі нумароў рукапіснага часопіса «Званочак»...

У сорак дзявятым годзе я паступіў у Кіеўскі ўніверсітэт на філалагічны факультэт. Пасля заканчэння ўніверсітэта я паехаў настаўнікам у глухую вёску Лесавічы, што ля Таращчы. Працаваў там два гады. Я ўдзячны і вёсцы, і ўніверсітэту. Удзячны настаўнікам і старэйшым сябрам: А. А. Назарэўскаму, А. І. Бялецкаму, Л. А. Панамарэнка, С. І. Маславу. Іх я любіў, і яны мяне любілі. Хто жывы — тым сто год жыцця. Хто памёр — пухам ім зямля.

У канцы першага года маёй настаўніцкай працы адбылося нечаканае. Мінскі сябра папрасіў мяне даслаць яму вершы, пачытаць. Я даслаў, як бывала і раней. А ён панёс іх у часопіс «Полымя». І раптам улетку 1955 года я атрымаў нумар часопіса са сваім вершам «Машэка». Гэта пераламіла мой лёс. У 1957 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, а праз год — на Вышэйшыя літаратурныя курсы. У Маскве быў задуманы першы мой раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», надрукаваны пад назвай «Нельга забыць» у часопісе «Полымя» ў 1962 годзе.

Пасля двух год перапынку здаў у «Полымя» новы свой раман «Каласы пад сярпом тваім». Здаў першы том. Другі не выпускаю з рук, дапрацоўваю. Пастараўся заплаціць гэтай кнігай доўг Дняпру, людзям паўстання 1863 г., Беларусі. Калі б мне ўдалося пасля «Каласоў» напісаць некалькі раманаў і аповесцей і давесці дзею да нашых дзён,

я б лічыў, што справа жыцця зроблена. Але да гэтага так далёка! Трэба працаваць. Не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён, — многа або мала, але да канца.

*Паводле У. Караткевіча*

Калі аўтабіяграфія — гэта апісанне аўтарам уласнага жыццёвага шляху, то **біяграфія** — гэта апісанне жыццёвага шляху нейкай асобы, зробленае іншай асобай. Як і аўтабіяграфія, біяграфія можа быць напісана ў афіцыйным стылі. Як правіла, у афіцыйным стылі ствараюцца біяграфіі знакамітых людзей для энцыклапедый і спецыяльных даведнікаў. Такія біяграфіі характарызуюцца аб'ектыўнасцю, сціпласцю і дакладнасцю выкладзенай у іх інфармацыі. Аднак біяграфія можа быць і літаратурным творам. У гэтым выпадку ў тэксце біяграфіі *абавязкова выражаюцца адносіны аўтара да той асобы*, пра жыццёвы шлях якой ён паведамляе.

**177.** Прачытайце тэкст, у якім апісваецца біяграфія вядомага беларускага лінгвіста Б. А. Тарашкевіча. У чым заключаецца навуковы і грамадзянскі подзвіг Б. А. Тарашкевіча? У якіх сказах тэксту выражаюцца адносіны аўтара да Б. А. Тарашкевіча? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку і правапіс вялікай літары. Запішыце тэкст пад дыктоўку настаўніка.

У 1918 г. у Вільні ўбачыла свет першая граматыка беларускай мовы для школы. Аўтарам «Беларускай граматыкі для школ» быў Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч — дваццацішасцігадовы беларускі філолаг, вучоны-патрыёт, імя якога па праву стаіць у адным шэрагу з імёнамі славутых асветнікаў нашай Бацькаўшчыны.

Б. А. Тарашкевіч паходзіў з сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую гімназію, а ў 1916 г. — гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Кароткі час выкладаў лацінскую і грэчаскую мовы на філалагічным факультэце таго ж універсітэта, а ў 1919 г. узначаліў беларускую гімназію ў Вільні, маючы ўжо ўласны падручнік беларус-

кай мовы. У 1922 г., калі заходнебеларускія землі былі ўжо ў складзе Польшчы, Б. А. Тарашкевіч быў абраны дэпутатам сейма* Польшчы і ўзначаліў беларускую парламенцкую* фракцыю*. За дзейнасць у абарону інтарэсаў беларускага люду неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі.

Стварэнне граматыкі беларускай мовы Б. А. Тарашкевіч лічыў жыццёвай задачай. Выкладаючы ва ўніверсітэце, працуючы дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, Б. А. Тарашкевіч добра разумеў, якая кніга перш за ўсё патрэбна маладой беларускай школе, і шмат сіл аддаў гэтай працы.

Яшчэ Францішак Багушэвіч, задумваючыся над будучыняй культуры свайго народа, гаварыў аб самай пільнай* патрэбе ў граматыцы і слоўніку беларускай мовы. Горача марыла пра гэта няўрымслівая Цётка. Думка аб падручніку для беларускіх дзяцей моцна непакоіла ў апошнія гады жыцця Максіма Багдановіча. Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч рашуча пайшоў насустрач пільнай нацыянальнай патрэбе і стварыў кнігу, якую так чакаў беларускі народ. У гэтым яго неўміручая навуковая і грамадзянская заслуга перад Беларуссю.

*Паводле А. Міхневіча*

### *Слоўнік*

**Сейм,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва парламента ў некаторых дзяржавах.

**Парла́мент,** -а, *М* -нце, *м.* Найвышэйшы заканадаўчы орган канстытуцыйнай дзяржавы.

**Парла́менцкі,** -ая, -ае. Які мае адносіны да парламента.

**Фра́кцыя,** -і, *ж.* Арганізаваная група членаў палітычнай партыі, якая праводзіць яе палітыку ў парламенце або ў іншых арганізацыях.

**Пі́льны,** -ая, -ае. Які патрабуе неадкладнага выканання, неабходны, тэрміновы.

## Заява

**Заява —** гэта пісьмовы зварот з просьбай адной або некалькіх асоб ва ўстанову, арганізацыю або да службовай асобы.

У залежнасці ад таго, куды падаецца заява, яе аўтар можа выступаць як «вучань», «жыхар», «грамадзянін» і г. д.

Заява — афіцыйная папера, якая мае строгую форму. Заява афармляецца наступным чынам:

● з правага боку на трэцюю частку радка пішацца ў форме давальнага склону назва пасады той службовай асобы, да якой звяртаюцца з просьбай; калі заяўнік ведае прозвішча, імя, імя па бацьку гэтай службовай асобы, то можа ўказаць іх; калі заяўнік гэтага не ведае, дастаткова назваць толькі пасаду службовай асобы;

● ніжэй у форме роднага склону без прыназоўніка пішацца прозвішча, імя, імя па бацьку заяўніка; калі неабходна, называецца яго сацыяльнае становішча або пасада і адрас;

● праз адзін-два радкі пасярэдзіне ліста пішацца слова *Заява* з вялікай літары; пасля слова *Заява* кропка не ставіцца;

● тэкст просьбы пачынаецца з чырвонага радка, з вялікай літары і выкладаецца коратка і дакладна;

● унізе злева ставіцца дата (дзень, назва месяца, год), а справа — подпіс.

У з о р
а ф а р м л е н н я з а я в ы:

*Дырэктару ўстановы адукацыі*
*«Гродзенскае вучылішча*
*мастацтваў»*
*Несцяровіча Сяргея Лявонавіча,*
*які пражывае ў г. Гродна,*
*вул. Замкавая, д. 5, кв. 12*

*Заява*

*Прашу дазволіць мне здаваць уступныя экзамены на аддзяленне тэатральнага мастацтва.*

*30 чэрвеня 2011 г.* *Несцяровіч*

**178.** Звярніцеся да дырэктара вашай установы адукацыі з пісьмовай афіцыйнай просьбай:

1) накіраваць вас у летні лагер працы і адпачынку;

2) перавесці вас у 10-ы клас для атрымання агульнай сярэдняй адукацыі;

3) выдаць вам дакументы аб заканчэнні дзевяці класаў у сувязі з паступленнем у іншую (указаць якую) установу.

Паколькі вы ведаеце прозвішча, імя, імя па бацьку дырэктара вашай школы, укажыце іх у заяве; укажыце таксама сваё сацыяльнае становішча — *вучань (вучаніца) 9 «А» (або іншага) класа.*

# СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ З ЧУЖОЙ МОВАЙ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 35. Паняцце пра чужую мову. Спосабы перадачы чужой мовы. Простая мова

Аўтар ці апавядальнік у свой тэкст можа ўключаць выказванні іншых асоб. Выказванне той ці іншай асобы, якое перадаецца аўтарам, называецца **чужой мовай**. Чужая мова можа перадавацца ў выглядзе простай і ўскоснай мовы.

Чужая мова, перададзеная даслоўна, з захаваннем і зместу, і формы, называецца **простай мовай.** Напрыклад: *Народны артыст Рэспублікі Беларусь кампазітар Ігар Лучанок сказаў: «Я вельмі люблю нашу песню і шчаслівы, што прысвяціў ёй сваю творчасць»* (Я. Брыль). *«З цэлым народам гутарку весці», — марыў вялікі паэт сялянства Янка Купала* (Р. Барадулін).

Простая мова можа ўяўляць сабой самастойны сказ або некалькі сказаў, розных па мэце выказвання (апавядальных, пытальных, пабуджальных), па інтанацыі (клічных, няклічных) і саставе (простых: аднасастаўных, двухсастаўных; складаных: складаназлучаных, складаназалежных і інш.).

Чужая мова, перададзеная не даслоўна, а толькі з захаваннем яе зместу, называецца **ўскоснай мовай.** Ускосная мова афармляецца, як даданы сказ у складзе складаназалежнага. Напрыклад: *Ніл Гілевіч піша, што Купала на доўгія дзесяцігоддзі зрабіўся сцягам нацыі, стаў для беларускага народа тым, кім з'яўляецца Шаўчэнка для ўкраінцаў, Петэфі для венграў, Боцеў для балгар* (Я. Брыль).

**179.** Знайдзіце ў сказах простую мову і словы аўтара. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку.

1. Беларуская пісьменніца Цётка пісала: «Бедны той, хто, апрача грошай, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее, гэта любоў да Бацькаўшчыны, да свайго народа, да роднай мовы». 2. «Мне прыходзілася многа жыць у народзе і з народам, хадзіць ад сяла да сяла. Тыя песні, якія[ф] я запісваў, я сам вывучаў на памяць, мне не трэба было ні магнітафона, ні фанографа*, мне лёгка было іх захоўваць...» — успамінаў нястомны збіральнік народнай песні Рыгор Раманавіч Шырма *(Я. Брыль)*. 3. Праз хвіліну лесавік-праваднік зноў загаварыў пра сваё: «Наша Свіцязь[м] усім азёрам возера. Уяві сабе ланцуг узвышшаў. А на адным з хрыбтоў таго ланцуга — круглае люстра вады. Ва ўпадзіне. Наўкола — лес. І дрэвы навіссю над тым люстрам. Вада чысцюткая. А дно — белае. Толькі сямтам плёсы рэдкім чаротам засеяны. Ну вось, гэта будзе Свіцязь» *(Я. Партуха)*. 4. «Нап'ешся новым карцом* сцюдзёнай вады, — гаварыў дзед, вешаючы на сук новенькі карэц, — і запахне бярозавым сокам» *(І. Грамовіч)*.

### Слоўнік

**Карэ́ц,** -рца́, *м.* Драўляная або металічная пасудзіна з ручкай для зачэрпвання вады, квасу і пад.

**Фано́граф,** -а, *м.* Апарат для запісу і ўзнаўлення гукаў механічным спосабам.

Сказы з **простай мовай** складаюцца з дзвюх частак: слоў аўтара і ўласна-простай мовы.

**Словы аўтара** ўказваюць, каму належыць простая мова. Напрыклад: *1. «Мамачка-галубка! — просіць* ***ён*** *так міла. — Можа б ты на рэчку пагуляць пусціла?»* (Я. Колас). *2.* ***Уладзімір Караткевіч*** *пісаў: «Нямы той чалавек, які забыў мову продкаў...».*

У аўтарскай мове ўжываюцца дзеясловы маўлення і думкі *(гаварыць, казаць, гаманіць, выступаць, думаць)*,

дзеясловы, якія паказваюць на асаблівасці маўлення (*паўтараць, папракаць, растлумачваць, крычаць* і інш.), дзеясловы, якія абазначаюць эмоцыі, пачуцці, унутраны стан таго, каму належыць простая мова (*заплакаць, уздыхнуць, засаромецца, пакрыўдзіцца, раззлавацца, зачырванецца, збялець, дакараць* і інш.). Напрыклад: *1. Старая* ***не змаўкала****: «Грыбы ж у ласцы жывуць: дзе адзін — там яшчэ адзін-два ці болей. Павылазяць адзін пры адным і сядзяць»* (Ф. Янкоўскі). *2.* ***Хрыпіць*** *надрыўна шэры вецер: «Гу-у-у. Бягу. Бягу. Бягу»* (В. Лукша). *3. «Які ж я яшчэ нявопытны, як мала ведаю людзей!» —* ***дакараў*** *ён сябе* (М. Машара).

Простая мова можа знаходзіцца перад словамі аўтара, пасля слоў аўтара, у сярэдзіне слоў аўтара, можа разрывацца словамі аўтара. Напрыклад: *1. «Ура-а-а! Слава беларусам!» — такімі воклічамі з берагоў праводзіць нас ледзь не ўся Вільня* (П. Мядзёлка). *2. Гаварыў ён нізкім густым басам такой сілы, што мы часта смяяліся: «Едзе Фамін на кані, то не разбярэш, калі гаворыць наш камандзір, а калі ржэ яго конь»* (А. Карпюк). *3. Лабановіч падумаў: «А добра гаворыць Бас!» — і ўпотайку пазайздросціў яго красамоўству* (Я. Колас). *4. «Сказаць, не кепска тут хлапчыне, — прамовіць часам гаспадыня, — а ўсё ж дамок свой моцна цягне, і кожны к матцы сваёй прагне»* (Я. Колас).

**180.** Прачытайце сказы з простай мовай і звярніце ўвагу на знакі прыпынку. Ці залежыць пастаноўка знакаў прыпынку ад месца знаходжання слоў аўтара?

1. А на развітанне бацька, употайкі выцершы скупую мужчынскую слязу, дадаў: «Толькі жыві праўдай. Ведай: праўда святлей за сонца» *(І. Гурскі).* 2. В. Гюго пісаў: «Рану, нанесеную Радзіме, кожны з нас адчувае ў глыбіні свайго сэрца» *(Н. Бушыла).* 3. «Добрыя весці, калі запрашаюць есці, — адказаў Пыхаў. — Але ўсяму свой час» *(К. Мохар).* 4. «Ну і сын у цябе, Андрэй Данілавіч. Зух!* — кажа [дэкламатар]. — Можаш быць спакойны:

дарогу ў жыццё ён сам сабе праб'е» *(М. Ракітны)*. 5. «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! — пісаў Ф. Багушэвіч у прадмове да зборніка «Дудка беларуская». — Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай бацькавай спрадвечнай мове». 6. «Віктар, не разводзь дэмагогію*, — просіць Веньямін. — Пара спаць, гадзіна ночы. Тое, што скажаш, прыкладна вядома» *(І. Навуменка)*. 7. Алесь сказаў: «Машыны, брат, не толькі маюць фізічную сілу, яны яшчэ здольны ўплываць і на розум людзей» *(П. Броўка)*.

### Слоўнік

**Зух**, -а, *м.* (разм.). Бойкі, удалы, маладзецкі чалавек; хват.

**Дэмаго́гія**, -і, *ж.* Пра ўсякую пустую беспрадметную гаворку, прамову і пад.

## § 36. Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай

**181.** Прачытайце тэксты. Звярніце ўвагу, як аформлена простая мова, якія знакі прыпынку стаяць паміж словамі аўтара і простай мовай.

**I.** Этнограф* у экспедыцыі* на Любаншчыне. Пытаецца ў цёткі:

— Ваш абрус даматкан ы?

— Як-як? Не разабрала, што вы сказалі мне?

— Абрус ваш даматкан ы?

— Ці дома, пытаецеся, тканы?

Этнограф не разумее... пытання на пытанне.

— Вашы абрусы, пытаюся, і ручнікі вашы — даматкан ыя?

— А-а-а! Дома, чалавеча, дома. Сама я дома ткала. Ручнікі, праўда, ткала не ў хаце: было цёпла, дык мы ў клеці* кросны ставілі, каб пылу менш было, каб лягчэй прыбіраць было. У мяне і дыванкі былі саматканыя, і ручнікі саматканыя, і кужэльнае палатно саматканае. Дома. А дзе ж? Сама ткала. То ўсё саматканае.

*Ф. Янкоўскі*

**II.** ЧАМУ РЫБЫ НЕ ГАВОРАЦЬ

На ўроку біялогіі настаўніца спытала: «Дзеці, чаму рыбы не гаворацьʼ?» Вучаніца аж здзівілася: «Як жа яны могуць гаварыць, калі ў іх увесь час галава ў вадзе!»

*А. Фядосік*

### Слоўнік

**Этно́граф**, -а, *м.* Спецыяліст у галіне этнаграфіі. **Этнагра́фія** — сукупнасць усіх асаблівасцей быту, культуры, звычаяў якога-небудзь народа, народнасці, мясцовасці і пад.

**Экспеды́цыя**, -і, *ж.* Падарожжа, паездка, паход і пад. групы асоб, атрада з навуковымі, даследчымі мэтамі.

**Клець**, -і, *ж.* Традыцыйны сялянскі будынак для захавання маёмасці; свіран, кладоўка.

Простая мова б я р э ц ц а ў д в у к о с с е, калі пішацца ў адзін радок са словамі аўтара. Напрыклад: *Жанна акінула майстра зневажальным поглядам і ледзь чутна прамовіла: «Мой дзядуля — філосаф»* (В. Мудроў).

Простая мова н е б я р э ц ц а ў д в у к о с с е, калі яна пачынаецца з новага радка, з абзаца, перад ёй ставіцца працяжнік. Напрыклад: *...Вясёлы Пятро Фёдаравіч [Глебка] выслухаў мяне, за гэты час у галаве яго няспешна і грунтоўна выспеліўся адказ:*

*— Слоўнік гэты не тлумачальны, па-руску кажучы — не талковы, і ўсе талковыя хлопцы могуць яго, вядома, дапаўняць, удасканальваць для другога выдання* (Я. Брыль).

З а ў с ё д ы б я р э ц ц а ў д в у к о с с е нявыказаная простая мова (думкі, разважанні, успаміны, якія не выказваюцца ўголас). Напрыклад: *«Божа, што адбываецца? — з роспаччу* ***падумала*** *Эла. — Чаму людзі такія злосныя, пра сябе толькі дбаюць?»* (А. Дзятлаў). *«Ну не! —* ***думалася*** *Анютцы. — Наступнай зімою так не будзе»* (Я. Пархута).

Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай залежаць ад таго, дзе знаходзяцца словы аўтара (А) і простая мова (П).

**I. Словы аўтара стаяць перад простай мовай.**

Калі словы аўтара стаяць перад простай мовай, пасля іх ставіцца двукроп'е, адкрываецца двукоссе, простая мова пішацца з вялікай літары. У канцы простай мовы ставіцца пытальнік, калі простая мова — пытальны сказ; клічнік, калі простая мова — клічны сказ, і закрываецца двукоссе. Калі простая мова — апавядальны сказ, то спачатку закрываецца двукоссе, а пасля яго ставіцца кропка. Напрыклад:

А: «П?» *І раптам стаў прасіцца: «Браток, а як жа мне дадому вярнуцца?»* (Я. Пархута).

А: «П!» *Калі мы, бывала, пілі крынічную ваду тут, дзед казаў: «Чуеш, як пахне жалезам?.. Багатая наша зямля! Чаго толькі ў ёй няма!»* (І. Грамовіч).

А: «П». *Якуб Колас сказаў някрыўдна, па-бацькоўску: «Правільна робіш, чалавек, — шануй людзей і шануй сябе»* (М. Лужанін).

**II. Простая мова стаіць перад словамі аўтара.**

Калі простая мова стаіць перад словамі аўтара, то ставіцца двукоссе, простая мова пішацца з вялікай літары, у канцы яе ставіцца пытальнік, калі простая мова — пытальны сказ, клічнік, калі простая мова — клічны сказ, шматкроп'е, калі простая мова інтанацыйна не завершана, і закрываецца двукоссе, ставіцца працяжнік. Словы аўтара пішуцца з малой літары. Калі простая мова — апавядальны сказ, то пасля двукосся, у якое заключана простая мова, ставіцца коска і працяжнік, словы аўтара пішуцца з малой літары. Напрыклад:

«П?» — а. *«Што такое апавяданне як жанр, на вашу думку?» — пытаецца далей карэспандэнт* (Я. Скрыган).

«П!» — а. *«Жураўлі!» — вырвалася ў нас у адзін голас* (С. Грахоўскі).

«П...» — а. *«Час — лепшы лекар...» — гаварыў Кузьма Чорны* (А. Кудравец).

«П», — а. *«Не тое, не тое цяпер Палессе», — падумаў Андрэй, і зашчымела, як ад болю, сэрца, калі ўспомніў свае наезды дадому, у родную вёску* (Б. Санчанка).

**182.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. І чуецца той жа вясёлы голас: «Вось ты і на сваім Палессі!» *(Я. Пархута)*. 2. «Раскажыце цікавае пра партызан», — папрасіла дзяўчына *(І. Шамякін)*. 3. «Ну што ж, дачка, перш за ўсё табе трэба сагрэцца», — ласкава сказаў Высоцкі *(І. Гурскі)*. 4. А ён узяў і сам прапанаваў: «Лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць!» *(Я. Пархута)*. 5. «Прыходзь сёння ў клуб, а? Прыйдзеш?» — і ў яе голасе ён адчуў ноткі просьбы... *(М. Лупсякоў)*. 6. І далей, ад сябе ўжо, [Быкаў] прызнаўся: «Няма большага клопату ў таго, хто піша, чым яго адносіны з праўдай — катэгорыяй, якая ўвесь час увільвае, выслізгваецца, хіліцца да здрадлівасці» *(У. Юрэвіч)*. 7. Аддаючы[м] іх [пісьмы] Натцы, паштарка не ўтрымалася: «Ты ўжо, Натка, у Весялоўцы нашай — першая нявеста» *(П. Рабянок)*. 8. Нездарма ж у народзе гавораць: «Ласкавае слова што дзень ясны» *(П. Навіцкі)*. 9. У сваёй кнізе «Зоры — побач» П. І. Клімук пісаў: «Родная хата, вёска, родны кут, людзі, сярод якіх я гадаваўся і рос, пакінулі ў маёй душы незабыўны след[ф]. Я ніколі не забываўся на іх і заўсёды з ціхай і светлай радасцю прыязджаю ў родную Беларусь, у дарагую маю сэрцу Камароўку» *(М. Гіль)*.

**183.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку ў сказах з простай мовай.

1. Славік прыпёрся ўвечары з вудамі. Прапанаваў падаросламу Хадзем, Ляксандравіч, на рыбалку. Там карасі водзяцца, тлустыя, што кот бабін... *(А. Крыга)*. 2. Успомніўшы, ледзь не ўздыхнецца[сл] радасна Ах, якія там лясы, якая восень была, — сапраўды залатая! *(Я. Брыль)*.

3. Янка Купала сардэчна пажартаваў І ў Оршы ты мяне злавіў На гэты раз я цябе заняволю, паедзеш да мяне ў Ляўкі *(С. Шушкевіч)*. 4. Яшчэ раніцай таго сумнага дня — 22 лістапада 1944 года — ён [К. Чорны], ідучы па Савецкай вуліцы, гаварыў Я гляджу і радуюся, як з кожным днём ажывае наш Мінск, як людна становіцца на яго вуліцах *(В. Вітка)*. 5. Уцякай, уцякай, рыжая! крычаў ёй наўздагон Васько, ды лісіца не прыбаўляла кроку *(А. Асіпенка)*. 6. За работаю не ўбачылі, калі падышоў да іх дзядзька Піліп і сказаў Ну і работнікі, ні сну ім няма, ні ўпынку. Такая рань, а яны на нагах, працуюць... *(Б. Сачанка)*. 7. Мама! Мама! шапчу і старэнькія рукі цалую *(К. Кірыенка)*.

**III. Словы аўтара стаяць у сярэдзіне простай мовы.**

1. Калі словы аўтара разрываюць простую мову там, дзе павінна была стаяць коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік ці не было ніякага знака прыпынку, то словы аўтара выдзяляюцца з двух бакоў коскамі і працяжнікамі; другая частка простай мовы пачынаецца з малой літары.

Схематычна можна паказаць так: «П, — а, — п».

Напрыклад: *1. «У гэтай вайне, — пісаў пазней Васіль Быкаў, — мы не толькі перамаглі фашызм і адстаялі будучыню чалавецтва. У ёй мы яшчэ ўсвядомілі сваю сілу і зразумелі, на што мы здольны». 2. «Косця, — сказала Мальвіна, — табе не здаецца, што такі смачны бярозавік мы п'ём першы раз?»* (Б. Сачанка). 3. *«Я заўсёды меркаваў, — амаль прыязна прамовіў Гусоўскі, — што паэзія — гэта не набор прыгожых статуэтак, якія можна паставіць на стале ці над камінам»* (У. Арлоў).

2. Калі словы аўтара раздзяляюць простую мову там, дзе павінна стаяць кропка, то перад словамі аўтара ставіцца коска і працяжнік, а пасля слоў аўтара — кропка і працяжнік. Другая частка простай мовы пішацца з вялікай літары.

Схема: «П, — а. — П...».

Напрыклад: *1. «У самім канале бабры не жывуць, — гаворыць Леанід Васільевіч. — Тут для іх занадта неспакойна»* (В. Вольскі). 2. *«З Беларусі нам прыслалі сёе-тое пра Хатынь, — пісаў ён [Сухамлінскі]. — Чытаем у кожным класе. Хочам, каб дзеці не толькі ведалі ўсё гэта. Трэба, каб попел пакутнікаў грукаў у дзіцячыя сэрцы...»* (В. Вітка).

3. Калі словы аўтара разрываюць простую мову ў тым месцы, дзе павінны стаяць пытальнік, клічнік ці шматкроп'е, то перад словамі аўтара захоўваецца гэты ж знак і ставіцца працяжнік, словы аўтара пішуцца з малой літары, пасля іх — кропка і працяжнік. Працяг простай мовы пішацца з вялікай літары. Напрыклад:

«П? — а. — П?». *«У чым жа справа? — не раз думала Ніна. — Што патрэбна, каб набор быў бездакорны?»* (Г. Сапрыка).

«П! — а. — П». *1. «Людзі! — гукаць не стамлюся я. — Мір зберагчы мы павінны»* (П. Панчанка). *2. «Ах ільны, ільны! — у захапленні прагаварыла маці. — Яны такія белыя, што лебядзіны пух»* (М. Калачынскі).

«П... — а. — П». *«Сябры мае... — пачынае імператар. — Мы зробім прасцей»* (У. Арлоў).

4. Калі ў словах аўтара ёсць два дзеясловы маўлення ці думкі, то першы адносіцца да першай часткі простай мовы, а другі — да другой часткі. У такім выпадку пасля слоў аўтара (значыць, пасля другога дзеяслова маўлення ці думкі) ставіцца двукроп'е і працяжнік, а простая мова пішацца з вялікай літары. Напрыклад:

«П, — а: — П...». *«У ваду [кветкі] пастаўлю, ажывуць, — шэптам **адказала** яна і **дабавіла**: — Добрай ночы...»* (М. Чапрасаў).

«П? — а: — П!». *1. «Дзе ты прападаеш, Міша? — **сказала** жонка і, звяртаючыся да Кулінчыка, **паскардзілася:** — З дарогі, не еўшы, не адпачыўшы, пабег!»* (І. Дуброўскі). *2. «У госці да каго ці па справах? — зноў **запытаўся** ён і, не чакаючы адказу, **дадаў:** — Я ж сам родам з Гарывады!»* (Я. Пархута).

«П! — а: — П». *«Каб яны спрахлі, гэтыя твае канькі! — злосна **сказаў** бацька і **загадаў:** — Бяжы бягом дадому і адразу там пераадзенься ў сухое»* (А. Марціновіч).

«П... — а: — П!». *«Я не такая... — з роздумам **прызналася** Лада і тут жа горача **запэўніла:** — Але не стала горшая, тата!»* (І. Шамякін).

**184.** Прачытайце сказы з правільнай інтанацыяй: словы аўтара, якія разрываюць простую мову, вымаўляйце паніжаным тонам і больш хуткім тэмпам. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. «Вось і раса яшчэ на балоце трымаецца, — падумалася мне, ды адразу ж засумняваўся: — Адкуль раса можа быць у такую пару?» *(А. Кудравец)*. 2. «Надзённыя каштоўнасці эфемерныя*: яны знікаюць, — пісаў Аляксей Дудараў наконт назвы п’есы «Вечар». — Але ёсць жа нешта адвечнае: любоў, разуменне ўласнага прызначэння на зямлі... Жыццё — выпрабаванне чалавека на чалавечнасць». 3. «Вунь дровы ляжаць, — паказаў ён рукой убок. — Я вам прынясу. Бярозавыя, сухія, добра гараць» *(У. Шахавец)*. 4. Здаецца, чую, як шэпча траўка: «Глянь на мяне, разгледзь як след, а можа, прыдамся я табе на якую патрэбу» *(Х. Лялько)*. 5. «Ну, калі на тое пайшло, што заняліся ўспамінамі, — усміхнуўшыся, загаварыў Катлярэвіч, — то і мне ёсць пра што сказаць» *(І. Гурскі)*. 6. Нездарма ж казаў Віктор Гюго: «Думка, выказаная вершам,

гэта жалеза, ператворанае ў сталь». 7. «Ага! — злавіў сябе на думцы Віктар.— Самому можна, а другім не? У чужым воку саломінку ўбачыў, а ў сваім і бервяна не заўважаеш?» *(А. Кобец-Філімонава)*.

**Слоўнік**

**Эфеме́рны**, -ая, -ае (кніжн.). 1. Часовы, недаўгавечны. 2. Нерэальны, уяўны.

**185.** Складзіце або выпішыце з мастацкай літаратуры па 2 сказы на кожную схему.

1. «П, — а, — п».
2. «П?» — а.
3. А: «П!»
4. «П, — а. — П».
5. «П, — а: — П».

**186.** Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! пісаў ён [Ф. Багушэвіч] у прадмове да сваёй кнігі *(Я. Скрыган)*. 2. Стой, брат, Алесь! спыніўся Лабановіч, захоплены спакоем раніцы і хараством таго, што было навокал. Ты паглядзі, што за слаўнота! *(Я. Колас)*. 3. Скажы мне, дубе, пыталася чароціна чаму ты не гнешся і бура не можа цябе адалець? *(Я. Колас)*. 4. Свет добра памятае касмічны голас Юрыя Гагарына, памятае яго поўныя захаплення словы Бачу гарызонт Зямлі. Такі прыгожы арэол! *(А. Кудравец)*. 5. Зойдзеце як-небудзь сказаў рэдактар мы пачытаем вашы вершы і скажам чаго яны варты *(Б. Сачанка)*. 6. Ходзіць, мерыць кожны крок, нібы з вудаю дзядок пісаў калісьці Бядуля пра бусла *(В. Вольскі)*. 7. Янка Купала доўга маўчаў, а непадалёку ад дома сказаў Вось якая ў нас бадзёрая і разумная змена расце. Пагаворыш з імі — душой маладзееш *(С. Шушкевіч)*.

⊙ **187.** Прачытайце сказы, знайдзіце памылкі ў пастаноўцы знакаў прыпынку ў сказах з простай мовай і выправіце іх.

1. «Вось, — паказаў на Рыгора Сцяпан Рыгоравіч. — Наш дысертант. Таленавіты малады вучоны» *(Л. Арабей)*.

2. Што, цётка, правяраеце, які касец?» — Хітравата зірнуў старшыня *(І. Мележ)*. 3. Грыб шуму не любіць гаварыў Канстанцін Міхайлавіч, — бо ён сам ціха расце. А людзі бяруць вялізныя кашы, нажы метровыя і, задзёршы галаву, швэндаюцца па дзесяцёх у лесе» *(М. Лужанін)*. 4. «Мне трэба, абавязкова трэба жыць у сталіцы, бліжэй да такіх людзей. Гутаркі з імі ўзбагацяць мяне, нададуць маім вершам пэўны накірунак, сэнс... — падумаў я» *(Б. Сачанка)*. 5. І вось ён [К.Чорны] аднойчы павесіў на спінку гасцінічнага крэсла свой бывалы пінжачок з прывінчаным ордэнам, стаў перад тым пінжаком і сказаў, спытаўся «Здароў, Кузьма! Што, і цябе ўзнагародзілі? *(Я. Брыль)*. 6. Напраўду. — Пагадзіўся Гусоўскі. — Статак водзіць зубрыца. Але я маю надзею[ф], што мая паэма ўсё-такі не настаўленне паляўнічым, а нешта іншае» *(У. Арлоў)*. 7. Марына Юр'еўна падышла да стала, разгарнула журнал, бліснула вачыма, але не злосна, а з усмешкай, сказала: Сапраўды, быў такі мастак, ён амаль усё жыццё пісаў гэтую карціну» *(У. Ягоўдзік)*. 8. «Дык вось ты якая! сам здзіўляюся з яе хараства і схіляюся яшчэ ніжэй, закрываю ад цікаўных вачэй свой альбом» *(У. Ягоўдзік)*. 9. Убачыў мужык святых і — бух! — кулём у ногі: «вызваляйце[сл], святыя ўгоднікі, свечку вам пастаўлю! *(Ю. Андрэеў)*. 10. А то, недзе ў двары, дачакалася і накінулася маці на свавольніка-сына «Ты зноў на возеры быў?» *(М. Ракітны)*.

**188.** Спішыце сказы, устаўляючы замест знака \/ словы аўтара, прапанаваныя ў дужках, і расстаўляючы знакі прыпынку.

1. Сёння мне зноў няма патрэбы звяртацца да вас, дарагі доктар. \/ Далібог, наш цудоўны клімат пачынае рабіць дзівосы (адказвае ён на маўклівае пытанне лейб-медыка*) *(У. Арлоў)*. 2. Франя, выйдзі! \/ Зрабі так, каб цябе не было (загадвае ён) *(І. Навуменка)*. 3. Я дам яму голас вечавога звона. \/ Грымотамі будзе ён гучаць па ўсім краі і за яго межамі (сказаў адзін чараўнік) *(Я. Колас)*. 4. Кантора саўгаса. Прыгожа, праўда? \/ А там наша школа. Праўда, затое ў нас два будынкі (яна спытала, здавалася, з го-

нарам, але тут жа павярнулася ў другі бок і сказала сумна) *(І. Шамякін)*. 5. У гісторыі я не надта ∨ а наконт прыроды сапраўды: прырода ў нас прыгожая (сказаў Агееў) *(В. Быкаў)*. 6. Не падабаецца, напэўна, ∨ праўда вочы коле (казаў Пятрусь) *(Я. Брыль)*. 7. Гэта ж не сабакі, а ваўкі! ∨ Сюды імчацца! (закрычаў Сцёпка) *(К. Чорны)*. 8. А від адгэтуль нішто сабе, ∨ вось толькі непагадзь... (сказаў сусед) *(Я. Брыль)*. 9. Сынку ∨ адкуль ты прыляцеў, галубок? (радасна без меры ўзрушаная, сказала старая) *(І. Мележ)*. 10. Паэзія — радасць. ∨ Паэт творыць з хаосу* свой свет (пераканана сказаў Гусоўскі) *(У. Арлоў)*.

**Слоўнік**

**Лейб-ме́дык**, -а, *м.* Прыдворны ўрач.
**Хао́с**, -у, *м.* Беспарадак, неразбярыха.

**189.** З прыведзеных афарызмаў пабудуйце сказы з простай мовай і запішыце. Вусна перабудуйце сказы так, каб словы аўтара былі перад простай мовай, пасля простай мовы, у сярэдзіне простай мовы.

1. Той, хто не паважае родную мову, не паважае роднага народа *(І. Мележ)*. 2. Добрае слова лепшае за багацце *(Публій Сір — старажытнарымскі паэт)*. 3. Якое слова ты скажаш, такое ў адказ і пачуеш *(Галер — паэт Старажытнай Грэцыі)*. 4. Радзіму любяць не за тое, што яна вялікая, а за тое, што яна свая *(Сенека Луцый Анней — рымскі пісьменнік, філосаф)*. 5. Шчасце — як здароўе: калі яго не заўважаеш, значыць яно ёсць *(І. С. Тургенеў)*. 6. Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі *(Я. Купала)*.

## § 37. Дыялог, яго афармленне на пісьме

**190.** Прачытайце размову дзвюх асоб. Звярніце ўвагу, як пішацца кожная рэпліка.

Злёгку рыпнуўшы тармазамі, ля самага тратуара спыняецца светла-блакітная «Волга», з адчыненых дзверцаў — твар з шырокай усмешкай.

— Лявіцкі! Вам дадому?

— Дадому.

— Значыць, па дарозе. Сядайце.

Пасля некалькіх звычайных у такіх выпадках «дзе?», «як?», «што?» раптам незвычайнае:

— А хочаце, я вам усе асаблівасці квадрата пералічу?

— Так ужо і ўсе?

— Ну як ужо атрымаецца...

З дзесяці ўласцівасцей беспамылкова назваў дзевяць. І гэта — праз 17 гадоў.

— Як жа ты ўмудрыўся?

— Ды тут і мудрасці ніякай няма: там, у канспекце, вялікімі літарамі было напісана слова ДАРМАЕД. А гэта значыць, што ў квадрата сваіх асабістых уласцівасцей няма. У яго пяць уласцівасцей паралелаграма, дзве — прамавугольніка і тры ромба, а малюнкі гэтыя вось як цяпер перад вачамі стаяць...

*В. Ф. Шаталаў*

**Дыялог** — гэта простая мова, якая ўяўляе сабой гутарку дзвюх асоб. Словы кожнай асобы ў дыялогу называюцца **рэплікай**. Кожная рэпліка звычайна запісваецца з чырвонага радка. Перад ёй ставіцца працяжнік. Словы аўтара ў рэпліцы могуць быць або могуць адсутнічаць, калі без іх зразумела, каму належыць простая мова. Напрыклад:

*1. — Я і сам пішу вершы... — прызнаўся, сумеўшыся, Міця.*

*— Дык ты, можа, прачытаеш тое-сёе сваё зараз? — парасіла настаўніца.*

*— Не, — збянтэжыўся той. — Я пасля... Сшытак свой пакажу... Я якраз пішу па-беларуску...* (Г. Далідовіч. «Страта»).

*2. — Мы з табой пра калодзежы гаварылі? Калі да ўкраінцаў ездзілі?*

*— Не да калодзежаў было.*

*— А да чаго табе было? Не да дачкі, не да сваціі. У пекла адпусцій...*

*— Уладзімір Паўлавіч, не раздзірай сэрца, яно і без таго абліваецца крывёю.*

*Разумеў, што абліваецца, таму адступіў, палагаднеў.*

*— На ферме — скважына?*

*— Скважына.*

*— Добрая вада?*

*— Сляза.*

*— Сляза салёная і горкая.*

*— Артэзіянская вада.*

*— Дабрадзеі! Гуманісты! Пра бычкоў думалі. Пра людзей не падумалі. Накіруй машыну і напоўні малочныя бітоны. Людзі хоць і пасцяць, але іх смажыць. Пячэ і сонца, і радыяцыя* (І. Шамякін. «Злая зорка»).

Калі дыялог запісваецца ў радок, то словы кожнай рэплікі бяруцца ў двукоссе і паміж гэтымі рэплікамі ставіцца працяжнік. Напрыклад: *«Стары Бурсім меў, што расказваць». — «Во дзе кніжка была б!» — «Наперажываўся чалавек на вяку, свету наглядзеўся». — «Ён такі быў, што з дрэвамі гаварыў, як з людзьмі». — «Дый людзей не абмінаў». — «Кожнаму цану ведаў». — «І пра даўнейшае, і пра цяперашняе»* (У. Дрозд).

Калі пасля рэплікі ідуць словы аўтара, то перад наступнай рэплікай працяжнік не пішацца. Напрыклад: *«А я, браткі, сёння Петруся Броўку бачыў!» — з радасцю паведаміў адзін са студэнтаў. «Дзе гэта ты яго бачыў?» — сыпанулася з розных бакоў пакоя некалькі галасоў адразу. «Каля Дома друку, на трамвайным прыпынку»* (Н. Гілевіч).

**191.** Прачытайце тэкст, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў дыялогу.

**І.** — Што самае плывучае?

— Вада.

— Што самае пякучае?

— Агонь.

— Што самае жывучае?

— Трава.

— Трава?

— Так, трава. Мароз марозіць яе, сонца сушыць, агонь паліць, вада топіць, жывёла есць, звер топча, чалавек ко-

сіць, а яе не меншае, яна ўсё роўна ўсюды зелянее, расце, як зелянела, расла стагоддзі, тысячагоддзі таму назад...

— Чакай, а які ж тады чалавек?

— Чалавек самы трывушчы.

*Б. Сачанка*

**II.** КАРЫСНЫЯ МУХІ

Малады і дужы хлопец Лявонаў Сымон ляжыць у цяньку пад дубам і адганяе ад сябе мух. Стары Лявон дагроб сена і таксама сеў адпачыць.

Сымон. Тата, а для чаго гэта мухі на свеце? Якую яны карысць даюць?

Стары Лявон. Прыносяць, сынку, ды яшчэ якую! Яны такім гультаям, як ты, удзень спаць не даюць.

*З народнага*

**192.** Прачытайце, запішыце кожную рэпліку дыялога з новага радка і вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

### ЧАМУ МУЖЫК З РАБОТАЙ МОЖА СПРАВІЦЦА

Даўно гэта было, яшчэ калі Бог хадзіў па зямлі. Ішоў ён неяк і бачыць: баба жыта жне. Ён ёй і кажа: «Памагай табе божа!» Адказвае баба: «Дзякую!»[ф] Бог пытаецца: «А ці ведаеш ты, бабка, дарогу туды вось і туды?» — «Чаму ж не ведаю! Пойдзеш[м] прама, звернеш направа, а там ужо ідзі сабе і ідзі, усё прама і прама». — «Не, кабетка, не дацямлю я. Ці не магла б ты мне дарогу паказаць?» — «О, не, галубок, няма калі. Бачыш, колькі не зжата яшчэ?! Я й так з табою загаманілася!»

Пайшоў Бог далей. Бачыць, мужык поле арэ. «Бог у помач, чалавеча!» — «Дзякую на добрым слове, прысядзь адпачні, пэўна ж, стаміўся за дарогу». Бог сеў, мужык прысеў побач, выняў з-за пазухі табакерку і пачаставаў Бога. Пачалі яны гаманіць аб тым-сім. Адпачыўшы, Бог і кажа: «А ці не ведаеш ты, чалавеча, дарогу датуль вось і датуль?» Той і адказвае: «Ідзі вось так прама, пасля звернеш

налева, а там ужо толькі прама пойдзеш. А лепш давай я табе пакажу, каб ты не блукаў». Выпраг ён каня, спутаў яго і кажа: «Пайшлі». Давёў мужык Бога да самай дарогі, куды Богу трэба было, і кажа: «Добрай табе дарогі, ідзі з богам». Бог і кажа: «Дзякуй, а будзеш ты, чалавек, заўсёды спраўляцца са сваёй работаю».

І з таго часу мужчыны заўсёды ўсё ў час робяць, а бабы ніколі не ўпраўляюцца: адну работу робяць, а сем у іх яшчэ просіцца, няма ў іх святаў.

*Ю. Андрэеў*

**193.** Запішыце дыялог у радок. Звярніце ўвагу на тое, як мяняюцца знакі прыпынку.

ЗНАХОДЛІВЫ

На ўроку фізікі настаўнік спытаў вучня:
— Колькі законаў адкрыў Архімед?
— Сем, — адразу адказаў той.
— Калі ласка, пералічы іх.
— Першы, другі, трэці...

*Р. Пратасевіч*

**194.** Складзіце дыялог з рэплік, якія трэба паставіць у пэўным парадку. Пастаўце знакі прыпынку.

Спадабалася? Ці быў ты калі-небудзь у Мінску? Вельмі. Не адзін раз. Быў у тэатры імя Янкі Купалы, у цырку, у музеі Вялікай Айчыннай вайны. Што цікавае бачыў?

**195.** Перакладзіце тэкст з рускай мовы на беларускую. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку ў сказах з простай мовай.

...Достигшие зрелости угри покидают Рыбачье и по малым и большим рекам выбираются в Балтийское море. Затем, обогнув Европу, они пересекают Атлантический океан и заходят в Саргасово море, где и нерестятся. Отметав икру, самки там же подыхают, а угриная молодь держит обратный путь к Рыбачьему...

— Для чего же они идут туда? — любопытствовал Вальков. — Они же могут и тут икру метать!

— Так ведь там самцы обитают, а тут у нас одни самки.

— Ой ли? — недоверчиво отозвался Вальков. — А не врешь?

— Точно, — подтвердил Владислав Лапатик, словно бросил тяжёлую гирю на чашу весов. — Самцы нам сроду не попадались.

— А какие они — самцы?

— Да нешто мы их видали? — сказал молодой Андрей Лапатик. — Вот Шульц, бывший капитан, говорил, будто самцы имеют три метра в длину и весят чуть не пуд.

— Вот это да, хороши мальчики! — ликовал Вальков. — А самцы тоже загибаются после нереста?

*Ю. Нагибин*

### Слоўнік

**Загибаются** — дуба даюць (гінуць, дохнуць);
**ликовал** — цешыўся;
**любопытствовал** — цікавіўся;
**на чашу весов** — на вагі;
**нерестятся** — нерастуюць;
**обитают** — жывуць;
**ой ли?** — няўжо?;
**Рыбачье** — Рыбацкае;
**...что достигшие зрелости угри** — што сталыя вугры (што вугры, дасягнуўшы сталасці);
**угриная молодь** — вугровыя маляўкі;

## § 38. Маналог

**Маналог** (з грэч. *monologos: monos* — адзін + *logos* — маўленне) — гэта форма маўлення чалавека, які гаворыць, звяртаючыся да слухачоў або да самога сябе. Маналагічнае маўленне, у адрозненне ад дыялагічнага, характарызуецца сваёй разгорнутасцю, наяўнасцю складаных сінтаксічных канструкцый. Маналог — гэта мова дзеючай асобы ў драматычным творы, якую выключылі з размовы персанажаў, якая не разлічана на моўную рэакцыю іншых асоб. Часцей за ўсё маналог з'яўляецца ад-

казам на прапанову субяседніка выказаць свой пункт погляду на пэўную з’яву, падзею, асобу, а таксама выклікаць у слухачоў пэўныя адносіны да аб’екта (асобы ці прадмета або падзеі, заахвоціць да нейкіх учынкаў).

Адзінкай маналагічнага маўлення з’яўляецца тэкст, звязны, тэматычна завершаны, які можа падзяляцца на свабодныя сказы. Напрыклад, у трагікамедыі «Зацюканы апостал» Андрэя Макаёнка мама размаўляе з сынам:

М а м а. *Ты не зразумеў! Гэта богаадступнікі, паганыя людзі гаварылі. Ерэтыкі***!*

С ы н. *Яны сімпатычныя людзі, тыя ерэтыкі, вясёлы народ. Кожны з іх тройчы смяшыў чалавецтва. Першы раз народ смяяўся, калі ерэтык паведамляў пра сваё вялікае адкрыццё і вынаходніцтва. Другі раз народ весяліўся, калі яго за гэта адкрыццё інквізітары** *публічна смажылі на кастры. І трэці раз весяліцца прагрэсіўнае чалавецтва, святкуючы чатырохсотгадовы юбілей ерэтыка. Аказваецца — ён быў вялікі, а яго падсмажылі. Каб не ерэтык Галілей, Зямля б наша да гэтага часу стаяла б на трох кітах. Не было б Магелана — не было б Амерыкі. І Саветы не запусцілі б Гагарына. Не, усё гэта было б, але са спазненнем на пару стагоддзяў.*

### Слоўнік

**Ерэты́к**, -а́, *м.* Адступнік ад догматаў пануючай рэлігіі, паслядоўнік ерасі.

**Інквізі́тар**, -а, *м.* Суддзя або член інквізіцыйнага суда. // *перан.* Пра жорсткага чалавека — мучыцеля.

**196.** Прачытайце маналог Дабрыяна з камедыі «Брама неўміручасці» Кандрата Крапівы. Выкажыце свае меркаванні, як пісьменнік уздзейнічае на думкі і пачуцці чытача маналогам, укладзеным у вусны героя камедыі.

Г о л а с з г а л ё р к і. І доўга мы будзем жыць?

Д а б р ы я н. Вечна. Так, так, я не жартую. Нам удалося адкрыць закон неўміручасці.

Неўміручасць! Хто аб ёй не марыў! З таго часу, як чалавек стаў чалавекам, ён не можа прымірыцца са смерцю. Таму ён выдумаў сабе неўміручасць[м] душы, якую прапаведуюць амаль усе рэлігіі. Нават калі бачыць труп падобнага да сябе, і тады ён не верыць, што ўсё скончана. Не можа быць, каб знік бясследна такі цуд, як чалавечае жыццё. Ён верыць, што вызваленая з цела чалавечая душа будзе жыць вечна. Чалавек заўсёды імкнецца пашырыць сваё жыццё за межы фізічнага існавання. Нават той, хто добра ведае законы прыроды, і ён у большай і меншай меры дабіваецца неўміручасці. Тым, што дае жыццё наступнаму пакаленню. Тым, што робіць добрыя справы, за якія[ф] яго будуць успамінаць людзі, калі яго самога ўжо не будзе. Але чалавеку гэтага мала. Ён хоча жыць фізічна, сам сваёй асобай.

Ці звернуты маналог да самога сябе, ці гэта адказ на пастаўленае пытанне?

**197.** Прачытайце ўслых тэксты. Назавіце формы маўлення. Якія моўныя сродкі характарызуюць гэтыя формы маўлення?

**I.** — Вашы адносіны да мовы як сродку мастацкай прозы?

— Пішу на роднай мове з любоўю, з душэўным уздымам. Беларуская мова ласкавая, мілагучная, як песня. Я чую тое, што пішу, як музыку, з мелодыяй, з рытмам. Бывае, чытаю ўслых напісанае. Востра сачу, каб у мелодыі мовы твора не было фальшу. Ледзь пачую фальш, спыняюся, шукаю дакладныя таны і словы. Імкнуся знайсці самыя дакладныя. Гэта сам не растлумачыш, чаму бярэш такі тон і словы, тут усё рашае дзіўнае адчуванне, нейкая інтуіцыя*. Я даволі шырока ўжываю дыялектызмы. Тады, калі даю слова маім героям. Гэтае права пісьменніка аспрэчваецца, але я перакананы, што гэта патрэбна. Людзі ў творы павінны гаварыць так, як у жыцці. Па-зямному, пасапраўднаму.

*І. Мележ*

**II.** — Ахрэм, твой конь капусту есць!
— Няўжо ж не будзе есці — яна ж салодкая!
— Ахрэм, зараз усю з'есць!
— А то пакіне.
— Ахрэм, дык гэта ж твая капуста!
— Ах, ліха на цябе, чаму ж ты раней не сказаў?

*З народнага*

**III.** — Расліну трэба шанаваць, — гаварыў Захарыя часта дзецям. — Яна прыносіць карысць чалавеку, яна ачышчае паветра, як марская чыстая вада, яна аздабляе зямлю, і яна ж прыносіць чалавеку багатыя дары.

Па чым можна пазнаць дрэннага чалавека, дурня і спусташальніка? Ён зломіць вершалінку маладога дрэўца, каб адагнаць ад сябе камароў. Ён знарок пройдзе па траве, па кветках, каб ачысціць пыл са сваіх ботаў. Ён выверне сук, папсуе дрэва, каб дастаць яблык ці грушу. Каб усе людзі былі такімі, на зямлі ўжо даўно было б усюды гола, высахлі б рэкі, палі́ б засыпала пяском. І як бы тады было жыць на свеце?

А цяпер падумайце, як бы гэта было б добра, каб кожны чалавек, што жыве на свеце, пасадзіў бы за сваё жыццё адно дрэўца дзе-небудзь пры сваёй хаце, пры дарозе, ля ракі! Вось тут, дзе цяпер мой сад, раней было балота, нізіна. Што тут было б, каб я праз гады не стараўся, не гнуў хрыбта, не капаў канавы, не даглядаў свайго саду? Дрэнь тут была б, адна прыкрасць, адгарадзіла б балота ад вуліцы. Вось і ўсё. Вучыцеся шанаваць расліны, даглядайце іх, яны заўсёды вам дабром адплоцяць.

*Паводле Э. Самуйлёнка*

**Слоўнік**

**Інтуі́цыя**, -і, *ж.* Неўсвядомленае чуццё, заснаванае на папярэднім вопыце, якое накіроўвае на правільныя дзеянні; прадбачлівасць, здагадка.

**198.** Прачытайце ўрывак з апавядання «Булачка». Што выражана ў загалоўку апавядання: тэма ці асноўная думка? Растлумачце знакі прыпынку пры дыялогу.

## БУЛАЧКА

Густыя вясеннія промні праз ідэальна круглую дзірку пранікалі ў якісьці склеп ды іскрыліся там інеем на сценах бетону. У трохметровай глыбіні на бляшанках з-пад кансерваў сядзела дзяўчынка з чырвоным капюшонам і трымала на каленях адкрытую кніжку.

— Што ты там робіш?! — вырвалася ў хлопца шчырае здзіўленне.

— Чытаю! — узняла галаву малая ў акулярах.

— Як жа ты туды трапіла?

— А я праваліласся.

— Калі?

— У аўторак.

Толькі тут інжынер спахапіўся:

— А як цябе зваць?

— Іна.

— Ха, Мамонава! Так бы адразу і казала! Давай руку!

Праз хвіліну дзяўчынку вывалаклі. Дасталі і партфель. Бацька хапіў малую на рукі, стаў яе паспешліва расціраць:

— І-іначка, до-очачка, ты жыва-ая?

— Сне-егам яе тры, Толя, сне-егам! — параілі.

Чалавек не паслухаў:

— Ты зусім жывая?!. Іна, скажы, што табе баліць? Як жа ты туды трапіла?

— Ішла, ішла і ўпала... Тата, мамка вельмі гаруе, што мяне столькі няма?

Бацька праслязіўся:

— Добра што знайшлася!.. Ты надта галодная? Ой, ты ж тры дні нічога не мела ў роце!

— Я ела коржык.

Нехта з інжынераў заглянуў у партфель і ўсклікнуў:

— Тут булка цэлая!

Ты яе не з’е-е-ла? — здзівіўся і бацька.

— Мамцы купіла.

— І не чапала праз усе дні?

— Яна мамчына.

Мужчыны адвялі адзін ад аднаго памакрэлыя вочы.

*Паводле А. Карпюка*

**199.** Падрыхтуйце маналагічнае выказванне на тэму «Навуковы стыль». Успомніце, дзе ён ужываецца, асноўныя асаблівасці стылю (інфармацыйнасць, лагічнасць, доказнасць), якія словы і сказы для яго характэрны.

## § 39. Сказы з ускоснай мовай

**200.** Прачытайце сказы. Якія з іх перадаюць чужую мову літаральна, з усімі яе асаблівасцямі, а якія — толькі змест чужой мовы?

1. Вялікі Горкі ў свой час гаварыў: «Паэт — рэха, ён павінен адгуквацца на ўсе гукі, на ўсе поклічы жыцця» *(А. Звонак)*. Вялікі Горкі ў свой час гаварыў, што паэт — рэха і ён павінен адгуквацца на ўсе гукі, на ўсе поклічы жыцця. 2. «Па якой жа з іх [дарог] мне ісці?» — задумалася Юля *(Б. Сачанка)*. Юля задумалася, па якой жа з іх ёй ісці. 3. «Пакінь ушчуваць хлопца, — спакойна прамовіў дзядзька Антось. — Конь на чатырох нагах і то спатыкнецца часам...» *(С. Александровіч)*. Дзядзька Антось спакойна прамовіў, каб не ўшчуваў хлопца, што конь на чатырох нагах і то спатыкнецца часам.

**Ускосная мова —** гэта чужая мова, перададзеная ад асобы аўтара ці апавядальніка не даслоўна, а прыкладна, толькі з захаваннем зместу.

Сказ з ускоснай мовай нагадвае сабой складаназалежны сказ, дзе галоўная частка — гэта словы аўтара, а даданая(ыя) частка(і) — гэта ўскосная мова. Напрыклад: *1. Настаўнік сказаў старэйшым вучням, каб рыхтаваліся да экзаменаў* (Я. Колас). *2. Некалі гаварыў бацька, што чалавек з розумам і з навукай можа шмат больш прынесці карысці, чым невучоны чалавек* (І. Гурскі).

Часцей за ўсё галоўная частка з'яўляецца поўным двухсастаўным ці пэўна-асабовым сказам. Даданыя часткі, у якіх перадаецца чужое выказванне, па характары сінтаксічных адносін з галоўнай часткай могуць быць даданымі дапаўняльнымі ці азначальнымі.

Часцей за ўсё ўскосная мова афармляецца як **даданая дапаўняльная частка**, якая адносіцца да выказніка галоўнай часткі, выражанага дзеясловамі маўлення і думкі. Напрыклад: *1. І казаў ён, што ўладары павінны гаварыць з народам на ягонай мове* (І. Арлоў). *2. Марыся і Ірына гавораць ціхенька, гавораць, як цяжка жыць* (Я. Колас).

Ускосная мова, што адносіцца да назоўніка галоўнай часткі, з'яўляецца **даданай азначальнай часткай**. Напрыклад: *І тут закралася ў душу сумненне, ці правільна ён зрабіў, што пайшоў ад бацькі?* (Б. Сачанка).

У сказах з ускоснай мовай не ўжываюцца звароткі, выклічнікі, сцвярджальныя і адмоўныя часціцы, формы загаднага ладу дзеясловаў. Параўн.: *1. «Ці прайду я, дзядок, сюдою на Гольчыцы?» — спытаў я* (Я. Скрыган). — *Я спытаў у дзядка, ці прайду сюдою на Гольчыцы. 2. «Ну, тады — бывай здароў!» — Апейка падаў яму руку* (І. Мележ). — *Апейка, падаючы яму руку, развітаўся. 3. «Не, не пайду, вы ўжо самі там як-небудзь управіцеся», — пачаў слаба адгаворвацца Косцік, пазіраючы на свой двор* (А. Кудравец). — *Пазіраючы на свой двор, Косцік пачаў слаба адгаворвацца, што не пойдзе, што мы ўжо самі там як-небудзь управімся. 4. У гэты момант па радах паўстанцаў перадаецца загад Урублеўскага: «Без каманды не страляць!»* (В. Вольскі). — *У гэты момант па радах паўстанцаў перадаецца загад Урублеўскага, каб без яго каманды не стралялі.*

**201.** Прачытайце сказы з простай і ўскоснай мовай і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

1. Нездарма ж успамінае маці першага ў свеце касманаўта Юрыя Гагарына пра тое, як яе сямігадовы сынок, прыйшоўшы першы раз у першы клас, сваім любімым вершам назваў Купалавага «Хлопчыка і лётчыка» *(У. Юрэвіч)*. 2. Незнаёмаю рукою там напісана ўгары: «Беларускаму герою ад сяброўкі і сястры» *(П. Глебка)*. 3. «Паэзія няхай будзе паэзіяй, — чую я пярэчанні, — а мова ёсць мова, яе трэба захоўваць у чысціні» *(А. Яскевіч)*. 4. Бабу-

ля гаварыла, што яна будзе праганяць тую пачвару, якая жыве ў цемры *(Н. Маеўская)*. 5. Іван Паўлавіч [Мележ] папытаўся, што я пішу, як жыву... *(А. Жук)*. 6. З зямлянкі ў хату, з хаты ў зямлянку хадзіў агітаваць, каб ішлі на выбары *(С. Грахоўскі)*. 7. Успамінаю і думаю: «Эх, Дзімка-Дзімка, жывы напамінак пра снайпера Салаўёва. Ты і не разумееш, як табе пашчасціла мець такога дзеда...» *(А. Крыга)*.

## § 40. Замена простай мовы на ўскосную

Словы аўтара звычайна знаходзяцца перад ускоснай мовай, аддзяляюцца ад яе коскай, а злучаюцца пры дапамозе злучнікаў ***што, быццам, каб, ці,*** злучальных слоў ***хто, што, які, як, дзе, калі, чаму***.

Пры замене простай мовы ўскоснай трэба кіравацца такімі правіламі:

1. Калі простая мова — апавядальны сказ, то яна замяняецца даданай дапаўняльнай часткай са злучнікам ***што***. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *«Чалавек з розумам і з навукай, — некалі гаварыў бацька, — можа шмат больш прынесці карысці, чым невучоны чалавек»* (І. Гурскі). | *Бацька некалі гаварыў,* ***што*** *чалавек з розумам і з навукай можа шмат больш прынесці карысці, чым невучоны чалавек.* |

2. Калі простая мова — пытальны сказ з пытальнымі займеннікамі ***хто, што, які, чый, колькі,*** прыслоўямі ***калі, куды, адкуль*** або часціцай ***ці***, то яна замяняецца даданай дапаўняльнай часткай з выкарыстаннем гэтых займеннікаў або прыслоўяў у ролі злучальных слоў або часціцы ***ці*** ў ролі злучніка. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *«Чаму птушкі выбіраюць на гнездаванне акурат вось гэтую балаціну, а не тую, што поруч?» — запытаў малодшы сын Міхась* (М. Лужанін). | *Малодшы сын Міхась запытаў,* ***чаму*** *птушкі выбіраюць на гнездаванне акурат вось гэтую балаціну, а не тую, што поруч.* |

3. Калі простая мова — пабуджальны сказ, то яна замяняецца даданай дапаўняльнай часткай са злучнікам ***каб***. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *Мне хочацца сказаць усім, хто прачытае гэту кнігу: «Часцей вандруйце па роднай краіне, больш яе вывучайце!»* (В. Вольскі). | *Мне хочацца сказаць усім, хто прачытае гэту кнігу,* ***каб*** *часцей вандравалі па роднай краіне, больш яе вывучалі.* |

4. Калі ў простай мове ёсць асабовыя і прыналежныя займеннікі, а таксама дзеясловы 1-й і 2-й асобы, то яны перадаюцца ад асобы аўтара, а не ад асобы таго, каму належыць простая мова. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *«****Я вас*** *яшчэ адтуль заўважыў», — гаворыць Аляшкевіч, паказваючы рукой за маю спіну* (В. Вольскі). | *Аляшкевіч, паказваючы рукой за маю спіну, гаворыць, што* ***ён мяне*** *яшчэ адтуль заўважыў.* |
| *Канстанцін Міхайлавіч [Я. Колас] прамовіў: «А* ***я*** *і не ведаў, што* ***ты****, можна сказаць, ці не першы даследчык* ***мае*** *аповесці»* (М. Лужанін). | *Канстанцін Міхайлавіч прамовіў, што* ***ён*** *і не ведаў, што* ***я****, можна сказаць, ці не першы даследчык* ***яго*** *аповесці.* |

5. Звароткі пры замене простай мовы ўскоснай або становяцца членамі галоўнай часткі або апускаюцца. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *Янка засмяяўся і сказаў: «Мы вось з Аленкай зайшлі, цётачка, да вас, каб пахваліцца перад вамі сваім шчасцем»* (Я. Купала). | *Янка засмяяўся і сказаў цётцы, што* ***яны*** *з Аленкай зайшлі да* ***яе****, каб пахваліцца перад ёю сваім шчасцем.* |

6. Выклічнікі, часціцы пры замене апускаюцца. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *«Ну, а што ты ўмееш рабіць?» — спытаўся ў Людвіка камандзір роты* (А. Кулакоўскі). | *Камандзір роты спытаўся ў Людвіка, што ён умее рабіць.* |

**202.** Параўнайце сказы з простай мовай і з ускоснай мовай. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку.

1. «На гэтым месцы быў вялікі бой партызанаў з фашыстамі, — сказаў мне Радзевіч. — Тут пахаваны партызаны, якія загінулі ў тым баі» *(В. Вольскі)*. — Радзевіч сказаў мне, што на гэтым месцы быў вялікі бой партызанаў з фашыстамі і што тут пахаваны партызаны, якія[ф] загінулі ў тым баі. 2. У Генадзя Бураўкіна напісана: «Словы жудасна паміраюць, патухаюць[сл], як светлякі... Людзі, людзі! Ну што ж вы, людзі, не ратуеце родных іх?» *(Н. Гілевіч)*. — У Генадзя Бураўкіна напісана, што словы жудасна паміраюць, патухаюць, як светлякі, а людзі іх не ратуюць. 3. «Дзіўная рэч — патрыятызм, сапраўдная любоў да радзімы! — пісаў Генрых Гейнэ. — Можна любіць сваю радзіму, любіць яе цэлых восемдзесят гадоў і не здагадвацца пра гэта» *(А. Кучар)*. — Генрых Гейнэ пісаў, што дзіўная рэч — патрыятызм[м], сапраўдная любоў да радзімы, што можна любіць сваю радзіму, любіць яе цэлых восемдзесят гадоў і не здагадвацца пра гэта.

**203.** Замяніце ўскосную мову простай. Звярніце ўвагу на асабовыя і прыналежныя займеннікі.

1. Студэнты-філолагі Мінскага педінстытута спыталі ў прафесара Пражскага ўніверсітэта Вацлава Жыдліцкага, што яму найбольш падабаецца ў творчасці Янкі Брыля *(Г. Малажай)*. 2. Якуб[ф] Колас расказаў пра тое, як, будучы ў Мінскім астрозе, пачаў пісаць паэму «Новая зямля», як узніклі задумы іншых паэм *(Н. Гілевіч)*. 3. Пазней Мележ прызнаваўся, што яму ніколі не пісалася лёгка. Заўсёды цяжка было напісаць не толькі апавяданне, але і старонку *(У. Гніламёдаў)*. 4. У вершы «Спадчына» паэт [Я. Купала] пісаў, што ён, як бяссонны вартавы, робіць агледзіны ўсяго, што належыць яго народу[сн] *(Р. Бярозкін)*. 5. Мы дакаралі саюзнікаў, што яны зацягваюць з адкрыццём другога фронту *(І. Шамякін)*.

**204.** Прачытайце тэкст, замяніце, дзе магчыма, простую мову на ўскосную.

Чалавек прыйшоў у Вільню, ідзе па мосце і бачыць, што два падлеткі дзеляць на ім чубы.

— Што вам за ліха? Чаго не хапае?

— Б'ёмся, праўда, але з-за цябе. Гэты гіцаль кажа, што ў цябе шэсць пальцаў на назе, а я кажу, што пяць.

— Пакіньце біцца, дзетачкі, бо ў мяне папраўдзе пяць.

— Не, мы так табе, дзядзька, веры не дамо: скінь боты і пакажы.

— Добра, хлопчыкі, супакойцеся.

Палічылі — пяць.

— Ага, а чаму ж ты, дзядзька, паказаў нам толькі правую нагу? А на левай, дык, пэўна — шэсць пальцаў?

А хай ім! Разуў і левую. Ну і ясна, не было ўжо каму тых пальцаў лічыць, але й на пальцы не было чаго нацягнуць. Мараль: «Хітры наш брат, але і дурны, як варона».

*З народнага*

**205.** Перабудуйце сказы з простай мовай на сказы з ускоснай мовай. Звярніце ўвагу, калі даданая частка, якая перадае чужую мову, уводзіцца злучнікамі, а калі злучальнымі словамі; як змяняюцца формы асобы дзеясловаў і займеннікаў.

1. У сваёй кнізе «Настаўніку — пра настаўнікаў» Мікола Мішчанчук піша: «Стаць настаўнікам — гэта ўскласці на сябе велізарны цяжар не толькі радасці, але і трывогі, смутку, болю за выхаванне маладога пакалення» *(А. Антропава)*. 2. Згадаем строгую заўвагу Льва Талстога: «Калі б я быў царом, я б выдаў закон, што пісьменнік, які ўжывае слова, значэнне якога ён не можа растлумачыць, пазбаўляецца правоў пісаць і атрымлівае 100 розгаў» *(Л. Ліхадзіеўская)*. 3. Як сур'ёзны і ўдумліва-памяркоўны даследчык, ён [Л. М. Шакун] лічыў: «Рэзка ўмешвацца ў працэсы моўнага рэгулявання наўрад ці варта, паколькі сама моўная практыка знойдзе разумны кампраміс*» *(М. Прыгодзіч)*. 4. «Заўсёды цяжка гаварыць аб тым, што любіш», — пісаў у адным са сваіх эсэ* Уладзімір Караткевіч *(А. Сцяпанава)*. 5. «Яго [Уладзіміра Дубоўкі] паэтычныя

казкі, — пісаў С. Грахоўскі, — дыяменты народнай мудрасці, паэмы і вершы — споведзь мужнага чалавека з найчысцейшым сумленнем.

*Слоўнік*

**Кампрамі́с**, -у, *м.* Пагадненне з кім-н. на падставе ўзаемных уступак; уступка дзеля дасягнення мэты.

**Эсэ́**, неск., *н.* Нарыс, які трактуе літаратурныя, філасофскія, сацыяльныя і інш. праблемы не ў сістэматычна-навуковым выглядзе, а ў вольнай форме.

## § 41. Цытаты

**206.** Прачытайце сказы. У якіх з іх выказванні А. Адамовіча і Г. Цітовіча перадаюцца поўнасцю, а ў якіх уключаюцца ў аўтарскую мову часткова?

**I.** 1. Наконт далейшага лёсу літаратуры А. Адамовіч зазначыў: «Думаю, што пад'ём, вышыня і ўзровень праўды і гуманістычнай думкі і з'яўляюцца зарукай, што гэтая тэма будзе вырашацца ўсё больш высока і змястоўна».

2. Наконт далейшага лёсу літаратуры А. Адамовіч зазначыў, што тэма праўды і гуманістычнай думкі «будзе вырашацца ўсё больш высока і змястоўна».

**II.** 1. Г. Цітовіч аднойчы сказаў: «Быў час, калі людзі нібы хацелі забыцца на старое, адкінуць усё і на пустым месцы будаваць нанава. Ды потым спахапіліся, зразумелі, што фальклор, лепшыя яго прыклады — гэта аснова, глеба для развіцця нацыянальнай культуры».

2. Г. Цітовіч аднойчы сказаў, што забываць старое поўнасцю нельга, што «фальклор, лепшыя яго прыклады — гэта аснова, глеба для развіцця нацыянальнай культуры».

Даслоўныя вытрымкі з твораў ці выказванняў для тлумачэння ці пацвярджэння сваёй думкі называюцца **цытатамі**.

Цытаты могуць стаяць пры словах аўтара як простая мова. У такіх выпадках пры цытатах ставяцца тыя

самыя знакі прыпынку, што і ў сказах з простай мовай, а ў словах аўтара выкарыстоўваюцца дзеясловы *сказаў, пісаў, адзначыў, прапанаваў* і інш., якія паказваюць, каму належыць цытата. Напрыклад: *К. Крапіва* ***пісаў:*** *«З граматычнымі формамі трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. Усякае штучнае скасаванне ці ўніфікацыя* граматычных формаў, пакуль яны існуюць у агульнанароднай мове, з'яўляецца шкодным самаўпраўствам»*.

Цытата можа ўводзіцца ў аўтарскую мову пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў як частка сказа. У гэтым выпадку яна пачынаецца з малой літары і выдзяляецца двукоссем. Напрыклад: *Якуб Колас справядліва* ***ўказваў****, што «роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет»*.

Калі цытата прыводзіцца скарочана, то на месцы пропуску ставіцца шматкроп'е. Напрыклад: *Б. Сачанка* ***пісаў:*** *«І мы, нашчадкі, удзячны бацькам, дзядам і прадзедам нашым, якія... са зброяй у руках у многіх крывавых бітвах заваявалі права "людзьмі звацца"»*.

Пры пераказе мастацкага твора часта выкарыстоўваюцца асобныя словы, выразы, якія належаць таму або іншаму персанажу ці лірычнаму герою. Гэтыя словы і выразы таксама бяруцца ў двукоссе: *Міхал жыў марай «купіць зямлі, прыдбаць свой кут...»*.

**Звярніце ўвагу!**

Пры цытаванні вершаваных тэкстаў іх радкі і строфы ў двукоссе не бяруцца.

Успомнім верш народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, шчымліва-родны, дарагі:

*Я мужык-беларус —*
*Пан сахі і касы;*
*Цёмен сам, белы вус,*
*Пядзі дзве валасы.*

### *Слоўнік*

**Уніфіка́цыя**, -і, *ж.* Звядзенне да аднастайнасці, да адзінай формы, сістэмы.

**207.** Прачытайце. Назавіце цытаты. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**I.** «Сталасць — гэта не старасць», — мудра сказаў паэт. Сённяшні дзень якраз і з'яўляецца для Уладзіміра Юрэвіча парой творчага «зеніту, сталасці, высокага ўзлёту думкі, перыядам справаздач і, як кажуць, «перспектыўнага планавання» на будучыню».

*У. Гніламёдаў*

**II.** «За родную песню будзь ваякам», — павучаў Янка Купала беларускіх паэтаў. Родная мова — гэта духоўная радзіма, якая часам можа дапамагчы адрадзіць і радзіму фізічную. Таму — «забывайце песню, што вам вораг пакіне»; «Не цурайцеся роднай песні ў шчасці і ў жалобе». «Ці маем мы права выракацца роднай мовы?» — рытарычна пытаўся ў аднайменным артыкуле Янка Купала ў сваіх суайчыннікаў і тут жа падрабязна тлумачыў значэнне роднай мовы для народа.

*В. Рагойша*

**208.** Складзіце сказы, у якіх цытатамі будуць (поўнасцю або часткова) выказванні пісьменнікаў, вучоных.

1. Асабліва важна ажыўляць, ствараць і ўмацоўваць свае нацыянальныя ідэалы, заснаваныя на гістарычных традыцыях і міфах, на такіх светлых постацях, як Скарына, Багдановіч, Купала *(А. Мальдзіс)*. 2. Набыццё дзяржаўнай незалежнасці — акт лёсавызначальнага значэння ў гісторыі беларускага народа *(Н. Гілевіч)*. 3. Нацыянальная салідарнасць засталася ці не апошнім фактарам, які яшчэ здольны паяднаць людства ў гэтым ушчэнт раз'яднаным свеце *(В. Быкаў)*. 4. Творчасць Коласа — дзіўны, унікальны ўзор унутранага адзінства і раўнавагі *(Т. Шамякіна)*.

**209.** Складзіце сказы з цытатамі ў выглядзе простай мовы. У аўтарскіх словах пакажыце, каму належыць выказванне, і выкажыце да гэтага свае адносіны.

1. І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае «дзе» і густое «чаго» *(П. Панчанка)*.

2. Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына *(Я. Купала)*.

3. Наша мова святая, бо яна нам ад Бога дадзена *(Ф. Багушэвіч)*.

4. Мой родны кут, як ты мне мілы! *(Я. Колас)*.

## § 42. Эпіграф

**Эпіграф** (грэч. *epigraphḗ* — надпіс) — выслоўе ці цытата, якая змяшчаецца ў пачатку сачынення, твора ці асобнага раздзела і з'яўляецца своеасаблівым аўтарскім тлумачэннем асноўнай ідэі твора. Напрыклад: *«Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі», — паўторыць Колас Купалавы радкі ў эпіграфе да навелы-алегорыі «Хмарка», дзе будзе асуджаць вандроўніцтва па-за межамі роднага кутка* (І. Навуменка).

Эпіграф пішацца ў правай частцы старонкі, пасля яго ставіцца кропка, а прозвішча аўтара, якому належаць словы эпіграфа, пішуцца на наступным радку без дужак. Напрыклад:

*Слова-радасць, слова-чары,*
*Вобраз вечна юных вёсен...*
*Ёсць ты ўсюды: у сонцы, у хмары,*
*Ты глядзіш праз неба просінь.*
*Якуб Колас*

*Шаноўныя роднаслоўцы!*

*Нас яднае з вамі Слова. Вы несяце яго людзям, вы жаданыя сябры кожнага, хто любіць і шануе Слова Маці. Прызначэнне ж кожнага літаратурнага музея — данесці да наведвальніка слова паэта, ажывіць у яго сэрцы пачуццё радасці і гонару за сваіх продкаў, даць адчуць прыгажосць роднай мовы, праз якую пазнаецца душа народа* (З віншавання З. Камароўскай, дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа).

**210.** Прачытайце выказванні пра кнігу. Падрыхтуйцеся прыняць удзел у дыскусіі пра значэнне кнігі ў XXI стагоддзі, выкарыстоўваючы цытаты.

1. «Сярод розных чалавечых прылад самая дзівосная — кніга. Астатнія служаць працягам яго [чалавека] цела. Мікраскоп, тэлескоп — гэта працяг яго вока, тэлефон — голасу; ёсць у нас затым плуг і меч — працяг рукі. Кніга ж — гэта нешта іншае: кніга служыць працягам памяці і фантазіі чалавека.

Чытанне — адна з формаў шчасця».

*Хорхе Луіс Борхес, аргенцінскі пісьменнік, паэт, крытык*

2. «Кніга — апраўданне нашага жыцця, апеляцыя* ў вышэйшы суд. Яна кажа праўду пра тых, хто нявінна пацярпеў, каго не зразумелі сучаснікі.

...У кнізе... — надзея, што некалі нямыя літары загавораць і ідэі, якія дрэмлюць, усхамянуцца, акрыяюць, ажывуць у новых людзях. Дзякуючы кнізе мы атрымліваем права голасу ў будучыні, у той час, калі бязлітасная прырода пазбавіць нас самога голасу, калі сама наша мова, наша цела знікнуць, стануць пылам. Праз кнігу могуць гаварыць мёртвыя. Кніга ломіць бронзавыя дзверы склепаў. Кніга ёсць вечнасць нашага тленнага жыцця».

*Дэжо Косталані, венгерскі пісьменнік, публіцыст*

3. «Кніга — цуд яшчэ і таму, што ў самай непрыгожай вокладцы, у самым мізэрным выглядзе яна можа акумуліраваць у сабе энергію, перад якой гаснуць пякельныя сілы плутонію або стронцыю. Кніга рухае гісторыю, накіроўвае грамадскае жыццё і народнае пачуццё, фарміруе чалавека».

*Ю. Нагібін, рускі пісьменнік*

4. «Не так лёгка абысці зямны шар, дабрацца да полюса, падняцца на вяршыню Эвярэста, пранікнуць у глыбіню акіяна. Але падарожнічаць можна і седзячы на месцы. Такому падарожжу не трэба ні карабель, ні самалёт. Да-

статкова толькі ўзяць у рукі кнігу, як яна ў адзін міг перанясе цябе ў далёкія краіны, у мінулае, у будучыню, на іншую планету...»

*М. Ільін, рускі пісьменнік*

***Слоўнік***

**Апеля́цыя**, -і, *ж.* Скарга ў вышэйшую інстанцыю на рашэнне ніжэйшай.

**211.** Напішыце сачыненне-разважанне «Ці патрэбна кніга ў век тэлебачання і камп'ютара», выкарыстоўваючы цытаты знакамітых людзей. Падбярыце эпіграф да свайго сачынення.

## ПАЎТАРАЕМ ТЭМУ

1. Назавіце спосабы перадачы чужой мовы і прывядзіце прыклады.
2. Якая мова называецца простай? Якія знакі прыпынку ставяцца пры простай мове?
3. Што такое дыялог? Якія два спосабы перадачы дыялогу выкарыстоўваюцца на пісьме?
4. Чым адрозніваюцца сказы з простай мовай ад сказаў з ускоснай мовай? Прывядзіце прыклады.
5. Што называецца цытатай? Якія ёсць спосабы цытавання?
6. У якіх тэкстах — мастацкіх ці навуковых — часцей за ўсё выкарыстоўваюцца цытаты?

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

## § 43. Сінтаксіс як раздзел граматыкі

**212.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову (пісьмова). Падкрэсліце словы-тэрміны.

Для того чтобы определить, какие элементы входят в структуру языка, разберём следующий пример: два римлянина поспорили, кто скажет короче фразу; один сказал «Eo rus» — «Я еду в деревню», а другой ответил «I!» — «Поезжай!» Это самое короткое высказывание, которое можно себе представить, но вместе с тем это вполне законченное высказывание, составляющее целую реплику в диалоге и, очевидно, обладающее всем тем, что свойственно любому высказыванию. Каковы же элементы этого высказывания?

1. [I] — это звук речи, т. е. звуковой материальный знак, доступный восприятию ухом, или это буква, т. е. графический материальный знак, доступный восприятию глазом.

2. -i- — это корень слова, морфема, т. е., элемент, выражающий понятие.

3. i — это слово — глагол в форме повелительного наклонения единственного числа, называющий определённое явление действительности.

4. I — это предложение, т. е. элемент, заключающий в себе сообщение.

«Маленькое», оказывается, заключает в себе всё, что составляет язык вообще: 1) звуки или буквы, 2) морфемы — корни, приставки, суффиксы, окончания, 3) слова, 4) предложения.

Больше в языке ничего не бывает и не может быть.

Все элементы образуют в языке единство: каждая низшая ступень имеет возможность стать высшей, и, наоборот, каждая высшая ступень состоит как минимум из одной низшей. Так, предложение «І!» — «Поезжай!» состоит из одного слова «і», слово «і» состоит из одной морфемы — корня -і-; корень -і- состоит из одного звука [і] или из одной буквы і.

*По А. А. Реформатскому*

● Успомніце раздзелы навукі аб беларускай мове. Якія адзінкі мовы яны вывучаюць? Начарціце ў сшытку табліцу і запоўніце яе.

**Адзінкі мовы і раздзелы навукі аб мове**

| Адзінкі мовы | Раздзелы навукі аб мове |
|---|---|
| гук | фанетыка |
| | |

● Прывядзіце прыклады на беларускай мове: сказа з адным словам; слова з адной марфемай; марфемы з адным гукам.

**Звярніце ўвагу!**

**Паведамленне** — гэта выступленне перад вялікай колькасцю слухачоў, інакш кажучы, публічнае выступленне. Паведамленне заўсёды вызначаецца пэўнай мэтай — перадаць інфармацыю, уздзейнічаць на слухачоў, абудзіць іх думкі і пачуцці, заклікаць да нейкіх разумовых або фізічных дзеянняў.

Для таго каб мэта паведамлення была дасягнута, да яго трэба рыхтавацца. Існуюць наступныя правілы падрыхтоўкі да публічнага выступлення:

1) неабходна **выбраць цікавую** для слухачоў **тэму** і, па магчымасці, коратка сфармуляваць яе;

2) неабходна **вызначыць мэту** паведамлення і цалкам падпарадкаваць гэтай мэце сваё маўленне;

3) неабходна **падабраць матэрыял** для паведамлення; крыніцамі матэрыялу з’яўляюцца кнігі, часопісы, уласныя веды і назіранні, радыё- і тэлеперадачы і інш.;

4) сабраны **матэрыял трэба занатаваць** (зрабіць канспекты, скласці тэзісы, выпісаць цытаты або іншыя неаб-

ходныя даныя) і **асэнсаваць,** інакш кажучы, навучыцца перадаваць яго змест сваімі словамі;

5) тэкст паведамлення мае, як правіла, наступную **кампазіцыйную схему**: а) уступ, б) галоўная частка, в) заключэнне. Вельмі важна скласці **план** (пажадана складаны) галоўнай часткі, у адпаведнасці з якім будзе ствараецца асноўны тэкст паведамлення;

6) **тэкст** паведамлення **трэба запісаць** цалкам, пры неабходнасці адрэдагаваць і абавязкова прачытаць услых;

7) перад аўдыторыяй нельга выступаць **не адрываючыся ад паперы:** вуснае маўленне істотна адрозніваецца ад пісьмовага; для таго каб выступаць без апоры на напісаны тэкст, трэба **зрабіць** яго кароткі **канспект**, занатаваць самае важнае і, па магчымасці, **запомніць** асноўныя **палажэнні і аргументы** свайго маўлення;

8) вельмі важна **ўстанавіць кантакт са слухачамі;** да слухачоў трэба ставіцца з павагай, не адцягваць іх увагі сваёй знешнасцю, рухамі, позай, не дэманстраваць ім свае асабістыя перажыванні і хваляванне; вельмі важна навучыцца **глядзець** не на падлогу, не на столь і не ў акно, а **на слухачоў,** павольна пераводзіць вочы з адной часткі аўдыторыі на другую.

Такім чынам, падрыхтоўка да паведамлення складаецца з наступных крокаў:

1) выбар тэмы паведамлення;

2) фармулёўка мэты паведамлення (з якой мэтай і перад якой аўдыторыяй я буду выступаць?);

3) падбор матэрыялу для паведамлення (што я буду гаварыць?): вывучэнне літаратуры, складанне канспектаў і тэзісаў;

4) складанне плана паведамлення (у якой паслядоўнасці я буду выкладаць інфармацыю?);

5) напісанне тэксту паведамлення;

6) асэнсаванне і запамінанне інфармацыі, якая будзе паведамляцца;

7) складанне канспекта паведамлення;

8) прагаворванне паведамлення ўслых з апорай на канспект (пажадана перад люстэркам).

**213.** Уважліва прачытайце тэкст публічнага выступлення вядомага беларускага вучонага-лінгвіста* А. Я. Міхневіча.

**«...Што трэба нам для справы людскасці і краю»**
**(Афарыстыка* Якуба Коласа)**

| | |
|---|---|
| Уступ | *Мой брат беларус! Тваёй сіле,*<br>*Цярпенню твайму — пакланіцца, —*<br>так афарыстычна выказаў свае адносіны да народа Якуб Колас. Заслужыў ён і нашага паклону, бо дапамагае нам наблізіцца да разумення саміх сябе.<br>Пісьменнік быў майстрам афарыстычных выказванняў, аўтарскіх прыказак, трапных* найменняў, параўнанняў, анекдотаў, заклікаў, інакш кажучы, такіх формаў творчасці, якія могуць быць аб'яднаны агульным паняццем выслоўя. |
| Галоўная частка | Афарыстыка, выслоўнасць Якуба Коласа — гэта перш за ўсё думка, развага, ацэнка, парада, жарт — адным словам, змест, які ахоплівае духоўны свет чалавека і яго практычную дзейнасць, мары і спадзяванні, радасць беларуса і яго гора, нараджэнне і кананне, лёс і волю, працу і паводзіны, прыроду і гумар.<br>Пра тое, што Якуб Колас любіў і цаніў афарыстыку, сведчаць розныя факты... Прыгадаем некаторыя з іх. «Каб выказаць разумную думку, не трэба многа прыгожых і выкрутасістых слоў», — кажа Сцёпка — герой аповесці «На прасторах жыцця». Гаворачы пра рускіх класікаў, Якуб Колас зазначыў, што выслоўі Пушкіна, Крылова, Грыбаедава сталі неад'емнай часткай культуры адукаванага чалавека. Нарэшце, Гарнак у п'есе «Забастоўшчыкі» дае і азначэнне афа- |

| | |
|---|---|
| | рызма — «гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філосафа, а цяпер будзе вісець на кручку мудрасці».<br>Але галоўнае сведчанне ўвагі класіка да малых жанраў літаратурнай творчасці — сама колькасць афарыстычных выказванняў у яго творах... Прывядзём некалькі прыкладаў з кніжкі «Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца».<br>Якуб Колас разважае:<br>*У кожнага чалавека сваё жыццё, свой талент і сваё шчасце.*<br><br>*...Зямля, зямля,*<br>*Свой пэўны кут, свая ралля:*<br>*То — наймацнейшая аснова*<br>*І жыцця першая ўмова.*<br>*Зямля не зменіць і не здрадзіць.*<br>*Зямля паможа і дарадзіць.*<br>*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*<br>*Зямля паслужыць да магілы,*<br>*Зямля дзяцей сваіх не кіне.*<br>*Зямля — аснова ўсёй Айчыне.*<br><br>Якуб Колас радзіць:<br>*Трэба, брат, многа павучыцца, каб ведаць маленькае. І вучацца людзі, аж лысеюць з навукі, а ўсяго ведаць не будуць. Вучыся і ты.*<br><br>*Ты не тужы — мінецца восень.*<br>*Імжа рассеецца, як дым...*<br><br>*Запытай ты сябе, чалавеча:*<br>*Што зрабіў для Айчыны ці многа?*<br><br>Якуб Колас жартуе:<br>*Калі хто ў сабе нічога не мае, дык той на сябе цацкі чапляе.*<br><br>*Такі прыемненькі панок —*<br>*Стаяць бы толькі ў агародзе.* |

| | |
|---|---|
| | Нарэшце — яшчэ два слоўцы паэта: *Жыць, што б там ні стала! Вось заключны акорд усяго складанага комплексу жыцця...* |
| Заключэнне | Колас развважае, радзіць, смяецца... Прыслухаемся да слова Паэта, Настаўніка, Мудраца і яшчэ раз пераканаемся ў жыццёвай вартасці выслоўяў вялікага нацыянальнага творцы, у іх значнасці для роздуму аб жыцці, для нашых сённяшніх ацэнак і рашэнняў.<br>*Жыві ж, наш край! Няхай надзея*<br>*Гарыць у сэрцы і мацнее...* |

Адкажыце на пытанні.

1. Якая тэма публічнага выступлення?
2. Як ва ўступе падкрэсліваецца важнасць тэмы?
3. Якая мэта выступлення заяўляецца ва ўступе?
4. Які прыём выкарыстоўвае прамоўца ў пачатку выступлення для таго, каб прыцягнуць увагу чытачоў?
5. Якая асноўная думка публічнага выступлення?
6. Якія аргументы (доказы) асноўнай думкі прыводзяцца ў галоўнай частцы публічнага выступлення?
7. Да чаго заклікае прамоўца ў заключэнні свайго выступлення?
8. Ці звязваюцца ўступ і заключэнне паводле зместу? У чым праяўляецца гэта сувязь?

### *Слоўнік*

**Лінгві́ст,** -а, *М* -сце, *м.* Спецыяліст у галіне лінгвістыкі; мовавед.

**Лінгві́стыка,** -і, *ДМ* -ыцы, *ж.* Навука аб мове; мовазнаўства.

**Афары́стыка,** -і, *ДМ* -ыцы; *ж.* Сукупнасць афарызмаў — трапных лаканічных выразаў павучальнага характару, выслоўяў.

**Тра́пны,** -ая, -ае. Які дакладна і правільна выражае, перадае асноўную сутнасць з'явы. *Трапны выраз. Трапнае найменне.*

**Звярніце ўвагу!**

**План** — гэта пералік у пэўнай паслядоўнасці асноўных пытанняў, якія разглядаюцца ў лекцыі, дакладзе, артыкуле або кнізе. Пры складанні плана неабходна адразу вызначыць, на якой падставе будзе адбывацца падзел цэлага тэксту на часткі. Такой падставай могуць быць: прыметы з'явы, якая апісваецца; аргументы, якія выкарыстоўваюцца для абгрунтавання нейкай думкі; падзеі, пра якія паведамляецца ў пэўнай паслядоўнасці, і інш.

Працэс складання плана ўключае ў сябе наступныя дзеянні:

1) чытанне кнігі або артыкула;
2) падзел прачытанага на часткі;
3) кароткае называнне кожнай часткі.

Назву кожнай часткі можна аформіць: а) аднасастаўнымі назыўнымі сказамі, б) двухсастаўнымі апавядальнымі сказамі, в) двухсастаўнымі пытальнымі сказамі. Пажадана, каб усе часткі плана былі аформлены сказамі аднаго віду.

Адрозніваюць просты і складаны план. **Просты план** — гэта выдзяленне і называнне галоўных частак артыкула, кнігі. У **складаным плане** галоўныя часткі падзяляюцца ў сваю чаргу на шэраг дадатковых. Запіс складанага плана павінен адпавядаць наступнай схеме:

I. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
  1. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
  2. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
    а) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
    б) . . . . .. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
II. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
  1. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
    а) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
    б) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
  2. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каштоўнасць плана ў тым, што ён раскрывае будову твора, дазваляе прасачыць за ходам думак аўтара і іх паслядоўнасцю. У працэсе складання плана чытач глы-

бей разумее змест твора, вызначае яго ўнутраную логіку, узаемасувязь фактаў і праблем, пра якія паведамляецца. Складанне плана дапамагае выпрацаваць уменне сцісла, коратка запісваць, паслядоўна выкладаць свае думкі. Ён мабілізуе ўвагу, дапамагае хутка ўзнаўляць у памяці прачытаны твор.

**214.** Уважліва прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып маўлення.

### АСНОЎНЫЯ АДЗІНКІ СІНТАКСІСУ

Тэрмін **сінтаксіс** ужываецца ў двух значэннях: *сінтаксіс* — гэта сінтаксічны лад мовы і *сінтаксіс* — гэта раздзел граматыкі, у якім вывучаецца сінтаксічны лад мовы, будова і значэнне сінтаксічных адзінак. Сінтаксіс — грэчаскае слова *(syntaxis)*, якое літаральна абазначае 'складанне, пабудова, пастаноўка ў пэўны парадак'. Асноўныя паняцці сінтаксісу — гэта паняцці аб сінтаксічных адзінках.

**Сінтаксічнымі адзінкамі** з'яўляюцца словазлучэнне, просты сказ, складаны сказ.

У складзе сінтаксічных адзінак зменныя словы выкарыстоўваюцца ў адной з іх формаў — у пэўнай **словаформе**. Напрыклад, у сказе *Раптам у кустах зацокаў салавей* 5 слоў, але 4 словаформы, паколькі прыназоўнік з'яўляецца элементам формы слова. У гэтым сказе колькасць словаформаў і членаў сказа супадае, але так бывае не заўсёды. У сказе *На ўсёй вуліцы было на рэдкасць людна* 5 словаформаў, але 4 члены сказа. Словаформы вывучаюцца і ў марфалогіі, і ў сінтаксісе. У сінтаксісе словаформы разглядаюцца як будаўнічыя элементы сінтаксічных адзінак.

Са словаформаў будуюцца **словазлучэнні**: *цёплы дождж*, *палова ночы*, *пачаў церусіць*. Са словаформаў і словазлучэнняў будуюцца **простыя сказы**: *З паловы ночы пачаў церусіць цёплы дождж*. У складзе сказа словаформы выступаюць як члены сказа (або з'яўляюцца часткай члена сказа). З простых сказаў будуюцца **складаныя сказы** з

囊 

рознымі сэнсавымі і сінтаксічнымі сувязямі паміж часткамі: *Бярозы кідаюць на дол доўгія цені, у цішы чуваць галінак хруст* (А. Бачыла).

Асноўнымі **моўнымі сродкамі пабудовы сінтаксічных адзінак** з'яўляюцца канчаткі, службовыя словы — прыназоўнікі, злучнікі і часціцы, займеннікі і займеннікавыя прыслоўі, інтанацыя, парадак слоў.

Роля **канчаткаў** асабліва важная пры афармленні падпарадкавальнай сувязі (дапасаванне і кіраванне), напрыклад: *разумн***ы** *хлопчык, разумн***ая** *дзяўчынка; плыць па рац***э***, жыць каля рак***і**.

**Прыназоўнікі** дапаўняюць і ўзмацняюць ролю канчаткаў. Так, у сказе *Да чыстай плыні вяла кладка з вялікіх камянёў* сувязі і адносіны паміж словаформамі афармляюцца пры дапамозе канчаткаў і прыназоўнікаў ***да*** і ***з***.

**Злучнікі**, звязваючы паміж сабой аднародныя члены сказа, часткі складаных сказаў і сказы ў тэксце, выражаюць розныя сэнсавыя адносіны. Напрыклад, падпарадкавальныя злучнікі ***калі, пасля таго як*** выражаюць часавыя сэнсавыя адносіны, ***таму што, паколькі*** — прычынныя, ***для таго каб*** — мэтавыя.

**Часціцы** і іх спалучэнні могуць утвараць непадзельныя сказы: *Так. Не. А як жа! Ну і што!*

Важную ролю ў пабудове сінтаксічных канструкцый адыгрываюць пытальныя ***(хто? што? які? каторы?)***, адносныя ***(хто, што, які, каторы)*** і ўказальныя **(*той, такі*** і інш.) **займеннікі** і **займеннікавыя прыслоўі (*там, туды, таму*** і інш.). Адносныя і ўказальныя займеннікі і займеннікавыя прыслоўі актыўна ўдзельнічаюць ва ўтварэнні складаназалежных сказаў і выражэнні сэнсавых адносін паміж іх часткамі, а пытальныя займеннікі з'яўляюцца сродкам афармлення пытальных сказаў.

Адным са сродкаў афармлення сінтаксічных адзінак з'яўляецца **інтанацыя**. Інтанацыя з'яўляецца паказчыкам завершанасці сказа, афармляе сказы, розныя па мэце выказвання *(Будзем вучыцца. Будзем вучыцца? Давайце вучыцца!)*, выяўляе сэнсавыя адносіны паміж часткамі бяззлуч-

нікавага сказа: *Вось што добра: вада цёплая* (І. Мележ) і *Вось толькі змоўкне кукаванне — дыхне гарачае жніво* (П. Панчанка).

Для пабудовы сінтаксічных адзінак вельмі важны **парадак** іх **кампанентаў**. У беларускай мове парадак кампанентаў сінтаксічных адзінак можа быць прамы і адваротны (інверсійны). Пры прамым парадку кожны кампанент займае ў сінтаксічнай канструкцыі пэўнае месца, напрыклад: *Лабановіч звярнуў з чыгункі і накіраваўся дадому...* (Я. Колас). Змяненне парадку слоў прыводзіць да змянення інфармацыйнага цэнтра сказа, і значыць, сэнсу выказвання, параўнайце: *1. З чыгункі Лабановіч звярнуў і накіраваўся дадому... 2. Звярнуў з чыгункі і накіраваўся дадому Лабановіч ...*

Прааналізуйце варыянты плана гэтага тэксту паводле ступені складанасці і спосабу моўнага афармлення.

**А.** 1. Два значэнні тэрміна *сінтаксіс*.
   2. Сінтаксічныя адзінкі:
      а) словаформа як будаўнічы элемент сінтаксічных адзінак;
      б) словазлучэнне;
      в) просты сказ;
      г) складаны сказ.
   3. Моўныя сродкі пабудовы сінтаксічных адзінак:
      а) канчаткі;
      б) прыназоўнікі;
      в) злучнікі;
      г) часціцы;
      д) займеннікі і займеннікавыя прыслоўі;
      е) інтанацыя;
      ж) парадак кампанентаў.

**Б.** 1. Якія два значэнні мае тэрмін *сінтаксіс*?
   2. Якія адзінкі мовы з’яўляюцца сінтаксічнымі?
   3. Якая адзінка мовы з’яўляецца будаўнічым элементам сінтаксічных адзінак?
   4. Якія моўныя сродкі існуюць для пабудовы сінтаксічных адзінак?

**В.** 1. *Сінтаксіс* — двухзначны тэрмін.
2. Словазлучэнне, просты сказ, складаны сказ — сінтаксічныя адзінкі.
3. Словаформа — будаўнічы элемент сінтаксічных адзінак.
4. Канчаткі, прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, займеннікі і займеннікавыя прыслоўі, інтанацыя, парадак кампанентаў — моўныя сродкі пабудовы сінтаксічных адзінак.

Які з прапанаваных варыянтаў плана ў найбольшай ступені адлюстроўвае змест і будову тэксту?

Запішыце гэты варыянт плана ў сшытак і перакажыце тэкст, абапіраючыся на яго.

**Звярніце ўвагу!**

**Тэзісы** — сфармуляваныя палажэнні, якія коратка перадаюць асноўныя думкі лекцыі, даклада, артыкула, кнігі. Пры складанні тэзісаў неабходна працаваць з кожным абзацам тэксту, вызначаць, якую думку сцвярджае аўтар, якія факты, прыклады прыводзіць для яе абгрунтавання.

Перш чым складаць тэзісы, неабходна ўважліва прачытаць твор (або главу, раздзел, калі твор вялікі па аб'ёме). Потым неабходна выявіць асноўныя ідэі работы і выкласці іх у выглядзе паслядоўных пунктаў. Як правіла, у тэзісы не ўключаецца падрабязны фактычны матэрыял — увага засяроджваецца на вывадах аўтара.

Існуюць два спосабы складання тэзісаў:

1) асноўныя палажэнні твора падаюцца словамі аўтара;

2) асноўныя палажэнні твора падаюцца сваімі словамі.

Часам узнікае неабходнасць побач з тэзісамі запісаць і частку фактычнага матэрыялу, які можа спатрэбіцца для доказу той ці іншай думкі. Такая форма запісу тэзісаў неабходна пры падрыхтоўцы да публічнага выступлення.

Работа над тэзісамі дапамагае глыбей зразумець асноўныя ідэі твора, навучае выдзяляць галоўнае, коратка і дакладна фармуляваць свае думкі.

Параўнайце **тэкст** і **тэзісы** тэксту:

А. Т э к с т

*...Успомнім, якія функцыі* выконвае мова чалавека.*

*Перш за ўсё, гэта* ***функцыя камунікатыўная:*** *мова ёсць сродак зносін, сродак перадачы інфармацыі ад аднаго чалавека да другога, ад адной групы людзей да другой, ад аднаго пакалення да другога... (Усё тое, што мы гаворым і пішам: паведамленне, просьба, загад, нават пытанне — усё гэта розныя віды інфармацыі для нашага суразмоўцы). Тым самым можна без перабольшвання сказаць, што прызначэнне мовы — аб'ядноўваць людзей. Чалавек, паводле выказвання антычнага філосафа Арыстоцеля, — істота грамадская, і без мовы ён проста не быў бы самім сабой.*

*У такой жа ступені важная і другая* ***функцыя*** *мовы:* ***мысліцельная.*** *Мысленне чалавека ў асноўнай, тыповай сваёй форме звязана з мовай, абапіраецца на мову. «Адкуль я ведаю, што я думаю? — запыталася маленькая дзяўчынка. — Вось скажу — тады даведаюся». І ў гэтым немудрагелістым прызнанні заключаецца глыбокая мудрасць: мова патрэбная не толькі для выражэння думкі, але і для яе фарміравання. Канешне, мова менш за ўсё нясе адказнасць за тое, што і пра што мы думаем, але ад яе (хоць мы звычайна і не падазраём) у немалой ступені залежыць тое,* ***як*** *мы думаем, як складваецца наша думка, якія ўласцівасці мы знаходзім у прадметах, што акаляюць нас, і як азначаем самі прадметы...*

*З мысліцельнай функцыяй самым цесным чынам звязана трэцяя,* ***пазнавальная, функцыя*** *мовы (яе яшчэ называюць акумуляцыйнай, інакш кажучы, функцыяй назапашвання). Зададзім сабе пытанне: з чаго ўвогуле складаецца ўнутраны свет чалавека, як адбываецца пазнанне свету знешняга? Тыя даныя, якія чалавек атрымлівае ад сваіх органаў пачуццяў (зрокавых, датыкальных, нюхальных), даволі скупыя, яны абавязкова павінны дапаўняцца звесткамі, атрыманымі з дапамогай*

*другой сігнальнай сістэмы. Ужо з першых сваіх дзён дзіця засвойвае праз маўленне жыццёвы вопыт бацькі, маці, іншых людзей. А дарослы чалавек? Бывае, што ён усё жыццё займаўся адной справай і не выязджаў нікуды за межы роднага краю, але тым не менш мае шырокае ўяўленне аб акаляючым свеце. Большая частка таго, што ён ведае, прыйшла да яго з кніг, газет, радыёперадач, расказаў іншых людзей. Іншымі словамі, чалавек пазнае свет разам з мовай і ў значнай ступені праз мову. Адпаведна мова служыць не толькі для перадачы інфармацыі, але і для яе захоўвання: у ёй, у яе адзінках, у створаных на ёй тэкстах матэрыялізуюцца назапашаныя народам веды, вопыт.*

(Паводле Б. Нормана)

Б. Т э з і с ы

***Функцыі мовы***

*1. Камунікатыўная функцыя: мова ёсць сродак зносін, сродак перадачы інфармацыі.*

*2. Мысліцельная функцыя: мова патрэбна не толькі для выражэння думкі, але і для яе фарміравання.*

*3. Пазнавальная функцыя: мова служыць не толькі для перадачы інфармацыі, але і для яе захоўвання — у ёй, у яе адзінках, у створаных на ёй тэкстах матэрыялізуюцца назапашаныя народам веды, вопыт.*

*Слоўнік*

**Фу́нкцыя,** -і, *ж.* Значэнне, прызначэнне, роля.

**215.** Прачытайце тэкст «Асноўныя адзінкі сінтаксісу» (практ. 214) спачатку цалкам, потым — па абзацах. Абапіраючыся на змест і план тэксту, складзіце тэзісы. Перакажыце тэкст паводле тэзісаў. У якім выпадку тэкст пераказваць лягчэй — паводле плана, паводле тэзісаў, паводле плана і тэзісаў?

## § 44. Узаемасувязь сінтаксісу, лексікі і марфалогіі

**216.** Уважліва прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і прыдумайце загаловак. Выдзеліце ў тэксце лагічныя часткі і асноўныя палажэнні. Складзіце план і тэзісы тэксту. Перакажыце тэкст з апорай на план і тэзісы.

У беларускай мове існуе сувязь паміж сінтаксісам і лексікай, сінтаксісам і марфалогіяй.

Сувязь **сінтаксісу і лексікі** праяўляецца ў наступным. Ад лексічнага значэння слова, ужытага ў сказе, можа залежаць від сказа паводле структуры. Напрыклад:

*Мые.* — двухсастаўны няпоўны сказ;

*Світае.* — аднасастаўны безасабовы сказ;

*Прыгажосць!* — аднасастаўны назыўны сказ,

*Прыгажуня!* — двухсастаўны няпоўны сказ.

Лексічныя значэнні слоў могуць уплываць на ступень развітасці сказа. Напрыклад, у назыўных сказах галоўны член можа называць месца, час дзеяння, таму акалічнасці месца або часу дзеяння ў такіх сказах, як правіла, не ўжываюцца, напрыклад: *Раніца. Сонца. Ралля* (Я. Сіпакоў).

Лексічнае значэнне залежных слоў, ужытых пры адным і тым жа галоўным слове, можа паўплываць на сінтаксічную ролю залежных слоў у сказе. Параўн.: ***Гляджу*** *фільм* ***з задавальненнем*** (акалічнасць) і ***Гляджу*** *фільм* ***з сябрам*** (дапаўненне). Розныя паводле лексічнага значэння галоўныя словы таксама могуць паўплываць на сінтаксічную ролю залежнага слова. Параўн.: *Гэты ліст* ***пішу раніцай*** (акалічнасць) і ***Любуюся*** *сонечнай* ***раніцай*** (дапаўненне).

Лексічнае значэнне слоў, ужытых у складаным сказе, уплывае на сэнсавыя адносіны паміж часткамі складанага сказа. Так, у складаназлучаным сказе *Птушаняты спяць пад крыллем матчыным, і вавёркі ў дуплах моцна спяць* паміж часткамі выяўляюцца сэнсавыя адносіны адначасовасці, а ў такім жа паводле структуры сказе *Снег таяў, і на вуліцы было шмат вады* паміж часткамі ўстанаўліваюцца прычынна-выніковыя адносіны.

Паўтор аднаго і таго ж слова можа быць сродкам сувязі частак сказа, напрыклад: ***Дарма*** *пра песню пытацца ў глухога,* ***дарма*** *пра сонца пытацца ў сляпога* (М. Танк).

Такім чынам, паміж лексікай і сінтаксісам існуе цесная сувязь.

**Марфалогія і сінтаксіс** таксама цесна звязаны паміж сабой. Па традыцыі марфалогія і сінтаксіс аб'ядноўваюцца ў **граматыку**.

Словы пэўных знамянальных часцін мовы выконваюць у сказе, як правіла, пэўную сінтаксічную ролю: назоўнікі часцей за ўсё з'яўляюцца марфалагічным сродкам выражэння дзейніка або дапаўнення, дзеясловы — марфалагічны сродак выражэння выказніка, прыметнік — азначэння, прыслоўе — акалічнасці.

У выпадку, калі слова як часціна мовы выконвае сінтаксічную ролю, незвычайную для яго, яно можа пакінуць сваю часціну мовы і перайсці ў іншую, адпаведную сінтаксічнай ролі. Напрыклад, у сказе *На вуліцах горада —* ***шчаслівыя*** *людзі* слова *шчаслівыя* — гэта прыметнік у ролі азначэння, а ў сказе *Ці прыехалі ўжо нашы* ***шчаслівыя****?* слова *шчаслівыя* выконвае ролю дзейніка і таму пераходзіць у разрад назоўнікаў.

Такім чынам, сінтаксіс уплывае на сістэму часцін мовы.

Асаблівае месца ў сістэме часцін мовы займаюць займеннікі і займеннікавыя прыслоўі — ***хто, што, які, колькі, як, калі*** і інш. Гэта самыя «сінтаксічныя» знамянальныя словы. З іх дапамогай можна вызначыць сувязі паміж сінтаксічнымі адзінкамі. Калі мы ставім займеннікавае пытанне да пэўнага члена сказа або да дадзенай часткі складаназалежнага сказа, мы робім значэнне гэтай адзінкі больш наглядным і зразумелым. Так, абапіраючыся на займеннікавыя пытанні (яны яшчэ называюцца граматычнымі пытаннямі), мы можам сцвярджаць, што ў словазлучэнні *ісці (****як?****) хутка* ўзнікаюць акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння паміж кампанентам *ісці* і кампанентам *хутка*, а ў складаназалежным сказе *Вера з Надзяй прыселі пад вялізнай хвояй (****якой?****), якая адзінока*

*стаяла на пясчаным узгорку сярод пнёў* паміж галоўнай і дадананай часткай узнікаюць азначальныя сэнсавыя адносіны. Абапіраючыся на граматычныя пытанні, мы вызначаем, што ў сказе *Хмаркі белыя марудна за лясы плывуць* ***(што?)*** *хмаркі* — дзейнік, ***(што робяць?)*** *плывуць* — выказнік, ***(якія?)*** *белыя* — азначэнне, ***(як?)*** *марудна* — акалічнасць спосабу дзеяння, ***(куды?)*** *за лясы* — акалічнасць месца. Такім чынам, уся катэгорыя займеннікавых слоў сведчыць пра цесную сувязь сінтаксісу і марфалогіі.

**217.** Зрабіце поўны (пісьмовы і вусны) сінтаксічны разбор сказаў.

1. Каранасты дубок быў зусім адзінокі, моўчкі слухаў ён буры далёкія крокі *(Г. Бураўкін)*. 2. У навальнічнай цемрадзі бляск маланак быў бела-сіні[сл], прагавіты, грымоты падалі і каціліся так магутна і грозна, што здавалася, на мокрым лапіку зямлі са стрэхамі і ў балотным абшары вакол усё замірала ад страху *(І. Мележ)*. 3. Час ад часу прагудзе аўтамашына або, выкрасаючы[м] дугой сінія іскры, прагрукоча амаль пусты трамвай *(Я. Брыль)*. 4. Лежачы[сл] на дне рова, баец нічога не бачыў і ва ўсім спадзяваўся[м] на камандзіра, які прымаў рашэнні, што[м] так многа значылі для абодвух *(В. Быкаў)*. 5. Людзі слухалі ўважліва, баючыся[с], відаць, прапусціць хоць адно слова *(П. Пестрак)*. 6. На вуліцы пасвятлела, хоць ужо надыходзіў вечар *(Я. Колас)*.

**Звярніце ўвагу!**

**Канспект** — кароткі запіс зместу лекцыі, даклада, артыкула, кнігі.

Адрозніваюць два віды канспектаў: **тэкстуальны** і **вольны**. Пры рабоце над тэкстуальным канспектам неабходна знайсці ў тэксце дакладны адказ на пастаўленае пытанне і запісаць яго словамі аўтара, вольны канспект патрабуе ўмення выразіць асноўныя думкі тэксту сваімі словамі.

Прыступаючы да канспектавання, трэба перш за ўсё запісаць прозвішча аўтара твора, поўную назву працы, указаць месца выдання, выдавецтва, год выдання. Калі канспектуецца артыкул або вытрымка з кнігі, абавязкова трэба ўказаць, у якім часопісе ці ў якой кнізе быў надрукаваны гэты артыкул або з якой кнігі ўзяты ўрывак, што канспектуецца. Напрыклад:

***Лепешаў, І. Я.*** *Моўныя самацветы / І. Я. Лепешаў. — Мінск: «Народная асвета», 1985.*

***Петрушкевіч, А. М.*** *Развагі над п'есай Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» / А. М. Петрушкевіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 2004. — № 6. — С. 40—43.*

***Мартынаў, В. У.*** *Шляхі фарміравання беларускай мовы / В. У. Мартынаў // Жывая спадчына. — Мінск: «Народная асвета», 1992. — С. 7—28.*

У адпаведнасці з раздзеламі (главамі, параграфамі) вывучаемага твора канспект таксама можна падзяліць на раздзелы (главы, параграфы). У якасці загалоўкаў выкарыстоўваюцца загалоўкі, ужытыя аўтарам тэксту.

Афармляць канспект можна як у сшытку, так і на асобных лістах, якія ў далейшым можна абнаўляць, рэдагаваць або выкарыстоўваць як фрагмент запісаў пры падрыхтоўцы да публічнага выступлення.

Рабіць запісы ў сшытку або на асобных лістах мэтазгодна па наступнай форме:

| № п/п | План раздзела, главы, параграфа | Змест запісаў | Дадатковыя крыніцы, заўвагі |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |

**218.** Зрабіце (у асобным сшытку або на асобных лістах) канспект раздзела «Складаназалежны сказ: будова, значэнне, ужыванне» з вучэбнага дапаможніка па беларускай мове.

**219.** Абапіраючыся на тэарэтычны матэрыял вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове для 8-га і 9-га класаў, падрыхтуйце паведамленне на адну з лінгвістычных тэм. Правілы падрыхтоўкі да паведамлення гл. на с. 228—229.

**Тэмы для паведамлення:**

1. Словазлучэнне.
2. Просты сказ. Галоўныя і даданыя члены сказа.
3. Аднасастаўныя сказы.
4. Складаназлучаныя сказы.
5. Складаназалежныя сказы.
6. Бяззлучнікавыя складаныя сказы.

Выступіце з паведамленнем на лінгвістычную тэму.
Абмяркуйце паведамленне па наступных пытаннях.

1. Якая тэма паведамлення?
2. Ці адпавядае змест паведамлення заяўленай тэме?
3. Як ва ўступе паведамлення паказана важнасць тэмы?
4. Якая асноўная думка паведамлення?
5. Якія аргументы прыводзіліся ў паведамленні для сцвярджэння асноўнай думкі?
6. Ці данёс прамоўца да аўдыторыі асноўную думку свайго паведамлення?
7. Ці звязаны паміж сабой уступ і заключэнне паведамлення паводле сэнсу?
8. Ці дасягнуў прамоўца мэты паведамлення?

## § 45. Нормы літаратурнага вымаўлення

**220.** Прачытайце і вусна перакажыце тэкст.

Выпішыце прыказкі, якія па структуры падобныя на складаныя сказы. Вызначце від гэтых сказаў і зрабіце іх сінтаксічны разбор (пісьмовы).

НАРОДНАЯ ЛІНГВІСТЫКА

Узнікшы разам з грамадствам, мова нястомна служыць чалавеку ў розных яго занятках і патрэбах. У штодзённай моўнай практыцы людзі ўдасканальвалі гэты сродак зно-

сін, імкнуліся спазнаць яго прыроду. Народнае разуменне мовы раскрываецца ў шматлікіх творах фальклору — прыказках, прымаўках, загадках, прысвечаных слову, мове, думцы.

Народ даўно заўважыў, што мова — найважнейшы сродак зносін, і выказаў гэту думку вобразна і даступна ўсім: *язык і да Кіева давядзе.* Разумелі людзі і такую функцыю мовы, як уздзеянне, здольнасць слова выклікаць у слухача пэўныя эмоцыі. Добрае, шчырае слова высока цэніцца ў народзе: *Ласкавае слоўка, як сонейка, грэе. Скажа, як мёд пакажа.* Слова можа і балюча параніць. Такое слова асуджаецца як найбольшае зло: *Словы — гужы, за сэрца цягнуць. Рана загоіцца, злое слова ніколі. Сказаў, як цвік у сэрца ўбіў.*

Шматлікія прыказкі, прымаўкі вучаць, як павінен чалавек паводзіць сябе ў гутарцы. ...Трэба перш за ўсё ўмець слухаць таго, з кім гаворыш: *Хочаш быць добрым апавяда́чам, то будзь добрым слуха́чам. Слухай многа, а гавары мала.* Народ перасцерагае: да мовы трэба ставіцца ўважліва, з адказнасцю. Настойліва гучыць папярэджанне: *Выказанага слова да губы не вернеш. Конь вырвецца — здагоніш і зловіш, а слова вырвецца — не зловіш.* Добра, калі чалавек шмат ведае. Толькі ўмей выбраць, што падыходзіць для гутаркі, умей абмежаваць прадмет размовы, каб весці яе ў патрэбным кірунку: *Усё знай, ды не ўсё бай. Трэба знаць, што казаць.* Гутарка з людзьмі — крыніца звестак, ведаў, уменняў, значыць, больш пытайся: *Хто ў другіх пытае, той розум мае.* Пытаючыся ў людзей, просячы іх рады, не трэба траціць сваёй думкі, уласнага погляду на рэчы: *Людзей слухай, а свой розум май.*

Асаблівасці характару, узровень агульнага развіцця чалавека, яго адносіны да гутаркі — усё гэта абумоўлівае і змест, і форму мовы: *Які розум, такая і гаворка. У дурнога салаўя і песня нялюдская.* Адны людзі лёгка і цікава расказваюць, любяць і ўмеюць ужыць трапнае слова, фразеалагізм, прыказку. Пра такіх кажуць: *Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца.* У другіх ахвота да слова пераходзіць

у балбатлівасць: *Дай ёй волю, дык усё сяло перабрэша. Язык па-за вушшу ходзіць.* Трэція — незгаворлівыя: *Ты яму: стрыжана, а ён табе: голена.*

У шматлікіх выслоўях даецца ацэнка выказванням, гаворцы адносна гучання. Вось як успрымае народ мілагучную, прыгожую мову: *Яна загаворыць — як у званок зазвоніць, яна заспявае — як на скрыпцы зайграе. Яна скажа — як птушачка зашчабеча.* Не менш трапна паказваюцца заганы ў гучанні мовы: *Гаворыць, як тры дні не еўшы. Прамовіў, як з-пад зямлі.*

У прыказках адлюстравалася разуменне пераваг мовы пісьмовай над вуснай пры перадачы і захоўванні інфармацыі: *Напішаш пяром — не высечаш тапаром. Слова — вецер, а папера — грунт.*

У працэсе маўленчай дзейнасці многіх пакаленняў людзей выпрацоўваліся правілы карыстання мовай. Паводле гэтых правілаў беларускі народ развіваў, удасканальваў сваю мову, узняў яе на такі ўзровень, што і сёння яна служыць узбагачэнню мовы пісьменнікаў і ў цэлым літаратурнай мовы.

*Паводле А. Каўруса*

**221.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову (пісьмова).

Культура речи — это умение, во-первых, правильно говорить и писать и, во-вторых, употреблять языковые средства в соответствии с целями и условиями общения.

Правильной признаётся речь, которая согласуется с нормами литературного языка — произносительными, грамматическими, лексическими. Эти нормы требуют, например: по-белорусски надо говорить *на рэцы,* а не *на рэчы, на ганку,* а не *на Yанку,* (знак ***Y*** обозначает характерный для белорусского языка фрикативный согласный звук, который произносится, например, в словах *Yорад*, *у Yору;* слово *ганак* является исключением, и первый звук в нём произносится ***г***, как в русском языке); по-белорусски надо говорить *ён ідзе,* а не *ён ідзець;* по-белорусски можно сказать *добрае надвор'е* и *дрэннае надвор'е,* но нельзя ска-

зать *дрэнная пагода,* потому что слово *пагода* в белорусском языке обозначает погоду только хорошую, ясную, солнечную. Речь, в которой встречаются факты, противоречащие литературной норме, нельзя назвать культурной.

Однако правильность речи лишь первая ступень подлинной речевой культуры. Можно говорить (или писать) правильно, но однообразно, вяло. Такой речи недостаёт выразительности. А она достигается умелым и уместным употреблением лексики разных стилей, разнообразием синтаксических конструкций; в устной речи особенно ценно богатство интонаций.

Владение выразительными средствами языка и умение использовать их в зависимости от ситуации общения — второе условие культурной речи.

Чтобы это условие соблюдалось, надо иметь ясное представление о стилях речи, об их различном предназначении. Так, книжные слова уместны в научной статье, в докладе, в тексте закона, в газетной публикации и мало употребляются в бытовых ситуациях общения. Например, в быту неуместно слово *ідэнтычны* вместо *аднолькавы.* Особенно вредит бытовому языку канцелярит — неуместное употребление канцелярских слов и оборотов. Вот, например, фраза, которую произнёс один незадачливый охотник, рассказывая друзьям о своей встрече с медведем: *«Па прычыне павышанай раз'юшанасці жывёлы я быў вымушаны ратавацца на дрэве»*.

С другой стороны, в деловых бумагах или в научном сочинении не употребляются разговорные слова и обороты (*дакапацца, аслупянець, гляньце-ка* и под.).

Нельзя не согласиться со следующим высказыванием:

«Культура речи — часть общей культуры человека. По тому, как человек говорит, можно судить об уровне его духовного развития, о его внутренней культуре».

*По Л. Крысину*

Адкажыце на пытанні (вусна).

1. Якое маўленне лічыцца правільным?
2. Пра якія нормы літаратурнага маўлення паведамляецца ў тэксце?

3. Якое маўленне лічыцца выразным?

4. Ці можа лічыцца добрым правільнае, але невыразнае маўленне?

● Пералічыце стылі беларускай мовы і ахарактарызуйце адзін з іх (сфера ўжывання, мэта маўлення, асноўныя рысы маўлення).

**222.** Вымавіце словы так, як таго патрабуе арфаэпічная норма.

Малацьба[ф], латочнік, чэшскі[ф], у місцы, у мiсачцы[ф], сцерагчы, Брэстчына, шведскі[ф], скіснуць, ксеракс, счарсцвець[ф], падпісчык, з чалавекам, мыешся[ф], адчыні, аб'езджаны[ф], да іх, гладдзю, сніць, песня.

**223.** Прачытайце словы, захоўваючы нормы націску. Праверце сябе па слоўніку.

Жалюзі, дзеячы, дасыта, індустрыя, выпадак, арахіс, кулінарыя, курганы, кляштар, касцяны, занятасць, кашляць, прыяцель, названы, непрыязна, нібы, супавы, падчыстую, мысленне, прэзент, навіна, накрыўка, крупяны, перавязь, спаянасць, слабы, сутулаватасць, дакумент, інструмент, існуе, каменны, прыняты, сапраўды, таварыства, цікавей, цяжар, шчаслівей.

## § 46. Паўтарэнне складаных пытанняў арфаграфіі і пунктуацыі

**224.** Перакладзіце словы на беларускую мову. Растлумачце правапіс літар ***а***, ***э***.

Голуби, колосья, сердечный, шофёр, целина, концерт, жемчуг, девиз, центральный, бутерброд, ветеран, орден, идеал, экземпляр, интернет, газета, сервиз, кафе, фойе, Душанбе, какао, адажио, компьютер, лидер, шницель, мистер, фломастер, Юпитер, фотокопия, фотография, мотолодка, мотоцикл, столетие, стотысячный, девяностолетний.

**Запомніце!**

1. На канцы запазычаных нязменных слоў, у тым ліку ўласных імён і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя ***л***, ***к***, пішацца ***э***: *купэ́*, *піке́*, *Гётэ*.

2. Ненаціскныя ***-эль***, ***-эр*** на канцы запазычаных слоў на пісьме перадаюцца як ***-аль***, ***-ар***: *шпа́таль*, *пэ́йджар*, аднак ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання ***-эль***, ***-эр*** захоўваюцца: *Ге́ндэль*, *Манчэ́стэр*.

3. Гук [а], які вымаўляецца не пад націскам пасля галосных у канцы слова, заўсёды перадаецца літарай ***а***: *То́кіа*.

4. Літара ***о*** захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляюцца ***фота-***, ***мота-***: *фотакартка*, *мотапоезд*.

Выключэнні: *фатаграфія*, *фатограф*, *матавоз*, *матацыкл*.

**225.** Спішыце словы, растлумачце правапіс выдзеленых літар.

1) б**е**раг, б**е**рагавы, прыб**я**рэжны, наб**я**рэжная;
2) дз**е**д, прадз**е**д, дз**я**дулевы;
3) цв**ё**рды, цв**я**рдз**е**ць, зацв**е**рдз**я**ваць, зацв**я**рдз**е**нне;
4) тыс**я**ча, тыс**я**чагадовы, тыс**я**чагоддзе;
5) по**я**с, па**я**сы;
6) г**е**рой, г**е**раізм, г**е**раічны;
7) кал**е**ктыў, кал**е**ктывізм, кал**е**ктывізаваць;
8) кал**я**ндар, кал**е**ндары, кал**я**ндарны;
8) дз**е**сяць, дз**я**сяты, дз**я**сяцера, дз**я**сятка;
9) сем, с**я**мнаццаць, с**е**мдз**е**сят, с**я**мідз**е**сяці, с**я**мідз**я**сяты, с**е**мсот, с**я**місот;
10) вос**е**м, вас**я**мнаццаць, вос**е**мдз**е**сят, васьмідз**е**сяці, васьмідз**я**сяты, вос**е**мсот.

**Запомніце!**

Паводле «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» 2008 года з літарай ***я*** ў першым складзе перад націскам пішуцца словы дз**я**вя́ты, дз**я**ся́ты, с**я**мна́ццаць, вас**я**мна́ццаць і вытворныя ад іх.

**226.** Перакладзіце словы на беларускую мову. У запісаных пабеларуску словах растлумачце правапіс мяккага знака і апострафа.

Пальма, письмо, молотьба, снег, песенка, огонёк, лошадиный, январский, кто-то, вести́, полью́, портьера, конферансье, меньше, разъезд, подъём, объявление, инъекция, адъютант, станьте, отрежьте, семья, воробьи, бьют, Дарья, Демьян, здоровье, соловьиный.

**227.** Спішыце словы, устаўце, дзе неабходна, прапушчаныя зычныя літары і растлумачце іх выбар. Выпішыце асобна словы, у якіх напісанне зычных літар трэба запомніць.

Кла..ка, лё..чык, ка..ьба, перабе..чык, смяе..ся, баске..бол, ва..зал, дож.., у ло..цы, карыс..лівы, поз..на, міласэр..ны, трохмес..ны, кантрас..ны.

Сфармулюйце правіла, паводле якога вы не ўстаўлялі зычныя літары ў некаторых словах.

Вымавіце словы паводле правілаў беларускай арфаэпіі.

**228.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары ***у*** або ***ў***.

Па..днёвы ..сход, па..днёва-..сходні, ма..зер, тры..мф, тры..мфальны, а..кцыён, да ..нівермага, кло..н, ла..р, фа..на, рады..с, шлагба..м, шо.., дзяржаўны ..ніверсітэт, акадэмік Ланда.., крыкі «..ра», ..бачыш — ..хваліш.

**Запомніце!**

У пачатку і ў сярэдзіне слоў іншамоўнага паходжання літара ***ў*** пішацца паводле тых самых правілаў, што і ў беларускіх словах.

Літара ***у*** пішацца пасля галосных на канцы запазычаных слоў: *фра**у***, а таксама ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус***: *прэзіды**ум***, *со**ус***.

**229.** 1. Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары.

Па..няць, па..казаць, у..несці, у..класці, на..рэзаць, на..шыць, а..думаць, а..клеіць, ..бегчы, ..пісаць, ..жаць.

2. Утварыце словы з дапамогай прыставак і суфіксаў, запішыце іх.

Узор выканання.

*Надзея — безнадзейны.*

***Без- (бес-, бяз-, бяс-)***: край, абарона, памылка, дапамога, шум;
***з- (с-, са-)***: рэзаць, сушыць, браць, ставіць, дзівіцца, кінуць;
***раз- (рас-, раза-)***: пускаць, весці, слаць, грэць, капáць, ламаць.

Сфармулюйце правілы, на якія вы абапіраліся пры выкананні гэтага практыкавання.

Вызначце лексічнае значэнне слоў *рас**ч**ыніць* і *ра**шч**ыніць*, *рас**ч**апіць* і *ра**шч**апіць*, растлумачце іх напісанне.

**230.** Зрабіце фанетычны разбор прыведзеных слоў і размяркуйце іх па групах: 1) словы, напісанне якіх адпавядае вымаўленню, 2) словы, напісанне якіх не адпавядае вымаўленню.

Зрабіце словаўтваральны разбор слоў. Які суфікс удзельнічае ў іх утварэнні?

Сфармулюйце правілы правапісу прыметнікаў, утвораных з дапамогай суфікса *-**ск**-*.

Брацкі, суседскі, астравецкі, ткацкі, мастацкі, узбекскі, беларускі, каўказскі, таварыскі, добрушскі, Лідскі, белавежскі, таганрогскі, казахскі.

**231.** Пад дыктоўку настаўніка запішыце словы ў тры слупкі: 1) словы, якія пішуцца разам, 2) словы, якія пішуцца праз злучок, 3) словы, якія пішуцца асобна.

Маральна *(устойлівы)*, гідра*(станцыя)*, паўночна*(заходні)*, прэм'ер*(міністр)*, паралельна*(праведзены)*, шэф*(настаўнік)*, шыварат*(на)*выварат, святочна*(урачысты)*, мар'іна*(горскі)*, мала*(ураджайны)*, тэле*(студыя)*, эканамічна*(моцны)*, глыбока*(паважаны)*.

На якія правілы арфаграфіі вы абапіраліся пры напісанні гэтых слоў?

**232.** Выразна прачытайце тэкст. Выпішыце словы з выдзеленымі арфаграмамі і вызначце, якім арфаграфічным правілам адпавядае іх напісанне. Асобна выпішыце словы, напісанне якіх трэба запомніць (слоўнікавыя словы).

Узор выканання.
*Вя̲сною — правапіс літар* ***е, ё, я.***
*Зана̲д̲та — слоўнікавае слова.*

РАСЛІНКА

В**я**сною, як зачынаў ажываць свет[ф], выбілася **з** зямлі тонен**ь**кая чырванаватая травінка. Гэта добрае, яснае сонейка выклікала яе да жы**цц**я. Беднае зярнятка[м], з якога вырасла травінка, згубіла **ў**жо ўсякую над**з**ею ўбачыць калі-небудзь[сл] белы свет. Так было цёмна яму ў зямлі пад снегам, так хол**а**дна і маркотна. І ўсё ж такі дачакалася. І цікавая вырасла з яго травінка. Танюсенькая но**ж**ка, а на ёй **у**гары[м], на два пал**ь**цы ад самай зямлі, выклюнулася прыгожая каробачка. На самым версе гэтай каробачкі сядзела цёмная шапачка.

Маладая раслінка стаяла пры лесе ў пол**і**. Стары лес закрываў яе ад халодных вятроў і даваў ёй цяпло і зацішак. Яна была такая маленькая, такая **ня**значная, што **ні**хто нават **не** пазіраў на яе і **не** цешыўся ёю. Па самай зямлі, праўда, поўзалі яшчэ ме**нш**ыя мурашачкі, але яны былі зана**д**та заняты сваёй працаю. Ніхто не заўважыў маладой травінкі. З першага погляду ця**ж**ка было пазнаць, што гэта такое. Толькі прывычнае **в**ока магло ра**с**пазнаць, што гэтая раслінка стане **з** часам дрэвам, тым заўсёды зялёным дрэвам, што завецца хвояй.

*Паводле Я. Коласа*

Выпішыце з тэксту складаназалежныя сказы, пабудуйце іх схемы і патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**233.** Выразна прачытайце тэкст, вызначце яго мэту.

Спішыце тэкст, выбіраючы арфаграмы ў адпаведнасці з арфаграфічнымі правіламі.

Патлумачце пастаноўку двукроп'я.

Знайдзіце ў тэксце сказы: а) з аднароднымі членамі, б) з пабочнымі словамі, в) з адасобленымі акалічнасцямі; патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў гэтых сказах.

ПРЫЛЯЦЕЛІ ЛАСТАЎКІ

Ранак прынёс д*(о/а)*ўгачака*(н/нн)*ую навіну: прыля*(ц/т)*елі жаданыя госці! Яшчэ *(не)*ўбачыўшы, пачуў іх урачысты ўскрык. Мабыць, *(ні)*хто з птушак, сустрэўшыся адна з адной, гэтак радас*(т)*на не вітае*(ц/цц)*а, як яны.

Доўга я чакаў іх прылёту. *(Не)*шта ўсё рупіла* майму спакою: чаму сёлета іх так поз*(д)*на няма? Спаз*(ь)*ніліся яны, сапраўды, на добрыя два тыдні. Значыць, не было ў іх упэўненас*(ь)*ці, што ў нашай старане *(т/ц)*ёпла. Хаця ц*(ь)*вітуць ужо вішні, грушы. Н*(е/я)*смела спрабуюць раскрыць свае ружова*(белыя)* пялёсткі ябл*(а/ы)*ні, а жада*(н/нн)*ых гасцей з выра*(ю/я)* ўсё няма. Сапраўдную*(ж)* вясну прыносяць яны, ластаўкі. На а*(б/п)*сягу прасторнага неба лаўлю знаёмыя маршруты і звыклыя тра*(с/сс)*ы ра*(н/нн)*іх варон, галак, шпакоў, што спяшаю*(ц/цц)*а на с*(ь)*няданак. Раз*(пораз)* кідаю*(ц/цц)*а *(с/з)* дахаў і надако*(н/нн)*ых казыркоў *(да)*долу галубы. За*(д/дз)*ірыста і настырна ўвіхаю*(ц/цц)*а ў сваім клопа*(т/ц)*е в*(а/е)*раб*(ь/')*і. А дзе*(ж)* мае д*(о/а)*ўгачака*(н/нн)*ыя гос*(ь)*ці?

Я іх яшчэ не бачу, але *(у/ў)*жо ведаю: яны ёсць, прыля*(ц/т)*елі. Радас*(т)*ны вокліч іх прывіта*(н/нн)*я ўрачыста гучыць *(у)*паднябе*(с/сс)*і. Ластаўкі прыля*(ц/т)*елі!

*Паводле В. Віткі*

***Слоўнік***

**Ру́піць,** *незак.* Турбаваць, не даваць спакою.

**234.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову (пісьмова). Растлумачце знакі прыпынку.

Тихо умирали над рекой туманы. А в тайге они будут стоять до высокого солнца, которое было за далью гор, где

стойко держались снежные беляки[сн]. Эти густые туманы, что вкрадчиво* ползли к нашему селу в сонное предутрие, превращались в студёные капли и питали собой листья, травы, зверушек и всё живое на земле.

Мы пробили головами устоявшийся в низине туман и, плывя вверх, брели по нему, будто по мягкой, податливой воде. Вот туман по грудь нам, по пояс, до колен, и вдруг навстречу из-за дальних увалов* полоснуло ярким светом. Над моей головой встрепенулась птичка, она стряхнула горсть искорок и пропела звонким, чистым голосом, как будто и не спала[сн].

— Что это, бабушка?

— Это зорькина песня. Зорька поёт, значит, утро идёт! — пропела благостным* голосом бабушка.

Мы поспешили навстречу утру и солнцу, медленно поднимающемуся из-за увалов.

*По В. Астафьеву*

### Слоўнік

**Вкра́дчиво.** Крадком, употай, цішком.
**Ува́л.** Адхон, узгорак.
**Бла́гостный.** Добры, дабратворны.

## ГЭТА ВАРТА ВЕДАЦЬ

«Родная мова» — выраз не строга тэрміналагічны. Ён хутчэй адносіцца да сферы нацыянальнай псіхалогіі і этнічнага* самаўсведамлення* народа, чым да лінгвістыкі.

...З усіх рысаў, асаблівасцей, прыкмет, функцый роднай мовы, што адзначаюць розныя даследчыкі, трэба вылучыць дзеля іх асаблівай значнасці тры функцыі: мыслення, выражэння думкі і самаідэнтыфікацыі*...

Зыходзячы з гэтых меркаванняў, паняццю «родная мова» можна даць наступнае азначэнне: родней называецца мова, на якой чалавек мысліць без дадатковага самакантролю, з дапамогай якой лёгка і натуральна выражае свае думкі ў вуснай і пісьмовай слоўнай форме, якая

служыць падмуркам яго этнічнага самаўсведамлення, яго этнічнай і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

*Энцыклапедыя «Беларуская мова»*

### Слоўнік

**Этні́чны,** -ая, -ае. Які звязаны з якім-н. народам, народнасцю, племем, племянной групай.

**Самаўсведамле́нне,** -я, *н.* Усведамленне сябе, сваёй ролі ў чым-н., свайго прызначэння для чаго-н.

**Самаідэнтыфіка́цыя,** -і, *ж.* Атаясамліванне сябе з кім-н.

# ДАДАТАК

## Прыклады схем складаных сказаў

### 1. Складаназлучаны сказ

[1] *Веснавая вада сышла*, і [2]*паплавы абсыхалі* (К. Чорны).

гарызантальная схема

[ ], [*і*] [ ].

вертыкальная схема

—

### 2. Складаназалежны сказ

[1] *Вецер перайшоў у такую буру,* [2] *што зямля закурылася пылам* (Я. Колас).

гарызантальная схема




вертыкальная схема




### 3. Складаназалежны сказ з некалькімі даданымі часткамі:

1) падпарадкаванне даданых частак галоўнай частцы **сузалежнае:**

а) даданыя часткі — аднародныя;

[1] *Я люблю пазіраць туды,* [2] *дзе шумяць каласамі шырокія нівы або* [3]*імжыць дробны дождж* (Я. Колас).

гарызантальная схема




вертыкальная схема



б) дадзеныя часткі — н е а д н а р о д н ы я;

[1] *Калі ўзышло сонца,* [2] *мы заўважылі,* [3] *што апынуліся ў зусім незнаёмых мясцінах* (Я. Маўр).

г а р ы з а н т а л ь н а я с х е м а




в е р т ы к а л ь н а я с х е м а




2) падпарадкаванне дадзеных частак галоўнай частцы — **паслядоўнае:**

[1] *Не дзіва,* [2] *што тут, каля крынічкі, кіпела жыццё,* [3] *бо кожнаму хацелася стаць бліжэй да вады,* [4] *каб палюбавацца на сваё ўласнае хараство ў яе люстры* (Я. Колас).

г а р ы з а н т а л ь н а я с х е м а




в е р т ы к а л ь н а я с х е м а




## 4. Бяззлучнікавы складаны сказ

[1] *Над ракою ў спакоі зацвітала каліна,* [2] *у сяле за ракою вырастала дзяўчына* (Я. Купала).

г а р ы з а н т а л ь н а я с х е м а

[ ], [ ].

в е р т ы к а л ь н а я с х е м а

—

**5. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак**

[1] *Зачыняйце шчыльна хату,* [2] *каб не дзьмулі халады,* [3] *на акно пляціце мату,* [4] *каб не клаў мароз сляды.* (Я. Колас)

гарызантальная схема




вертыкальная схема



# ЗМЕСТ

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СЯМ'І СЛАВЯНСКІХ МОЎ І МОЎ НАРОДАЎ СВЕТУ

§ 1. Паходжанне славянскіх моў, іх падабенства і адрозненне 3

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V—VIII КЛАСАХ

§ 2. Паўтарэнне вывучанага пра тэкст, стылі і тыпы маўлення . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
§ 3. Слова, словазлучэнне, сказ як асноўныя моўныя адзінкі. Тыпы простых сказаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13

## СКЛАДАНЫ СКАЗ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

§ 4. Паняцце пра складаны сказ . . . . . . . . . . . . . . . . . 19
§ 5. Ужыванне складаных сказаў . . . . . . . . . . . . . . . . 27

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

§ 6. Паняцце пра складаназлучаны сказ . . . . . . . . . . . . 35
§ 7. Сродкі сувязі частак у складаназлучаных сказах . . . . 40
§ 8. Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі злучнікамі 46
§ 9. Складаназлучаныя сказы з супраціўнымі злучнікамі 52
§ 10. Складаназлучаныя сказы з размеркавальнымі злучнікамі 57
§ 11. Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаназлучаных сказах . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 63
§ 12. Сінтаксічны разбор складаназлучанага сказа . . . . . . . 69

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

§ 13. Паняцце пра складаназалежны сказ . . . . . . . . . . . . 77
§ 14. Сродкі сінтаксічнай сувязі паміж граматычнымі часткамі ў складаназалежных сказах . . . . . . . . . . . . . . . 81
§ 15. Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 86

§ 16. Складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі часткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 90
§ 17. Агульнае паняцце пра даданыя акалічнасныя часткі ў складаназалежных сказах . . . . . . . . . . . . . . . . . 94
§ 18. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі месца, часу, умовы . . . . . . . . . . . . . . . . . 98
§ 19. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі прычыны і мэты . . . . . . . . . . . . . . . . . 102
§ 20. Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі ўступальнымі часткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 107
§ 21. Складаназалежныя сказы з даданымі параўнальнымі часткамі, акалічнаснымі часткамі спосабу дзеяння, меры і ступені . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 109
§ 22. Сінтаксічны разбор складаназалежнага сказа . . . . . . 114
§ 23. Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі 117
§ 24. Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 122
§ 25. Сінтаксічны разбор складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі часткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 125

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

§ 26. Паняцце пра бяззлучнікавы складаны сказ . . . . . . . 130
§ 27. Коска і кропка з коскай у бяззлучнікавых складаных сказах . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 138
§ 28. Двукроп'е ў бяззлучнікавых складаных сказах . . . . . 142
§ 29. Працяжнік у бяззлучнікавых складаных сказах . . . . 147
§ 30. Сінтаксічны разбор бяззлучнікавага складанага сказа 154

## СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З РОЗНЫМІ ВІДАМІ СУВЯЗІ ЧАСТАК: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

§ 31. Паняцце пра складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 161
§ 32. Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 172
§ 33. Сінтаксічны разбор складанага сказа з рознымі відамі сувязі частак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 180
§ 34. Афіцыйныя паперы. Аўтабіяграфія. Заява . . . . . . . . 184

## СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ З ЧУЖОЙ МОВАЙ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ


§ 35. Паняцце пра чужую мову. Спосабы перадачы чужой мовы. Простая мова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 193
§ 36. Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай . . . . . . . . 196
§ 37. Дыялог, яго афармленне на пісьме . . . . . . . . . . . . . 205
§ 38. Маналог . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 210
§ 39. Сказы з ускоснай мовай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 215
§ 40. Замена простай мовы на ўскосную . . . . . . . . . . . . 217
§ 41. Цытаты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 221
§ 42. Эпіграф . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 224


## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД


§ 43. Сінтаксіс як раздзел граматыкі . . . . . . . . . . . . . . . 227
§ 44. Узаемасувязь сінтаксісу, лексікі і марфалогіі . . . . . . 240
§ 45. Нормы літаратурнага вымаўлення . . . . . . . . . . . . . . 244
§ 46. Паўтарэнне складаных пытанняў арфаграфіі і пунктуацыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 248

Дадатак. Прыклады схем складаных сказаў . . . . . . . 256

**Беларуская мова** : вучэб. дапам. для 9-га кл.
Г20 агульнаадукац. установ з беларус. і рус. мовамі навучання / Н. М. Гардзей, П. Л. Навіцкі, З. М. Тамашэвіч ; пад рэд. Н. М. Гардзей. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011. — 264 с.
ISBN 978-985-465-836-0.

**УДК 821.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

Вучэбнае выданне

**Гардзей** Наталля Мікалаеўна
**Навіцкі** Пётр Лявонавіч
**Тамашэвіч** Зоя Міхайлаўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 9 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктар *К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 24.03.2011. Фармат 60×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,5. Ул.-выд. арк. 11,31 + 0,39 форз.
Тыраж 114 420 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка
каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

